*Дарэчы, увесь наш мікрараён пабудавалі менавіта для перасяленцаў. А гэтую школу — для дзяцей з Нароўлі. У Акцябрскім ёсць яшчэ дзве школы. Але наша (па ліку трэцяя) лічыцца самай прэстыжнай. З часам яна ператварылася ў гімназію.*

*Яшчэ ў Нароўлі я быў крыху знаёмы з аздараўленнем дзяцей за мяжой, таму пасля пераезду сюды, які адбыўся ў 1992 годзе, займацца гэтым мне і прапанавалі.*

*Зрабіла гэта Любоў Сяргееўна Шэйка, якая таксама пераехала з Нароўлі. Карыстаючыся момантам, я хачу выказаць ёй шчырую падзяку. Каб не падтрымка Любові Сяргееўны, займацца «чарнобыльскім справамі» мне было б значна складаней.*

*Доўгі час, як шараговы настаўнік, я выкладаў вучням фізіку і астраномію. Потым «выслуга лет» дазволіла пайсці на пенсію. Цяпер працую інжынерам-праграмістам і паралельна займаюся аздараўленнем дзяцей.*

*Дзеля мінімізацыі наступстваў аварыі на ЧАЭС ужо шмат год працуе цэлая дзяржаўная праграма, аднак я прынцыпова лічу, што дапамагаць людзям павінна не толькі дзяржава. Ніхто нам лепей не дапаможа, чым мы самі.*

*З такімі думкамі я і прыехаў у фонд «Дзецям Чарнобыля», які месціўся тады ў Траецкім прадмесці сталіцы. Асабіста з Грушавым на той момант я знаёмы не быў, хаця шмат пра яго чуў і чытаў.*

*Пакуль не пачалася першая сустрэча, уважліва прачытаў інфармацыю на стэндах. І заўважыў, што, у адрозненне ад іншых раёнаў, ніякай «чарнобыльскай» дзейнасці ў Акцябрскім не праводзіцца. І на аздараўленне за мяжу з іншых мясцінаў ездзяць 20--30 дзяцей, а з нашага — двое.*

*Яно ў нейкім сэнсе і зразумела, бо Акцябрскі раён лічыўся чыстым ад радыяцыі, а пра тое, што сюды пераехалі дзеці з Нароўлі, ведалі нямногія.*

*З гэтага і пачалася размова з Генадзем Уладзіміравічам. Нягледзячы на мае эмоцыі, узаемапаразуменне было знойдзена вельмі хутка — Грушавы быў цярплівым чалавекам і ўмеў чуць іншых.*

*Уважліва, спакойна мяне выслухаў, прапанаваў стварыць арганізацыю і самім заняцца гэтай справай. Так мы і зрабілі.*

*Пяць чалавек правялі ўстаноўчы сход, афармілі неабходныя паперы і пачалі працаваць. Асобна хачу падкрэсліць, што мясцовая ўлада паставілася да нас вельмі лагодна. Райвыканкам зарэгістраваў усе дакументы і выдзеліў памяшканне.*

*Літаральна бліжэйшым часам колькасць дзяцей, якія ехалі на аздараўленне з Акцябрскага, павялічылася ў разы. Неўзабаве стаць выхавальнікам*

*такой групы выпала і мне. Потым я шмат год вучыў працаваць з дзецьмі іншых, бо без педагагічнай адукацыі «справіцца» з сотняй дзетак — амаль немагчыма.*

*Спачатку мы шмат год працавалі з Германіяй, а потым у Беларусь прыехалі канадцы і захацелі сустрэцца з кім-небудзь не з Мінска, а з правінцыі. Генадзь Уладзіміравіч прапанаваў мне ўдзел у такой сустрэчы. Напэўна, яна вельмі прыйшлася даспадобы гасцям, бо потым дзеці з нашага пасёлка шмат год ездзілі толькі ў Канаду...*

*Дарэчы, назваць гэтыя землі цалкам чыстымі ад радыяцыі можна толькі з пэўнай агаворкай. Калі мы сюды пераехалі, аналізы ў нараўлянскіх дзяцей часта былі лепшымі за аналізы дзяцей мясцовых.*

*Справа ў тым, што пасля аварыі на ЧАЭС нашы дзеці ўжывалі толькі чыстыя прадукты, якія ў Нароўлю завозілі цэнтралізавана. А мясцовыя ехалі да сваіх сваякоў, бабуль і дзядуляў у той бок, адкуль ішла радыеактыўная хваля, харчаваліся там, пілі малако, збіралі грыбы...*

*За мяжой дзеці жылі не толькі ў сем'х, але і ў знакамітым пансіянаце «Фолькерсдорф», што знаходзіцца ля Дрэздэна. Напэўна, шмат хто зараз успомніў спадара Борна, да якога я таксама стаўлюся з вялікай павагай.*

**Анатоль Буднічэнка (крайні справа) з дзецьмі ў Германіі**



*На жаль, з часам увага замежнікаў да аздараўлення нашых дзяцей стала зніжацца. Тым, хто ладзіў такія паездкі, знайсці спонсараў станавілася ўсё цяжэй і цяжэй. І мы паступова пераключыліся на культурніцкія, адукацыйныя альбо экалагічныя праекты.*

*На дадзены момант ужо больш як пяць год мы супрацоўнічаем з адной берлінскай ініцыятывай. Мінулым летам наш ансамбль «Зорачкі» разам з нямецкімі дзецьмі правялі шэраг сумесных канцэртаў па ўсёй Германіі. А нядаўна дзеці з Акцябрскага (і два настаўнікі суправаджэння) былі ў Берліне, дзе разам з аднагодкамі з Польшчы і Італіі займаліся экалагічнымі праблемамі.*

*І ўвогуле. За доўгія гады супрацы па чарнобыльскіх праграмах у нас склаліся вельмі прыязныя адносіны з замежнікамі. Некаторыя з іх (акрамя традыцыйных ліставанняў і тэлефонных званкоў) прыязджаюць у пасёлак адведаць тых, хто калісьці праходзіў аздараўленне ў іх сем'ях.*

*Цікава, што ў тых дзяцей ужо ёсць свае дзеці, і немцы едуць у Беларусь толькі дзеля таго, каб на іх паглядзець!*

*Амаль заўсёды яны асабіста наведваюць сем'і перасяленцаў, ліквідатараў, могілкі, — а аднаму інваліду пасля асабістай сустрэчы нават прывезлі спецыяльны вазок! Дарэчы, каманды з нашага пасёлка прымалі ўдзел амаль ва ўсіх маладзёвых фестывалях і канферэнцыях і практычна заўсёды былі сярод пераможцаў.*

*Асобна хачу сказаць пра адносіны з мясцовай уладай. Ва ўсе часы яны былі выключна станоўчымі. Першапачатковая насцярожанасць даўным-даўно знікла. Ніхто ніколі не навязвае, якіх дзяцей трэба вывозіць за мяжу, а якіх не. Больш за тое, прадстаўніца ўлады прысутнічае сярод заснавальнікаў нашай арганізацыі і заўсёды ахвотна дапамагае».*

Напэўна, гэтыя словы Анатоля Буднічэнкі прагучалі крыху пафасна, але ў сэнсе ўзаемадзеяння чарнобыльскіх ініцыятыў і мясцовай улады пасёлак Акцябрскі, сапраўды, можна лічыць ледзь не выключэннем з агульнага правіла, што, на мой погляд, цалкам абгрунтавана і нармальна, бо гэтая грамадзянская структура не робіць нічога дрэннага. Толькі дабро.

Магчыма, камусьці гэта падасца спрэчным, але, па маім глыбокім перакананні, дабро людзі запомняць лепш, чым кан'юнктурна-гопніцкую песню пра падтрымку Лукашэнкі дзяўчынкі з Акцябрскага Ксеніі Дзягелькі, чый відэаролік так палюбілі «на самым версе».

Хочацца верыць, што праз гады нікому не будзе сорамна за гэтую песню, аднак ганарыцца ёю, як ганарацца, скажам, у Бялынічах сваім славутым земляком мастаком-пейзажыстам Вітольдам Бялыніцкім-Біруляй, не будуць дакладна...

Далей аповед пойдзе пра другога Анатоля.

Анатоль Сафронавіч Дунчанка вучыўся ў сярэдняй школе даўжэй за іншых. Нарадзіўся ён у 1945 годзе, а атэстат аб сярэдняй адукацыі атрымаў толькі ў 1965-м. Калі нехта тут падумаў пра дрэнныя адзнакі і «другагоднікаў», то ён моцна памыляецца. Справа ў тым, што Дунчанка не толькі нарадзіўся ў Беларусі, але і скончыў тут першыя чатыры школьныя класы. Аднак, калі бацькі ў 1955 годзе (асваенне цалінных і залеглых зямель) пераехалі ў Сібір, хлопчыка пачалі вучыць амаль па новай. На дыктоўках ён пісаў рускія словы беларускім літарамі і атрымліваў «калы», то бок, «адзінкі».

«Пераход» адбываўся амаль да восьмага класа: у адрозненне ад матэматыкі, дзе ў хлопца былі толькі выдатныя адзнакі, па рускай мове яму ставілі ганебныя «тройкі».

Далей усё пайшло інакш. З восьмага па адзінаццаты клас Анатоль Дунчанка стаў адным з лепшых вучняў. Акрамя яго, у класе было толькі два «харашысты» і адзін «выдатнік». Цікава, што ўсе 22 вучні класа Дунчанкі атрымалі потым вышэйшую адукацыю, а адзін нават працуе міністрам аховы здароўя расійскай Забайкальскай тэрытарыяльнай акругі.

Потым было вяртанне ў Беларусь, дакладней у Бялынічы.



**Анатоль Дунчанка**

*«Па спецыяльнасці я хімік, выпускнік Томскага ўніверсітэта, таму вельмі добра ведаю, што такое радыяцыя. Калі адбылася трагедыя на ЧАЭС, мае дзеці былі зусім малыя. Дакладней — дачка, якой споўнілася дзесяць месяцаў, а сына яшчэ не было, ён нарадзіўся праз месяц пасля аварыі.*

*На той момант я працаваў настаўнікам у мясцовым ПТВ. 26 красавіка 1986 года на суседніх могілках адкрывалі помнік, і нас начальства прымусіла там быць. Жудасная карціна: людзі стаяць на «свежым паветры» (у тым ліку і мая цяжарная жонка), а на галовы ім сыплецца чарнобыльскі попел...*

*Пасля Бялынічы сталі так званай «радыеактыўнай плямай». Мякка кажучы, нашай мясцовасці не пашанцавала. Хмара, якая паднялася ў неба пасля аварыі ў Чарнобылі, асела тут. У раёне ёсць мясціны, дзе ўзровень радыяцыі перавышае норму ў некалькі разоў.*

*Неўзабаве пасля аварыі я звольніўся і з'ехаў на Поўнач Расіі, у Цюменскую вобласць, дзе жыла мая родная сястра. Стала асеў у пасёлку Верхні Казым, які адміністрацыйна ўваходзіць у Ханты-Мансійскую аўтаномную акругу. Напэўна, там бы і застаўся, але праз два гады цяжка захварэла цешча, і нам прыйшлося тэрмінова вярнуцца ў Беларусь.*

*Калі вярнуўся з Сібіры, спачатку я працаваў інспектарам раённага аддзела адукацыі, а потым перайшоў у настаўнікі. Цяпер выкладаю хімію і біялогію ў школе вёскі Свяцілавічы.*

*...З моманту вяртання прайшоў пэўны час, і з думкамі пра тое, што дапамогу чарнобыльцам нельга назваць справядлівай, я з Бялыніч паехаў у Мінск. Адразу пайшоў у фонд «Дзецям Чарнобыля», пра які ўжо шмат чуў.*

*Памятаю, тады быў кастрычнік. Холад, пад нагамі — золь, халепа, боты прамоклі, замерз, як цуцык.*

*На той момант я яшчэ не ведаў сустрэўшай мяне Ірыны Львоўны Грушавой. З парога пачаў ёй расказваць пра тое, што ў нас лічыцца так: у замежныя паездкі едуць дзеці «блатных», а «простым» людзям нічога не дастаецца.*

*Яна прапанавала спачатку папіць гарачай гарбаты, сагрэцца, а потым аб усім пагаварыць. Гэтая прапанова запомнілася на ўсё жыццё. Падумалася, што менавіта так і трэба ставіцца да людзей — паважліва і добразычліва.*

*Спачатку мы паелі-папілі, а потым пачалі размаўляць па справах. Генадзь Уладзіміравіч Грушавы з увагай мяне выслухаў і сказаў: «Жадаеце з намі працаваць — стварайце сваю ініцыятыву».*

*У кастрычніку 1990 года ініцыятыва была створана, а ўжо ў лістападзе ў Бялынічы прыехаў Франк Негеле з Золінгена, які кіраваў чарнобыльскай ініцыятывай у гэтым горадзе.*

*Наша супрацоўніцтва было надзвычай карысным. Ужо неўзабаве па пасёлку стала ездзіць машына хуткай дапамогі. Немцам яе перадалі пасля знікнення ГДР, і яны адразу ж перагналі машыну ў Бялынічы. Было гэта, здаецца, у 1992 годзе, аднак тая «хуткая» працуе па наш дзень.*

*Да таго ж, яны прывезлі ў нашу бальніцу шмат лекаў і матэрыялаў для перавязак.*

*І самае галоўнае — кожны год 50--60 дзяцей з пасёлка пачалі ездзіць на аздараўленне ў Золінген і па месяцу жыць у нямецкіх сем'ях.*

*Праца там наладжаная такім чынам: днём дзеці знаходзяцца ў будынках спартыўнага комплексу, куды іх прыводзіць той, хто суправаджае групу з беларускага боку, а вечарам немцы «разбіраюць» іх па сваіх сем'ях. Прынцып даволі падобны да нашага дзіцячага садка.*

*Задаволеныя ўсе, а напрыканцы знаходжання ў Германіі дзеці нават пачынаюць называць тых, у каго жывуць, сваімі нямецкім бацькамі.*

*Ведаю, што гэта працягваецца і цяпер. І ёсць нямала прыкладаў, калі адных і тых жа дзяцей немцы запрашаюць па некалькі разоў, што для іх каштуе грошай, якія трэба выдзеліць на трансфер. Да таго ж, многія нашы выхавацелькі-суправаджаючыя павыходзілі замуж і жывуць цяпер у Нямеччыне.*

*І яшчэ вельмі прынцыповая рэч. Фарміраванне дзіцячых груп было цалкам празрыстым і не залежала ад пасадаў іх бацькоў. Перавагу мы аддавалі шматдзетным сям'ям і тым, у каго сапраўды ёсць патрэба ў дапамозе, — гэта было патрабаваннем нямецкіх партнёраў. Усё запісвалася ў адпаведны часопіс і ўжо ніхто не мог сказаць, што «нешта там нячыста»...*

*Прынцыпова лічу: хоць адзін месяц на год нашы дзеці павінны жыць менавіта там, у Нямеччыне. Для таго, каб іх арганізмы хоць крыху адпачылі ад радыяцыі.*

*У тое, што наша ежа бяспечная, таксама не веру, бо добра ведаю, як гэтыя паказчыкі дасягаюцца: «брудныя» прадукты механічна разбаўляюць «чыстымі».*

*Такое ўражанне, што тыя, хто гэта робіць, нічога толкам не ведаюць.*

*Адразу пасля аварыі на ЧАЭС чуў, што была прапанова перасяліць Беларусь у Заходнюю Сібір, дзе пустуюць велізарныя тэрыторыі. Магчыма, гэта было б выйсце, аднак, кажуць, Гарбачоў сказаў, што каштаваць ідэя будзе вельмі дарага, і перасялення не адбылося. Напэўна, гэта было б авантурай... Але тое, што зроблена, таксама выклікае шмат пытанняў.*

*Нашу Віцебскую вобласць нельга назваць густазаселенай, аднак чарнобыльцаў перасялілі не туды. А ў іншыя месцы. Бывала, на адлегласць 15--20 км ад адселеных вёсак. У нас што, не хапала месца?*

*Не здзіўлюся, калі некалі высветліцца, што нехта на гэтым добра «пагрэў рукі».*

*Айчынныя чыноўнікі вельмі хутка ўсё бяруць пад свой кантроль і раскольваюць тое, што ім не падпарадкоўваецца.*

*На жаль, фонд «Дзецям Чарнобыля» не стаў у гэтым сэнсе выключэннем. Калі ён раскалоўся, значную частку замежных структур «пад сябе» «падмялі» тыя, хто «сябруе» з уладай. У тым ліку ініцыятыву горада Золінген, дзе змяніўся кіраўнік.*

*Натуральна, што далейшая супраца стала немагчымай, і мы знайшлі для сябе новага нямецкага партнёра — ініцыятыву горада Херфард. Працуем з імі і сёння.*

*Дарэчы, адбылося «пачкаванне» і ў Бялынічах. Падрабязнасці расказваць не буду. Скажу толькі, што ў нашым маленькім пасёлку цяпер існуюць АДРАЗУ дзве арганізацыі, якія займаюцца чарнобыльскімі справамі».*

У Бялынічах, як і ў Акцябрскім, — каля дзясятка тысяч жыхароў, аднак у абодвух пасёлках ёсць святлафоры, чаго не скажаш, напрыклад, пра родныя мне Ашмяны. У гэтых населеных пунктаў увогуле шмат чаго агульнага. Як і ў герояў нарыса.

Абодва прыезджыя, абодва працавалі настаўнікамі, абодва на валанцёрскіх пачатках шмат год займаюцца аздараўленнем дзяцей за мяжой. А тое, што ў абодвух пасёлках ёсць святлафоры — вельмі сімвалічна.

Так людзям лепш бачна, куды рушыць далей...

# Сала з чыстай вёскі

З Валянцінай Фёдараўнай Смольнікавай мы размаўлялі шмат гадзін. Яе фраза, абраная ў назву гэтага нарыса, адразу падалася мне афарызмам. У словах адной з самых шчырых прыхільніц чарнобыльскага руху краіны змяшчаецца красамоўны адказ тым, хто называе аварыю на ЧАЭС «пройденным этапом».

Задумайцеся! Мінула 30 год, а мы, калі частуем гасцей, дасюль гаворым: «Не бойцеся, ешце! Гэта сала — з чыстай вёскі!»

Ды не прайшлі мы ніякіх «этапаў»...

Каб у першыя гады пасля трагедыі нехта сказаў, што ў Беларусі будуць будаваць сваю атамную станцыю, яго б, мякка кажучы, не зразумелі.

На жаль, сёння сітуацыя выглядае інакш. Асабліва на афіцыйным узроўні.

Думаю, не памылюся, калі скажу, што цяпер назву райцэнтра Астравец ведаюць нават тыя, хто не захапляецца геаграфіяй. Не буду зноў развaжаць пра відавочны палітычны чыннік гэтай авантуры, а таксама пра тое, наколькі яна (калі, канешне, будзе рэалізаваная) прынясе нашай краіне так званую «энергетычную незалежнасць». Сумна ад разумення таго, што людзі, якія там стала жывуць, застануцца сам-насам з атамным рэактарам пад бокам.



**Валянціна Смольнікава**

Будаўнікі ад'едуць на бяспечную адлегласць ад таго, што пабудавалі. Ідэолагі «мірнага атама» атрымаюць свае «трыццаць срэбранікаў» у якасці катэджа ў якіх-небудзь Драздах. Нехта банальна «зрубіць бабло» і будзе хавацца ад турмы ў якім-небудзь афшоры. А патэнцыйныя ахвяры застануцца.

Наконт «патэнцыйных ахвяраў» я зусім не перабольшваю, і прынцыпова згодны з дачкой Валянціны Фёдараўны — Святланай Красікавай, якая сёння ў Буда-Кашалёве ўзначальвае бюро дабрачыннай арганізацыі «Дапаможам дзецям Чарнобыля»: цалкам небяспечных атамных станцый быць не можа. Любая з іх аказвае на наваколле хоць якое-небудзь уздзеянне. Уздзеянне — на людзей, жывёл, расліны. Радыялогія — досыць сур'ёзная навука!

Не буду зараз ні з кім дыскутаваць, а проста папрашу адказаць на адно пытанне: раз там усё так бясшкодна для здароўя, чаму тады ёсць пенсійныя льготы для тых, хто працуе на атамных станцыях?

І задумацца над тым, чаму адну з самых вядомых даследчыкаў радыяцыі Марыю Складоўскую-Кюры пахавалі ў цынкавай труне, а да яе рэчаў нельга датыкацца яшчэ паўтары тысячы (!!!) гадоў...

Ды і наконт бяспечнасці таго, што будуецца бліз Астраўца, таксама нямала пытанняў. Чарнобыльскую станцыю ў свой час таксама падавалі, як нешта цалкам надзейнае... А японскую якасць і ступень абароны да Фукусімы і ўвогуле лічылі ледзь не ўзорнымі...

Арганізацый, у назве якіх фігуруе слова «Чарнобыль», у Беларусі засталося зусім няшмат, і гэта невыпадкова. Улада наўмысна знішчае ў свядомасці людзей любыя крытычныя погляды, негатыў, звязаныя з атамнай энергетыкай.

На жаль, няма ніякіх гарантый, што пры будаўніцтве ніхто нічога не скрадзе. І тое, што некаторыя называюць адной з прычын нядаўняй аварыі (18 снежня 2005 года) на Ленінградскай АЭС менавіта гэты недахоп чалавечай натуры — факт.

Думаецца, тлумачыць, што ў Астраўцы таксама працуюць «розныя людзі», неабходнасці няма.

Мне ў гэтай сувязі адразу ўспомніўся землятрус 1988 года ў армянскім Спітаку, калі загінула больш за дваццаць пяць тысяч чалавек, а паўмільёна засталіся без жытла. Дамы там рушыліся быццам пясчаныя канструкцыі, а потым высветлілася, што, па вялікім рахунку, так і было, бо цэмент з іх будаўніцтва банальна скралі...

Да таго, шмат хто расказвае, што сам склад будаўнікоў у Астраўцы зараз істотна змяніўся. Заробкаў, якія былі раней, больш няма, таму будаўнікамі ўсё часцей і часцей становяцца бежанцы з усходу Украіны, якія паверылі ў казкі пра «стабільнасць», расчараваліся, і цяпер згодныя працаваць за любыя грошы.

Вельмі сумніўна, што нехта з гэтых гастарбайтараў збіраецца стала жыць бліз Астраўца і не марыць пра вяртанне на сваю радзіму...

Насцярожвае і тое, што на будаўніцтве Астравецкай атамнай станцыі перыядычна працуюць будатрады БРСМ, які называюць «лукамолам». І тое, што высакавольтныя электрычныя лініі для АЭС будуюць кітайцы, чыя «якасць» агульнавядомая і ўжо пацверджаная незакручанымі гайкамі...

Гэты нарыс у вялікай ступені паспрыяла падрыхтаваць Святлана Красікава. Мы пазнаёміліся з ёй на чарговым маладзёвым форуме. Запрашэнне прыехаць у Буда-Кашалёва было адным з першых, таму ў пэўным сэнсе





**Святлана Красікава**

Святлану можна лічыць калі не суаўтаркай гэтага нарыса, то каталізатарам ідэі.

Як кажуць у такіх выпадках, «злыя языкі» адразу заўважылі, што кіраўніцтва створанай ёю арганізацыі Валянціна Фёдараўна Смольнікава перадала сваёй дачцэ. Напэўна, яны пачнуць шукаць тут нейкія «гешэфты». Адразу расчарую. Акрамя «гемара», грамадская чарнобыльская дзейнасць ніякіх матэрыяльных выгод не прыносіць, бо ажыццяўляецца выключна на валанцёрскіх пачатках. Гэта адказ тым, хто вельмі любіць (альбо наўмысна распускае адпаведныя чуткі) лічыць чужыя грошы...

Больш за тое, асабіста я не здзіўлюся, калі высветліцца, што час ад часу на дабрачыннасць ішла частка сціплай інжынерскай зарплаты самой Святланы Красікавай...

Не хачу нікога пакрыўдзіць, але, на мой погляд, Буда-Кашалёва нельга назваць самым славутым райцэнтрам Беларусі. І не толькі таму, што ў пісьмовых крыніцах звесткі пра вёску Буда (гістарычная назва, якую мясцовыя жыхары неафіцыйна ўжываюць па наш дзень) з'явіліся толькі ў 1824 годзе, а горадам гэтае паселішча стала ў 1971 годзе.

Мяне, напрыклад, напружвае, што сярод славутых землякоў, якіх ведае Вікіпедыя, у буда-кашалёўцаў толькі чатыры мала вядомыя прозвішчы, адно з якіх належыць крымінальнаму аўтарытэту з мянушкай Глобус, застрэленаму сумна вядомым кілерам Сашам Македонскім.

Калі сказаць вельмі мякка, не падабаецца мне і тое, што апошнія дзесяцігоддзі колькасць насельніцтва райцэнтра, які знаходзіцца за 48 кіламетраў на паўночны захад ад Гомеля, няўхільна зніжаецца, і ўжо «выйшла» на паказчыкі 1991 года.

Наўрад ці нехта назаве гэта «стабільнасцю», аднак тое, што адной з прычын дэмаграфічнага рэгрэсу з'яўляецца «пануючая безнадзёга» — бясспрэчна.

Аднак цяжка паспрачацца і з так званым «чарнобыльскім фактарам». Што б нам не казалі пра «пройдзеныя этапы» і «перамогу над бядой», — дастаткова схадзіць на могілкі, каб убачыць — нешта ў такой статыстыцы ад лукавага.

Канешне, тэзу пра «смяротнасць памаладзела» лагічна адносіць на лік татальнага наступу «зялёнага змія», аднак тое, што сярод прычын смяротнасці амаль дамінуюць анкалагічныя захворванні, таксама ігнараваць немагчыма.

На жаль, адкрытай, то бок публічнай афіцыйнай статыстыкі на гэты конт зараз для грамадскасці практычна не існуе, а калі нешта і трапляе ў рукі такіх энтузіястаў, як Валянціна Фёдараўна Смольнікава, то з большага датычыцца якой батанікі альбо заалогіі.

Такое ўражанне, што сёння навукоўцы занятыя тэмамі ўздзеяння радыяцыі на глебу, расліны, жывёл, але не людзей — тых, хто з усім гэтым жыве.

Больш за тое, любыя незалежныя даследаванні на гэты конт практычна забаронены, а любыя адпаведныя афіцыйныя дадзеныя аўтаматычна трапляюць у разрад нечага сакрэтнага.

Па маёй просьбе Валянціна Фёдараўна ўзгадала пра першыя дні пасля Чарнобыльскай аварыі.

*«Пасля сканчэння Львоўскага медыцынскага інстытута я была размеркавана ў вёску Уваравічы Буда-Кашалёўскага раёна. Потым выйшла замуж,*

**1996 год. Валянціна Смольнікава выступае на «Чарнобыльскім шляху»**



*і мы паехалі на Урал, у Ніжні Тагіл, а вярнуліся сюды ў 1979 годзе. Неўзабаве я пачала працаваць галоўным педыятрам раёна, а Тамара Васільеўна Рыжанава была ў нас медсястрой. З таго часу і сябруем.*

*Калі ў Чарнобылі «грукнула», ніхто пра гэта не ведаў. Акрамя «заходніх» галасоў, ніякай інфармацыі не было. Наш добры знаёмы Аляксандр Максімавіч Суvotaраў узначальваў тады раённую санэпідэмстанцыю і меў прыборы, якія замяралі паказчыкі фону гама-праменяў. З ваенкамата чамусьці (напэўна,таксама слухалі «Голас Амерыкі») загадалі іх праверыць, і, калі пачулі лічбы, сказалі: «Такога не можа быць. Напэўна, зламаліся прыборы. Пра вайну ніхто нічога не казаў». Ён змераў яшчэ раз — тое ж самае...*

*29 красавіка на мясцовым маслазаводзе гэтым прыборам Суvotaраў праверыў малако. Яно было вельмі брудным. Аляксандр Максімавіч забараніў яго прадаваць і адразу трапіў у райкам партыі, дзе пачалі крычаць і тупаць нагамі. Маўляў, «якое ты маеш права выліваць на зямлю тоны малака?»*

*Складаная тады перад ім стаяла дылема. З аднаго боку, як спецыяліст, павінен быў адстойваць сваю забарону. З другога, была рэальная пагроза «пакласці на стол» партбілет, што па тых часах магло вельмі дорага каштаваць.*

*На шчасце, яго падтрымала тагачасная галоўны ўрач раёна Кулак, і забруджанае малако ў рэшце рэшт знішчылі.*

*Потым на малаказаводзе ўсталявалі адпаведную апаратуру і пачалі сачыць за радыеактыўнымі паказчыкамі. Зразумела, што ўсё малако туды ішло «бруднае» і ўжываць яго было нельга, аднак болей ніякіх публічных канфліктаў не было. Можна толькі здагадвацца, што далей з ім рабілі...*

*Бліжэйшаму атачэнню Суvotaраў параіў шчыльна заклеіць усе вокны, па магчымасці не выходзіць на вуліцу самім і не выпускаць дзяцей. Так і зрабілі, але цалкам крочыць за ўсімі рэкамендацыямі не атрымлівалася.*

*Першага мая была традыцыйная дэманстрацыя. Напэўна, цалкам праігнараваць гэтую падзею начальнікі не маглі, аднак зрабілі яе вельмі кароткай і, акрамя дарослых, задзейнічалі выключна старшакласнікаў. Пазней мы даведаліся пра аварыю. Паўстала пытанне — што рабіць?»*

Тамара Васільеўна Рыжанава ажыццяўляе праект «Дзецям ахвяр Чарнобыля», які цалкам прысвечаны анкалагічным хваробам. Калі яна слухала ўспаміны калегі пра тыя трагічныя дні, то ледзь стрымлівала ўласныя эмоцыі. Вельмі адчувалася, што рана, узнікшая трыццаць год таму, баліць ёй па наш дзень... Прапаную чытачу і яе аповед.


Тамара Рыжанава

*«Якраз у той дзень я дзяжурыла палатнай медсястрой. Звычайна хворым даюць сняданак-абед-вячэру, а тут жанчына, якая развозіць ежу па палатах, вярнулася з кухні ні з чым. Сняданак спачатку затрымалі, а потым зусім забаранілі. Праз паўтары гадзіны выдалі «сухі паёк». І так два дні. Пра прычыну ніхто нічога не казаў. Толькі сказалі — нельга.*

*Неўзабаве папаўзлі чуткі, але кіраўніцтва маўчала, і толькі 2 мая нам афіцыйна аб ўсім паведамілі. Пачаўся масавы цэнтралізаваны вываз з раёна дзяцей. Вывозілі ў Анапу, у Ленінградскую вобласць і нават у чачэнскі Грозны. На станцыю падганялі эшалоны і татальна накіроўвалі дзяцей з бацькамі ў розныя санаторыі.*

*Напрыканцы красавіка 1986 года нам павінны былі даць новую кватэру, бо дом, дзе жылі дагэтуль, зносілі.*

*27 красавіка я вынесла на вуліцу сушыць усе рэчы. Сяджу побач. Дачка гуляе па падворку. Свеціць сонца. І раптам з боку Гомеля панасоўваецца чорная хмара. Я падумала, што будзе нейкая пясчаная бура. Схапіла дзіця і пабегла дахаты.*

*Хмара накрыла ўсё, што засушылася, але бура не пачыналася; тады я хутка пачала заносіць рэчы ў дом.*

*Нават страшна падумаць, колькі і чаго там было... Я ж тыя рэчы не выкінула... Я ж імі карысталася...*

*Пра праблемы, якія звязаныя з той трагедыяй, можна расказваць доўга, але я спынюся толькі на адной. Бывае, жанчыны з нашых мясцінаў не могуць зацяжараць. Аналізы на гармоны ў іх вельмі дрэнныя.*

*І ўвогуле. Калі даведваюцца, што хлопец альбо дзяўчына родам з нашага раёна, шанцаў выйсці замуж альбо ажаніцца ў іх няшмат...»*

Пра тое, што «без мінулага не бывае будучыні», напэўна, чулі ўсе, але «ведаць» і «памятаць» — розныя дзеясловы. У Буда-Кашалёўскім раёне 24 пахаваныя вёскі. Пахаваныя без двукосся — бо іх сапраўды схавалі пад зямлёй, і толькі мясцовыя жыхары бачылі, што некалі на сучасных пустырах жылі людзі.

Менавіта, з гэтай нагоды раённае грамадскае дабрачыннае аб'яднанне «Дапаможам дзецям Чарнобыля», у якое сёння ўваходзяць каля ста чалавек, на месцы кожнай з гэтых вёсак усталёўвае адпаведныя шыльды.

На дадзены момант арганізацыя з Буда-Кашалёва супрацоўнічае з ініцыятывамі Германіі, Іспаніі, Італіі, Англіі і Японіі. Менавіта супрацоўнічае, бо іх філасофіяй заўсёды былі і застаюцца раўнапраўныя адносіны.

А пачалося ўсё напрыканцы 1989 года са званка з Мінска. Смольнікавай пазванілі з арганізаванага Грушавымі фонду і прапанавалі прыняць у Буда-Кашалёве іншаземцаў. Гэта было зусім нечаканым.

Канешне, пра такія фонды ўсе ўжо ведалі, але з іх дапамогай на аздараўленне за мяжу звычайна ездзілі дзеці начальнікаў і мясцовых багацеяў, а тут — цікавасць да простых людзей.

Да таго ж, трэба ведаць тыя часы. Да ўсяго іншаземнага ў Савецкім Саюзе, з яго жорсткай гегемоніяй Камуністычнай партыі СССР, ставіліся, мякка кажучы, вельмі насцярожана.

Але сустрэча адбылася (1990 год) вельмі паспяховая і прадуктыўная. Сярод гасцей быў немец Георг Ціцэн з Каменца, што ў Саксоніі. Менавіта ён у наступным годзе прывёз у Беларусь першы гуманітарны канвой.

Цікава, што гуманітарныя грузы звычайна прывозілі людзі, якіх вельмі цяжка назваць алігархамі: шматдзетныя бацькі, былыя ваенныя (як Георг Ціцэн і яго сябры), простыя рабочыя, настаўнікі...



Шмат хто з іх прыязджаў па некалькі разоў. І працягваецца гэта самаахвярнасць па наш дзень.

Нават цяжка ўявіць — немцы свой адпачынак выкарыстоўваюць для таго, каб прывезці ў Беларусь гуманітарны канвой. Фантастычныя людзі!

Першае, што яны пачалі прывозіць, былі медыкаменты і дзіцячае харчаванне. Апошняе мела асаблівую важкасць.

Справа ў тым, што ў жанчын, якія нарадзілі ў той час дзяцей, грудное малако было радыеактыўнае. Выкарыстоўваць замест яго малако кароў было праблематычна, бо там таксама ўтрымлівалася радыяцыя.

З цяжкасцямі па ўсім раёне знайшлі адно чыстае месца. Кароў закрылі ў асобны хлеў. Кармілі іх толькі чыстымі рэчамі, а малако потым цэнтралізавана пастаўлялі на малочныя кухні, аднак гэтага было недастаткова.

Канешне, праблему можна было вырашыць з дапамогай сумесяў кшталту «Малютка» і «Малыш», аднак перапрацоўчы завод у гродзенскім Ваўкавыску не мог справіцца з незвычайнай колькасцю заказаў. Да таго ж, якасць іх прадукцыі вызывала шмат пытанняў. Нямецкія ж малочныя сумесі былі цалкам бяспечнымі.

На жаль, усе разважанні падобнага тыпу і тады, і цяпер лічацца «варожымі». Афіцыйная прапаганда не прымае (і ніколі не прымала) не толькі крытыку ў свой бок, але нават спробы вольна думаць на гэты конт.

Усё ў нас па вызначэнні павінна быць лепшым у свеце... Нават радыяцыя...

Першае, чаму вучыў сваіх паплечнікаў Генадзь Грушавы, — свабода. Спачатку гэта была свабода ад савецкіх стэрэатыпаў, а потым і ад апекі яго самога.

Філіял фонду «Дзецям Чарнобыля» ў Буда-Кашалёве зарэгістравалі ў 1991 годзе, а ў 2006 годзе па асабістым настойванні Грушавога яго перарэгістравалі ў «Дапаможам дзецям Чарнобыля». Такім чынам Генадзь Уладзіміравіч імкнуўся вывесці сваіх рэгіянальных паплечнікаў з-пад вельмі моцнага ціску, пад якім у чарговы раз апынуўся і ён сам, і ўсе сталічныя структуры фонду «Дзецям Чарнобыля».

Ні ў каго не выклікала сумневу, што ўлада вырашыла канчаткова знішчыць тое, што Грушавы стварыў некалькі дзесяцігоддзяў, таму рашэнне «пра перарэгістрацыю» было надзвычай практычным і дальнабачным.

Магчыма, яно і дазволіла захаваць тое, што пакуль захавалася...

На жаль, не факт, што гэтая праца будзе працягвацца бясконца, аб чым асабісты досвед Валянціны Фёдараўны Смольнікавай сведчыць больш чым красамоўна.

У 2004 годзе на парламенцкіх выбарах яна была кандыдатам у дэпутаты і на свае вочы ўбачыла, як у нашай краіне робіцца «стабільная палітыка».



**Немка Варэна Шафранскі прыехала ў чарнобыльскую зону**

Пра тое, што адбывалася і адбываецца ў Буда-Кашалёве, можна расказваць вельмі доўга, бо тамтэйшую арганізацыю лічаць адной з лепшых у Беларусі. Напэўна, у будучым пра гэта будзе расказана ў асобным нарысе; зараз жа хочацца акцэнтаваць увагу на некалькіх лічбах.

Пачну з самых свежых — тых, якія ёсць на дадзены момант.

З 1588 перасяленцаў, якія прыехалі ў Буда-Кашалёўскі раён у 1989 годзе з больш брудных тэрыторый, жывых засталося толькі 377 чалавек. Акрамя гэтага, у раёне цяпер жыве 775 так званых ліквідатараў, што на 419 чалавек менш, чым было раней. Тых жа, хто міграваў унутры раёна, было 1347 чалавек, а засталося — 309.

Канешне, некалькі адсоткаў гэтых людзей пераехалі, але ў пераважнай большасці — пайшлі з жыцця. І прычына не ў «смерці па ўзросце». Прычына — у Чарнобылі.

У лютым гэтага года Валянціна Фёдараўна Смольнікава выступіла з дакладам у Германіі. Дазволю сабе прывесці тут фрагмент таго выступу, бо яна вельмі пераканаўча пацвярджае ўсё сказанае раней:

*«У нашым раёне на працягу апошніх 10 гадоў назіраецца рост генетычных парушэнняў сярод нашчадкаў апраменёных бацькоў.*

*На мой погляд, рост генетычна абумоўленых захворванняў і інваліднасці ў дзяцей працягнецца, калі мы ўпарта не будзем звязваць гэтыя хваробы з вынікам жыцця ва ўмовах пастаяннага ўздзеяння малых доз радыяцыі, а іх рост працягнем сарамліва затуляць «сукупным уздзеяннем радыяцыі і цэлым комплексам іншых фактараў». Знізіць гэты від хвароб можна, праводзячы рэгулярны радыяцыйны маніторынг дзяцей і цяжарных жанчын на высокаадчувальных установках, затым праводзіць сярод назапашвальнікаў радыенуклідаў комплекс мер па ачышчэнні арганізма ад радыенуклідаў, для зніжэння іх узроўню да мінімальных лічбаў, плюс аздараўленне на чыстых тэрыторыях.*

*Гэта будзе танней, чым укладваць велізарныя сродкі ў лячэнне цяжкахворых дзяцей, а затым пастаянна выплачваць дапамогу па інваліднасці.*

*Якасць здароўя гэтага, ужо трэцяга падрастаючага пакалення дзяцей, можна ацаніць па групах здароўя ў дынаміцы за 10 гадоў:*

*— абсалютна здаровых нованароджаных у 2006-м было 33,6%, здаровых з адхіленнем ад нормы — 61,6%, хворых — 4,5%, інвалідаў — 0 %;*

*— у 2013 годзе здаровых — 10,9%, з адхіленнем ад нормы — 83,6%, хворых — 5,5%, інвалідаў — 0%;*

*— у 2015 годзе здаровых — 33,7%, з адхіленнем — 62,8%, хворых — 3,2%, інвалідаў — 0,23% (1 чалавек).*

*Аналагічныя тэндэнцыі і ў іншых узроставых групах. Прыдатнасць юнакоў да службы ў войску ў дачарнобыльскі перыяд складала 73--75%, у 2006 — 46,0%, у 2013 — 50,2%, у 2015 — 48%.*

*Нармальна працякае цяжарнасць і родавы працэс прыкладна ў 10--15% цяжарных, у астатніх — розныя хваробы, якія вядуць да анамаліі родавай дзейнасці.*

*Сярод дарослага насельніцтва за 2014 год, у параўнанні з 2013 годам, доля асоб, прызнаных здаровымі, знізілася на 0,4%; на 2,1% знізілася доля асоб, прызнаных практычна здаровымі; доля асоб, прызнаных хворымі хранічнымі захворваннямі, вырасла на 2,5%.*

*Сярод дарослага насельніцтва ў структуры агульнага захворвання на першым месцы — хваробы сістэмы кровазвароту, на другім — хваробы органаў дыхання, на трэцім — эндакрыннай сістэмы і касцёва-мышачнай сістэмы, затым хваробы крыві.*

*Сярод дзіцячага насельніцтва ў 2014-м рэгістраваўся рост першаснага інфекцыйнага захворвання, органаў дыхання, скуры, што сведчыць аб зніжэнні імунітэту.*

*А ў структуры агульнага захворвання дзіцячага насельніцтва адзначаецца рост хвароб сістэмы кровазвароту, стрававання, мочапалавой сістэмы.*

*Дзеці падрастаюць і пераходзяць у дарослае жыццё разам з хваробамі. Практыкуючыя ўрачы адзначаюць наяўнасць амаль у кожнага дзіцяці некалькіх хранічных хвароб, характэрных для пажылога ўзросту».*

Па афіцыйных звестках, шкода ад аварыі на ЧАЭС склала 235 мільярдаў долараў ЗША, і дзяржава потым вельмі ганарылася тым, што было зроблена для ліквідацыі наступстваў. Пры гэтым яна заўсёды «забывала» сказаць, што нешта зрабіць яе літаральна прымусілі.

Такія людзі, як вучоныя Васіль Несцярэнка, Яўген Канапля, Іван Нікітчанка, пісьменнік Алесь Адамовіч, філосаф Генадзь Грушавы...

На жаль, сёння такіх людзей «наверсе» амаль няма, і таму «чыстае сала» становіцца чыстым толькі ў іх дакладах.

# У пошуках чысціні

У дадзеным выпадку, канешне ж, маецца на ўвазе чысціня ад радыенуклідаў.




Тамара Івалгіна

Першая гераіня гэтага нарыса — Тамара Мікалаеўна Івалгіна — расказвае, што амаль шэсць год таму яе сям'я стала першай у іх пасёлку вырошчваць пакуль рэдкіх для Беларусі в'етнамскіх свінак, каб атрымліваць сала, чыстае ад радыяцыі.

Калі верыць татальнай эрудыцыі інтэрнэтаўскіх пашукавікоў, то «гадоўля в'етнамскіх віславухіх свіней — эканамічна выгадны і захапляльны бізнес. В'етнамскія свінні непераборлівыя ў ежы і валодаюць устойлівым імунітэтам, што робіць іх практычна непашкаджальнымі з боку розных захворванняў».

Сапраўды, менавіта гэтая парода свіней лічыцца адной з самых перспектыўных для жывёлагадоўлі ва ўмовах радыяцыі.

...Аграгарадок Вазнясенск месціцца бліз Чачэрска. Сам жа Чачэрск знаходзіцца на поўначы Гомельскай вобласці, за 67 км ад абласнога цэнтра, а там і да Чарнобыля — рукой падаць.

Вазнясенск зрабілі аграгарадком у верасні 2009 года, спаслаўшыся чамусьці на закон, прыняты аж 5 мая 1998 года, а не на прэзідэнцкі ўказ № 150, які быў падпісаны ў 2005 годзе і патрабаваў за бліжэйшую пяцігодку ператтварыць перспектыўныя вёскі ў аграгарадкі.

Адназначна, што наступствы аварыі на ЧАЭС адыгралі тут не апошнюю ролю. Але мне, напрыклад, не вельмі радасна бачыць аграгарадкі ў зоне з высокім узроўнем радыяцыі...

Каля вытокаў усёй чарнобыльскай работы ў пасёлку Вазнясенск стаяла Рэгіна Гармаш, якой, на жаль, сярод нас ужо няма. Пасля таго, як Ірына і Генадзь Грушавыя далі старт аздараўленню беларускіх дзяцей за мяжой, яна стала іх першым партнёрам у Чачэрскім раёне.

Так атрымалася, што праз пэўны час мясцовыя чачэрскія актывісты, якія падтрымлівалі Грушавога, прапанавалі Тамары Івалгінай (па жыцці таксама вельмі актыўнай) суправаджаць на аздараўленне ў Германію групу дзяцей з Вазнясенска, дзе ў базавай школе яна працавала (27 год!!!) завучам. На жаль,

у сувязі са складанымі сямейнымі абставінамі Івалгіна тады ад прапановы адмовілася. З дзецьмі паехала яе аднадумца, настаўніца нямецкай мовы Ніна Іванаўна Ключынская.

Дарэчы, нямецкую мову Тамара Мікалаеўна Івалгіна (філолаг-русавед па адукацыі) вывучыла самастойна. І да актыўнага чарнобыльскага руху далучылася таксама дзякуючы немцам.

У снежні 1996 года да іх у вёску прыехалі госці з нямецкай Хайдэнхаймскай ініцыятывы. Тады яны папрасілі Івалгіну дапамагчы з камунікацыяй, а потым прапанавалі ёй рабіць гэта пастаянна.

Праз пэўны час (што цалкам адпавядала філасофіі фонду) стала зразумела, што адным аздараўленнем дзяцей за мяжой не абысціся.

Лозунг «Ніхто нам не дапаможа, акрамя нас саміх» у чарговы раз пачаў ажыццяўляцца на практыцы, калі да дзейнасці вазнясенскіх актывістаў далучылася яшчэ адна ініцыятыва з Германіі — «Радасць і сябры Беларусі». Узначальвала яе Крыстэль Вайцірсферд.

Намаганнямі замежных сяброў каля школы быў закладзены фруктовы сад, а кожны жыхар пасёлка бясплатна (за кошт спонсараў) атрымаў некалькі саджанцаў яблыні. Калі ўлічыць, што на момант гутаркі ў Вазнясенску (Ленінскі сельсавет) стаяла 430 дамоў, няцяжка палічыць іх колькасць.

А вілейскі санаторый «Надзея», які таксама патрануецца нямецкім бокам, атрымаў з Германіі вельмі добрае насенне бульбы, адаптаваў яе да беларускіх умоў і 10 тон паставіў (зноў дзякуючы спонсарам) у Вазнясенск.

Потым у пасёлку два гады дзейнічаў праект «Мае гады — маё багацце» — яго ўдзельнікі займаліся арганізацыяй навагодніх і калядных падарункаў тым, каму 70--80 год і больш.

Як ужо пісалася, на пачатку новага стагоддзя Сусветны банк зладзіў праграму CORE, сутнасць якой палягала ў супрацоўніцтве дзеля рэабілітацыі рэгіёнаў, якія пацярпелі ад аварыі на ЧАЭС. Праграму гэтую моцна крытыкавалі. Але гэта асобная тэма, зараз жа акцэнтуем увагу толькі на яе практычным увасабленні.

Менавіта па гэтай праграме ажыццяўлялася фінансаванне праекта «Цяпліца». Змест яго ў тым, каб людзі маглі самастойна вырошчваць для ўжывання максімальна чыстыя ад гербіцыдаў і радыяцыі прадукты.

На жаль, заказаць у іншым месцы (чаго хацелі Івалгіна і аднадумцы) пажаданы варыянт цяпліцы тады не атрымалася, бо начальнікі розных рангаў настойліва хацелі бачыць выдзеленыя Вазнясенску грошы толькі ў Чачэрскім раёне.

Давялося купіць не тое, што хацелася, а тое, што ёсць.

Балазе, нават у такіх абставінах удалося дабіцца галоўнай мэты — навучыць людзей вырошчваць чыстыя прадукты. Яны праходзілі такі пільны

радыяцыйны кантроль, што яму могуць пазайздросціць нават у больш «раскручаных» месцах.

Агуркі, якія сваімі рукамі вырошчвалі Івалгіна і яе паплечнікі, салілі і «за капейкі» прадавалі камбінату грамадскага харчавання. Там іх рабілі «сваімі» і прадавалі зноў. Ужо «за рублі»...

Агуркі атрымліваліся такімі смачнымі, што нават дома дзеці прасілі згатаваць тое, што «даюць у школе». Такая ж смачная была і квашаная капуста.

Як і варта было чакаць, з часам гэта не спадабалася санстанцыі. Яна сказала — нельга. І цяпер прывозяць у школу бочкі, пах ад якіх вельмі цяжка назваць чароўным...

З часам да першай цяпліцы дадалася другая і дзве новыя функцыі — практычнае абучэнне вучняў і тое, што на бюракратычнай мове называецца «пазабюджэтным фінансаваннем». У Вазнясенску пачалі са сваёй расады вырошчваць і прадаваць памідоры, радыску. Грошы, атрыманыя такім чынам, выдаткоўваліся на вучняў — напрыклад, на прызы для ўдзельнікаў розных конкурсаў.

Дарэчы, узровень вазнясенскіх артыстаў даволі высокі, у чым неаднаразова маглі пераканацца ўдзельнікі шматлікіх маладзёвых фестываляў і форумаў, якія былі арганізаваны фондам «Дзецям Чарнобыля».

Але, як кажуць, «вернемся да нашых бараноў». Дакладней — да в'етнамскіх свінак.

Шэсць год таму, калі першыя шаснаццаць жыхароў Вазнясенска выказалі жаданне пачаць новую справу, купіць незвычайных парасят ім дапамаглі нямецкія спонсары, а далей усё пайшло паводле прынцыпу даміно.

Калі нараджаўся новы прыплод, адно парася гаспадары аддавалі без якой-небудзь аплаты, а астатніх маглі прадаваць. Такім чынам колькасць нябачаных для акругі раней «в'етнамскіх віславухіх» лічыцца цяпер сотнямі.

Кормяць іх максімальна чыстымі ад радыяцыі кармамі. Агітбрыгада школы, якая расказала пра гэту ініцыятыву на адпаведным конкурсе БЕЛРАД (інстытут радыяцыйнай бяспекі), стала адной з лепшых выступоўцаў.

Дарэчы, быць лепшымі для іх — правіла. Можна прыводзіць шмат прыкладаў перамог дзяцей з гэтага пацярпелага ад радыяцыі паселішча, але цяпер я раскажу толькі пра адзін праект.

Для Тамары Мікалаеўны Івалгінай ён у некаторым сэнсе асабісты. Гэта праект «Нямецкая мова — мая будучая прафесія». Справа ў тым, што, пасля таго, як сама добра авалодала нямецкай мовай, яна пачала выкладаць яе іншым.

Канешне, касцяк праекта складаюць тыя дзеці, якія бываюць з Івалгінай за мяжой, але тое, што потым многія з іх паступаюць у знакаміты Мінскі лінгвістычны ўніверсітэт, гаворыць, перш за ўсё, пра якасны ўзровень моўнай падрыхтоўкі.

Дарэчы, дзве дачкі Тамары Івалгінай таксама туды паступілі. Да месца будзе прыгадаць, што Тамара Мікалаеўна мае трох дачок і сына Леаніда і ўсіх чацвярых дзяцей выгадавала адна, без мужа.

Перад такімі жанчынамі звычайна ў знак павагі здымаюць капелюшы.



Вольга Кузняцова

Гэта ж самае лагічна зрабіць і ў адносінах да Вольгі Кузняцовай з Быхава. Больш за гадзіну я слухаў, як яна дапамагае іншым — і толькі напрыканцы размовы (амаль выпадкова) даведаўся, што ў Вольгі Мікалаеўны няма ныркі і шчытападобнай залозы. Іх выдалілі ў Бараўлянах, дзе размешчаны вядомы ўсёй рэспубліцы, анкалагічны цэнтр.

Калі размова ідзе пра жанчын, як і многія, я стараюся пазбегнуць слоў накшталт «ветэран», але ў дадзеным выпадку без яго проста не абысціся.

Вольга Мікалаеўна Кузняцова — ветэран рэгіянальнага чарнобыльскага руху, бо ў Быхаве філіял дабрачыннага фонду «Дзецям Чарнобыля» быў створаны адным з першых.

А пачалося ўсё ў 1992 годзе, калі ў Быхаў («з другой спробы») прыехаў Генадзь Грушавы. Менавіта тады і быў створаны мясцовы філіял, узначаліла яго Аліна Уладзіміраўна Згіроўская, якая працавала ў музычнай школе настаўніцай.

Праз пэўны час па яе прапанове да новага руху далучылася, а ў 1999 годзе і ачоліла гэтую работу Вольга Кузняцова.

Вольга Мікалаеўна Кузняцова нарадзілася ў вёсцы Глухі, якая месціцца недалёка ад Быхава (сёння гэта аграгарадок, дзе ёсць пабудаваныя за грошы яе дзядзькі школа і Дом культуры). Яна скончыла Магілёўскае медвучылішча і да пенсіі працавала медсястрой у раённай бальніцы.

Дзядзька Кузняцовай, Сцяпан Акімавіч Красоўскі, быў, сапраўды, заможным чалавекам — маршалам авіяцыі, які падчас вайны ўзначальваў паветра-

ныя арміі, а потым — ваенна-паветраную акадэмію імя Гагарына.

Менавіта з гэтым перыядам яго жыцця звязаны даволі цікавы выпадак. На сваім лецішчы Сцяпан Акімавіч касіў траву, калі праз плот абітурыенты папрасілі невядомага дзеда прынесці шклянку, каб «абмыць» паспяховы іспыт.

Ён зайшоў у свой дом і выйшаў адтуль у маршальскім строі са шклянкай у руцэ.... Патэнцыйных курсантаў «як ветрам здзьмула»...

Вольга Мікалаеўна Кузняцова бывала на гэтым лецішчы некалькі год запар.

Сёння прозвішчам Героя Савецкага Саюза С.А. Красоўскага названая плошча ў Быхаве, піянерская дружына школы роднай вёскі і вуліца ў Варонежы, дзе той быў камандуючым ВПС фронту.

Аднак вернемся да пачатку, нават зазірнём крыху раней за яго — у вясну 1990 года, калі фонд яшчэ не быў зарэгістраваны, а яго функцыю выконваў адпаведны камітэт БНФ.

Генадзь Грушавы быў сябрам беларускага парламента і толькі-толькі пачынаў сваю «чарнобыльскую эпапею». З Германіі для раёнаў, якія пацярпелі ад радыяцыі, перадалі чатыры скрыні вітамінаў. Каб даведацца, каму ў першую чаргу патрэбна такая дапамога, даводзілася карыстацца мапай радыяцыйнай забруджанасці. На ёй Быхаў быў сярод самых пацярпелых раёнаў.

Кіраўніцтва раёна не ведала, які канкрэтна парламентар да іх едзе, таму сустракалі машыну Грушавых (Генадзь быў разам з жонкай Ірынай) з букетам кветак. Калі мясцовая начальніца даведалася, што да іх прыехаў дэпутат фракцыі БНФ, яна раз'юшана кінула кветкі на зямлю.

Такой рэакцыі законна абраны сябра парламента не чакаў. Вырашыў вітаміны адвезці ў мясцовую бальніцу і школу. Але галоўны ўрач і дырэктар не асмеліліся іх прыняць без дазволу вышэйшай інстанцыі. Хоць і разумелі, што гэта каштоўны падарунак. Чатыры скрыні вітамінаў вярнуліся ў Мінск...

Менавіта па гэтай прычыне са стварэннем філіі было вырашана крыху пачакаць. Затое пасля таго, як праз два гады філія ўсё ж запрацавала, жыццё літаральна завіравала. Маршруты Быхаў--Мінск і зваротны сталі амаль штотыднёвымі як для прадстаўнікоў кіраўніцтва фонду, так і для іх быхаўскіх сяброў.

**Пра тое, як гэта адбывалася, лепш за ўсё раскажа сама Вольга Мікалаеўна Кузняцова.**

*«У Мінску было так шмат цікавага, што мы сталі бываць там вельмі часта. І з дзецьмі, і з моладдзю. А калі наведалі ў Малінаўцы маладзёвы цэнтр, адразу ж вырашылі зрабіць нешта падобнае і ў сябе.*

*Арандавалі вясковы дом, адрамантавалі яго, нават выкапалі калодзеж — і сталі праводзіць там з моладдзю розныя мерапрыемствы.*

*Не скажу, што непадкантрольную ўладзе дзейнасць адразу сталі вітаць. Спачатку было вельмі шмат «накладак». Напрыклад, пасля таго, як у Мінску з нашым удзелам была зроблена дзіцячая пляцоўка, мы вырашылі падобную ж зладзіць і ў Быхаве. На жаль, праіснавала яна вельмі кароткі тэрмін. Камунальшчыкі па загадзе нейкага кіраўніцтва знеслі тое, што мы пабудавалі. Не засмуціла іх нават тое, што дзецям не будзе дзе гуляць.*

*Мой фотаапарат крыху іх напужаў, таму была агучана афіцыйная прычына — па двары нашага дома ездзяць машыны. Тлумачэнне было настолькі бязглуздым (быццам па іншых не ездзяць!), што гэта зразумелі (альбо проста не захацелі пратэставаць) нават кіраўнікі.*

*Дзіцячую пляцоўку аднавілі. Толькі не такой, якой была раней. І не з тых матэрыялаў, з якіх будавалі мы.*

*Думаю, сапраўдная прычына была ў тым, што людзі праявілі ініцыятыву. Самі, без каманды «начальнікаў»...*

*Напачатку дзейнасці нас «кантралявалі» вельмі моцна. Асабліва, калі прыязджалі немцы, бо «жалезная заслона» з мазгоў нікуды не дзелася.*

*Павышаная ўвага заўсёды была, зразумела, і да Грушавых. Як да Генадзя, так і да Ірыны. Памятаю, падчас аднаго яе прыезду за намі заўсёды*



*ехала нейкая невядомая машына. Напэўна, яны праслухоўвалі тэлефоны, бо ведалі наш маршрут не горш за нас саміх.*

*Потым працаваць стала значна прасцей, бо яны ўбачылі, што нічога кепскага мы не робім.*

*Генадзь Грушавы нібыта заражаў людзей сваёй неўтаймоўнай энергіяй, асабістым прыкладам «прымушаў» да актыўнасці.*

*Наша жыццё кардынальна змянілася, стала больш насычаным, цікавым. У горад, пра які за межамі Беларусі раней амаль не чулі, пачалі прыязджаць іншаземцы.*

*Было шмат вельмі патрэбных людзям праектаў, як то «Работа з інвалідамі» альбо «Маці і дзіця-інвалід», у межах якога нашы хворыя дзеці тройчы на год ездзілі у медычныя цэнтры за мяжу.*

*Дарэчы, у пэўным сэнсе праца працягваецца і сёння. Дзякуючы спонсарам, мы кампенсуем хворым людзям кошты дарагіх лекаў.*

*Прыстойна была наладжана работа з непаўналетнімі, якія апынуліся за кратамі. Праект курыравала асабіста Ірына Грушавая. Адной дзяўчыне, што вызвалілася з турмы, яна дапамагла ў Мінску вывучыцца на цырульніцу.*

*Асобна трэба сказаць пра праект дапамогі дзіцячым дамам сямейнага кшталту. Заўсёды шчыра здзіўляюся — у некаторых такіх сем'ях адначасова жывуць па 6--8 прыёмных дзяцей, а ў адной нават дваццаць.*

*Натуральна, менавіта дзеці заўсёды былі прыярытэтам нашай дзейнасці. Адпраўляць іх на аздараўленне за мяжу мы пачалі амаль адразу пасля афіцыйнай рэгістрацыі.*

*Не хачу нікога пакрыўдзіць, але раней дзеці былі крыху не такімі, як цяпер. Магчыма, больш шчырымі, простымі і менш прагматычнымі.*

*Раней радаваліся падаранай ляльцы, а цяпер просяць перакласці для іншаземцаў просьбы наконт тэлевізара, камп'ютара, ноўтбука.*

*Дарэчы, сем'і інвалідаў значна больш сціплыя за сем'і п'яніц...*

*Бывае, даводзіцца сутыкацца з тым, што дзеці не ведаюць, чаму ехаць на аздараўленне абралі менавіта іх. Не ведаюць пра Чарнобыль, пра радыяцыю. Адказваюць «нас абралі, таму што мы лепшыя».*

*Напэўна, так іх вучаць у школе. Афіцыйна мы Чарнобыль ужо перамаглі...*

*Увогуле ж, ні ад адной структуры мы не адчувалі такой дапамогі, як ад фонду «Дзецям Чарнобыля». Таленавітай моладзі нават плацілі фондаўскія стыпендыі.*

*З Грушавым было вельмі проста працаваць. У яго не было ўласцівай чыноўнікам фанабэрыстасці. Любога госця ён прымаў ветліва, з нязменнай добрай усмешкай.*

*Апошні раз я яго бачыла жывым, калі на 25 год фонду «Дзецям Чарнобыля» мы разам былі ў Швейцарыі.*

*Светлая памяць светламу чалавеку».*

Варта дадаць, што ў Быхаўскім раёне актыўна супрацоўнічалі з ініцыятывай Барбары Гладыш, якую потым узначаліла Ангела Нагель. Пасля няўдалых спробаў дапамагчы арганізаваць Маладзёвы цэнтр у Чачэрску (ініцыятыва там добраахвотна аддала ўсё ў рукі выканкама) Быхаву стаў дапамагаць і Рудольф Дзюбер, які надае асаблівае значэнне працы з моладдзю.

...Падчас пахавання Генадзя Грушавога я ўбачыў шмат знаёмых твараў, аднак адзін чалавек, якога я сустрэў тады, мае самыя непасрэдныя адносіны да гэтай кнігі. Гутарка пра Юрася Меляшкевіча, які са Слаўгарада пераехаў у Мінск дзякуючы менавіта чарнобыльскім праграмам.

Разам са сваім бацькам Віктарам Рыгоравічам ён прыйшоў да мяне пазней, чым я пазнаёміўся з іншымі героямі гэтай главы, але размову з Меляшкевічамі я вырашыў размясціць менавіта тут.

Сын і бацька перажывалі адны і тыя ж падзеі. Толькі погляды на іх былі рознымі. Адзін — дзіцячы, другі — дарослы.



**Юрась Меляшкевіч з цёткай Вольгай**

**Віктар Рыгоравіч Меляшкевіч успамінае:**

*«Я родам з Берасцейшчыны. Пасля службы на Балтыйскім флоце з адзнакай скончыў Ляхавіцкі сельскагаспадарчы тэхнікум, потым профільную Горацкую акадэмію, адкуль па размеркаванні мяне накіравалі выкладаць у Слаўгарад, у СПТВ № 62.*

*Там ажаніўся, там нарадзіліся мае дзеці, там я сустрэў Чарнобыльскую бяду.*

*Ад самага заснавання Беларускага народнага фронту быў і застаюся яго прыхільнікам. У 1989 годзе на Сойме БНФ стварылі камітэт, які займаўся чарнобыльскімі справамі. Узначаліў яго Генадзь Уладзіміравіч Грушавы.*

*Царства нябеснае гэтаму цудоўнаму чалавеку!*

*Ён здолеў запусціць такую маштабную «махіну», што найноўшая гісторыя не толькі Беларусі, але і ўсяго свету, напэўна, нічога падобнага не ведае.*

*Я супрацоўнічаў з ім больш за шэсць год, да таго моманту, як на фонд «Дзецям Чарнобыля» пачаліся «наезды», абвінавачванні ў нейкіх парушэннях і адкрыты пераслед з боку Савета Бяспекі.*

**Сям'я Віктара Меляшкевіча — жонка Таццяна, дачка Надзея, сын Юрась**



*На жаль, наша супраца на гэтым была брутальна спынена. За час, калі ў Слаўгарадскай Радзе БНФ я займаўся тэмай Чарнобыля, мы, дзякуючы Грушаваму і яго фонду, аздаравілі за мяжой больш за тысячу слаўгарадскіх дзяцей.*

*Амаль кожны месяц я наведваў мінскі офіс, некалькі разоў на год да нас прыязджаў Генадзь. Ён вельмі часта бываў у камандзіроўках, таму я шчыльна кантактаваў з Ірынай Львоўнай, іншымі супрацоўнікамі фонду. Інтэнсіўная работа дазваляла за летні сезон фарміраваць у нашым горадзе па 5-6 дзіцячых груп на выезд за мяжу.*

*Слаўгараду дапамагалі італьянцы, немцы, палякі, фіны, англічане, украінцы (крымскія санаторыі тады належалі ім) і нават японцы.*

*Акрамя аздараўлення дзяцей, яны дасылалі нам прадукты, адзенне, лекі, прыборы радыяцыйнага кантролю. Да нас прыязджалі дэлегацыі з Даніі, Бельгіі, Люксембурга.*

*Беларусь ратаваў увесь свет.*

*Надзвычай кранальных выпадкаў было вельмі шмат. Памятаю, як да нас прыязджалі палякі. Паглядзелі на ўсё, заплакалі і сказалі: «Мы гатовыя забраць да сябе ўсіх вашых дзяцей...»*

*Нешта падобнае казалі і італьянцы, калі на тры дні прыехалі паглядзець тыя сем'і, адкуль да іх едуць беларускія дзеці.*

*Як і немцы, яны дасылалі нам шмат лекаў. Цэлыя самалёты. Мы з легендарным Феліксам Шкірманковым потым разам адвозілі іх у раённую бальніцу.*

*Феліксу Уладзіміравічу — дзевяноста год. Ён ветэран вайны. На той час узначальваў гарсавет. У нас там было сваё памяшканне, склады. Ён дапамагаў многімі рэчамі, у тым ліку і палівам.*

*На нас не было ніякага ціску. Ні справа, ні злева — бо рэдактарам раённай газеты быў сябра Партыі БНФ Аляксандр Маліноўскі.*

*Шмат работы выконвала Аляксандра Паўлаўна Старавойтава, якая працавала медсястрой у раённай бальніцы і за кошт сваіх адпачынкаў суправаджала дзяцей за мяжу, сачыла там за іх здароўем і ўмовамі жыцця. На жаль, сёння з намі гэтай цудоўнай жанчыны ўжо няма...*

*А яе муж Міхаіл Цімафеевіч Пракоф'еў быў такім працаголікам, што трэба яшчэ пашукаць.Складаў спісы дзяцей на аздараўленне, па вёсках высвятляў, каму перадаць неабходныя лекі, шукаў, якой сям'і больш за ўсё патрэбна гуманітарная дапамога і г.д.*

*Унікальны арганізацыйны талент!*

*Нямала дапамог нам і капітан міліцыі Тэльман Ісмаілаў, азербайджанец, які ажаніўся з мясцовай дзяўчынай.*

*Словам, у Слаўгарадзе ў нас была добрая сябрына аднадумцаў.*

*Аднойчы італьянцы прывезлі кожнаму жыхару раёна (38 тысяч чалавек!!!) па дзве чатырохсотграмовыя бляшанкі тушонкі. Прыйшло некалькі гумканвояў.*

*Такую колькасць бляшанак нават уявіць цяжка!*

*У 1992 годзе ў мяне з'явілася магчымасць перавезці жонку з дзецьмі ў Мінск, а сам я яшчэ 10 год жыў у Слаўгарадзе.*

*Пэўны час нават працаваў намеснікам старшыні райвыканкама. Узначальваў аграслужбу нашага раёна. Пры мне палова сельскагаспадарчых зямель была выведзеная з севазвароту, бо там нельга было нічога вырошчваць. На жаль, сёння ўсё вярнулася назад.*

*Потым у жыццё ўмяшалася «вялікая палітыка».*

*Калі стала відавочна, што «за цывілізаваным светам нас не павядуць», я, як іншадумец, стаў гэтаму актыўна супрацьстаяць і прыняў удзел у альтэрнатыўных прэзідэнцкіх выбарах 1999 года.*

*Тады мяне і звольнілі з працы. З Мінска дзеля гэтага прыязджаў цэлы дэпутат парламента».*

**А вось як бачыць падзеі тых год сын Віктара Рыгоравіча — Юрась Меляшкевіч:**

*«Дзень катастрофы на ЧАЭС запомніўся мне тым, што з вуліцы бацькі тэрмінова паклікалі мяне ў хату. Сказалі нешта накшталт — «радыеактыўнае сонца!».*

*Памятаю, як мы са страхам абмяркоўвалі нечаканую бяду і не ведалі, што рабіць надалей.*

*Падавалася, усе памром...*

*Да радыяцыі дадаўся развал савецкай сістэмы. Сумныя часы сталі яшчэ і шэрымі ад эканамічнага калапсу, велічэзных чэргаў і татальнага дэфіцыту.*

*І на гэтым фоне — прамень сонца. Мяне запрасілі ў Італію. За паўгода да дзевяці год.*

*Першы шок у мяне адбыўся акурат на ваенным аэрадроме, куды прызямліўся наш самалёт. Дзяцей перасадзілі ў аўтобусы. Кожнаму далі па піцы і бляшанцы «кока-колы» альбо «фанты». Такое я бачыў толькі ў мультфільмах.*

*У італьянскіх сем'ях нас сустрэлі быццам родных, але я ўжо вельмі сумаваў па маме, прачнуўся ноччу і заплакаў. Раніцай гаспадыня сказала, што на месяц будзе маёй другой мамай, і я больш не плакаў.*

*Напэўна, дзіцячыя ўспаміны пра Італію — лепшае з тых часоў.*

*Вакол Слаўгарада — прыгожая прырода (дастаткова ўспомніць знакамітую «блакітную крыніцу»), але сам горад у тыя часы быў не лепшым для жыцця месцам. І справа не толькі ў чарнобыльскай радыяцыі.*

*Камуністычныя ўлады ва ўсе часы амаль не думалі пра нейкую экалогію. Акурат праз наш двор цякла так званая рэчка-смярдзючка, куды з блізкай ЦЭЦ сцякаў мазут. Яе нават адмовіліся чысціць, проста схавалі ў калектар і засыпалі зямлёй.*

*Рэчка была адразу за дзіцячай пляцоўкай і аднойчы літаральна загарэлася. Прама як у тым мульціку... Толькі гарэў не акіян, а мазутная рэчка.*

*У 1992 годзе мы пераехалі ў Мінск, а ў 1993-м я пайшоў у пяты клас. Сталічны мікрараён «Малінаўка» нагадваў тады суцэльную будоўлю. З розных чарнобыльскіх рэгіёнаў людзей перасялялі сюды цэлымі вёскамі.*

*У нашым пад'ездзе жылі перасяленцы са Слаўгарадскага раёна, некаторыя добра знаёмыя, а ў суседнім — людзі з Чачэрска. Дамы камплектавалі пераважна «па зямляцкім прынцыпе». Амаль на сто адсоткаў іх насялялі вяскоўцы, якія ніколі не жылі ў горадзе, і псіхалогія ў іх таксама была чыста сялянская.*

*Хапала ўсяго...*

*Запомнілася, што паверхам над намі жыў чалавек, які прывёз з сабой пчол і паставіў на балкон вуллі. А пад вокнамі кожны год (да канца дзевяностых) капалі грады, дзе потым квітнела бульба. Яно і зразумела. Людзей адарвалі ад ладу, якім яны жылі стагоддзямі, ад таго, ад чаго кожны з іх не хацеў адмаўляцца, — і сілай кінулі ў гарадскія ўмовы.*

*Ніхто пра гэта тады не думаў.*

*Было вельмі цяжка. Бацька прыязджаў да нас са Слаўгарада амаль кожны тыдзень. 10 год жыў, так бы мовіць, «вахтавым метадам».*



**Сям'я Юрася Меляшкевіча — жонка Ганна, дачка Яніна, сын Станіслаў**

*Мяне са старэйшай сястрой Надзеяй выхоўвала маці Кацярына Іванаўна. Надзя пасля чарнобыльскай аварыі моцна хварэла — рак шчытападобнай залозы. Зрабілі аперацыю. Выратавалі. Надзея скончыла юрыдычны факультэт БДУ, працавала дырэктарам IT-кампаніі. Цяпер звольнілася, адпачывае, займаецца сваім здароўем і ўладкаваннем жыцця.*

*На жаль, іншым пашанцавала значна менш. Невядома, як Чарнобыль яшчэ адгукнецца ў нашым жыцці».*

...Упэўнены, што сентэнцыю пра «цесны свет» чулі ўсе, але зараз я вымушаны агучыць яе зноў.

Неверагодны цуд!

Летам 1998 года Карла Бенеш тры дні жыла ў Слаўгарадзе ў доме Меляшкевічаў, восенню 2015-га ў яе доме ў Мюнстэры тры дні жыў (абсалютна незнаёмы) аўтар гэтай кнігі. Паміж дзвюма падзеямі — не толькі 23 гады часу і рэха Чарнобыля. Паміж імі — філасофія дабрыні.



**Віктар Меляшкевіч, Карла Бенеш, Юрась Меляшкевіч, Кацярына Меляшкевіч**

ГЛАВА IV

# ПАГАРДЛІВАСЦЬ І ДАБРЫНЯ

Пра гэта ў тыя гады амаль не гаварылі, а ўсе падобныя
прыклады называлі «адзінымі выпадкамі».
Сёння арыенціры кардынальна змяніліся.
З сутарэнняў чалавечых душ выцягнутыя і зробленыя
дамінантамі самыя кепскія і агідныя «якасці» чалавечай
натуры – зласлівасць, ілжывасць, зайздрасць.
Калі паглядзець на ўсё гэта праз шкло пануючага
кар’ерызму, атрымаецца жудасная рэч.
Сёння пагардлівасць беднасці змянілася пагардлівасцю
«стабільнасці», і «адзінымі выпадкамі»
стала менавіта дабрыня.
Вельмі хочацца верыць, што так будзе не на вякі,
бо СВЯТЛО заўсёды перамагае цемру.

## *Ирина Грушевая вспоминает...*

«Образно говоря, Геннадий бился в кровь о стену отечественной бюрократии, и мне очень хотелось ему помочь.

Безусловно, что-то у нас получалось, ибо Советский Союз уже трещал по швам. Рушилась стена лжи советской пропаганды. И прежде всего, по отношению к Чернобылю. Ложь обнаружилась вокруг того, что реально угрожает жизни. И это увидели очень многие. Одних только ликвидаторов были десятки тысяч.

Вначале никакой правдивой информации не было вообще. Позже мы узнали, что только пожарники ценой своих жизней спасли Европу от страшной беды.

А ведь кроме них было ещё огромное количество людей, которых можно было защитить, если бы сразу знали правду...

Увы...

Так совпало, что Геннадий, словно лупа, которая собирает вместе множество солнечных лучей и прожигает твердую поверхность, сумел сфокусировать несогласие существовать во лжи и нежелание жить по-старому.

Не только в нашей семье, но и в тысячах других белорусских семей. Когда люди осознали, в какой тьме лжи они жили — ленинизм, сталинизм, комму-

**Выступает академик Евгений Конопля**



низм, Чернобыль — родилось противодействие. Чернобыль стал последней каплей в череде мифотворчества и обмана.

Я благодарна судьбе за встречу с Геннадием и то, что мы вместе пережили время перемен. Как известно, жить в эпоху катаклизмов не хочет никто — говорят, их нужно вообще бояться, — но именно это время было самым счастливым и интересным в моей жизни.

Мы смогли его использовать как для собственного роста, так и для того, чтобы изменить ситуацию. И в стране, и в сознании людей.

Мы сумели многим помочь понять, что никто не изменит нашу жизнь, кроме нас самих. Именно мы сами, а не некий «добрый дядя», правительство, власть. Лучше самих людей, как и в чём им нужно помочь, не знает никто. Начинается всё с каждого из нас. И каждый ответствен за своего ребенка, свою семью, деревню, страну.

К счастью, нам удалось «втиснуться» в очень небольшое временное пространство — с 1988 по 1994 годы. По сути, всего шесть лет, но их оказалось достаточно для того, чтобы перевернуть наши личные жизни, жизни сотен тысяч белорусов и огромное количество жизней людей за рубежом.

**1996 год. Третий конгресс «Мир после Чернобыля»**








Строительство детской SOS-деревни

Мы как бы поднялись на высоту птичьего полета и увидели, что мир дышит так же и переживает точно так же, как и мы. Что все страшилки про «злобный враждебный капитализм» не более чем мифы советской пропаганды. Поднялись и увидели людей, которые хотят помочь попавшим в беду.

С этими людьми и начали вместе думать о том, как и что лучше делать, как привлечь побольше сторонников. Изучали узкую проблему досконально и становились экспертами в определённых областях. Ведь поначалу мы все очень многого не знали и не умели. Например, как помогать другим, организовывать детские поездки, собирать пожертвования и т.д.

На Западе об этом тоже не имели никакого представления...

Проходило огромное количество встреч, разговоров, мы анализировали ошибки, недочёты и даже полные провалы. Мы жили необыкновенно насыщенной жизнью, но с таким доверием друг к другу, что когда происходила какая-нибудь ошибка, не пытались сразу искать виноватых среди иностранцев, а говорили — у вас не получилось, потому что где-то ошиблись и мы.

Ни на Западе, ни на Востоке нет больше ни одной страны, куда бы (не туристами) с самыми наилучшими побуждениями приезжало столько иностранцев, и чьи дети оздоровлялись так массово.

**Первый конгресс «Мир после Чернобыля». В центре — писатель Василь Быков**



**Папа Римский Иоанн Павел II принимает чернобыльских детей**

**Первая помощь. Отец Александр Надсон**



Хотя поначалу бывало всякое...

Помню, после первых приездов в хойникской газете первый секретарь райкома партии писал: «Ездят тут всякие иностранцы, вынюхивают, заразу привозят...». Цитата буквальная.

У советских людей перед миром тогда был огромный страх, неприятие. Высокомерие насчёт того, что мы самые лучшие. А потом, когда они увидели, что на Западе люди их общественного статуса (врачи, учителя, инженеры, водители транспорта, таксисты, продавцы) живут гораздо лучше (на-



**Вернер Линдеман**

шим такое благосостояние и не снилось!), тогда началась демонстрация высокомерия бедности. Дескать, «нам бы их проблемы»...

Легко сказать, но очень трудно сделать. Геннадий осилил, практически сломал невозможное — психологию советского человека. Созданный им фонд кардинально перевернул мировосприятие людей.

Я работала преимущественно на Западе, где убеждала людей помогать Беларуси. Мне было непросто, но проще, чем Геннадию. Он избавлял мозги тысяч людей от ненависти, высокомерия бедности и ложной гордости.

Доводилось слышать: «Зачем у них просить помощи? Они же фашисты, которые уничтожили мою деревню!»

И тогда мы были вынуждены объяснять, что это обычная подмена понятий, что зло творили не они, что это дети и внуки, которые тоже страдают от того, что их отцы и деды когда-то были в нашей стране вместе с фашистами.

Всё было очень непросто, но когда люди начали ощущать себя людьми — благородными, великодушными и даже щедрыми, принимая иностранцев, когда они вместе — даже не с потомками, а с прямыми наследниками тех, кто разрушал их деревню — вместе плакали, пели песни, ходили в баню, пили водку, это было «тихой революцией», сделанной фондом «Детям Чернобыля».



**Автобус для перевозки в Германию чернобыльских детей**

Это с одной стороны.

Ломка восприятия советского человека произошла и с другой стороны. Никто не заставлял иностранцев нам помогать. Они сами приехали в Беларусь, чтобы во всём разобраться и всё оценить лично. В их сознании тоже произошла «тихая революция».

Конечно, было много тех, кто приезжал только для того, чтобы дать. И было немало тех, кто хотел только брать и ничего при этом не делать. Такие отношения тоже установились. Мир многообразен, и я не хочу его идеализировать.

Но фонд следовал философии, созданной Геннадием. Философии добра. Философии «давайте делать вместе».

Те, кто придерживался схемы «давать-брать», от нас ушли. И слава БОГУ!

Мы как бы складывали свои идеи в общий котел, а потом извлекали из него общее дело.

Например, в Белыничах в подвале детского дома установили сушильный агрегат, чтобы там не стояла вода, построили баню в Калинковичах и Быхове. То есть слово «вместе» всегда было главным.

**Подарок немецкой полиции**




**Славгородский батюшка приветствует гостей**

Из сострадания те же немцы приглашали белорусских детей месяц отдохнуть в их стране, а мы, как организация, разговаривая с людьми в городе, где будет укомплектована группа (строительной бригадой, например), предлагали им самим что-то для себя сделать.

Расскажу типичный случай.

Геннадий спрашивает: «Почему ваши дети едут за рубеж?» В ответ звучит: «Потому что мы живем в зараженной зоне». Тогда он говорит: «Хорошо, зона зараженная... Но у вас что, рук-ног нет? Что сделали хорошее конкретно вы? Теперь будете ждать очередную подачку? Так не пойдет. Раз ваши дети отдыхают в Золингене, сделайте хорошее для других детей!»

То есть, помогая людям, мы всегда старались разбудить в них самих активность. Чтобы они не были жертвами, которые протягивают руку за помощью, а сами были готовы что-то делать для других.

Например, если хотели строить церковь, то детей из радиационного Жлобина посылали за границу, а жлобинский комбинат бесплатно выделял для строительства железобетонные конструкции.

К сожалению, иждивенческой психологии проявлялось тоже немало...



**Освящение каплицы около площади Бангалор**



**Близ Узды. Фабрика экологического питания**

По опыту фонда знаю, что сначала человек держит протянутую руку — дай, потом открывает рот и просит положить в него, а потом этот рот увеличивается до размеров вселенной — и всё мало.

Ирина Грушевая представляет новый проект фонда

В больнице для чернобыльцев



Делать из человека паразита — не наш путь.

Всего за шесть лет (не только благодаря оздоровлению детей) нам удалось разбудить в людях инициативу. Возникли проекты помощи старикам, инвалидам, больным детям. Создавались соответствующие инициативные группы, и наши граждане с помощью иностранцев сами занимались социальной работой. Самостоятельной, а не той, которой занимались государственные структуры типа собесов.

Это было совершенно новое движение. За шесть лет оно обрело поистине впечатляющие масштабы. Если людям немножко помочь, непре-



**Прием в православной епархии.**
**Выступает Митрополит Минский и Слуцкий Филарет, Патриарший Экзарх всея Беларуси**

менно раскрываются самые лучшие качества каждого человека. Они есть внутри — у всех.

В 71 районе Беларуси Геннадию удалось создать подобные группы. Группы людей, которые были заинтересованы строить социальную работу, потому что благодаря ей у них начиналась совершенно новая жизнь. Их дети ездили на оздоровление за границу, к ним приезжали иностранцы, которые становились их новыми друзьями. Насущное становилось гораздо интересней, и они играли в нём далеко не самую последнюю роль.

Люди стали жить совсем по-другому. В любой момент руководителям инициативы, ответственным за набор детей или распределение гуманитарной помощи, они могли предъявить претензии по количеству детских поездок за границу, задать вопросы насчет правильности распределения гуманитарной помощи. Дескать, почему что-то делается не так, как бы им казалось справедливым.

К государственным структурам предъявить подобные претензии невозможно в принципе. Все двери там всегда будут закрыты. Здесь же каждый должен был публично аргументировать свое решение. И быть при этом предельно убедительным, иначе от его авторитета очень скоро ничего не останется, и освободившееся место займет кто-то другой.

Словом, формировалось гражданское общество.

Конечно, было немало ошибок, но все увидели, что при таком подходе жизнь становится более справедливой, насыщенной и разнообразной.

К слову, подобные примеры были очень показательны и для всех остальных. Сторонние люди стали приходить и говорить: хотим жить так же. Спрашивали, что нужно делать, и тут же генерировали свои идеи. Если речь шла о клубах пожилых людей, то предлагалось собрать дедушек-бабушек, подарить им на праздник цветы, испечь печенье, напоить стариков чаем и т.п.

Люди учились приносить другим радость. Порой это было просто потрясающе и давало такой эффект, что когда встал вопрос о возвращении государственной опеки (государство лучше знает, что людям нужно) и создании Департамента гуманитарной помощи, а тех, кто поднял голову, силой заставили ее вновь опустить, это стало настоящей трагедией.

К счастью, на тот момент мы уже успели понастроить столько, что никому и по сей день до конца не удалось разрушить.

Люди попрятались, но продолжали делать то, что делали раньше. Может, они использовали другие формы, может, эффект уже был не таким, как прежде, но полностью повернуть время вспять — не удалось».

ГЛАВА V

# БЕРЛІНСКІЯ РАЗМОВЫ

Гэта было амаль звычайнае мерапрыемства —
паседжанне створанага ў 1997 годзе Міжнароднага
савета «Дзецям Чарнобыля». Цягам двух дзён у Берліне
ішло абмеркаванне таго, што трэба зрабіць, каб годна
адзначыць сумную дату 30-годдзя аварыі на ЧАЭС.
У нямецкую сталіцу прыехалі людзі з розных краін,
і я палічыў мэтазгодным к
рыху расказаць пра некаторых з іх.
Пра тых, у каго розныя лёсы, розныя погляды,
аднак ёсць тое, што аб'яднала ўсіх — Чарнобыль.
Пра тых, для каго чужая бяда стала сваёй.

# Інгрыд і Буркхарт Хамаер

Буркхарт Хамаер нарадзіўся 13 красавіка 1941 года ў горадзе Уна, што месціцца на паўночным захадзе Германіі. Нарадзіўся ў год, калі рэйтынг Гітлера быў самым высокім. Як вядома, пачалася вайна супраць Савецкага Саюза, так што Буркхарт — дзіця вайны.

Бацькі яго былі сацыял-дэмакратамі, чаго гітлераўскі рэжым, мякка кажучы, не прымаў. Цярпелі іх толькі таму, што не было нагоды для арышту.

Чаго нельга сказаць пра іншых...

У іх доме жыла жанчына, чый сын загінуў на вайне. Аднойчы яна сказала, што «гэтага Гітлера трэба павесіць...» Адзін з суседзяў пачуў і данёс. Жанчына знікла, а потым Хамаеры даведаліся, што яна ў турме.

Гэтая гісторыя з дзяцінства пакінула ў свядомасці Буркхарта вялікі адбітак. Пра тое, што было далей распавядае сам Буркхарт Хамаер:

*«Пасля школы я паступіў ва ўніверсітэт, дзе вывучаў тэалогію і філасофію, пасля чаго стаў студэнцкім пастарам, бо вельмі шмат і шчыльна кантактаваў менавіта з моладдзю.*

*Для такога выбару былі сур'ёзныя падставы, і самая галоўная ў тым, што лічу: чалавек павінен быць заўсёды адкрытым у дачыненні да таго, што вышэй за яго. Вось мне і захацелася больш ведаць пра тое, што вышэй і мацней за нас. І што выходзіць за межы чалавечага ўяўлення пра свет.*

*Пра што мы думаем? Чаго баімся? У чым сутнасць сяброўства і варожасці? Адкуль яны паходзяць?*

*У 1986 годзе я выдаў кнігу з назвай «Масты ўзаемаразумення: за новыя адносіны з Савецкім Саюзам». Гэта быў надзвычай небяспечны перыяд супрацьстаяння паміж Захадам і Усходам, бо ракеты былі ў поўнай боегатоўнасці з абодвух бакоў.*

*У Заходняй Германіі пачаўся вялікі рух за мір.*

*У сваёй кнізе я напісаў, што нам абавязкова трэба з'ездзіць да тых, хто падчас вайны быў ворагам. Няхай людзі сустрэнуцца, пазнаёмяцца адзін з адным і разам скажуць — мы не жадаем вайны, мы супраць яе і не хочам больш адзін у аднаго страляць. Мы хочам міру.*

*Адразу пасля гэтага пагаварылі са студэнтамі і сфарміравалі групу для паездкі ў СССР. Так мы ўпершыню трапілі ў Мінск. Было гэта ў 1987 і 1990 годзе.*

*У адрозненне ад беларусаў, немцы шмат чыталі і чулі пра аварыю на Чарнобыльскай АЭС. Было багата інфармацыі са Швецыі, дзе адразу пасля аварыі зафіксавалі значнае павышэнне ўзроўню радыяцыі, шмат публікацый у газетах самой Паўднёвай Германіі і адпаведных перадач па радыё.*

*Да таго ж, сярод студэнтаў было нямала будучых медыкаў, фізікаў, хімікаў. У адзін голас яны гаварылі, што адбылося нешта вельмі кепскае.*

*У Мінску адбыліся сустрэчы ў Таварыстве сяброўства, камітэце Міру, Акадэміі навук. Паўсюль сустракалі нас вельмі ветліва, ахвотна размаўлялі на розныя тэмы. Нашы дзёрзкія студэнты пачалі задаваць пытанні пра Чарнобыль.*

*Маўляў, мы столькі пра гэта чыталі, а што пра Чарнобыль думаюць тут? У адказ гучала афіцыйнае — нічога не было. А калі нават нешта і было, мы ўсё трымаем пад кантролем...*

*Пасля размовы ў Акадэміі навук да нас падышоў адзін журналіст і сказаў: «Калі вы хочаце ведаць, што адбываецца ў нашай краіне на самой справе, то рушце ў Чырвоны касцёл на плошчы Леніна. У гэтым будынку, у пакоі пад лесвіцай, сядзяць людзі, якія дакладна скажуць, што адбылося».*

*Высветлілася, што там знаходзіўся будучы фонд «Дзецям Чарнобыля», які тады называўся Камітэтам. Так я пазнаёміўся з Генадзем і Ірынай Грушавымі.*

**1992 год. Ірына Грушавая і Буркхарт Хамаер**






**Буркхарт Хамаер**

*Што мяне тады вельмі моцна ўразіла, дык гэта рытм іх працы. Офіс нагадваў мурашнік — ходзяць людзі, вядуцца размовы, нешта друкуецца на пішучай машынцы. Усё бурліла, віравала. Падумалася, што з такімі людзьмі я і хачу супрацоўніцтва.*

*У такі момант звычайна цытуюцца словы аднаго вядомага фільма: «Гэта быў пачатак дзіўнага, цудоўнага партнёрства! « Агучу іх і я.*

*На той момант у нас ужо быў наладжаны добры кантакт з медінстытутам, але я ад яго адразу адмовіўся, патлумачыўшы, што хачу супрацоўнічаць з іншымі людзьмі.*

*Праз некаторы час, калі пачалося аздараўленне беларускіх дзяцей у Германіі, я сабраў тых, хто іх да сябе запрашаў, — і арганізаваў паездку ў Беларусь, у сем'і, адкуль былі гэтыя дзеці. Паехала каля шасцісот немцаў. Цэлы цягнік.*

*Дарэчы, такія паездкі ладзіліся пастаянна. І не толькі для немцаў.*

*Памятаю, аднойчы для бацькоў, чые дзеці прыязджаюць з Беларусі, мы арганізавалі нават самалётны чартар. Тая паездка была надзвычай «вясёлай», бо паліва для самалёта было аплачана толькі да Мюнстэра. Калі госці сабраліся вяртацца назад, высветлілася, што яго больш няма, а ў пілотаў няма грошай.*

*Прыйшлося ўсё аплачваць самому...*

*Кожны раз мяне вельмі ўражвалі чарговыя сустрэчы з нашай уласнай гісторыяй. Страшнай гісторыяй немцаў у Беларусі. Прыкладаў можна прывесці шмат, але адзін узгадваецца адразу — Хатынь. Вялікая колькасць немцаў нават не ведала, што там адбылося падчас вайны.*

*Калі немцы паехалі да бацькоў тых дзяцей, якіх яны прымаюць, то даведаліся аб усім наўпрост. Яны жылі ў людзей, якія расказвалі, што фашысты рабілі ў іх вёсках, як усё адбывалася. Немцы ўсё гэта слухалі. І дазнаваліся пра тое, як, напрыклад, у Карме стралялі дзяцей...*

*У сваю чаргу, расказвалі, як іх бацькі і дзяды загінулі на вайне, і яны раслі сіротамі.*

*Атрымлівалася, ад вайны пацярпелі ўсе. І тыя, хто забіваў. І тыя, каго забівалі...*

*Гэтыя размовы часта цягнуліся цэлыя ночы. Людзі з незвычайным даверам і адкрытасцю расказвалі адно аднаму гісторыі, а раніцай збіраліся ўсе на снеданне і разам плакалі.*

*І разам прыходзілі да высновы, што хочуць жыць у свеце, дзе няма войнаў, у свеце, дзе пануе мір.*

*Кожная такая сустрэча была мостам міру, узаемапаразумення паміж людзьмі. Узніклі тысячы такіх мастоў.*

*Другая вялікая тэма, якая мяне хвалявала тады і хвалюе зараз, — гэта Чарнобыль. Адбылося нешта такое, чаго ніхто ніколі не ведаў. І толькі разам мы маглі нешта зрабіць. У тым ліку і зразумець, што адбылося.*

**Інгрыд і Буркхарт Хамаер**



*Адчуць, што гэтыя людзі — не проста ахвяры, з якімі здарылася незразумелае і якім трэба дапамагаць звонку, і навучыць іх дапамагаць самім сабе самастойна. Не чакаць, што нехта прыйдзе і дапаможа, а рабіць нешта самім.*

*Зразумець гэта вельмі важна.*

*Шмат хто, сустракаючыся з вашымі людзьмі, чуў — зрабіце што-небудзь для нашых дзяцей! І многія немцы паехалі ў Беларусь. Фонд тлумачыў ім сітуацыю ў рэгіёнах, падказваў, дзе і што канкрэтна больш патрэбна.*

*Галоўны прынцып работы быў наступны. У тых, хто не жыве ў Беларусі і не пацярпеў, можа быць шмат добрых ідэй, аднак вырашальным павінна быць — што патрэбна тым, каму накіравана дапамога.*

*Мы не хацелі быць нейкімі вонкавымі ментарамі, якія вырашаюць, што і як трэба рабіць, таму што даюць грошы. Нам хацелася бачыць у беларусах не аб'ект для дапамогі, а роўных партнёраў.*

*У гэтым сэнсе фонд «Дзецям Чарнобыля» аказаўся ўнікальным, бо мы ўбачылі крыніцу сапраўднай інфармацыі пра тое, што больш за ўсё патрэбна беларусам. Мы зразумелі, што там сабраліся людзі, якія не збіраюцца чакаць, пакуль прыйдзе з дапамогай нейкі «добры дзядзька», а імкнуцца дапамагаць сабе самі.*

*Натуральна, што такі падыход спадабаўся не ўсім. Некаторыя немцы (і не толькі) не зразумелі гэтай філасофіі. Яны казалі, што ў Беларусі не могуць ведаць, што ім на самой справе трэба. Маўляў, мы ведаем лепш, што трэба беларусам, што ім дапаможа насамрэч; мы даем грошы, таму і вырашаць, на што іх выдаткоўваць, будзем самі...*

*На гэты конт ёсць добрая прымаўка: рука, якая дае, заўсёды зверху. Мы не хацелі падзелу на «тых, хто дае» і «тых, хто бярэ». На рукі «зверху» і рукі «знізу». Мы імкнуліся да рэальнага партнёрства.*

*Менавіта гэта і стала «яблыкам разладу». Некаторыя немцы пачалі публічна выказваць сваю незадаволенасць і называць фонд «Дзецям Чарнобыля» ледзь не злачынцамі. Загучалі плёткі пра нейкі крадзеж, карупцыю, махлярства...*

*Каб абараніць фонд ад такога кшталту папрокаў (мякка кажучы — хлуслівых) і такіх «памочнікаў», тыя, хто думае інакш, вырашылі адкрыць у Германіі спецыяльны рахунак, які б адпавядаў усім нямецкім законам і для ўсіх быў цалкам празрыстым. Менавіта на гэты рахунак павінны былі ісці ўсе сродкі для ажыццяўлення беларускіх праектаў.*

*З гэтага моманту ўсе «фінансавыя» спрэчкі і дыскусіі наконт таго, ці правільна выкарыстоўваюцца грошы, спыніліся — таму што ўсё было відавочна.*



**Генадзь Грушавы і Буркхарт Хамаер**

*У гэты ж час мы стварылі Асацыяцыю чарнобыльскіх ініцыятыў Германіі (Bundesarbeitsgemeinschaft «Den Kindern von Tschernobyl in D-d»e-V). Я стаў яе старшынёй. У нашых шэрагах аб'ядналіся больш за 250 нямецкіх ініцыятыў.*

*Было гэта ў 1992 годзе.*

*Каб інфармаваць усе нямецкія ініцыятывы пра тое, што адбываецца ў нашай Асацыяцыі і беларускім фондзе, я пачаў выпускаць адмысловы бюлетэнь. Па сутнасці, гэта быў абмен досведам і думкамі. У маім архіве захаваліся ўсе нумары гэтага бюлетэня.*

*У 1997 годзе мы стварылі яшчэ адну структуру — Міжнародны савет «Дзецям Чарнобыля», у які ўвайшлі прадстаўнікі 21 дзяржавы. Мне пашанцавала стаць аўтарам «Чарнобыльскай хартыі» — гэта своеасаблівы кодэкс, маніфест тых, хто займаецца ва ўсім свеце чарнобыльскім праблемамі.*

*Сярод асноўных тэзісаў гэтага дакумента — імкненне да міру, што стала прычынай разыходжання ў поглядах з амерыканцамі, калі пачалася іх першая вайна з Іракам.*

*У тым жа годзе на сваё паседжанне мяне запрасіла ААН. У іх праходзіла сустрэча патэнцыйных донараў — тых, хто дапамагае справіцца з чарнобыльскімі праблемамі.*

*На гэтую сустрэчу былі запрошаны і прадстаўнікі дзяржаў, якія больш за ўсё пацярпелі ад аварыі на ЧАЭС. Яны нічога не казалі пра Чарнобыль. Толькі прасілі грошай, а я гаварыў пра людзей, якія пакутуюць ад радыяцыі, пра іх дзяцей, пра мужных змагароў, якія дапамагаюць сабе самі.*

*То бок, у ААН адбывалася тое, пра што мы не раз казалі ў Германіі. Беларускія ўлады жадалі атрымліваць гуманітарную дапамогу, аднак не жадалі прызнаваць палітычны складнік трагедыі.*

*Як бы ў працяг гэтага ў 1997 годзе ў Беларусі быў створаны Дэпартамент па гуманітарнай дапамозе. Ён наўпрост падпарадкоўваўся прэзідэнту.*

*Тыя замежнікі, якія працавалі з дзяржаўнымі структурамі, для сваёй работы атрымлівалі «зялёнае святло». У іх не было ніякіх праблем, калі яны трымаліся прынцыпу не гаварыць пра тое, чаму патрэбна іх гуманітарная дапамога.*

*То бок, за лекі — дзякуй, а пра тое, чаму людзі хварэюць — ні слова...*

*Па сутнасці, беларуская ўлада, якая адчувала вялікія цяжкасці ў вырашэнні эканамічных праблем, зрабіла гэтых замежнікаў сваімі памагатымі, змоўшчыкамі злачынства.*

*Іншымі словамі, з дапамогай аўстрыйцаў, немцаў, італьянцаў і г.д. беларуская дзяржава ўмацоўвала свой імідж, а тым замежнікам, хто працягваў супрацу з фондам, рабілася ўсё цяжэй і цяжэй.*

*Добра вядома, што дзейнасць фонду «Дзецям Чарнобыля» некалькі разоў прыпынялася, доўгі час была забарона на паездкі беларускіх дзяцей за мяжу.*

*Менавіта ў такіх умовах актыўнасць Міжнароднага савета стала надзвычай важнай, бо як толькі пачаліся спробы крыміналізаваць дзейнасць фонду, мы стварылі Міжнародную камісію, якая павінна была абвергнуць усе абвінавачванні КДБ, Савета Бяспекі, следчых органаў. Так яно і адбылося.*

*Дзевяць чалавек з васьмі краін свету прыехалі ў Савет бяспекі Беларусі, дзе не пачулі ніводнага доказу злачыннай дзейнасці Грушавых.*

*Я хачу скончыць свой расповед адным эпізодам з Бібліі. Калі да Хрыста прынеслі паралізаванага чалавека, ён не даў нейкіх казачных лекаў, не зрабіў нейкага цуду, хаця мог. Ён сказаў: «Уставай і ідзі! Ты можаш!» У гэтым і ёсць наша асноўная філасофія — людзі павінны вучыцца дапамагаць сабе самі, трымаць спіну прама і не згінацца перад тымі, хто хоча нас апусціць да ролі ахвяры».*

Расказваючы пра сваё жыццё, Буркхарт Хамаер узгадваў многіх людзей, якія яму дапамагалі, але больш за ўсё — сваю жонку Інгрыд, таму будзе цалкам лагічным агучыць і яе кароткі аповед:

*«Буркхарт быў пастарам у студэнцкай грамадзе, а я ў парафіі, у прыгарадзе Мюнстэра. Пачынаючы з 1992-га, мы шмат год прымалі дзяцей з вёскі Свенск Слаўгарадскага раёна. Групы па 20--30 чалавек чатыры тыдні жылі ў нямецкіх сем'ях. Пачыналася ўсё з урачыстага богаслужэння, дзе дзяцей з Беларусі віталі прыхаджане. Потым іх забіралі па сем'ях.*

*Так было да 1999 года, то бок, сем год.*

*Можна ўзгадаць шмат цікавых выпадкаў, але пра адзін хочацца расказаць асобна. У адной прыхаджанкі быў вялікі сад. Аднойчы нямецкая моладзь разам з беларускімі дзецьмі правялі там вельмі цікавае мерапрыемства пад назвай «Працягні мне сваю руку». Удзельнікам раздалі гліну, на якой кожны зрабіў адбітак сваёй далоні.*

*У той жанчыны была печ для абпалу гліны. На чарговым богаслужэнні ўсе разам спявалі песні, а потым абмяняліся глінянымі вырабамі. Немцы аддалі свае беларусам, беларусы — немцам. Гэта быў вельмі прыгожы сімвал сяброўства.*

*І ўвогуле. Прыхаджане мяне заўсёды моцна падтрымлівалі. У тым ліку і моладзь. У іх быў склеп, дзе захоўваліся розныя рэчы. Яны збіраліся там разам з беларускімі дзецьмі і прапаноўвалі ім карыстацца сваімі веласіпедамі і гуляць сваімі мячыкамі. Разам каталіся па возеры на маленькіх яхтах.*

*Потым мяне ў якасці святара накіравалі на працу ў шпіталь, і парафія значна змянілася. Змяніўся і змест маёй дзейнасці. Магчымасці арганізоўваць аздараўленне беларускіх дзяцей ужо не было і я проста дапамагала Буркхарту працаваць больш эфектыўна».*

# Эва Фіджыстол

Напэўна, у сваім жыцці такой матывацыі я яшчэ не чуў. Эва Фіджыстол прыехала з Нарвегіі ў Берлін аўтобусам, таму што «ў гэтым годзе шмат лётала самалётам і нанесла вялікую шкоду экалогіі».

Каб было ўсё больш відавочна (хай даруюць усе жанчыны свету), я скажу, што нарадзілася яна ў 1933 годзе. Не трэба быць матэматыкам кшталту Лабачэўскага, каб палічыць, колькі ёй цяпер год, і ўявіць сабе 26 гадзін дарогі аўтобусам.

*«Я нарадзілася ў маленькай нарвежскай вёсцы бліз вядомага горада Берген. Яна месціцца на самым беразе мора, і каб дабрацца да вёскі су-*



**Эва Фіджыстол (справа) і Ірына Грушавая**

*седняй, у тыя часы трэба было выдаткаваць цэлыя суткі. Зараз гэта тры гадзіны на маторнай лодцы. Мае бацькі працавалі настаўнікамі. У нас быў агарод, вялікі сад, басейн, дзве авечкі, дзесяць курачак, свінка і вельмі шмат кветак.*

*Калі мне споўнілася дзевяць год, бацька памёр, аднак маці вельмі хацела, каб мы з сястрой (сястра меншая за мяне на два гады) атрымалі адукацыю. Да 14-ці год я вучылася ў школе нашай вёскі. Потым пяць год жыла (у іншым месцы) у цёткі, хадзіла там у гімназію. Затым паехала ў Осла, дзе паступіла ва ўніверсітэт. Вывучала матэматыку, фізіку, іншыя навукі, а мая дыпломная работа (1962 год) датычылася атамнай энергетыкі, якая ў той час была надзвычай папулярнай. Яна лічылася вельмі карыснай, таму ўсе займаліся гэтым пытаннем з асаблівым імпэтам. Фізікі-ядзершчыкі карысталіся асаблівай павагай. Усе лічылі, што за гэтым — будучыня.*

*Сёння ў людзей, напрыклад, такое ж захапленне камп'ютарнымі тэхналогіямі.*

*У 1959 годзе Нарвегія пабудавала свой першы ядзерны рэактар, які выкарыстоўваўся выключна для навуковых даследаванняў. Калі не памылюся, ён (па навуковых мэтах) быў адным з першых у свеце.*

*У гэты час я вельмі зацікавілася рухам, які змагаўся супраць атамнай зброі.*

*Потым выйшла замуж, нарадзіліся чацвёра дзяцей. Працавала настаўніцай у школе, гімназіі, а затым перайшла ў інстытут, які рыхтаваў настаўнікаў.*

*Мой муж быў прафесарам старажытных моў (нарвежскай і нямецкай) і яго на год запрасілі чытаць лекцыі ва ўніверсітэце нямецкага горада Фрайбург, куды мы пераехалі ўсёй вялікай сям'ёй.*

*Было гэта ў 1982 годзе і працягвалася да 1983-га.*

*У Германіі тады праходзіла шмат дэманстрацый супраць атамнай энергетыкі, і я пазнаёмілася з людзьмі, якія бралі ў іх удзел.*

*У Фрайбургу ёсць вельмі вялікі экалагічны інстытут.*

*Я адразу стала яго сябрам, бо ведала шмат інфармацыі пра атамную энергетыку. Дзеці падрасталі, і ў мяне было ўсё больш і больш часу цікавіцца гэтай тэмай. На грамадскіх пачатках я актыўна пачала займацца ахо-*

**Моладзевы форум. У цэнтры — Эва Фіджыстол**



*вай навакольнага асяроддзя. Мы пісалі кнігі, удзельнічалі ў акцыях пратэстаў, выпускалі ўлёткі, запрашалі палітыкаў, размаўлялі з імі. Мы — гэта арганізацыя «Сябры Зямлі». Дакладней, яе нямецкае аддзяленне.*

*Пасля таго, як адбылася аварыя на Чарнобыльскай атамнай станцыі, я зразумела, што гэта вельмі сур'ёзна — і напісала адпаведны артыкул для адной з біргенскіх газет.*

*Шчыра кажучы, у многіх гэта выклікала смех. Маўляў, Чарнобыль так далёка ад Нарвегіі...*

*Пра тое, што гэта не так, мы даведаліся значна пазней, а тады большасць была цалкам бестурботнай на гэты конт. Людзям падавалася, што бяда іх ніколі не закране. На жаль, з часам гэтая памылка стала відавочнай.*

*Толькі адзін прыклад.*

*Як вядома, авечкі ў нас звычайна ўсё лета пасвяцца ў гарах. Зараз там — павышаны ўзровень радыяцыі. Калі жывёлы вяртаюцца да сваіх гаспадароў, тыя па нарвежскіх законах не маюць права адразу прадаваць мяса, а павінны яшчэ тры месяцы карміць іх чыстымі рэчывамі. І то не факт, што тады мяса можна будзе прадаваць.*

*Пасля ўстаноўленага тэрміну да фермера прыходзіць спецыяльная камісія, якая робіць адпаведныя аналізы. Выпадкова абіраюцца тры авечкі, і нават калі адна з іх будзе не адпавядаць патрэбным нормам, кармленне ўсіх чыстымі рэчывамі працягнецца яшчэ мінімум на шэсць тыдняў.*

*Зроблена гэта для таго, каб з арганізмаў жывёл выходзіў цэзій, і ў гандаль мяса паступала абсалютна чыстым.*

*Ірыну Грушавую я сустрэла ў 1993 годзе ў Італіі, дзе праходзіў еўрапейскі экуменічны Форум жанчын-хрысціянак, і куды яна прывезла выставу дзіцячых малюнкаў. Ірына тады расказала пра тое, што адбываецца ў Чарнобылі і рэгіёнах, якія пацярпелі ад аварыі. Пасля аварыі на ЧАЭС прайшло ўжо сем год.*

*Яе расказ літаральна шакаваў. Я стала сябрам міжнароднага руху па барацьбе з наступствамі Чарнобыля і неўзабаве звярнулася да кіраўніцтва свайго інстытута з просьбай фінансаваць паездку ў Беларусь.*

*Трэба адзначыць, што арганізавала яе Ірына, як заўсёды, добра. Мы аб'ехалі многія пацярпелыя ад радыяцыі раёны Магілёўскай вобласці. Наведалі дзіцячыя дамы, бальніцы, жытло звычайных людзей. Пабывалі нават у так званых «закрытых зонах». Глядзелі, слухалі, размаўлялі.*

*Пасля гэтай паездкі я выпусціла брашуры, кніжкі, друкавала шмат артыкулаў з фота забруджаных радыяцыяй мясцінаў і людзей, якіх там сустракала.*

*Потым паездку мне прапанавалі паўтарыць. Толькі ўжо не адной, а зладзіць яе для выкладчыкаў з розных гарадоў Нарвегіі. У нашай групе было 25 чалавек, і мы прыехалі ў Беларусь, каб пазнаёміцца з сітуацыяй, так бы мовіць, на месцы.*

*Сярод іншага пабывалі ў магілёўскім філіяле радыебіялагічнага інстытута, які тады месціўся побач з Мінскам у Аксакаўшчыне, і там доктар Астапенка паказаў нам аддзяленне, дзе знаходзіліся людзі з высокімі паказчыкамі радыяцыі.*

*Яны яшчэ не былі хворымі, бо «набраць» радыяцыю яшчэ не азначае захварэць. Усё залежыць ад імуннай сістэмы арганізма. Адны пачынаюць хварэць адразу, іншыя — праз некалькі год.*

*Потым мы паехалі ў Чачэрск, Касцюковічы і г. д. — і на свае вочы бачылі, як там жывуць людзі, як хварэюць на не тыповую «прамянёвую» хваробу і на тое, што, на першы погляд, не мае дачынення да радыяцыі.*

*Пабывалі ў Слаўгарадзе, на сімвалічных могілках пахаваных вёсак, у школе вёскі Ржаўка, а ў Бярэзінскім запаведніку разам з тымі, хто займаўся праблемамі экалогіі, правялі адпаведны семінар.*

*Словам, па насычанасці інфармацыяй тая паездка была надзвычай цікавай.*

*Вынікам жа яе стала тое, што па ўсёй Нарвегіі пачалі працаваць групы дапамогі Беларусі. Ваш боль стаў нашым.*

*У Нарвегіі ёсць фонд, які носіць імя прафесара Рафта, вядомага тым, што ўсё сваё жыццё змагаўся за правы чалавека. Узнагарода гэтага фонду лічыцца першай прыступкай да знакамітай Нобелеўскай прэміі. Паколькі я тады працавала ў Вышэйшай школе эканомікі, то была сябрам праўлення гэтага фонду і шмат рабіла з імі разам.*

*У 1999 годзе склалася такая сітуацыя, што ўся чарнобыльская работа ў Беларусі была ўзята пад жорсткі дзяржаўны кантроль, і Генадзь Грушавы вымушаны быў з'ехаць у Германію, каб абараніцца ад нападаў Савета Бяспекі.*

*У гэты час я вырашыла, каб выказаць міжнародную падтрымку фонду «Дзецям Чарнобыля» і асабіста Генадзю, вылучыць яго кандыдатуру на атрыманне прэміі імя прафесара Рафта.*

*На атрыманне прэміі было два кандыдаты — Генадзь Грушавы і прэзідэнт Паўднёвай Карэі, які хацеў аб'яднаць Паўночную і Паўднёвую Карэі, за што яго палітыку называлі «сонечнай».*

*У наступным годзе яго наміналі на Нобеля, а тады карэец саступіў Генадзю Грушавому, які пры галасаванні набраў на адзін голас больш.*




*Менавіта ў Ліліхамеры мы і вырашылі — усе нарвежскія арганізацыі, якія па чарнобыльскай праблематыцы нейкім чынам працуюць з Беларуссю, аб'яднаць у адну сетку. Правесці адпаведную сустрэчу, куды запрасіць беларускіх партнёраў. Я прапанавала Генадзя, Ірыну і прафесара Васіля Несцярэнку.*

*Сустрэча адбылася. Мяне абралі каардынатарам дзейнасці ўсіх нарвежскіх ініцыятыў і іх беларускіх сяброў.*

*Паколькі ў палітычным плане (беларуская дзяржава паступова наступала на фонд «Дзецям Чарнобыля») сітуацыя станавілася ўсё больш і больш складанай, наш рух пачаў расколвацца.*

*Многія не захацелі браць удзел у справах, якія ў Беларусі могуць назваць палітыкай; вырашылі абмежавацца выключна гуманітарнай дапамогай. Маўляў, прывозім, раздаём і — усё. Дапамагаць людзям нешта змяняць у сваім жыцці — гэта палітыка, і мы туды не лезем. Чужыя палітычныя пытанні нас цікавіць не павінны.*

*На жаль, такую пазіцыю абралі даволі шмат нарвежскіх ініцыятыў, аднак я лічыла, што падтрымка патрэбна і тым, хто займаецца такой «палітыкай».*

*Усвядоміўшы гэта, звярнулася па фінансавую дапамогу ў Міністэрства замежных спраў Нарвегіі. Там вырашыла падтрымаць маладзёвы праект, які на той момант ужо працаваў. Пасля таго, як Генадзь Грушавы атрымаў*



**Выступае Эва Фіджыстол**

*прэмію імя прафесара Рафта, ён накіраваў гэтыя невялікія грошы менавіта на новыя маладзёвыя праекты. Мэта іх была ў тым, каб выхаваць моладзь, якая будзе цікавіцца экалогіяй і не прымаць атамную энергетыку.*

*Так у нашай дзейнасці з'явіўся новы складнік — маладзёвы. Маладзёвыя форумы заўсёды выпадалі на першы тыдзень снежня і прымяркоўваліся да Міжнароднага дня правоў чалавека, які і адзначаецца 10 снежня.*

*Каб пастаянна пераконваць фонд Рафта ў неабходнасці такой дзейнасці, даводзілася рабіць шмат інфармацыйнай работы, і да апошняга часу гэта ў мяне атрымлівалася.*

*А зараз — пра паралельны напрамак.*

*Я была сябрам шмат якіх жаночых арганізацый. Адна лінія была экуменічнай, пра якую мы ўжо ўзгадвалі. А другой стала палітычная Міжнародная Ліга жанчын за мір і свабоду. Я ўступіла ў гэтую арганізацыю ў Нарвегіі і хутка наладзіла адпаведныя кантакты.*

*Богу стала патрэбна, каб беларускім партнёрам стала створаная ўжо знаёмай мне Ірынай Грушавой структура. Нашым агульным праектам стаў праект, звязаны з гандлем людзьмі.*

*Дзякуючы яму, мы змаглі адкрыць у Гомелі, Магілёве, Ельску і Акцябрскім кансультацыйныя цэнтры для жанчын і дзяўчат, якія пацярпелі ад хатняга гвалту.*

*Гэта быў вельмі цікавы праект. Працягваўся ён дзесяць год, пакуль беларуская дзяржава канчаткова не перакрыла кісларод, то бок, цалкам перастала падпускаць грамадскія арганізацыі да ахвяр гвалту.*

*Натуральна, што гэты праект мы не аддзялялі ад іншых, чыста чарнобыльскіх, бо часта гэта было адно цэлае.*

*У Беларусі я ўжо пабывала 11 разоў.*

*У вашай краіне за гэты час з'явілася шмат чаго. Перш за ўсё, візуальна. Калі я была ў вас упершыню, усё было нейкім шэрым, абшарпаным. У крамы не хацелася ўваходзіць — яны выглядалі не вельмі прывабна. Кафэ і рэстаранаў, дзе можна было б проста пасядзець і папіць кавы, фактычна не было. Паўсюль чакалі, што ты зробіш сур'ёзны заказ.*

*Зараз такога няма, усё ўтульна і ветліва. На вуліцах у вас чыста, але я добра ведаю, як гэта дасягаецца. Чысціня гэта — за кошт таго, што бедныя людзі баяцца на вуліцах прасіць міласціну, бо іх адтуль выганяе міліцыя.*

*Прыкметна, што людзі жывуць не так свабодна, як раней. Падчас сваёй нядаўняй паездкі я пыталася ў людзей наконт іх думак аб атамнай станцыі. Людзі не хацелі пра гэта размаўляць, а адразу пераводзілі размовы на іншыя тэмы. Мне не ўдалося атрымаць ніводнага (хоць якога-небудзь) адказу. Больш за тое, кіраўнік нашай групы не раз заклікаў абмяркоўваць такія тэмы не з беларусамі, а ў сваім аўтобусе.*

*Радыеактыўнасць пагражае ўсяму свету. У Беларусі гэта бачна больш рэльефна, таму ўсе мы павінны нешта рабіць. Праблемы з радыяцыяй ёсць паўсюды, але не паўсюды пра гэта гавораць. На мой погляд, бліжэйшыя дзесяць год трэба дэмантаваць сто атамных рэактараў, якія ёсць у Еўропе. Плюс прыбраць іх адкіды. Гэта надзвычай дарага, але гэта трэба зрабіць дзеля нашых нашчадкаў».*

# Эва Квісторп

Гэта было адно з самых позніх па часе інтэрв'ю. Нягледзячы на тое, што Эва актыўна ўдзельнічала ва ўсіх мерапрыемствах Міжнароднага савета «Дзецям Чарнобыля», пагаварыць з ёй персанальна атрымалася толькі познім вечарам на буйным пісьменніцкім фэсце, які ў той дзень прымаў Берлін.

Увогуле ж Эва Квісторп у Германіі — асоба амаль легендарная. У 1979 годзе яна (з сяброўкай Петрай Кэлі) была сярод тых, хто ствараў адну з асноўных партый краіны — Агульнагерманскую партыю зялёных.



2004 год. Барселона. Форум міру.
Эва Квісторп ля стэнда фонду «Дзецям Чарнобыля»

*«Ужо тады ў нас быў дакладны канцэпт будучыні Еўропы. Нягледзячы на тое, што ў 1968 годзе ў Чэхаславаччыну ўвайшлі савецкія танкі, у канцэпце была і гэтая краіна, бо мы цвёрда верылі — правы чалавека стануць галоўнымі нават там. Еўропа абавязкова будзе адзінай — мы не хацелі, каб дзве звышдзяржавы, Амерыка і Савецкі Саюз, выкарыстоўвалі яе як поле бою паміж сабой. Спачатку — поле халоднай вайны, а потым і «гарачай», з выкарыстаннем атамнай зброі.*

*На шчасце, гэтага не адбылося, але здарылася не менш страшнае — Чарнобыльская катастрофа.*

*У студэнцкія гады, як і ўся моладзь (1968 год — час неспакойны), я захаплялася «левымі» ідэямі, працамі Сталіна, Леніна, Маа, але цяпер нічога, акрамя сумнага смеху, гэта ў мяне не выклікае. Практыка абсалютна не адпавядае тэорыі.*

*Я мала ведала пра Хірасіму, але затое вельмі шмат чытала пра «мірны» атам. Моладзі тады падабалася ідэя прымянення «мірнай» атамнай энергіі. Тое, што адбылося пазней, разбурыла і гэты міф».*

На пачатку 80-х гадоў мінулага стагоддзя ў Заходняй Германіі разгарнуўся беспрэцэдэнтны рух за мір. На адпаведныя дэманстрацыі збіраліся сотні тысяч людзей. Аднойчы каля паўмільёна дэманстрантаў стварылі ў Боне так званы «жывы цэп» — узялі адзін аднаго за рукі — і так стаялі.

У нямецкай гісторыі чалавечы цэп такой даўжыні стварылі ўпершыню.

Канешне, была сярод іх і Эва Квісторп, бо ўявіць такое без удзелу гэтай суперактыўнай жанчыны немагчыма. Падчас размовы я нават дзеля жарту хацеў убачыць за яе спінай маторчык з прапелерам.

На мой жарт Эва адказала, калі пасля развітання пачала шукаць свой «мерседэс». Ім аказаўся звычайны ровар, на якім яна паехала з хуткасцю бывалага велабайкера і нават не верылася, што не так даўно гэтай жанчыне споўнілася семдзясят год...

Падобныя да нямецкага маршы за мір у тыя часы ладзіліся і ў іншых еўрапейскіх сталіцах — Лондане, Парыжы, Афінах, Мадрыдзе, Рыме. Безумоўна, сярод дэманстрантаў было нямала тых, хто асацыяваў ядзерную зброю выключна з Амерыкай, аднак Эва Квісторп, якая ўжо пазбавілася камуністычных міфаў (як і Вацлаў Гавал у Чэхаславаччыне), належала да іншай групы. Той, што выступала за мірную Еўропу без пагрозы з двух бакоў — ЗША і СССР.

Ужо існавала «Хартыя-77», пачынаўся рух «Салідарнасць» — таму цалкам лагічным было стварэнне падобнай структуры і ў Германіі. Разам з ужо ўзгаданай Петрай Кэлі (на жаль, яе забілі ў 1992 годзе) Эва стварыла групу, якая «паміж двух агнёў» — Злучанымі Штатамі Амерыкі і Савецкім Саюзам — змагалася і супраць ядзернай зброі, і за захаванне правоў чалавека.

Нямецкае кіраўніцтва тады выступала за паслабленне ваеннай напругі і зніжэнне супрацьстаяння ў Еўропе, а людзі накшталт Эвы Квісторп хацелі бачыць сябе па-за любымі вайсковымі блокамі (Варшаўская дамова, НАТА) і стваралі для гэтага фундамент.

Агульнымі намаганнямі ўсе яны дасягнулі стварэння глебы, базы для таго, каб тагачасныя лідары СССР (Міхаіл Гарбачоў і Эдуард Шэварднадзэ) аб'явілі канцэпт «Еўропа — наш агульны дом».

*«У тыя часы я ўскладала на Гарбачова вельмі вялікія надзеі, бо чытала яго артыкулы, чула выступ на партыйным з'ездзе. Здавалася, што прыйшоў палітык новага тыпу.*

*Надзея рухнула разам з дахам чацвёртага энергаблока Чарнобыльскай атамнай станцыі. Гэта быў шок.*

*28 красавіка 1986 года ў навінах я ўбачыла здымак аварыі і сказала: «Божа! Чарнобыль... А дзе гэта?»*

*Калі мая маці падчас вайны ў Эсэне бачыла дамы, якія гарэлі ад бомбаў, яна спрабавала іх тушыць. У мяне ўзнікла такая ж рэакцыя на Чарнобыль. Адразу захацелася нешта рабіць, нешта тушыць.*

*Паколькі гэта было вечарам, то я сама сабе сказала: «Каб разабрацца ў гэтай сітуацыі і пагасіць пажар, неабходна быць максімальна спакойнай і*

*сканцэнтраванай, а для гэтага зараз трэба легчы спаць. Раніцай абудзішся — і нічым іншым, акрамя тушэння гэтага пажару, займацца не будзеш».*

*Я тады жыла ў Боне. Памятаю, быў цудоўны вясновы дзень. Навокал цвілі кветкі; прыгажосць, парадак. Напэўна, у мініяцюры такім павінен быць і ўвесь наш свет.*

*Падумалася, што, хутчэй за ўсё, людзі каля Чарнобыля таксама любуюцца гэтай прыгажосцю і нічога не ведаюць пра нябачную для вачэй радыяцыю, якая пазбаўляе іх здароўя і будучыні.*

*Раніцай я адразу накіравалася ў бундэстаг, дзе працавала ў той час, і ўсю дарогу думала, што навакольны свет не аднастайны, што ёсць яшчэ нешта, што чалавек не можа ўспрыняць органамі адчуванняў. Шкодны свет радыяцыі. Жудасна!*

*У той дзень у нас была канферэнцыя па праблемах Афрыкі. Мне падавалася, што за ноч калегі вырашаць змяніць тэму, што ўсе думаюць, як і я.*

*На жаль, гэтага не адбылося. Прэзідыум не змяніў «павесткі дня» і мяне гэта вельмі моцна абурыла. Я не вытрымала і выйшла з залі. А выканаўчаму дырэктару «зялёных» сказала, што не магу чуць рэчы, якія сёння нельга лічыць экстраардынарнымі і галоўнымі. Што пайду ў савецкую амбасаду (тады яна была ў Боне), буду патрабаваць хоць якую-небудзь інфармацыю і тлумачэнні пра тое, што насамрэч адбылося ў Чарнобылі. Радыеактыўнае воблака прасоўваецца хутка, і нам трэба, пакуль яно не дагнала людзей, папярэдзіць іх пра небяспеку.*

**Эва Квісторп на адпачынку**



*У пасольстве СССР я была ўпершыню. Агромністы палац, дзе ў скураных крэслах літаральна патаналі мясцовыя функцыянеры.*

*Адразу мяне ніхто не прыняў, сказалі пачакаць. Канешне ж, доўга чакаць я не магла, бо, паўтаруся, радыеактыўнае воблака прасоўвалася вельмі хутка. Вырашыла там жа напісаць адпаведную заяву, дзе сказала, што ў нямецкім парламенце ёсць людзі, якія патрабуюць праўду пра тое, што адбылося ў Чарнобылі.*

*Магчыма, мяне і не прынялі, таму што ведалі, хто просіцца на аўдыенцыю. Ведалі і тое, што ў Швецыі ўжо зафіксавалі павышэнне радыеактыўнага фону...*

*Пасля гэтага я рушыла ў бюро нашай партыі. Акрамя нейкага аднаго супрацоўніка там нікога не было. Цікава, што ён ужо пачаў пісаць заяву для прэсы наконт чарнобыльскага здарэння. Першымі сказамі там было: «Капіталізму трэба ўсё больш і больш атамнай энергіі. Мы супраць гэтага! Трэба адключыць усе атамныя ўстаноўкі...»*

*Гэта глупства было тыповым для тых, хто прызвычаіўся крытыкаваць толькі Захад. Як сябру праўлення партыі «зялёных» усёй Германіі, мне прыйшлося «надавіць» на стваральніка заявы сваім аўтарытэтам і прымусіць цалкам перапісаць уступ.*

*Першыя словы павінны былі быць такімі: «Мы ўзрушаныя катастрофай, якая адбылася ў Чарнобылі, і якая толькі-толькі пачынаецца. Мы патрабуем, каб нам расказалі, куды рухаецца воблака, колькі ўжо ёсць ахвяр і што рабіць тым, хто пад яго трапляе?»*

*У гэтай жа заяве я патрабавала, каб людзі не выходзілі на вуліцы. Патрабавала адмяніць усе першамайскія дэманстрацыі і заклікала маці вырашаць, ці трэба іх дзецям у гэтыя дні выходзіць з хат і чым іх неабходна карміць...»*

Магчыма, некаторыя зараз падумалі пра пэўную эксцэнтрычнасць, мне ж адразу ўспомнілася вядомая яшчэ са школы паэтычная фраза: «Безумству храбрых поём мы песню!»

Сябры парламенцкай фракцыі «зялёных» прыйшлі на працу ўжо пасля таго, як нямецкія газеты надрукавалі заяву Эвы Квісторп.

Па сутнасці, яна стала ПЕРШЫМ палітыкам Германіі, які расказаў праўду пра тое, што здарылася ў Чарнобылі! Па яе прапанове быў створаны Антыкрызісны штаб, куды ўвайшлі многія знакамітыя вучоныя Германіі.

Больш за тое, Эва Квісторп публічна папрасіла іх высветліць усе абставіны і маштабы таго, што адбылося, бо многія падазравалі, што не толькі Масква ўтойвае сапраўдную інфармацыю, але і нямецкі ўрад яе часткова цэнзуруе.

Справа ў тым, што ў той час большасць чальцоў урада ў прыватнасці і большасць немцаў увогуле, падтрымлівалі атамную энергетыку, таму расказваць праўду пра яе небяспеку было, мякка кажучы, не пажаданым...

*«Праз некалькі год пасля аварыі на ЧАЭС мяне абралі ў Еўрапейскі парламент. З Бона я пераехала ў памежны Германіі Страсбург. Увосень 1990 года па тэлевізары паглядзела інтэрв'ю Ірыны Грушавой і вырашыла, што гэта жанчына абавязкова павінна выступіць у Еўрапарламенце. Адразу ж патэлефанавала на тэлебачанне, даведалася нумар тэлефона Ірыны, якая на той момант знаходзілася ў Дзюсельдорфе.*

*Гэта недалёка ад Страсбурга, таму я накіравала туды сваю службовую машыну. Так Ірына з Германіі трапіла ў Францыю, і 20 хвілін яе слухалі дэпутаты ўсіх парламенцкіх фракцый. Гэта быў узрушвальны выступ.*

*У 1991 годзе мяне ўключылі ў склад дэлегацыі, якая паехала ў Савецкі Саюз, каб там больш пазнаёміцца з атамнай энергетыкай і пабываць на месцах, дзе праводзяцца атамныя іспыты.*

*Паездка стала добрай магчымасцю на свае вочы ўбачыць распад гэтай краіны і лепш зразумець, у якой сітуацыі апынуліся ахвяры чарнобыльскай аварыі.*

*Акрамя гэтага, мне ўдалося пабываць у Мінску, пазнаёміцца з Генадзем Грушавым, работай фонду, пагаварыць са Святланай Алексіевіч, убачыць габрэйскую сінагогу, пабываць у музеі Вялікай Айчыннай вайны.*

*Вечарам таго ж дня ў беларускім парламенце быў прыём, дзе я таксама пачула шмат чаго цікавага.*

*Дарэчы, мой пляменнік, нічога не ведаючы пра гэтыя адносіны, шмат гадоў таму працаваў валанцёрам на будаўніцтве дамоў для чарнобыльскіх перасяленцаў на возеры Нарач, чым я вельмі ганаруся.*

*Ганаруся таксама тым, што па выніках нашай паездкі Еўрапейскі парламент прыняў рашэнне выдзеліць грошы на дапамогу ахвярам Чарнобыля. У яго бюджэце нават была спецыяльная фінансавая лінія.*

*Магчыма, некаторым падасца, што з майго боку было зроблена недастаткова, таму ПРЫНЦЫПОВА хачу адрынуць падобныя сумневы. Тушыць пажар можна на даху энергаблоку, а можна — з парламенцкіх трыбун. Эфектыўна бывае толькі тады, калі кожны з нас займаецца сваёй справай.*

*Сувязі, якія былі наладжаны на пачатку дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя, працягваюцца і па наш дзень. На жаль, апошнім часам яны крыху адышлі на другі план, што я лічу кардынальна няправільным.*

*Добра, што ў іншых краінах, напрыклад, ва Украіне, адбываецца дэмакратызацыя, але забываць, што здарылася ў Беларусі 26 красавіка 1986 года, нельга. Так, боль стаў меншым, але ён нікуды не знік. Як нікуды не знікла і радыяцыя».*

# Хіромі Фукузава

Пра тое, што Чарнобыль яшчэ не скончыўся, свет успомніў 11 сакавіка 2011 года, калі адбылася аварыя на атамнай станцыі ў Фукусіме. Не такая вялікая па маштабах, як 26 красавіка 1986 года ў Чарнобылі, але ж не менш трагічная па сутнасці.

Хіромі Фукузава нарадзіўся менавіта ў Японіі. Было гэта падчас Другой сусветнай вайны ў 1943 годзе, а ўсё астатняе ён раскажа сам.

*«У японскім грамадстве такая жорсткая іерархічная цэнтралізацыя, што я не мог вытрымліваць гэты ціск і ў 24 гады пераехаў у Германію. Вучыўся ў Штутгарце, Мюнхене, Заходнім Берліне. У 1975 годзе атрымаў дыплом магістра філасофіі.*

*У 1982-м ажаніўся з немкай, якая ў 1987-м нарадзіла мне дачку.*

*Дапамагаў перакладамі кінафестывалю Берлінале і паралельна арганізоўваў сустрэчы з японскім пісьменнікамі.*

*Выкладаў да 2008 года, пакуль не сышоў на пенсію.*

*Гэта некалькі радкоў «даатамнай» аўтабіяграфіі, бо ў 2011 годзе, пасля катастрофы на станцыі ў Фукусіме, маё жыццё кардынальна змянілася.*

*Тое, што здарылася ў мяне на радзіме, стала сапраўдным шокам. З былымі студэнтамі мы зладзілі ў Берліне арганізацыю дапамогі «Гізіна», і ўжо ў верасні 2011 года амаль трыццаць нямецкіх валанцёраў пачалі працаваць у Японіі.*

*Натуральна, што ўсё звязанае з уздзеяннем радыяцыі стала прыярытэтам маёй дзейнасці, — таму, калі ў 2014 годзе ініцыятыва з Ротвайля «Свет без атамнай пагрозы», якой кіруе Ангела Геслер, папрасіла дапамагчы ім з паездкай у Японію, каб на месцы пазнаёміцца з сітуацыяй пасля Фукусімы, я з задавальненнем пагадзіўся.*

*Гэтая ініцыятыва вельмі даўно супрацоўнічае з Беларуссю ў гуманітарным вырашэнні чарнобыльскіх праблем. Адразу восем яе чальцоў тады паехалі ў Японію. Увесь час (тыдзень) паездкі я быў з імі побач. Канешне,*

*перш за ўсё іх цікавіла тое, што звязана з Фукусімай, і гэта натуральна. Я ж падчас гэтых сустрэч адчуў сваю ўласную прагу да чарнобыльскіх пытанняў.*

*Той шлях, які беларусы праходзяць ужо трыццаць год, не можа пакінуць абыякавымі тых, хто ідзе па ім толькі пяць год. На мой погляд, нават калі браць фактар часу, ваш досвед надзвычай важны для нас.*



**Хіромі Фукузава**

*Дарэчы, у Фукусіме мы бачылі ў руках тых, хто займаецца вывучэннем наступстваў аварыі, спецыяльныя прыборы па вымярэнні ўзроўню радыяцыі. Лічыльнікамі Гейгера грамадскія актывісты карыстаюцца не выпадкова. Яны гэта робяць незалежна ад японскіх уладаў — для таго, каб урад не мог падмануць людзей.*

*На жаль, у Беларусі такога няма. У вас замеры такога кшталту робіць цяпер толькі дзяржава, а беларуская грамадскасць ніколі не правярае, ці адпавядае рэчаіснасці тое, што ёй гаворыць улада.*

Дарэмна...

*Бліз Фукусімы мы нават сустракалі людзей з прыборамі, якія здольныя фіксаваць радыяцыйную нагрузку чалавечага арганізма, то бок, паказваць узровень радыяцыі, які «набраў» чалавек. Прыбор недарагі, вельмі надзейны і просты ў карыстанні.*

*Усіх вельмі здзівіла, што гэтыя прыборы былі зроблены менавіта ў Беларусі, а самі беларусы пра іх нічога не ведаюць. Напэўна, яны ёсць у нейкіх інстытутах, аднак большасці беларусаў абсалютна невядомыя.*

*Атрымліваецца, што для экспарту ў Японію іх робяць, а ў сваёй краіне шырока не выкарыстоўваюць.*

*Калі казаць вельмі мякка, то гэта даволі незвычайна...*

*У красавіку 2014 года я прачытаў кнігу вядомых навукоўцаў Яблыкава і Несцярэнкі, дзе яны аналізуюць наступствы Чарнобыля для чалавечага арганізма і навакольнага асяроддзя. Пазней пазнаёміўся з Людмілай Марушкевіч, якая ў пацярпелых раёнах шмат год займаецца праблемамі людзей з дыябетам, і даведаўся пра тое, што ў апошнія дзесяцігоддзі гэтая хвароба істотна памаладзела.*

*У 2015 годзе Ангела Геслер запрасіла мяне наведаць Беларусь. Раней мне здавалася, што вельмі добра ведаю асаблівасці сацыялізму, аднак у Беларусі высветлілася, што гэта зусім не так. Я быў літаральна шакаваны тым, што ў вас* ***рабілі*** *пасля выбуху на Чарнобыльскай атамнай станцыі, і чаго* ***не рабілі****.*

*...Беларускія людзі вельмі ветлівыя і гасцінныя.*

*Дарэчы, менавіта ў Беларусі я ўпершыню ў сваім жыцці паспрабаваў бярозавы сок, а дагэтуль нават не ведаў, што яго можна піць увогуле. Усё ў вас вельмі смачна — і мяса, і марынаваныя грыбы з бульбай.*

*І гарэлка таксама...*

*Спачатку я гэтага не ўспрымаў, а потым зразумеў: менавіта лад жыцця, калі людзі прызвычаіліся збіраць грыбы, ягады, садавіну, самастойна іх апрацоўваць, а потым есці — гэта якраз і адыграла такую катастрафічную ролю пасля аварыі ў Чарнобылі.*

*З таго часу мяне больш хвалюе праблема не столькі вонкавага апраменьвання, колькі ўнутранага. Перш за ўсё, тэма хваробаў, якія пры гэтым ўзнікаюць.*

*Калі ў красавіку мы былі ў Мінску, наведалі Інстытут радыяцыйнай бяспекі «Белрад», дзе я пазнаёміўся з сынам Васіля Несцярэнкі — Аляксеем Несцярэнкам, які зараз узначальвае гэты інстытут. Вельмі прыемна, што ён працягвае займацца тым, чым раней займаўся яго бацька.*

*Навуковыя дадзеныя сведчаць, што адразу пасля аварыі 80 адсоткаў небяспекі ішло з таго, што вакол нас (паветра, глеба, рэчы і г.д.) і 20 адсоткаў — з таго, што людзі ўжывалі ў ежу. Праз дзесяць год сітуацыя кардынальна змянілася, стала з дакладнасцю наадварот. І гэта найбольш небяспечна; напрыклад, акадэмік Аляксей Яблыкаў сцвярджае, што самыя страшныя наступствы для здароўя звязаныя менавіта з радыяцыяй, якая інкарпараваная ў чалавечы арганізм, то бок, трапіла туды з паветрам альбо ежай.*

*Калі я вярнуўся з Беларусі, то мэтанакіравана пачаў чытаць розную літаратуру на гэты конт і хутка зразумеў, што камуністычныя ўлады падышлі да праблемы надзвычай фармальна. 30-кіламетровую зону эвакуява-*

*лі, а астатнія пацярпелыя ад радыяцыі рэгіёны пакінулі без увагі. Людзі там працягвалі жыць як раней, то бок — саджаць, сеяць, вырошчваць плады, а потым усё гэта есці.*

*Ураджай з «брудных» зямель накіроўваўся ва ўсе кропкі Савецкага Саюза, і ніхто нічога не кантраляваў. Да 1996 года так званыя* ***«дапушчальныя нормы»*** *былі такімі* ***недапушчальна высокімі****, што гэта ўвогуле цяжка назваць нейкім кантролем.*

*Напрыклад, малако ў тыя часы лічылася прыдатным для ўжывання з паказчыкам у 370 (!!!) разоў большым, чым устаноўлены цяпер.*

*На працягу многіх гадоў насельніцтва падвяргалася такім масіўным атакам радыяцыі, што няма чаго здзіўляцца маштабам розных захворванняў...*

*А калі людзі зразумелі, што з імі адбываецца нешта страшнае і пачалі падымацца на барацьбу, патрабаваць праўды і дапамагаць самім сабе — дзяржава стала ім перашкаджаць.*

*Інфармацыю пра апусташальнае ўздзеянне Чарнобыля ў 1989 годзе ўпершыню надрукавала адна з беларускіх газет, а потым перадрукавала «Правда».*

*То бок, упершыню — праз тры гады пасля аварыі!*

*Часткова дзякуючы гэтаму, а з большага — настойлівасці тагачаснай парламенцкай апазіцыі, у 1991 годзе быў прыняты Закон аб сацыяльнай абароне тых, хто пацярпеў ад аварыі на ЧАЭС, а праз некалькі месяцаў Беларусь аб'явілі зонай экалагічнага бедства.*

*На жаль, гэтага падыходу ў Крамлі тады не прынялі. Не прымаюць і цяпер. Не так даўно мне даводзілася чуць меркаванні некаторых расійскіх «вучоных» на гэты конт. Маўляў, ніякага заражэння няма, а ёсць фобіі... Людзі хварэюць не з-за радыяцыі, а з-за таго, што баяцца...*

*Дзесяць гадоў таму яшчэ можна было прачытаць супрацьлеглыя меркаванні, зараз — не.*

*Зараз расійская прапаганда называе беларусаў, якія жывуць на забруджаных тэрыторыях, «паникёрами».*

*Ізноў прыгадаю сваю паездку ў Беларусь.*

*У Маладзечне мы былі ў «чарнобыльскім» музеі, дзе экспануецца вялікая мадэль Чарнобыльскай станцыі і макет 30-кіламетровай зоны. Там тры кнопкі: «цэзій», «стронцый» і «плутоній». Калі на іх націскаеш, то бачыш усе «плямы» забруджвання. Адну за другой я націснуў усе тры. І вельмі здзівіўся, што самая вялікая забруджанасць была менавіта плутоніем, якога нават больш, чым цэзію. Чаму? У музеі ніхто не змог мне гэтага патлумачыць.*




**2015 год. Рыхард Мергнер, Ірына Грушавая, Акіко Ёшыда, Хіромі Фукузава у Садзе Надзеі імя Генадзя Грушавога**

*Пазней я даведаўся, што чацвёрты рэактар, дзе і адбылася аварыя, быў пабудаваны для вытворчасці плутонію, які выкарыстоўваюць у атамных бомбах. Гэта была яго «спецыялізацыя».*

*Магчыма, таму беларусы і сталі «паникёрами»...*

*Дарэчы, плутонію зараз у Беларусі (на забруджаных землях) у шэсцьдзясят тысяч разоў болей, чым было ў Фукусіме пасля аварыі?..*

*Мяне вельмі ўразіла тое, што было зроблена фондам «Дзецям Чарнобыля». У Японіі таксама ёсць падобныя ініцыятывы, але ў вас гэта было непараўнальна большай з'явай. Мне асабіста гэты досвед падаецца вельмі карысным, аднак, у Японіі, на жаль, ён пакуль не вельмі запатрабаваны».*

# Вероніка Ройшэнбах



**Вероніка Ройшэнбах**

Сябры і добра знаёмыя называюць яе Фроні, хаця па швейцарскім пашпарце правільна — Вероніка Ройшэнбах. Нарадзілася яна ў Германіі, вучылася ў горадзе Аахэне і некалькі год адпрацавала там па спецыяльнасці — выхавальніцай у дзіцячым садку і настаўніцай у «прадлёнцы».

У 27 год за суджаным (таксама немцам) Вероніка паехала ў Швейцарыю. Потым ён стаў яе мужам. У Швейцарыі жыве ўжо 49 год. У 1972 годзе атрымала грамадзянства гэтай краіны. Маці траіх дзяцей.

*«Нягледзячы на тое, што я ўжо 12 год жыла ў Швейцарыі, мясцовыя дзяржаўныя ўстановы, каб пацвердзіць мой дыплом, прапаноўвалі альбо здаць іспыт па... нямецкай мове, альбо вучыцца нанова.*

*Царква была менш прыдзірлівай, таму я стала выкладаць у жанчын, якія будуць праводзіць урокі па рэлігіі, але не маюць спецыяльнай тэалагічнай адукацыі.*

*Як каталічцы, якую саму вучылі гэтаму з першага школьнага класа, мне гэта надзвычай падабалася.*

*Потым шмат год зноў вучылася. Спачатку тры гады за права выкладаць у 1--3 класах, тры гады — 3--7-ых і яшчэ тры — з 7-га па 9-ты. Плюс тры гады так званай «дарослай адукацыі». І толькі пасля гэтага я атрымала права працаваць у школе. Атрымліваецца — дванаццаць год.*

*То бок, да той адукацыі, якую я атрымала ў Нямеччыне, дадалася яшчэ і швейцарская...*

*Натуральна, паралельна займалася хатняй гаспадаркай і выхаваннем дзяцей, якія раслі і патрабавалі ўсё больш і больш увагі, таму швейцарская частка адукацыі была, канешне, завочнай.*

*Мой муж працаваў тэхнікам, займаўся кандыцыянерамі і халадзільнымі ўстаноўкамі.*

*Паколькі адукацыя ў мяне такая, што я амаль заўсёды працавала з дзецьмі, а таксама займалася экуменістычным рухам, то цалкам лагічнай стала сустрэча з Андрэасам Гёрліхам, які служыў пастарам рэфармісцкай царквы.*

*Ён таксама родам з Германіі; ён ужо добра ведаў чарнобыльскую праблематыку.*

*Дзякуй Богу, што мне пашанцавала сустрэць гэтага цудоўнага чалавека. Без яго наша работа была б немагчымай увогуле.*

*Як кажуць, Андрэас нам «закасаў рукавы», і мы ўжо не маглі не дапамагаць Беларусі.*

*У гэты ж самы момант мая сястра, якая засталася жыць у Германіі, прачытала ў газеце заклік запрашаць да сябе чарнобыльскіх дзяцей. Так у іх сям'і паявіліся двое дзяцей з Ельска.*

*Са Швейцарыі я прыехала ў Германію, каб дапамагчы сястры іх апякаць.*

*Гэта дадало шмат энтузіязму, таму па вяртанні я адразу ж прапанавала гэтую справу Андрэасу. Хутка стварылі адпаведную групу, і ўжо ў 1999 годзе да нас прыехалі сорак беларускіх дзяцей.*

*Гэта быў пачатак.*

*З таго моманту я пабывала ў Мінску 26 разоў.*

*Калі мы стваралі рабочую групу, якая потым стала афіцыйнай структурай, то адразу вызначылі статут сваёй дзейнасці, дзе галоўнай мэтай было запрашэнне на адпачынак беларускіх дзяцей.*

*Асноўныя там тры пункты.*

*Першая абавязковая для выканання ўмова — неабходна ўлічваць стан здароўя дзіцяці, якое запрашаеш.*

*Другое — улічваць яго (альбо яе) сацыяльна-матэрыяльнае становішча. Перавага аддавалася тым, каго гадуе адна маці, хто жыве ў складаных матэрыяльных, фінансавых, жыллёвых умовах і г. д.*

*Трэцяя ўмова — адпачываць у Швейцарыі павінны дзеці, якія першы і адзіны раз едуць за мяжу. То бок, калі нехта ўжо быў, напрыклад, у Германіі альбо Італіі, мы яго да сябе запрашаць не маглі.*

*Сачылі за гэтым вельмі ўважліва. Кожны год у лютым самі наведвалі Беларусь, вёску Дзятлавічы і Лунінец, дзе разам з кіраўніцтвам фонду вызначалі, хто ўлетку паедзе ў Швейцарыю.*

*Дарэчы, менавіта гэты пункт і выклікаў больш за ўсё пытанняў. Першыя гады дзеці былі толькі з Дзятлавіч, але потым стала відавочна, што*

*нам трэба пашыраць геаграфію. Спачатку мы ўключылі ў свае спісы дзяцей з Лунінца, потым распаўсюдзілі практыку на ўвесь Лунінецкі раён, а, калі заставалася вольнае месца, групу «даўкамплектавалі» дзецьмі перасяленцаў з мінскай «Малінаўкі».*

*У 2001-м годзе Андрэаса Гёрліха перавялі на новае месца пастарскай службы. Мы крыху разгубіліся — што будзе з ініцыятывай надалей? Вырашылі ператварыць яе ў арганізацыю «Дзеці Чарнобыля».*

*Сакратарка, якая дапамагала яму рабіць гэтую працу падчас пастарства і добра ведала ўсе нюансы, стала старшынёй, а праз два гады на пасаду абралі мяне. Займала яе да 2014, пакуль не споўнілася 75 год і трэба было саступіць дарогу больш маладым.*

*Да таго ж, была і чыста празаічная прычына — мае дзеці выраслі, у іх з'явіліся свае дзеці, і я стала больш «працаваць бабуляй»...*

*Кожны раз падчас паездак у Беларусь я па-добраму здзіўляюся ветлівасці і гасціннасці вашых людзей. Мы аб'ехалі амаль усю Беларусь — Нясвіж, Мір, Брэст, Пінск, Гродна, музей Марка Шагала ў Віцебску, канешне, мінскія музеі, тэатры.*

*Першае, што сустракаеш — сардэчная цеплыня людзей.*

*Бліз Лунінца мы наведалі вёску, адкуль выселілі жыхароў. Складаныя пачуцці. Як і ва ўсёй Беларусі, дарэчы.*

*З аднаго боку — жудасная трагедыя, якая зламала людскія лёсы.*

*З другога — гэтым людзям удалося захаваць у сваіх сэрцах неверагодную радасць і добры настрой. Нідзе мы столькі не спявалі і не весяліліся, як у Дзятлавічах.*

*Альбо возьмем той жа Лунінец. Дзеці спяваюць, смяюцца, радуюцца. Быццам бы і няма той бяды, якая палюе за кожным з іх.*

*Людзі як бы адначасова жывуць адразу ў двух паралельных вымярэннях. У свеце страху і свеце радасці.*

*Гэта нас заўсёды вельмі ўражвае!*

*Калі ў мяне быў Дзень нараджэння (праз два дні пасля аварыі — 28 красавіка), я атрымала з Беларусі больш віншаванняў, чым са Швейцарыі!!!*

*А пра адзін выпадак хачу расказаць асобна. У дзяўчыны з Дзятлавіч была пухліна мозга, якая магла хутка пазбавіць яе зроку. Была патрэбна тэрміновая аперацыя.*

*Якраз у той момант мая дачка Моніка (зараз выкладае ў Педагагічным універсітэце) атрымала першую зарплату і цалкам аплаціла паездку той дзяўчыны ў адзін з медычных цэнтраў Расіі, дзе была неабходная спецыялізацыя.*




**У Дзятлавічах. Вераніка Ройшэнбах — у цэнтры**

*Дачка аплаціла таксама індывідуальнае аўто, бо тая дзяўчына, каб не заразіцца нечым яшчэ, не магла ехаць так далёка грамадскім транспартам.*

*Пухліну паспяхова выдалілі. 70 адсоткаў зроку захавалася. Дзяўчыне тады было 17 год. Потым яна выйшла замуж, нарадзіла сына. Прайшло ўжо пяць год. Мы падтрымліваем добрыя адносіны.*

*Некалькі слоў хачу сказаць і пра Генадзя Грушавога.*

*Калі мы прыязджалі ў Беларусь (а гэта было мінімум раз на год), абавязкова з ім сустракаліся.*

*У мяне заўсёды было пачуццё агромністай павагі да Генадзя. Перш за ўсё таму, што ў маленькіх пакоях, дзе месціўся фонд, людзі рабілі вельмі важную справу.*

*У нашых паседжаннях Грушавы прымаў удзел абавязкова. Слухаў заўсёды надзвычай уважліва і ўнікаў ва ўсе праблемы асабіста.*

*Калі мы пыталіся, што адбываецца ў фондзе, ён ахвотна тлумачыў значэнне тых няпростых крокаў, якія яны робяць. Заўсёды было адчуванне, што ў вашай краіне ведаюць нашу дапамогу, што яна стала часткай вялікай і патрэбнай справы, і ад гэтага на душы станавілася святлей.*

*Мяне заўжды ўражвала тое, што, нягледзячы на ўласнае добрае валоданне нямецкай мовай, калі датычылася нечага надзвычай важнага і трэба*

*было данесці пэўныя нюансы, Генадзь заўсёды карыстаўся дапамогай перакладу, які рабіла жонка. Гэта было вельмі кранальна.*

*Уражвала таксама тое, што фонд меў кантакты, актыўна працаваў з вялікай колькасцю ініцыятыў па ўсім свеце, і Генадзь альбо Ірына заўсёды трымалі ўсю інфармацыю ў памяці.*

*Гэта былі розныя імёны, розныя групы, аднак было дастаткова пра некага ўзгадаць, як Грушавыя адразу разумелі, пра каго ідзе гаворка.*

*Мы заўсёды здзіўляліся таму, як можна такую безліч інфармацыі ведаць да дробязяў...*

*Генадзь Грушавы заўсёды выпраменьваў перакананую ўпэўненасць у тым, што мы робім разам. Часам нават здавалася, што ён ніколі нічым не заклапочаны, аднак мы ведалі, што гэта не так. Што на самой справе ім з Ірынай вельмі цяжка.*

*Тым не менш, ён заўсёды быў побач з намі сваімі думкамі. Жыў канкрэтнай сітуацыяй, і гэта было проста дзіўна.*

*У нашай краіне ёсць вялікая праблема — местачковае мысленне. Швейцарцы глядзяць толькі на тое, дзе знаходзяцца, то бок, на сваё маленькае гняздо. Між тым людзі кантактуюць паміж сабой, узнікаюць камунікацый-*

**У Лунінцы**



*ныя сеткі. Швейцарац жа пераважна жыве толькі тым, што адбываецца вакол яго самога, і пераадольваць гэта вельмі цяжка. Невыпадкова менавіта Швейцарыя — амаль адзіная краіна ў гэтай частцы Еўропы, якая не ўступіла ў Еўразвяз.*

*Мы ахвотна падпісваем сотні розных двухбаковых дамоваў і пагадненняў з краінамі ЕЗ, аднак уступаць у ЕЗ не жадаем.*

*І яшчэ адзін аспект.*

*У нас, як і ў Германіі, займацца гуманітарнай дзейнасцю цяпер вельмі няпроста,бо знайсці жанчыну, якая ўвесь дзень не працуе, даволі складана. Працуюць абое — і муж, і жонка.*

*Цюрых — індустрыяльны раён, таму, каб вызначыць сем'і, якія могуць дазволіць сабе прымаць чарнобыльскіх дзяцей, апошнім часам даводзіцца аб'ехаць увесь наш кантон. Бываюць паездкі вельмі далёкія.*

*Карысць жа ад іх такая, што за ўвесь час нашай працы на адпачынку ў Швейцарыі пабывала больш за шэсць соцень беларускіх дзяцей.*

*Дарэчы, вашы дзеці не толькі жывуць у розных швейцарскіх сем'ях. Кожны год мы рыхтуем для іх спецыяльную агульную праграму. Абавязкова ладзім экскурсію ў Цюрых, наведваем царкву, якую распісаў Марк Шагал, іншыя цікавосткі. Паколькі гэтая паездка займае цэлы дзень, нам трэба недзе абедаць.*

*З гэтай нагоды я напісала электронны ліст у адзін з самых прэстыжных рэстаранаў горада, дзе папрасіла дазволу бясплатна пакарміць беларускіх дзяцей. Кіраўніцтва рэстарана пагадзілася.*

*Бывае, дзеці ядуць рукамі. Непаседліва крыўляюцца, а тут іх быццам падмянялі. Напэўна, элітарнасць рэстарана (белыя абрусы, прыгожыя відэльцы, нажы, шклянкі) адыграла сваю ролю. Дзяцей быццам бы прыкавалі да фатэляў, яны сядзелі абсалютна прама і вялі сябе надзвычай спакойна. Елі так прыгожа і прыстойна, што можна было падумаць пра нейкія заняткі па этыкеце.*

*Сабраўся ўвесь персанал рэстарана, а калі ў знак падзякі беларусы сталі спяваць, швейцарцы іх пачалі падтрымліваць. Аказваецца, у іх рэстаране бывае столькі замежных (у тым ліку і з Беларусі) гасцей, што афіцыянты нават ведаюць некаторыя песні.*

*У той дзень кіраўніцтва рэстарана прапанавала нам прыводзіць беларускую групу на добры абед кожны год...*

*Апошнім часам я даволі шчыльна займаюся справамі створанага (у тым ліку і з удзелам нашага Андрэаса Гёрліха) у 1997 годзе Міжнароднага савета «Дзецям Чарнобыля».*



*Справа ў тым, што арганізацыя, якую я раней узначальвала, з большага займаецца справамі, скажам так, мясцовага маштабу, то бок, адпачынкам чарнобыльскіх дзяцей, арганізацыяй іх прыезду, вольнага часу і г.д.*

*Сёння я імкнуся падняць узровень гэтай работы да агульнаеўрапейскіх стандартаў».*

ГЛАВА VI

# БЛУКАННЕ ПА ПАКУТАХ

Калі я слухаў аповед Ірыны Грушавой,
то не мог пазбавіцца ад пытання,
навошта ўсё было зроблена,
бо нармальнаму чалавеку вельмі цяжка
шукаць логіку ў вонкава нелагічным?
А логіка, між тым, ёсць. Логіка ўлады.
Ва ўсе часы аўтарытарныя кіраўнікі імкнуліся да таго,
каб знішчыць любое іншадумства.
Фонд «Дзецям Чарнобыля»,
акрамя дапамогі сотням тысяч,
ператвараў людзей з пакорлівых і абыякавых
у свабодных і актыўных.
За гэта іх і «зачышчалі» …

## *Ирина Грушевая вспоминает...*

«Во второй половине 1989 года я впервые оказалась в Западной Германии, точнее, в Дюссельдорфе, где снимался фильм «Вставай, идет война», и режиссёр пригласил меня поработать переводчицей.

Весь заработанный гонорар я потратила на поездки по выходным в близлежащие города. Бывало, выступала по три раза в день, агитировала немцев помогать белорусским чернобыльским детям.

Летом 1990 года (всего за несколько месяцев работы) мы отправили на оздоровление семь тысяч детей. В пять стран мира, потому что на тот момент Геннадий уже был членом парламента, и тоже многое сделал там, где успел побывать.

Если у кого-то создалось впечатление, что все у нас было легко и просто, то он глубоко ошибается. Уже тогда было очевидно, что мотивация у тех, кто помогает Беларуси из-за рубежа, разная, и чернобыльское движение когда-нибудь обязательно расколется.

Одни хотели бескорыстно помогать и продолжали работать с нами, ибо видели в белорусах равных партнеров. Другим нужны были лавры, имидж

**Встреча в Европарламенте. 1997 год**





**Ирина Грушевая беседует с депутатом ВС 12-го Созыва Леонидом Зверевым**

большого благодетеля, официальное признание у себя на родине. Они желали, чтобы им подобострастно заглядывали в рот, неустанно благодарили.

Через пять лет после зарождения чернобыльское движение за границей стало неоднородным, и поэтому, когда в 1997 году был создан государственный Департамент по гуманитарной помощи, все предпосылки для его раскола уже были. Раскол случился не только в Германии, Голландии, Италии, Англии, США, но даже в Японии, где подобные инициативы были самыми маленькими... Словом — везде.

Те, для кого были важны фанфары государственных лавров, и кто упорно «не замечал» политических безобразий, стали работать с Беларусью через департамент. А те, кто счёл важным поддержать людей, которые хотят себе помочь, продолжил сотрудничество с фондом. К сожалению, именно эта часть партнёров и испытала очень большие трудности.

Им стало непросто привозить гуманитарную помощь, ибо таможенники (по заданию властей) всё откровенно «мурыжили». Возникли сложности с финансированием проектов, ибо государство банально не разрешало получать из-за границы деньги. Чиновникам хотелось этим заниматься самим, но навыков не было.



**Геннадий Грушевой (слева) и Дитрих Бодельшвинг**



**Геннадий Грушевой даёт интервью журналистке Ларисе Коктыш**

В отличие от нашего фонда, чиновники абсолютно не умели генерировать идеи. Мы создали такое количество проектов, что многие из них живы до сих пор. Белорусское общество помощи детям-инвалидам и молодым инвалидам, например.

Фонд «Детям Чернобыля» был довольно большой организацией. В лучшие времена у нас работало 32 штатных сотрудника. С каждым «наездом» властей, который был инициирован с самого верха, их число, естественно, уменьшалось, но работа всякий раз возрождалась.

С одной стороны, история фонда — это история постоянной борьбы.

С другой — пример того, как едва зародившееся гражданское общество планомерно и целенаправленно уничтожалось отечественной бюрократией, во главе которой стоял лично Лукашенко.

Кстати, его собственные дети, как и дети бывшего президентского завхоза Ивана Титенкова, тоже ездили по нашей линии на оздоровление за рубеж, ибо как те, кто живет в «грязных» районах, имели на это полное право.

А тогдашняя «правая рука» президента Владимир Коноплёв даже некоторое время возглавлял отделение нашего фонда на Шкловщине...

То, что их дети ко времени самого серьезного «наезда» уже выросли, можно считать обычным совпадением. А вот то, что это произошло после того, как в конце 1996 года избранный депутатом Грушевой не попал в состав назначенной Лукашенко «палатки», и мы всего за месяц собрали среди его

**Обсуждение планов на будущее с Вернером Линдеманом**





**Геннадий Грушевой и Ивонка Сурвила**



**Марш мира в Гааге. Крайний справа — Юрген Альперманн**

избирателей 120 тысяч подписей с требованием разрешить работать в парламенте — вполне закономерно.

Власть увидела в «Детям Чернобыля» неподконтрольную ей силу — и начала уничтожать фонд. Подчеркну еще раз: наши организации уже были созданы в 71 районе из 110, в них активно работало около восьми тысяч человек.

Убеждена: когда в ноябре 1996 года изначально рекомендательные итоги референдума президентской волей стали обязательными, в Беларуси произошел «холодный путч». Вместе с фондом Сороса и его программой «Открытое общество» и аналитическим центром «Восток--Запад» мы с нашими обширными программами социальной помощи и самопомощи, конкурирующими с государством , «попали под раздачу» самыми первыми.

19 марта 1997 года наступил самый «чёрный» день в истории «Детям Чернобыля». В фонд заявились посланцы власти из Совета безопасности и четыре месяца изучали нашу работу.

**Вернер Линдеман в Славгородском районе**





**1996 год. После посадки Сада Надежды**

Якобы для того, чтобы «перенять опыт». На самом же деле они искали места, куда нужно побольнее ударить, вникали в принципы работы, которые наиболее эффективно противостоят и конкурируют с государством, чтобы ослабить и развалить так сказать идейную основу работы фонда, то новое в сознании всех нас, что отделило нас от психологии «совка»-иждивенца. К слову, потом именно «перенятый» у нас «опыт» очень эффективно и помогал властям уничтожать гражданское общество Беларуси...

Повторюсь, под «каток» репрессий мы попали самыми первыми.

На основные этапы нашей деятельности были постепенно наложены надуманные ограничения, разрешительные функции доверены лично президенту, а все заграничные контакты взяты под жёсткий контроль.

Последнее ударило по фонду ощутимей всего, ибо далеко не всякий иностранец захочет, чтобы его личные данные попали в архивы КГБ... Пусть даже белорусского.

Среди первых претензий, которые они пытались предъявить, была «неуставная деятельность». Дескать, декларируем мы одно, а на самом деле занимаемся совсем другим, то есть чистой политикой. В вину ставилось то, что мы поддержали оппозиционеров Вячеслава Сивчика и Юрия Хадыко, а также осмелившихся на первый публичный протест машинистов метро.

Напомню, что в 1995 году случился дебютный для нынешней власти протестный скандал, который был связан с задержками зарплат и галопирующей инфляцией.



**Екатерина Зарецкая и член Европарламента Курт Витингоф**

Столичная подземка не работала несколько часов. Быстро восстановить движение поездов удалось лишь благодаря московским штрейкбрехерам. Все 32 участника забастовки были немедленно уволены.

Наш фонд никогда никого не посылал под видом чернобыльских детей на оздоровление за границу. Даже для родных племянников Грушевых не было сделано исключения. А в данном случае мы просто попросили помочь одного из лидеров немецких профсоюзов Гюнтера Верса.

Так что дети уволенных метрополитеновцев ездили в Германию совсем по другой линии. У них было персональное приглашение от немецких профсоюзов. «Проверяющие» банально «передернули», то есть попытались обмануть.

Гюнтер Верс на протяжении многих десятилетий занимался чернобыльской проблематикой, был нашим настоящим другом, единомышленником. Одним из тех, кто поддержал в трудную минуту и не купился на «благотворительность без политики»...

К сожалению, летом 2015-го у него случился инсульт, а в январе 2016-го Гюнтер Верс умер. Светлая память — светлому человеку!



**Геннадий Грушевой и Ева Бальке**



**Геннадий Грушевой и Гюнтер Верс**

Геннадий был во время «наезда» Совета безопасности в Локкуме, по приглашению парламента Нижней Саксонии вместе с группой белорусских политиков.

Я с ним связалась. Немцы тотчас же приняли соответствующее заявление протеста, подписанное всеми политическими фракциями бундестага. К сожалению, это ни на что не повлияло, так как власть твёрдо намеревалась нас уничтожить.

Через два дня Геннадий вернулся домой. «Прогулялся» по набережной Свислочи с главным «проверяющим», которого я знала еще по работе в институте иностранных языков, где он был «смотрящим» от КГБ, узнал, что нас хотят обвинить в некой антигосударственной деятельности. Тогда Гена объяснил, что это вызовет серьезный международный скандал, и бывший «смотрящий» (не дурак все же!) дал «задний ход».

У нас даже не изъяли компьютерную технику, что автоматически означало бы лишение контактной базы, то есть полный срыв летнего оздоровления чернобыльских детей за рубежом и лишение перспектив, ибо стоит только один раз сорвать эту программу, и восстановить ее в будущем будет почти невозможно. Автоматически это означало бы серьёзные проблемы и у других наших проектов.

По этому поводу, кстати, 12 апреля 1997 года мы провели экстренное собрание активистов фонда. Со всех регионов Беларуси приехало около трехсот человек. Приняли обращение, где потребовали не останавливать нашу работу, иначе созданная пирамида сотрудничества громко рухнет.



**Справа налево: Ева Галынская, Ирина Грушевая, Зинаида Залуцкая и немецкий гость**

Очень похоже на то, что власть тогда попросту не захотела оказаться под этими обломками...

Параллельно со всеми этими событиями проходила подготовка к очередному «Чарнобыльскаму шляху», где Геннадий был председателем оргкомитета. Зная, что нас прослушивают, он по телефону изображал активнейшую деятельность. Наверное, это убаюкало бдительность власти, поэтому, когда мы 13 апреля неожиданно улетели в Люксембург, где проходило очередное мероприятие, они нас попросту проморгали.



**Барбара Гладыш**



**Геннадий Грушевой и посол Германии в Беларуси Райнхарт Краус**

Далее события развивались почти по детективному сценарию.

Сфальсифицировав таможенные документы (проверяющие не знали, что мы имели копии), фонд обвинили в неуплате налогов, полностью исключив «антигосударственную деятельность». А через два дня против Геннадия возбудили уголовное дело «за вымогательство денег у иностранцев».

Кстати, наводка против фонда «Детям Чернобыля» появилась на свет еще в 1992 году, и была сработана нашими немецкими недоброжелателями, фамилии которых мне даже называть не хочется. Никогда бы не подумала, что немцы, с которыми мы начинали чернобыльскую работу, способны на фразу «куда смотрит белорусское КГБ»... Больше четырех лет этот донос ждал своего часа. И, к сожалению, дождался...

Не хочется называть и организацию, которая была создана не без помощи спецслужб (по моему глубокому убеждению) для того, чтобы возникший в 1997 году Департамент по гуманитарной помощи смог для иностранцев выдавать ее за «преемника» якобы прекратившего существование фонда «Детям Чернобыля».

Но вернемся к «Чарнобыльскаму шляху». Когда Геннадий решил возвратиться в Беларусь для участия в шествии (мы находились тогда в Бонне), многие восприняляли это как нечто безрассудное. Равносильное добровольному следованию в пасть чудовища...

**У карты контактов**



Но надо было знать Гену — иначе он не мог по определению. Оставить людей, которые в него верили, он не мог по своей натуре.

Про то, как Геннадий (через Москву) тайно появился в Минске на «Чарнобыльскім шляху» и как потом вернулся в Германию, можно рассказывать очень долго. Этому стоит посвятить целую книгу (с переодеваниями, погонями, слежкой), но не эту. Потому лишь констатирую факт : 26 апреля 1997 года он в Минске возглавил «Чарнобыльскі шлях», а 27 апреля вернулся назад в Германию.

Как и следовало ожидать, в правящих кругах Беларуси это вызвало бурю негодования. Всё, что было связано с нашими фамилиями, поливалось ТАКИМ негативом, подвергалось ТАКОЙ информационной обструкции, на знакомых оказывалось ТАКОЕ давление, что отец Геннадия попросту не выдержал. Он умер 12 мая 1997 года.

Но были тогда не только потери. Возникла такая мощная международная поддержка, что белорусская власть этого не ожидала. Она была вынуждена отступить: 24 декабря 1997 года нас полностью оправдали, но нигде, никому, ничего об этом не сказали.

Волею судьбы в январе 1997 года в Мюнстер к Буркхардту Хомайеру приехала выступать Света Алексиевич. В этом городе, в изгнании, в студенческом общежитии тогда жили и мы.



**В Японии**



**Встреча с министром по социальным вопросам немецкой земли Рейнланд-Пфальц Ульрихом Галле во время его приезда в Беларусь**

Оказалось, прокурор, который занимался нашим «делом», сосед Алексиевич по лестничной площадке. Он-то и сказал ей, что «там не за что было зацепиться».

Но сказал, естественно, неофициально. Об официальном прекращении уголовного дела (за отсутствием состава преступления) сообщили только в июне 1998 года.

На мой взгляд, это было сделано преднамеренно — для того, чтобы побольше разрушить фонд. И даже полностью его уничтожить.

Геннадий это понимал хорошо, потому вернулся в Беларусь еще в марте, то есть за три месяца до официального оправдания.

Потери были сродни так называемому выжженному полю, но фонд выстоял.

К сожалению, некоторые думают, что наша вынужденнная эмиграция была развлекательным приключением, веселой прогулкой. Во всяком случае, именно такой стереотип с помощью власти и был распространен среди большинства белорусов. Увы, в реальности всё обстояло далеко не так.

Я очень благодарна немцам за мюнстерский приют. В трудную минуту они протянули очень нужную руку помощи, но белорусские иллюзии на сей счет,



Елена Асмыкович

мягко говоря, неуместны. Студенческое общежитие есть студенческое общежитие. И в Германии оно немногим отличается от нашего.

Геннадий всё очень сильно переживал. Помню, я смотрела, как он лежит на диване, и поймала себя на мысли, что он напоминает упавший с дерева сухой лист. Казалось, неуёмная энергия и активность куда-то ушли...

К нам часто приезжали люди из фонда. В частности, исполнительный директор Лена Асмыкович. Когда первый раз посмотрела на нашу комнату, то заплакала: «Чтобы такие люди, так жили...»

ГЛАВА VII

# СКРЫЖАВАННЕ ДУМАК

Напэўна, у гэтых маналогах нехта ўбачыць
«тэндэнцыйнасць». Маўляў, трэба было
«даць трыбуну» прыхільнікам «мірнага атама».
У будучым з задавальненнем гэта зраблю,
аднак толькі пры ўмове, што ўсе яны
з катэджаў у знакамітых «Драздах»
пераедуць жыць у «зону», будуць есці прадукты з
тамтэйшых крамаў і піць «чыстае» малако...
А яшчэ мне цалкам не зразумела логіка,
дзе кар'ерызм бярэ верх над пачуццём самазахавання.
Такое ўражанне,
што радыяцыя гэтых людзей не чапае...

# Светлана Алексиевич

Монологом первого в истории Беларуси нобелевского лауреата я открываю парад мнений этой книги совсем не потому, что «хочу погреться в лучах её славы». И даже не потому, что Светлана Александровна (лично) благословила меня на чернобыльскую тематику, что очень почетно.

Есть два других объяснения такого выбора.

Во-первых, Светлана Алексиевич всегда «в теме». В своей «Чернобыльской молитве» (и во время торжеств награждения в Стокгольме) она назвала атомную энергию опасной, высказав уверенность в том, что в будущем человечество от неё полностью откажется.

Во-вторых — алфавит. Почти во всех алфавитах мира буква «А» пишется первой.

«Впервые я услышала о Геннадии Грушевом от Алеся Адамовича; он же нас через какое-то время и познакомил. Сразу заговорили о Чернобыле — от первой до последней встречи это была постоянная тема наших разговоров.

Первые деньги на лечение чернобыльских детей Адамович привез из Японии, это был его гонорар за лекции (об этом мне рассказывал сам Грушевой). Так родился фонд «Детям Чернобыля».

В то время мало кто представлял размеры катастрофы. Чернобыль уже случился, но мы были еще «дочернобыльскими» людьми. Дочернобыльскими были наши страхи. Катастрофу сравнивали с войной — тогда это был самый большой ужас, все другое не вмещалось в сознание. Дочернобыльскими были наши понятия и представления, как с этим жить. Я говорила в те дни со многими людьми и помню, что у меня осталось впечатление тотальной немоты. Неспособности высказать случившееся. К Чернобылю двигалась военная техника, а из чернобыльской зоны тянулись караваны автобусов с притихшими людьми. Как мантру, все повторяли: «я об этом нигде не читал», «никто не рассказывал о таком», «никогда не видел».

Наверное, Геннадий Грушевой был первым человеком, который попытался найти новые слова, сформулировать то, что происходило с нами, в какое пространство нас выбросило. Помню, как у меня на кухне за чаем мы вели

бесконечные интеллектуальные штурмы... Говорили о том, что Чернобыль взорвал наш прежний мир, нашу веру в социализм, в науку, в то, что человек — венец творения... Я видела перед собой политика и философа. Человека редкого в наших местах масштаба. Не будет преувеличением, если я скажу, что именно благодаря Грушевому мир узнал о Чернобыле. Он стал чернобыльским посланцем в мире. В нем, я не раз в этом убеждалась, слились воедино политик, художник слова и человек мощного темперамента. Это был не чиновник, а деятель. Скажу больше: если бы такие люди, как Адамович, Грушевой оказались тогда у власти, то мы бы сегодня жили в другой стране. Время выбрало их, а народ еще не был готов к этому времени, народ выбрал то, что знал — прошлое. Я думаю, что Геннадий это понимал... Это была его тяжелая ноша, он все время хотел понять, где они, молодые демократы, ошиблись.

...Сегодня слово «политик» посерело, измельчало. Глядя даже на самый верх, мы часто видим не Черчилля, а клона толпы. Я не думаю, что Грушевой уходил когда-нибудь из политики, он всегда оставался политиком. Но политиком в фундаментальном смысле этого слова. Чернобыль стал делом его жизни. События такого масштаба требовали уникальной личности. Ведь кроме фонда «Дети Чернобыля» были еще десятки чернобыльских фондов, но вокруг них не было той ауры, которая всегда чувствовалась вокруг фонда «Детям Чернобыля». Свечение исходило от самой личности Геннадия, для него это была не работа, это было служение.



**Геннадий Грушевой и Светлана Алексиевич**

Ему не надо было что-то делить в себе, что-то выбирать, в нём чувствовалось цельное существование. Он мог быть президентом или директором школы, и ничего бы не изменилось. Свет бы шёл.




**Светлана Алексиевич — выступает. Ирина Грушевая — переводит**

...Я думаю, что фонд «Детям Чернобыля» спасал детей дважды: он не только лечил, но и открывал им мир. Не раз, когда я летела из Европы, в самолёте вместе со мной возвращались домой белорусские дети. Очень интересно было слушать — подслушивать их разговоры. О том, как, например, немцы отдыхают: «Ты представляешь, моя хозяйка говорила, что обязательно надо поехать к деревьям или воде. Тихо посидеть». Или: «По вечерам они слушают музыку. Всей семьёй». И даже такое: «У каждого члена семьи своё полотенце. Приеду, мамке расскажу. И про салфетки тоже». «За месяц не видел ни одного пьяного, а у нас в деревне все мужики к вечеру ходят пьяные. И мой папка тоже. А я пить не буду...»

Учились родители, которые часто ездили в Европу вместе с больными детьми. Не всё вошло в мою книгу «Чернобыльская молитва», но в блокнотах и памяти остались голоса: «Теперь я знаю, что нам надо объединиться, чтобы спасать своих детей». Первые годы я видела, как в деревенских хатах валялись нераспечатанные лекарства и витамины, полученные по гуманитарной помощи. Потом я с этим уже не сталкивалась. Люди учились ценить свою жизнь. Своя культура их этому не учила, учил мир.

Я думаю, что мир постепенно будет переходить на альтернативные способы получения энергии. Но для этого понадобится 50--100 лет. Сегодня строить атомные станции в Беларуси, Украине или других постсоветских странах — большой риск. У нас низкий уровень экономики и образования, то есть государство не способно гарантировать человеку защиту от современных рисков. Человек, который строит атомную станцию или работает на атомной станции, как это было в Чернобыле, осенью или по выходным ездит к родителям в деревню и лопатой (или с конём) копает картошку, садит огород. Новейшим технологиям не хватает психологического обеспечения. Сознание людей разорвано...

Мы — патриархальная нация, из 10 миллионов больше половины живёт в деревнях и маленьких городах. И мы ещё не оторвались от природы, наше сознание еще пребывает в прежнем безопасном мире. Тема «общества риска» не разработана ни в культуре, ни в искусстве, ни в науке. Над этим думал и об этом много говорил Грушевой. Я всегда жалела, что он не писал.

...В любом тоталитарном обществе две памяти: память власти и память людей. Власть вычеркнула Грушевого из своей памяти, он был её оппонентом. А люди помнят...

Где-то через месяц после смерти Грушевого я встретила одного своего знакомого, и от меня он узнал, что Геннадия нет. Он заплакал. Рядом с ним стоял его сын — высокий, красивый парень. «Если бы не Грушевой, ? сказал этот человек, ? у меня не было бы сына. Он его спас». И рассказал одну из тех историй, которые я часто слышу, когда езжу по Беларуси.

Когда меня спрашивают о Геннадии, я ещё вспоминаю наш с ним спор «о бутерброде», так мы его называли. Началось с того, что Геннадий рассказывал, как он ездил по чернобыльской зоне с иностранными журналистами, учеными, и их часто звали к столу. Иностранцы или вежливо отказывались от угощения, или доставали из своих портфелей предусмотрительно приготовленные бутерброды. А Геннадий садился за стол: «Я не мог отказать. Мне было стыдно говорить с людьми об их беде и не разделять с ними эту беду. Хотя дома меня ждали жена и двое маленьких детей. До сих пор не знаю — правильно я делал или нет?»

Вот в этом весь Геннадий, для него не было вопроса: сесть и съесть «чернобыльский» бутерброд, или достать из портфеля свой? Сесть и съесть! Я тоже не знаю ответа на этот вопрос, но я любила Геннадия именно за это «сесть». Как любили его многие.

Он же знал, что за всё придется платить».

# Алесь Дашчынскі

Алесь Дашчынскі — журналіст беларускай службы радыё «Свабода». Ён быў адным з першых маіх калегаў, хто стаў суправаджаць на аздараўленне за мяжу дзяцей з рэгіёнаў, пацярпелых ад радыяцыі.




Алесь Дашчынскі

«У 1990-м годзе разам з Розэмары Ленсэр мы прыехалі ў Берлін на сустрэчу, прысвечаную чарнобыльскай тэматыцы. Розэмары арганізавала аздараўленне групы беларускіх дзяцей, а я быў адным з суправаджаючых. Гэта была першая такая паездка для мяне; потым я прыязджаў з дзецьмі штолета цягам амаль дзесяці гадоў.

У Берліне мы сустрэліся з Эфай Бальке, з якой я пазнаёміўся раней. І пасля дыскусіі пра Чарнобыль увечары ўтрох накіраваліся да Берлінскага мура, рэшткі якога яшчэ былі непадалёк: я — з Савецкага Саюза, Розэмары Ленсэр — з ГДР і Эва Бальке — з Заходняй Германіі.

Не буду апісваць уражанні ад мура, але згадаю фотаздымак, які застаўся ў мяне. Эфа прапанавала сфатаграфавацца, але менавіта так, каб на фота мы былі бачныя са спіны. Так і засталіся «для гісторыі» ідучымі пад парасонам у бок мура; мы пераходзілі праз яго разам.

Чаму я згадаў гэты факт, калі гаворка ідзе пра дзейнасць фонду «Дзецям Чарнобыля»? Таму што чарнобыльская катастрофа з аднаго боку і падзенне мура, «перабудова», крушэнне савецкай імперыі — з другога, далі нам такі эмацыйны зарад, якога хапіла на многія гады і які мы скіравалі на выратаванне беларускіх дзяцей.

Не, тады мы наўрад ці разважалі такімі катэгорыямі.

Усё было даволі проста. Пасля чарнобыльскай катастрофы мы былі перакананыя, што неабходна тэрмінова нешта канкрэтнае рабіць, — і рабілі.

Імёны Генадзя і Ірыны Грушавых — нашых выдатных каардынатараў — здаецца, ведалі ўсе. Яны былі галоўнымі выратавальнікамі.

Але гісторыя фонду складаецца з тысяч індывідуальных гісторый, маленькіх гісторый. Магчыма, некалі ўзнікне ідэя, напрыклад, сабраць у асобную кнігу імёны ўсіх нямецкіх сем'яў, якія, дзякуючы працы фонду, у той час прымалі беларускіх дзяцей на аздараўленне.

Я думаю, гэта тысячы сем'яў, і не толькі ў Германіі. У горадзе Адэнвальд сярод іх — Антоні, Браўн, Захс, Слука і іншыя.

Адна з самых вядомых мне — сям'я Энгельхарт.

Ахім Энгельхарт, тады яшчэ навучэнец гімназіі ў Міхельштаце, слухач кароткахвалёвых перадач на Радыё Мінск, дзе я тады працаваў, быў узрушаны інфармацыяй пра наступствы чарнобыльскай аварыі. Ён напісаў ліст, спытаўся, чым і як можна дапамагчы. Потым разам з маці Сігрун Энгельхарт наведаў Троіштэт, дзе я тады суправаджаў адну з дзіцячых груп.

Літаральна ў гэтым жа годзе ён прывёз першую дапамогу, сабраную і набытую па ініцыятыве Ахіма, — аднаразовыя шпрыцы, на якія тады ў Беларусі быў востры дэфіцыт, і мы разам з Ахімам перадалі іх у бальніцу ў Валожыне.

**Ева Бальке і Алесь Дашчынскі ідуць да Берлінскага мура. Здымае Розэмары Ленсер**





**Алесь Дашчынскі (у цэнтры) у нямецкім горадзе Міхельштат**

Ягоная паездка была арганізавана праз вядомую з савецкіх часоў структуру — Фонд міру. Але пасля сустрэч у Мінску мы пераканаліся, што далейшае супрацоўніцтва пойдзе па лініі фонду «Дзецям Чарнобыля», як самай надзейнай, мабільнай і насамрэч народнай арганізацыі.

У гэты ж год наш дэсант з дзевяці прадстаўнікоў фонду з'явіўся ў Адэнвальдзе, каб з першых рук данесці інфармацыю пра сітуацыю і пра тое, якая дапамога неабходна дзецям з Беларусі.

А ў чэрвені 1991 года ў Адэнвальд ужо прыбыла на аздараўленне першая група дзяцей, пераважна з Гомельскай вобласці. Вось так, дзякуючы асабістым кантактам, нарадзілася ініцыятыва, якая праіснавала некалькі гадоў.

Асноўны прынцып яе існавання быў такі — дапамога наўпрост і эфектыўна. У Эрбаху дзеці штодня наведвалі дом грамады Дорф-Эрбах, у другой палове дня ўсе вярталіся ў сем'і, а выходныя праводзілі ў нямецкіх сем'ях, з гастэльтэрн. Бар'еры моўныя і культурныя хутка пераадольваліся таксама дзякуючы разнапланавай насычанай праграме — ад падарожжа на параходзе да штодзённага наведвання басейна. Нашым нямецкім сябрам напачатку даводзілася тлумачыць, што мы не рускія госці, а беларускія.

Нічога дзіўнага, што нямецкія сем'і хацелі бачыць у сябе тых жа самых дзяцей і на наступнае лета. Нямецкія сябры ідэальна арганізоўвалі праграму аздараўлення, а мы, як суправаджаючыя прадстаўнікі фонду, дапамагалі.

Іншага падыходу трымалася ініцыятыва Эвы Бальке з Дэтмальда. Там запрашалі дзяцей з Мазыра — са шматдзетных ці няпоўных сем'яў, з дзіцячых дамоў, сірот, тых, якія яшчэ ніводнага разу не бралі ўдзелу ў аздараўленчых праграмах.

Суправаджаць гэтыя групы ў якасці перакладчыка Эва Бальке мяне запрасіла ў 1994 годзе, і з гэтай ініцыятывай Царквы Прымірэння з Дэтмальда я супрацоўнічаў некалькі гадоў запар. Нямецкія сябры хацелі працаваць з людзьмі, якіх даўно ведалі і якім давяралі. Насамрэч, пагадзіцца было не так проста, бо знайсці падыход да гэтых дзяцей 7—13 гадоў, здавалася, будзе складаней. Я ўсё ж журналіст, а не педагог.

Да таго ж, дзеля гэтых паездак даводзілася ахвяраваць адпачынкам, бо гэта не з'яўлялася асноўнай працай. Аднак усе складанасці лёгка пераадольваліся. Першую групу дзяцей мы суправаджалі разам з настаўнікамі з Мазыра Валянцінай Худзяковай і Аляксандрам Швядоўскім.

Фактычна два--тры тыдні мы праводзілі разам з дзецьмі ў юнацкім лагеры і потым адзін--два — у сем'ях. Але асноўным рухавіком была Эфа Бальке, якая нават пакінула сваю працу ў гімназіі і, стаўшы сябрам рады нямецкага фонду «Дзецям Чарнобыля», прысвяціла сябе арганізацыі дзіцячага адпачынку.

Эфа прыязджала у Мазыр і ў Мінск амаль штогод. Гэта была вельмі аб'ёмная праца: шэраг сустрэч, ліставанні і тэлефанаванні, пошук ахвяраванняў. А перашкодаў на гэтым шляху ў Беларусі станавілася ўсё больш. Эфа змагалася за дзяцей нават тады, калі хвароба (у яе быў рак) пачала адбіраць ейныя час і сілы.

Праграмы фонду «Дзецям Чарнобыля» ўвесь час пашыраліся, далучаліся новыя людзі. Гэта была такая магутная плынь, што аўтарытарная ўлада ў Беларусі напалохалася і пачала з ёй змагацца. Спачатку разбуральная сіла была скіравана на гуманітарную дапамогу: узніклі першыя складанасці, гуманітарным грузам пачалі перашкаджаць, ускладняць перасячэнне мяжы.

Потым аб'ектам нападак стаў сам аздараўленчы адпачынак дзяцей за мяжой. Кіраўнік краіны Аляксандр Лукашэнка ў 2004 годзе выказаўся за тое, каб забараніць гэтыя паездкі. Дзяржаўная машына раструшчыла і панішчыла сувязі паміж людзьмі.

На жаль, шмат у чым ёй гэта ўдалося. А мы не змаглі адстаяць нашу справу перад гэтым разбуральным напорам, хаця я не скажу, што мы нічога не рабілі. Цяпер я згадваю той сымбалічны фотаздымак, наш пераход праз мур. Мура ўжо няма, але нам у Беларусі яшчэ трэба яго пераадольваць».

# Аляксей Марачкін

Аляксей Марачкін — адзін з самых вядомых мастакоў беларускай сучаснасці, які працуе ў жанры нон-канфармізму, стваральнік знакамітай суполкі «Пагоня». Не менш вядомая і намаляваная ім ікона «Маці Божай ахвяраў Чарнобыля», якая стала сімвалам «Чарнобыльскіх шляхаў», сімвалам прагі да перамен.

«Год 1986-ты запомніўся мне на ўсё жыццё. За чатыры дні да катастрофы на Чарнобыльскай АЭС адбыўся Чарнобыль духоўны. Нацкаваныя ўладай міліцыянты разам з былымі «афганцамі» напалі на моладзь падчас свята «Гуканне вясны». Моладзь білі і гналі з узбярэжжа Свіслачы.

**Працуе Аляксей Марачкін**



26 красавіка адбыўся другі выбух, выбух Чарнобыльскі...

Мой сын Ігар, які тым часам служыў у войску, быў адпраўлены ў раён Чарнобыля, у радыяцыйную зону. Напачатку ў Хойнікі, потым у ваколіцы Прыпяці. Яго расповед пра гэты час заўсёды халадзіў мае душу і сэрца.

Ніхто не ведаў, як сябе паводзіць у дні пасля катастрофы.

У салдацкіх намётах у тыя майскія ночы было вельмі зімна, і маладыя навабранцы былі змушаныя ісці ў лес па дровы. Каб сагрэцца, раскладвалі вогнішчы, пасля збіралі вуглі і спалі на іх. А потым, калі дазіметрам мералі попел і гэтыя вуглі, прыбор зашкальваў...

Гэтак Чарнобыль закрануў нашу сям'ю.

Мая маці, якая ў той час жыла ў роднай вёсцы Папоўшчына Чэрыкаўскага раёна, неяк гаварыла: «Халера яе ведае, што такое гэта радыяцыя... Нічога не бачна... А як на агарод выйду палоць градкі, дык адразу нейкая наступае слабасць...»

У 1990-м годзе, то бок праз чатыры гады пасля аварыі, я намаляваў абраз «Маці Божай ахвяраў Чарнобыля», які асвяцілі на пляцы Свабоды. Трэба адзначыць, што ідэю стварэння гэтага абраза выказаў Зянон Пазьняк.

Потым мне даводзілася тройчы паўтараць работу над гэтай выявай.

Першы варыянт знаходзіцца ў алтары Жодзінскай царквы, дзе шмат прыхаджан — перасяленцы з чарнобыльскай зоны.

Другі абраз падораны царкве на радзіме паэта Анатоля Сыса.

Яшчэ адзін прэзентаваны Беларускаму народнаму фронту. Кожны раз, калі рыхтуюцца адзначыць гадавіну аварыі на ЧАЭС, гэты абраз нясуць у першых радах калоны «Чарнобыльскага шляху».

У 1996-м годзе адзначалася дзясятая гадавіна трагедыі. Нашу калону жорстка разагналі. Амапаўцы азвярэла збівалі людзей. Усіх запар. Пад гэтыя ўдары трапіў і абраз «Маці Божай ахвяраў Чарнобыля». Дасталося і мне...

Летам 1989-га, калі пра аварыю ведалі яшчэ вельмі мала, прадстаўнікі крытычна настроенай грамадскасці пад кіраўніцтвам Генадзя Грушавога паехалі на аўто па мясцінах Чарнобыльскай зоны. Я таксама быў сярод іх.

У першую чаргу нам хацелася пабачыць вёскі, якія трапілі пад гэтую навалу; сярод іх былі і вёскі майго дзяцінства. Гэта Чэрыкаўскі і Краснапольскі раёны. Са мной былі ўлёткі і газеты, у якіх можна было прачытаць праўду пра трагедыю.

У Чэрыкаве я быў арыштаваны і трапіў з імі ў раённы пастарунак. Адразу адчулася — міліцыянтам самім цікава, што пра Чарнобыль пішуць у Мінску.



**Мастак Аляксей Марачкін пасля Чарнобыльскага шляху**

Са мной пагаварылі, не складалі ніякіх пратаколаў — і адпусцілі. Было бачна, што трагедыя закранула кожнага з нас.

Штогод, калі надыходзіць 26 красавіка, я і мая сям'я абавязкова адзначаем гэты сумны дзень — з плакатамі і абразом ідзём у калоне. Гадоў дзесяць таму мной быў напісаны верш з назвай «Чарнобыльскі шлях», які потым стаў песняй-рэквіемам у выкананні Кастуся Герашчанкі.

З Генадзем Грушавым я кантактаваў неаднаразова. Мы з ім нават некалькі разоў ездзілі ў Германію, дзе арганізавалі суполку «Сябры Беларусі»,

якая займаецца аздараўленнем беларускіх дзяцей і адпраўкай у Беларусь гуманітарных канвояў. Суполка знаходзіцца пад Мюнстэрам. Яна працуе і зараз.

У Германіі мы звычайна рабілі мастацкія выставы. Напрыклад, у Штутгарт прывозілі работы Віктара Шматава, цыкл карцін «Чарнобыльскія краявіды». Дзякуючы ў тым ліку выставам, мы прыцягвалі да чарнобыльскай бяды ўвагу іншаземцаў.

## ЧАРНОБЫЛЬСКІ ШЛЯХ*

Сёння — самотны настрой.
Сёння ў душы маёй смутак.
Настрой — што гаркавы настой
Нашай бяды й пакуты.

Сёння — Чарнобыльскі шлях.
Сёння — стаім ў маўчанні.
Слёзы на нашых вачах.
Хтось не дажыў да світання.

Божа! За што такі лёс!
Божа! Хто ў тым вінаваты?
Хто ж на нас пошасць прынёс?
Хто разбурыў нашы хаты?

Ведаем кожнага ў твар.
Ім паратунку не будзе.
Бачыш, на небе пажар.
Бачыш, ідуць нашы людзі.

Божая маці, даруй.
І захіні нашых дзетак.
Цяжка адольваць гару
Сцежкай, дзе церні.
Без кветак.

**Аўтарская пунктуацыя і граматыка верша захаваныя цалкам*

# Уладзімір Някляеў

Уладзімір Някляеў — беларускі паэт, празаік і грамадска-палітычны дзеяч, лаўрэат шэрагу прафесійных і дзяржаўных прэмій за літаратурную дзейнасць, намінант на Нобелеўскую прэмію (2011).

Тэма змагання з чарнобыльскай бядой добра знаёмая Уладзіміру Пракопавічу, бо з Генадзем Грушавым ён сябраваў шмат год. З ім ён неаднойчы абмяркоўваў тое, пра што па маёй просьбе напісаў.

«Карпаратыўнасць — вось з'ява насамрэч інтэрнацыянальная.

Пасля ядзернага выбуху ў Чарнобылі не толькі савецкія і постсавецкія кіраўнікі, але і высокапастаўленыя чыноўнікі з МАГАТЭ не стамляюцца даводзіць, што Чарнобыль не тое што не найвялікшая тэхнагенная катастрофа XX стагоддзя, а наогул ніякая не трагедыя. Так, драбяза, якая, калі не на карысць пайшла, дык ва ўсялякім разе не ў шкоду...

У здатнай да ўсяго прызвычайвацца чалавечай свядомасці Чарнобыль усё больш пераўтвараецца ў нейкі сімвал, вобраз, метафару. Але рэальны Чарнобыль — гэта ўсё ж ядзерны выбух, выкід у жывое асяроддзе радыеактыўных элементаў, уздзеянне якіх вядзе да фізічнай і псіхічнай паразы людзей. У гэтым сваім уздзеянні Чарнобыль не можа сам скончыцца, неяк там суцішыцца і супакоіцца, — ад яго можна абараніцца толькі наступам найноўшых тэхналогій, а калі іх няма (а іх няма, бо нямашака на іх сродкаў, грошай), дык спосаб абароны застаецца адзін — адступленне...

Што і робіцца, каб заманіць ворага як мага глыбей на сваю тэрыторыю. Гэта традыцыйная наша стратэгія, у выніку якой толькі ў адной сям'і маіх блізкіх знаёмых, Анатоля і Наталлі, сталася так, што чарнобыльскую пухліну знайшлі спачатку ў малодшага сына, а пасля ў старэйшай дачкі. Пухліны выразалі, а дзяцей прызначылі ў інваліды. І пры гэтым на дзяржаўным узроўні (ва ўнісон з чыноўнікамі з МАГАТЭ) не саромеюцца даводзіць, нібы Чарнобыль, як той чорт, не такі ўжо страшны, як яго малююць, а асобным людзям радыяцыя можа пайсці нават на карысць. Ну, відаць, маецца на ўвазе тое, што ўсе беларусы — людзі нейкія асобна-асаблівыя.

Так ёсць — і не магло, і не можа быць іначай у Беларусі, якая наследуе дзяржаўныя традыцыі той краіны, у якой машыны, зброя, наогул любое жале-



**Былы пасол Беларусі ў Германіі Пётр Садоўскі і паэт Уладзімір Някляеў**

за мела свой кошт, сваю цану, і толькі чалавечае жыццё не каштавала нічога. Ну, загіне дзесяць, дваццаць, трыццаць мільёнаў, — бабы, як Сталін казаў, новых народзяць.

У траўні 86-га года, калі я прыехаў у Чарнобыль, там тварыўся суцэльны бардак: усё нібыта ахоўвалася — і не было ніякай аховы, можна было залезці хоць у сам рэактар. Яшчэ нават не пазбіраны былі выбухам выкінутыя з рэактара кавалкі графітавых стрыжняў, — і ўбачыў я не жалезных робатаў, а жывых людзей, апранутых у халаты хімабароны (нібыта супрацьрадыяцыйныя) маладых салдацікаў, смертнікаў, якія звычайнымі шчыпцамі з падоўжанымі ручкамі тыя графітавыя кавалкі збіралі. Яны збіралі сваю смерць, але не разумелі, што рабілі, а тыя, хто разумеў і пасылаў іх на гэта, — разумелі, пасылалі і маўчалі. Маўчалі доўга, а калі ўжо вымушаны былі нешта казаць, дык казанка тая ў вуснах самага галоснага кіраўніка дзяржавы Гарбачова скіравалася да захаду, да перапалоханых немцаў, французаў, бельгійцаў, але не да сваіх. Убачыўшы ўвесь гэты жах, я спытаўся ў акадэміка Веліхава, які кіраваў тады (разам з акадэмікам Легасавым) усімі і ўсім у Чарнобылі: ну як, скажыце, такое можа быць?!. І ён даволі доўга тлумачыў мне сутнасць закону

вялікіх лічбаў... Пасля тлумачэнняў я сказаў яму, што зразумеў-такі сутнасць гэтага складанага закону: бабы новых народзяць.

Пазней, ужо пад восень, я паехаў у Чарнобыль з кінагрупай, і мы знялі там фільм, у якім цэнзары з Міністэрства сярэдняга машынабудавання — назву ж якую прыдумалі для атамнай прамысловасці! — пакінулі толькі тое, што сведчыла пра гераізм і патрыятызм (што, безумоўна, было), але аніякіх салдацікаў са шчыпцамі... Перад гэтым былі знішчаны стужкі, знятыя групай, у якую ўваходзіў мой сябар Анатоль Ярась — ён памёр ад раку.

Наш фільм ніякавата было глядзець, але і нічога ўжо нельга было ў ім выправіць, адзнятыя матэрыялы ў нас пазабіралі. Тады з іншай творчай групай я сабраўся ў Маскву, каб зрабіць тэлепраграму з акадэмікам Легасавым, але, пакуль мы збіраліся, ён скончыў жыццё самагубствам, павесіўся. Нехта казаў, што менавіта праз тое, што сталася ў Чарнобылі (Легасаў быў адным з праектантаў рэактара), нехта называў іншыя прычыны...

Знялі мы ўрэшце тэлеінтэрв'ю з акадэмікам Веліхавым, які, усяляк зацямняючы сутнасць праблемы, усё стараўся пераскочыць на высакалобую балбатню... Але ўсё ж на некаторыя пытанні быў змушаны адказаць наўпрост. Я спытаў: «Калі б нават не ў 30-кіламетровай зоне, а ў 100-кіламетровай аддаленасці ад яе, дзе-небудзь на Магілёўшчыне ці Гомельшчыне жыў нехта з вашай сям'і, што б вы зрабілі?..» — і ён, пакруціўшыся трохі вакол рознаўзроўневых дозаў радыяцыі, усё ж адказаў: «Вывез бы, бо жыць там нельга. Калі, вядома, жыць, а не паміраць...»

А мы вось, хто не памёр, жывём... І карумпаваныя чыноўнікі з МАГАТЭ разам з нашымі дзяржаўнымі кіраўнікамі даводзяць, як і ад пачатку даводзілі, што Чарнобыль нам зусім не ў шкоду, калі не на карысць».

# Константин Скуратович

Константин Скуратович — ученик Геннадия Грушевого. В буквальном смысле. Доцент Грушевой преподавал студенту Скуратовичу в Белорусском государственном университете философию. Потом они еще не раз встречались «по жизни» и подолгу вели философские беседы.
По моей просьбе и специально для этой книги Константин Иванович рассказывает о них — и не только.

«Как правило, одни и те же слова в разные времена звучат по-разному. И люди к ним относятся по-разному.

Чернобыль апреля 1986-го и Чернобыль современный — это разные Чернобыли. А между тем значение этого слова для Беларуси и всего мира должно быть постоянным.

Потому что, во-первых, Чернобыль доказал — любая АЭС, атомная энергетика вообще представляют угрозу для человечества. Нет абсолютно надёжной, а значит, безопасной техники. Объекты атомной энергетики в этом смысле представляются чрезвычайно опасными. И сами по себе, и как привлекательные для потенциальных террористов объекты, и как технические сооружения, уязвимые для природных и техногенных воздействий.

Оптимистические утверждения обратного следует числить по разряду разговоров для бедных.

ЧП были, есть и будут. Каждое требует десятков, сотен, тысяч жертв. Чернобыль был катастрофой.

Пессимист ли вы, оптимист или человек равнодушный, но взятый на развитие атомной энергетики курс однажды неизбежно нарушит ваш покой, ваш устоявшийся образ жизни, подвергнет сомнению уверенность в том, что проблемы надо решать по мере поступления. АЭС относятся к тем творениям рук человеческих, которые, взбунтовавшись против своего творца, увеличивают

**2011 год. Женева. Геннадий Грушевой и Константин Скуратович в ООН**



численность его проблем в геометрической прогрессии.

Пример: после взрыва на 4-м энергоблоке Чернобыльской АЭС потребовалось остановить по всем железным дорогам эшелоны, которые в тот момент везли куда-либо свинец, расформировать их, отсоединить нужные платформы, прицепить к другим эшелонам и направить в Чернобыль. Срочно!



**2011 год. Марш мира**

На ликвидацию последствий катастрофы могучему Советскому Союзу пришлось потратить миллиарды долларов. Но ушли они всего лишь на оперативные нужды, связанные с отселением людей из зоны, на проведение работ для предотвращения возможных аварий на других блоках станции. Миллиарды долларов ушли на строительство саркофага. Известно, что СССР с этими самыми оперативными задачами справился. Всё остальное пришлось делать суверенным Беларуси и Украины, не имея, вероятно, и сотой доли тех ресурсов, которыми располагал СССР.

За прошедшие десятилетия Беларусь не разбогатела. Напротив, по своему экономическому потенциалу она прочно застряла среди других европейских аутсайдеров. Тем не менее её руководство решило строить собственную АЭС.

Если, не дай Бог, Чернобыль повторится в Островце, спасать Беларусь будет некому.

Чернобыль доказал: если беда приходит, государство всегда предаёт свой народ. В апреле 1986-го так и случилось. Количество жертв, которое на порядки превосходило численность непосредственно пострадавших от взрыва, засекречивалось, в помощи им было отказано.



**Прием в женевском представительстве ООН**

В демократических странах, где существует общественный контроль, есть возможность принуждения государства к исполнению функций по спасению населения. При диктаторских режимах надежд на это никаких нет. Ситуация в Японии после трагедии на Фукусиме и послечернобыльская у нас настолько отличаются одна от другой, насколько, вероятно, отличаются между собой разнопланетные цивилизации.

У нас народ обманывали без малейшего колебания и угрызений совести. Множили обман даже тогда, когда никто обманщикам не верил. Делали это в надежде, что со временем обман забудется и Чернобыль из символа бессилия человека перед разбушевавшейся рукотворной стихией вновь станет восприниматься щедрым на дешевые киловатты посланцем.

Так Чернобыль создал необходимость консолидации гражданского общества во имя спасения людей.

Это было доказано фактически, по крайней мере, в Беларуси, где исключительно благодаря инициативе, самоорганизации сотен и тысяч простых граждан удалось оказать конкретную помощь сотням тысяч жертв, организовать лечение и оздоровление детей, материально, организационно и психологически помочь справиться с бедой переселенцам и ликвидаторам, вынудить законодателя принять соответствующие законы.

Вопреки государству, которое молчало четыре года после катастрофы, делая вид, что ничего страшного не произошло. А то, что произошло, находится под контролем.

Чернобыль прошлого объединял людей и тем самым способствовал формированию гражданского общества. Он побуждал к борьбе с произволом властей и тем самым превращал население в граждан. Он требовал преодолевать прошлое через устранение его последствий. Он обязывал будущих белорусов не допустить повторений.

Требовал: хватит учиться на собственных ошибках. Это допустимо и желательно для ленивых школяров, но позорит честь и оскорбляет граждан демократического государства. Только граждане имеют право выбирать, как им жить в собственной стране. А не по указке чиновников, не исключая и самого президента. Право граждан выше права президента. В любой ситуации. Простой и очень сложной, к которой, безусловно, относится строительство АЭС на территории страны. Сторонники строительства убеждали и убеждают людей, что ядерная энергетика является самым безопасным, самым экономичным, самым экологичным инструментом для производства энергии.

Что иного не дано.

Возможно так: выхода нет и выбора нет. Но это очевидно для власти, для самих атомщиков, а не для людей, которые опасаются повторения Чернобыля. Которые готовы поступиться обещанным комфортом ради большей безопасности и сохранения психического и физического здоровья. Более высокой цели не может быть ни у государства, ни у чиновников, ни у гражданского общества.

И если у каждой из сторон есть свои собственные доводы по поводу достижения этой общей цели, появляется дискуссия. Казалось бы, все просто. Если было обещано организовать референдум по поводу строительства станции, то почему же обещание не выполнили? Почему в очередной раз превратили всех в заложников ситуации и при этом запрещают бояться «мирного атома»?

В очередной раз государство, принимая решения, начинает с обмана. Стремится «заболтать» проблему в технологических и экономических подробностях, за которыми прячется беда.

Как и 30 лет назад, когда произошла чернобыльская трагедия.

Разве эта трагедия пережита? Забыта? Предолена? Как утверждал с трибуны 70-й Генеральной Ассамблеи ООН Лукашенко, — успешно преодолена и ликвидированы все ее последствия. Производственные и экономические потеры компенсированы новыми производственными успехами, моральный ущерб населению компенсирован на адекватной основе, люди, утратившие свою малую родину, из зоны заражения отселены на свободные земли, где для них построено лучшее по качеству жилье. Прежняя жизнь этих людей была хороша, а новая стала — лучше.

Поэтому люди пережили катастрофу, излечились от фобии и готовы строить собственную АЭС.

Так и хочется сказать: если бы Чернобыля не было, то его следовало бы придумать. Чтобы на помощь человеку пришло государство. Очевидная нелепица. Но именно ее с высокой ООНовской трибуны озвучил «главный ликвидатор» Лукашенко. Он обратился к ООН с предложением «воспользоваться белорусским опытом решения проблем, таких как Чернобыль и торговля людьми». К сожалению, торговля людьми возникла вместе с зарождением общества, экономической деятельности людей. На определенных этапах она считалась обычным и необходимым делом. То есть возникла не вчера и не исчезнет завтра. По крайней мере, до той поры, пока не исчезнет спрос на живой товар, который всегда находит предложение.

Такие проблемы, как Чернобыль, возникают в исключительных ситуациях. Когда человек приобретает возможность получить от природы намного больше, чем она согласна предложить ему. Человек же берет намного больше и всегда сожалеет, что мало взял. И в следующий раз хочет взять больше.

Считает, что это не труднее, чем зайти к соседке за солью.

Выше мы приводили свидетельства, что правительство суверенной Беларуси пыталось замолчать проблему, искали и находили специалистов, которые говорили, что катасрофа на самом деле оказалась досадным сбоем надежнейшего механизма, который случается раз в тысячеление. Что медицинские показатели пострадаших в массе своей не выходят за рамки статистической ошибки. Если же кто, паче чаяния, заболеет, то государство всю заботу примет на себя.

Пусть жертвы тихонько лечатся в отведённых местах и там же умирают. Чтобы не травмировать общественность, не возбуждать отрицательные эмоции, не провоцировать недовольство, желание узнать правду и восстановить справедливость, помочь людям, попавшим в беду.

Фактически вопреки этой государственной воле появились люди неравнодушные, инициативные, сострадательные, деловые и ответственные, которые наладили настоящую систему медицинской и социальной реабилитации пострадавших. В первую очередь детей. Разумеется, главную роль в этом деле сыграл благотворительный фонд «Детям Чернобыля», который два с лишним десятилетия занимался оздоровлением белорусских детишек. По словам его организатора и руководителя Геннадия Грушевого, фонд «выполнил свою социальную миссию». Дети Чернобыля выросли, многие обзавелись собственными семьями, их детские проблемы уступили место взрослой заботе о собственных детях.

Это уникальный опыт, проведённый уникальными людьми. Он мало подходит для популяризации. И если где-либо случится новый Чернобыль, всякое государство, общество будет решать эту проблему по-своему. Как это делает Япония после аварии в Фукусиме. Можно сказать, что случилось чрезвычайное происшествие, но все необходимые для его ликвидации ведомства, учреждения, службы работают в обычном порядке, как это положено в случае цунами, землетрясения, взрыва реактора.

Изобретательные японцы в таких ситуациях предпочитают действовать по инструкции, избегая героизма, за которым обычно стоит разгильдяйство.

Имело бы смысл навести такой порядок и в Беларуси».

# Юрий Хащеватский

Наверное, Юрий Хащеватский — самый известный белорусский режиссёр-документалист. А его самый известный фильм «Обыкновенный президент» очень подробно рассказывает о том, как в современной Беларуси на выборах делаются «элегантные победы» (фраза председателя ЦИК Л. М. Ермошиной), но сегодня речь не об этом.
Юрий Хащеватский вспоминает свои встречи с Геннадием Грушевым и знакомство с фондом «Дети Чернобыля».

«Конечно, я видел его и до этого, но лично мы познакомились только в 1995 году. Тогда я планировал начать съёмки фильма о Чернобыльской трагедии, и потенциальный продюсер этого фильма Ольга Николайчик привела меня в фонд, что было абсолютно естественно, ибо именно для них эти проблемы и были самыми близкими.

К сожалению, тот разговор не получился продуктивным, и я сейчас очень хорошо понимаю, почему. Фонд уже начали «прессовать», и людям было уже не до кино. Впрочем, я тогда еще не понимал, что не до кино им при любом другом раскладе. Они занимались совершенно другими вещами.

Второй близкий контакт состоялся в 2001 году, когда во время президентских выборов мы вместе придумали компромисс между Гончариком и Домашем, то есть, вариант президентства первого при премьерстве другого.

Грушевому тогда удалось мой внутренний «экстремизм» нивелировать, склонить к компромиссу. И правильно сделал, ибо сработать могла только такая схема. Увы, ничего тогда не вышло.

Но с тех пор мы стали хорошими друзьями.

Геннадий был красивым человеком, и вокруг него всегда было очень много красивых людей. Начиная с Иры, конечно.

...Когда-то покойный Женя Будинас очень точно подметил: «Белорусы — уникальный народ. Для белорусов можно сделать все, с белорусами — ничего». Геннадий и Ирина Грушевые сделали для белорусского народа столько, сколько не сделает ни один политик.

Если посчитать число семей, которым помог их фонд, и добавить к ним всех, кто имел отношение к программам, получатся миллионы людей. Рейтинг у Гены, будь он президентом, был бы просто невероятным и ни в какое сравнение не шел бы с рейтингом того, кто сегодня правит...

По большому счету, главный дар Всевышнего человеку — это право выбора. Выбор дороги, по которой нужно идти. Человек в своем выборе должен быть исключительно свободным, но у нас это, к сожалению, осознают далеко не все. Белорусы в большинстве своём делегируют право собственного выбора власти.

Это самое чудовищное из того, что сейчас происходит. Общество, которое перестаёт жить по законам Божьим, больное, по сути. Оно неумолимо движется к самоуничтожению.

Люди отказываются от своей свободы, а Гена пытался им ее вернуть.

То же самое делал фонд «Детям Чернобыля». В первую очередь, очень многим он вернул здоровье и продлил годы жизни. Другое дело, как люди всем этим распорядятся... Это вопрос совести этих людей и их будущей жизни.

Когда-то я чуть не стал физиком, потому хорошо знаю теоретические преимущества ядерной энергетики. В идеале атомная станция должна быть технически безопасной и попасть в руки людей, которые исповедуют безукоризненную технологическую дисциплину.

А сейчас давай посмотрим на то, что у нас происходит.

Станция строится россиянами. Сколько они тырят при строительстве, мы хорошо знаем по снимкам рухнувшей опалубки Ленинградской АЭС. Рухнувшей из-за того, что там банально спёрли цемент.

И воруют они не только цемент... Металл, из которого сделают турбины, тоже вряд ли будет соответствовать необходимым параметрам...

А теперь о технологической дисциплине обслуживания, на чём, собственно, и погорели в Чернобыле. Наши люди не приучены ни к чему подобному.



**Ирина Грушевая и режиссер Юрий Хащеватский**

На многих СТО они даже автомобиль нормально обслужить не могут, что уж говорить обо всём другом.

Потому в наших условиях строить АЭС невероятно опасно. Я бы даже сказал — нельзя.

Готов поспорить, что её не построят вообще. Денег становится все меньше и меньше. Это значит, что скоро тырить будет нечего.

Строить свою атомную станцию в стране, которая больше всего пострадала от аварии на ЧАЭС, — очевидный нонсенс, но дело тут не в отсутствии у этих людей инстинкта самосохранения. Повторюсь, станцию не построят по причине тотального воровства. Сама же идея возникла из страстного желания иметь «грязную» атомную бомбу и из страха за собственную шкуру. Во время бомбёжек Югославии всё было объяснено предельно прозаично и просто: «страны, где есть атомные станции, не бомбят».

Своя атомная станция нужна не для какой-то эфемерной энергетической безопасности, а для сохранения собственной власти.

Что касается официальной памяти о том, что сделал для Беларуси Геннадий Грушевой и созданный им фонд, то в этом плане абсолютно ничего нет и не может быть. Грушевой же делал добро не для государства ( читай — для власти), а для людей.

И я не уверен, помнят ли об этом сейчас люди... Помнят, конечно же, но на официальном уровне очень хотят забыть...

К сожалению, часть белорусского общества сегодня даже не ходит на могилы своих родных... Как же эти люди будут помнить о чём-то хорошем, что для них кто-то сделал?..

Ещё одна библейская заповедь — чти отца своего и мать — сейчас абсолютно игнорируется. Не усвоена она нашим обществом совершенно.

А самое грустное, что все это поддерживается на государственном уровне. Там происходит то же самое. Кто будет чтить память Грушевого «наверху», если говорят, что в чернобыльской зоне сейчас едва ли не рай, что там можно жить, выращивать урожай...

Сумасшедшие циники!

Отсюда, кстати, две причины «наезда» власти на фонд.

Во-первых, всем казалось, что там несметные западные «бабки», которые было бы неплохо взять под контроль и попилить.

Во-вторых, фонд Грушевого будил в людях осознание того, что мы живем в стране, где произошла чернобыльская катастрофа, и она будет продолжаться.

Это не инстинкт самосохранения, это в чистом виде фрейдизм. Нечто вытесненное из нашего сознания. Сегодня люди не хотят думать о том, что им неприятно и может нести страшную опасность, потому любое напоминание о жизни «на пороховой бочке» вызывает раздражение.

О проблеме никому не хочется вспоминать. Людям легче о ней просто забыть».

# Роман Яковлевский

Когда-то Роман Яковлевский тоже был студентом Геннадия Грушевого, и если бы не опека последнего, вряд ли смог бы довести свое университетское образование до логического финала, ибо в советские времена он числился политически неблагонадежным.

Сегодня Роман — известный политический обозреватель. И опять «неблагонадежный», ибо пишет то, что думает, а не то, что нравится власти.



**Роман Яковлевский**

«Чем дальше по времени дата ухода от нас Геннадия Грушевого, тем больше осознаешь всё то, что он успел сделать для Беларуси и её людей. Что бы кто ни говорил, но именно неутомимая энергия характера и реальная гражданская активность Грушевого буквально открыли Европу (да и не только) для сотен тысяч белорусов.

Стоит напомнить, что сначала в Белорусском народном фронте был создан комитет «Дети Чернобыля». Тогда БНФ аккумулировал многие сферы гражданской активности. И появление такого комитета во главе с Грушевым в недрах фронта было естественным явлением. А посещения районов, пострадавших от Чернобыльской катастрофы, властными структурами вскоре стали восприниматься как «десант Грушевого».

В те времена подобные десанты имели очень важное значение. Прежде всего, для местного населения. Люди переставали чувствовать себя брошенными. В полевых условиях проводились даже социологические опросы, которые затем публиковались независимыми и иностранными СМИ. Государственные СМИ всю эту гражданскую активность или игнорировали, или воспринимали как вражескую.

К прямым и честным разговорам власти не были готовы тогда. К сожалению, не готовы они и сейчас.

Грушевой же со своими соратниками шёл навстречу людям, убеждая, что они не будут забыты и могут надеяться на помощь. При этом он всегда убедительно доказывал своим слушателям, что залог успеха в преодолении свалившейся на всех беды заключается в инициативности самих граждан. И многие его понимали, ему верили.

В этом я лично убедился, будучи участником одного из первых «десантов Грушевого».

Масштаб затеянной единомышленниками Грушевого работы оказался настолько велик, что возникла необходимость в создании полноценного Белорусского благотворительного фонда «Детям Чернобыля».

Грушевой с супругой Ириной смогли привлечь к сотрудничеству многочисленные гражданские инициативы, фонды европейских и других стран мира. Были организованы каналы по оказанию реальной и эффективной медицинской, иных видов помощи десяткам тысяч белорусских семей. Необходимое лечение, оздоровление сопровождались прямым общением наших людей с иностранцами, познанием иного, доселе неведомого для них мира. Значение этого явления для будущего Беларуси трудно переоценить.

Особый отклик инициативы фонда Грушевого (нередко фонд «Детям Чернобыля» именно так и называют) нашли в Германии. В эту страну попасть довелось и мне. Гостеприимству немцев не было предела. Нас принимали на разных уровнях, как в органах власти, так и в весьма влиятельных негосударственных структурах.

Особо запомнились неформальные беседы с немецкими хозяевами в домашних условиях. Всё это сильно помогало росту должного взаимопонимания, доверия между гражданами стран с тяжелой общей историей.

Помнится, по возвращении домой (с впечатлениями от общения с немцами разных поколений) как-то более ответственно стала восприниматься тема примирения. И что примечательно, привезенный из Германии исторический оптимизм, пусть и не сразу, но находил понимание среди белорусов, в том числе и военных.

Когда Геннадий Грушевой был избран на демократических и прозрачных выборах (были и такие в Беларуси) депутатом Верховного Совета, возможности работы фонда значительно расширились.

Но рады этому были далеко не все.

К сожалению, для нынешней власти сам факт деятельности этого флагмана гражданских инициатив оказался чужеродным. Сам же Грушевой до последней минуты своей жизни продолжал верить в полезность, необходимость «просветительских десантов». В необходимость просвещения ради будущего демократической Беларуси».

ГЛАВА VIII

# ЛІСТАПАДАЎСКІЯ СУСТРЭЧЫ

Аддаючы перавагу менавіта гэтым людзям,
не хочацца нікога пакрыўдзіць,
бо больш як 250 чарнобыльскіх ініцыятыў
па ўсёй Германіі зрабілі так шмат карыснага, што кожны
з іх мае права ўбачыць сябе на старонках гэтай кнігі.
Зразумела, зрабіць так у адным выданні
немагчыма па вызначэнні,
таму ёсць сэнс вярнуцца да тэмы ў будучыні.
Сёння ж расказ пра тых, хто не толькі пачынаў
дабрачынную работу, але і працягвае яе цяпер.
Пра тых, хто літаральна жыве філасофіяй дабрыні.

# Людзі Мюнстэра

Нягледзячы на тое, што мая германская вандроўка пачыналася ў пятніцу, 13 лістапада 2015 года, і была азмрочана трагічнымі падзеямі ў Парыжы, працягнулася яна даволі цікавай аўтамабільнай паездкай з Берліна ў Мюнстэр.

Планавалася ехаць цягніком, аднак нямецкая сяброўка Ірыны Грушавой Гізэла Шміт-Вісбернд вырашыла скласці нам кампанію ў мясціны, дзе пахаваныя яе бацькі, сястра і муж. Гэта было для нас цалкам нечакана.

З аднаго боку, значна аблягчала намечаныя камунікацыі. А з другога — крыху «напружвала», бо 500 кіламетраў за рулём — справа вельмі няпростая, і ў гэтым сэнсе было шчыра шкада Гізэлу.

Карыстаючыся выпадкам, хачу выказаць шчырую падзяку гэтай прыгожай і добрай жанчыне. Кніга стала магчымай у тым ліку і дзякуючы яе ветлівасці і гасціннасці.

Нарадзілася Гізэла ў горадзе Ноттульн, што за 20 км ад Мюнстэра. Яе будучы муж Герхарт працаваў там оталарынголагам. Пасля вяселля яны набылі жытло ў Гішпаніі і пераехалі.

На жаль, Герхарт моцна захварэў; некалькі разоў на тыдзень яму было неабходна рабіць дыяліз ныркі. Жылі яны амаль на хутары. Да бліжэйшага горада няблізка, таму давялося вяртацца на радзіму. Апошнім месцам жыхарства стаў Берлін.

Ірына Грушавая і Гізэла Шміт-Вісбернд пазнаёміліся дзякуючы інтэрнэту. У немцаў даволі распаўсюджанай з'явай стала нешта накшталт віртуальных «клубаў па інтарэсах». Жанчын зблізіла цікавасць да культуры, якая хутка перарасла ў шчырае сяброўства. І дапоўнілася «чарнобыльскімі справамі».



Гізэла Шміт-Вісбернд

Далей крыху прышпільнага. У немцаў няма імя па бацьку, таму Ірына Львоўна Грушавая, якая выкладае ў адной прыватнай ВНУ Берліна, растлумачыла сваім студэнтам вядомы нам з маленства прынцып. Маўляў, яе бацьку звалі Львом, адсюль і імя па бацьку, а калі спытала, ці ўсё зразумела, пачула ў адказ: «Зразумела. Вас трэба называць «Ірынавіч»...»

З таго часу і нарадзіўся неалагізм — «Ірынавіч», які хутка прырос яшчэ адным — «Гізэлавіч»...

Тым, каго выхавалі на «прынцыпах дэмакратычнага цэнтралізму» (як аўтара, напрыклад), вельмі цяжка зразумець сутнасць таго, як пабудаваны нямецкія чарнобыльскія ініцыятывы. Калі быць вельмі сціслым, то галоўнае ў тым, што там няма начальнікаў над іншымі, то бок, усе роўныя паміж сабой. Ніхто нікім не намагаецца «кіраваць». Так бы мовіць, сувязі ў іх не вертыкальныя, а гарызантальныя.

І таму можна толькі ўявіць, колькі раз немцы смяяліся, калі Лукашэнка ўзнагародзіў былую жонку нямецкага канцлера Шродара медалём і прызначыў «галоўнай па ўсіх чарнобыльскіх пытаннях». Пры ўсёй павазе да гучнасці гэтага прозвішча, падобная рэч у Германіі немагчыма па вызначэнні.



**Клер Мэш**

**Клер Мэш** была спікерам мерапрыемства, на якое мы ехалі з Берліна. Прысвечана яно было так званым «тэхнічным момантам». Перш за ўсё, трансферу чарнобыльскіх дзяцей у гэты рэгіён.

Справа ў тым, што амаль ад самага пачатку дзейнасці чарнобыльскіх ініцыятыў Мюнстэра стала зразумела, што сумесна значна прасцей, а галоўнае, танней, чым паасобку.

У 1987 годзе Вернер Ліндэман і Буркхарт Хамаер стварылі ў Мюнстэры інфармацыйны цэнтр «Чарнобыль». Зроблена гэта было для таго, каб інфармаваць аб праблемах Чарнобыля. Людзі рэгулярна збіраліся, слухалі адпаведныя даклады, стваралі новыя ініцыятывы для таго, каб дапамагаць чарнобыльскім рэгіёнам.

Вакол інфармацыйнага цэнтра было створана больш тузіна арганізацый. Спачатку яны ўдзельнічалі ў праграмах аздараўлення дзяцей, а потым і ў ін-

шых праектах фонду «Дзецям Чарнобыля». Значная частка з іх (9--12 структур) працуе і сёння.

На дадзены момант Клер Мэш гэты інфацэнтр узначальвае.

Некалькі слоў пра сам Мюнстэр. Гісторыя аднаго з самых старажытных гарадоў поўначы Германіі налічвае 1200 гадоў. Назва паходзіць ад лацінскага слова «monasterium», што азначае «манастыр», які ў 793 годзе загадаў тут пабудаваць Карл Вялікі.

Сёння ў Мюнстэры жывуць каля трохсот тысяч чалавек. Адметная рыса — вялікая колькасць ровараў, якая тлумачыцца здаровым ладам жыцця і мноствам студэнтаў. А яшчэ тут амаль увесь год ідуць дажджы.

У мясцовых на гэты конт ёсць нават прымаўка: «У Мюнстэры альбо ідзе дождж, альбо звоняць званы. Калі адначасова, то гэта — нядзеля».

Ініцыятыва, дзе непасрэдна працуе сама Клер, — адна з самых маленькіх у акрузе. У іх вёсцы жыве ўсяго дзве тысячы чалавек, таму яны прымаюць толькі па 14--16 беларускіх дзяцей. Калі ўлічыць, што гэта адбываецца з 1994 года, то лічба атрымаецца зусім не малая. Як і памеры вёскі, дарэчы. Тое, што ў немцаў лічыцца вельмі маленькім, у нас было ледзь не ўзорам для аграгарадкоў...

Клер пачала выступаць супраць атамнай энергетыкі яшчэ ў школе; у студэнцкія гады гэта было працягнута, а потым яна захапілася чарнобыльскай праблематыкай.

Падобная біяграфія ў і яе паплечніцы **Ханелорэ Шульц** з геаграфічна блізкага да Мюнстэра невялікага гарадка (34 тысячы жыхароў) Косфельда.

Дзеці, якія прыязджаюць туды з Беларусі, два дні (субота, нядзеля) жывуць у нямецкіх сем'ях, а астатні час — усе разам у адукацыйным цэнтры пры школе.

З 1992 года на чатыры тыдні да іх прыязджаюць 35--40 чарнобыльскіх дзяцей і 8 суправаджаючых-перакладчыкаў-выхавальнікаў. Каб лепш разумець тых, хто аздараўляецца ў Косфельдзе і лепш ведаць умовы, у якіх дзеці



**Ханелорэ Шульц**

жывуць у Беларусі, тут, пачынаючы з 1994 года, ажыццяўляюць вельмі цікавую практыку. Адзін год у пасёлак Свенск (Слаўгарадскі раён Магілёўскай вобласці) едуць «нямецкія бацькі», адзін — беларускія і моладзь, то бок, тыя, хто быў у Германіі раней (у дадатак да звычайнай праграмы).

Ханелорэ Шульц, напрыклад, пабывала ў Беларусі дванаццаць разоў.

Акрамя аздараўлення дзяцей, ініцыятыва з Косфельда займаецца падрыхтоўкай і адпраўкай гуманітарных грузаў, першы з якіх прыехаў у Свенск у 1992 годзе. У гэты ж час ініцыятыва пачала ладзіць для рэгіёна інфармацыйныя мерапрыемствы і выставы, дзе яе ўдзельнікі расказвалі пра сваю дзейнасць, чарнобыльскую катастрофу, жыццё Беларусі. А таксама пачала каардынаваць усю трансферную работу.

Зразумела, у працэсе супрацоўніцтва кантакты і сувязі пашыраліся. Хутка да работы не самай вялікай ініцыятывы далучыліся каля 160 нямецкіх сем'яў, якія ў сваю чаргу маюць добрыя кантакты з 250 беларускімі сем'ямі.

Ад 2007 года колькасць запрашэнняў, якія афармляліся ў Косфельдзе, дасягнула каля трохсот гасцей з Беларусі, аднак галоўнае не толькі гэта. На мой погляд, самае важнае ў тым, што ў маленькім Свенску здолелі зламаць стаўленне беларусаў да немцаў, якія дагэтуль цалкам складаліся з уражанняў ад Другой сусветнай вайны.

Свенскія пенсіянеры так і казалі: «Калі б нехта сказаў, што першыя падарункі і замежную дапамогу мы будзем атрымліваць менавіта ад немцаў, не паверылі б».


**Яніс Бекер**

**Яніс Бекер** — з «рускіх немцаў». Як і яго сяброўка **Ізабель Бекер**. Спачатку, як і многія, я падумаў, што яны брат і сястра. Аказалася — адно прозвішча. Яніс нарадзіўся ў Сібіры, «карані» Ізабель у Казахстане. Яму 19 год, ёй — 18. Абое тры гады таму прачыталі ў газеце аб прапанове прымаць чарнобыльскіх дзяцей, параіліся з бацькамі і сёння, напэўна, з'яўляюцца самымі маладымі сярод тых, хто ў Германіі займаецца чарнобыльскай праблематыкай.

Восенню 2015 года Яніс напісаў Ірыне Грушавой ліст, дзе падзякаваў за магчымасць прымаць беларускіх

дзяцей, двое з якіх сталі для яго не толькі сябрамі, але і братамі.

Некаторы час таму Яніс з сябрамі адкрыў старонку на Фэйсбуку — «Дзецям Чарнобыля», ініцыятыва Ібэнбюрэн».

Як кажуць, новае пакаленне — новыя формы зносін.

Ініцыятыва горада Ібэнбюрэн (каля 50 тысяч жыхароў) была створана ў 1992 годзе мужам і жонкай Шэфер. У той час яны пабывалі ў Мінску і наведалі школу, дзе працуе сябра «Дзецям Чарнобыля» Андрэй Ціхаміраў. Ён і пазнаёміў іх з фондам.



**Ізабель Бекер**

Так жыхары горада Ібэнбюрэн даведаліся пра праблему чарнобыльскіх дзяцей і пачалі прымаць іх у сябе на аздараўленне.

Доўгі час Шэферы вельмі вынікова і эфектыўна кіравалі ініцыятывай. Евангелічны пастар іх парафіі **Райнхард Паўль** ад самага пачатку шчыра яе падтрымліваў і маральна апякаў. Калі ў 2000-м годзе ён выйшаў на пенсію, то думаў крыху адысці ад чарнобыльскіх спраў, аднак не атрымалася. Хайдрун і Эрхарт Шэфер нечакана памерлі.

Паўстала пытанне — што рабіць далей? Закрыцца альбо працягваць дзейнасць? Вырашылі не спыняцца. Кіраўніком абралі Вальтэра Хёльніша, а былы пастар Райнхард Паўль застаўся яго паплечнікам.

Пазней Вальтэр Хёльніш прапанаваў зрабіць «змену пакаленняў» і звярнуўся па дапамогу да Рыты Эхтэрхоф і Райнера Яндзінга.



**Райнхард Паўль**


Рыта Эхтэрхоф

Так ініцыятыва перайшла на калектыўную форму кіраўніцтва.

**Рыта Эхтэрхоф** лічыць сябе як бы прадстаўніком трэцяй хвалі гэтай ініцыятывы, а калі ўлічыць, што нядаўна да іх далучыліся «рускія немцы» — Яніс, Ізабель Бекер і іх аднадумцы — то неўзабаве трэба чакаць і чацвёртае пакаленне кіраўнікоў.

Дарэчы, чарнобыльскія дзеці зрабілі больш шчыльнымі кантакты немцаў-перасяленцаў і карэнных жыхароў.

**Грэгар Мёлер-Рэмтс** і яго сябар **Людвіг Врэсман** прыехалі ў Мюнстэр з адносна далёкага (200 км) Клопенбурга, дзе жыве Грэгар. То бок, з зямлі Ніжняя Саксонія ў зямлю Паўночны Рэйн-Вестфалія. Прычына — цікавасць да чарнобыльскай тэматыкі і зноў-такі — каардынацыя працы.

Яно і зразумела. Калі ініцыятыва, напрыклад, запрашае да дваццаці дзяцей, то аплаціць увесь аўтобус бывае амаль немагчыма. Іншая справа — «у складчыну».

Па маёй просьбе Грэгар узгадаў, як у 1991 годзе яны прынялі на аздараўленне першую групу беларускіх дзяцей (10 чалавек з Рэчыцы). Хаця «халод-


Грэгар Мёлер-Рэмтс (злева) і Людвіг Врэсман

ная вайна» фармальна скончылася ў 1989 годзе, дзяцей з Беларусі бацькі строга папярэдзілі: не кантактаваць у Германіі з любымі вайскоўцамі. Аднак у рэальнасці гэта аказалася не толькі абсалютна непатрэбным, але і цалкам немагчымым. Пачалося ўсё з таго, што дзяцей везлі ваенным самалётам, які прызямліўся на ваеннай базе.

Потым шокам стала незнаёмая савецкім ваенным вольніца. Нямецкія салдаты свабодна мелі зносіны з «цывільнымі», на выходныя ездзілі дадому адпачываць і цалкам не адпавядалі створаным савецкай прапагандай стэрэатыпам і міфам. Словам, не былі «монстрамі колеру хакі», а лад іх жыцця зусім не нагадваў муштру.

У новым стагоддзі Грэгар Мёлер-Рэмтс саступіў месца кіраўніка іх ініцыятывы Людвігу Врэсману, які і працягнуў расказ пра паездку 1991 года.

У 2001 годзе немцы запрасілі менавіта тых, хто прыязджаў да іх дзесяць год таму. І былі прыемна здзіўленыя, што на запрашэнне адгукнуліся літаральна ўсе. І яшчэ больш ўзрадаваліся, калі даведаліся пра думкі і лёсы тых, каго прымалі дзесяць год таму. Уразіла іх таксама, што многія з беларускіх дзяцей распавядалі пра сябе на нямецкай мове.

Гэта вельмі красамоўна сведчыла аб тым, што шлях дапамогі чарнобыльскім дзецям, які абралі немцы, не быў тупіковым, а іх дзейнасць была недарэмнай. Да таго ж, для іх стала вельмі кранальным, што беларусы ўжо шмат год давяраюць сваіх малых дзяцей абсалютна незнаёмым людзям.

Канешне, аповед пра тое, што мне расказвалі ўдзельнікі ўзгаданага паседжання, можна працягваць яшчэ доўга, бо ў ім бралі ўдзел два дзясяткі чалавек, — аднак абмяжуемся яшчэ адной дэталлю.

Ініцыятыву, якая па сёння працуе ў Дэтмальдзе, стварыла адна з заснавальніц чарнобыльскага руху Германіі Эва Бальке. Пасля таго як яна смяротна захварэла і ў 2006 годзе памерла, ініцыятыву ўзначаліла **Пэтра Шторы**г. Працуюць яны з Мазыром і ўжо неаднаразова хацелі прыпыніць сваю дзейнасць, аднак, як і ў іншых, не атрымліваецца.



**Пэтра Шторыг**

Надта шмат пазітыўных эмоцый выклікае ў людзей гэта работа. Надта шмат добрых пачуццяў.

# Жанчына з добрымі вачамі

Падчас размоў з Карлай Бенеш я пазбавіўся адразу двух савецкіх стэрэатыпаў: нібыта ўсе немцы — няветлівыя «сухары» і быццам на капіталістычным Захадзе жывуць выключна прагматыкі. Другі стэрэатып можна лічыць лагічнай глебай для трэцяга.

І звязаны ён менавіта з Чарнобылем. У гэтай кнізе не аднойчы распавядалася пра міфы наконт аздараўлення беларускіх дзяцей за мяжой. Усе яны з часам гублялі актуальнасць. Акрамя аднаго — замежнікам матэрыяльна выгадна прымаць нашых дзяцей, бо ад гэтага яны маюць пэўныя падатковыя льготы.



Карла Бенеш пачынае

Жывучасць гэтай лухты тлумачыцца светапоглядам савецкіх і постсавецкіх людзей, якія не могуць зразумець, што нешта ў гэтым свеце робіцца за «проста так». Адсюль і плёткі адносна «багаццяў» кіраўнікоў фонду «Дзецям Чарнобыля», і спробы ўзяць замежную дабрачыннасць у двукоссе.

Ірына Грушавая расказвала пра тое, як адну з дзіцячых груп за мяжу суправаджала знакамітая тэлевядоўца Элеанора Язерская, якой, на жаль, сёння з намі ўжо няма. Убачыўшы на свае вочы аскетычныя ўмовы, у якіх ажыццяўляецца дабрачынная дзейнасць, па вяртанні дамоў яна рэзюмавала, што, калі яшчэ раз пачуе пра «багацці Грушавых», выкажа ўсё, што на гэты конт думае.

Мне таксама хочацца выказацца, але каб гэта не былі словы, якія ў прыстойных тэкстах абазначаюцца шматкроп'ем, абмяжуюся расказамі Карлы Бенеш, яе мужа Юргена і іх сяброў Урсулы і Петэра Ліпертаў.

Пачалося ўсё з дзейнасці створанага ў Мюнстэры Вернерам Ліндэманам і Бурхартам Хамаерам інфармацыйнага цэнтра «Чарнобыль».

Падчас аднаго з першых прыездаў у Мінск евангелічнага пастара Вернера Ліндэмана да гэтага неардынарнага чалавека звярнулася беларуская жанчына з просьбай выратаваць яе хворага сына. Ліндэман расказаў пра гэта знаёмаму евангелічнаму пастару Петэру Ліперту, той — сваёй жонцы Урсуле, якая, у сваю чаргу, падзялілася інфармацыяй з сяброўкай Карлай Бенеш. Так ланцужок дабрыні ператварыўся ў новую ініцыятыву.

Бенешы і Ліперты вырашылі прымаць не проста чарнобыльскіх дзяцей, а дзяцей ХВОРЫХ, што значна цяжэй і складаней. Пагадзіцеся: больш пераканаўчы аргумент наконт шкоднасці для людзей атамнай энергіі і прыдумаць цяжка... Першым стаў менавіта той хлопчык, чыя маці звярнулася да Вернера Ліндэмана.

А зараз — для тых, хто верыць у міф пра нейкія «падатковыя льготы»...

Матэрыяльны складнік — вельмі важная частка чалавечага жыцця, аднак, не самая галоўная. Пра ўзровень прафесійнасці мюнстэрскіх дактароў шмат казаць не трэба: дастаткова ўзгадаць, што менавіта да іх звярнуўся Міхаіл Гарбачоў, калі смяротна захварэла яго жонка.

Дарэчы, прафесар Шэлонг, які лячыў Раісу Максімаўну Гарбачову, чарнобыльскімі дзецьмі займаўся толькі асабіста. Больш за тое, каб лепш разумець сваіх маленькіх пацыентаў, ён пачаў вывучаць рускую мову.

Зразумела, паслугі спецыяліста такога ўзроўню клініка ацэньвала надзвычай дорага; ад прафесара Шэлонга гэта абсалютна не залежала. Як кажуць, «бізнес ёсць бізнес». Сам жа доктар працаваў бясплатна.

Пастар Ліндэман, канешне, шукаў варыянты зніжэння коштаў і збіраў ахвяраванні, аднак гэтага было яўна недастаткова, каб аплаціць клініку. Сума запазычанасці дасягнула мільёна марак (еўра тады не было), і толькі ўмяшанне нямецкай дзяржавы дазволіла працягнуць работу з чарнобыльскімі дзецьмі.

Федэральны ўрад узяў выдаткі на сябе.

Дарэчы, у гэтую суму не ўваходзілі асабістыя ганарары нямецкіх медыкаў, бо іх не было. Усе, хто меў дачыненне да лячэння чарнобыльскіх дзяцей, рабілі сваю працу без пэўных матэрыяльных выгодаў.

Грошы плаціліся толькі клінікам.

Звычайна і клінікі рабілі вялікія зніжкі, аднак цалкам адмовіцца ад грошай яны не маглі, бо камерцыйным установам, як кажуць, «трэба жыць».

Гэта да таго, што размовы пра пэўныя прэферэнцыі і выгоды для немцаў, што дапамагалі чарнобыльскім дзецям, — не больш, чым прапагандысцкія вуткі. Ніхто нікому нічога не дае. Больш за тое, немцы з асабістых кішэняў плацілі і цяпер плацяць, каб дапамагаць беларускім дзецям.

Як са сваіх асабістых, так і з дзяржаўных, што, па вялікім рахунку, адно і тое ж.

Каб дапамагчы тым нямецкім сем'ям, якія прымаюць маленькіх ахвяр радыяцыі, урад зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія вырашыў даплач-



**Юрген Бенеш**



**Карла Бенеш**



**Петэр Ліперт**



**Урсула Ліперт**

ваць ім пэўныя грошы са свайго бюджэту, то бок, са сродкаў падаткаплацельшчыкаў, бо ў Германіі (у адрозненне ад Беларусі) з дзяржаўнымі (і не толькі) сродкамі ўсё абсалютна празрыста. І там няма нейкіх таемных «прэзідэнцкіх фондаў»...

Выдзяляючы грошы ў якасці дапамогі, нямецкія ўлады зрабілі магчымым тое, што чарнобыльская работа не спынялася цэлых пяць год.

На жаль, часам гэткай дабрыні бывае недастаткова...

Калі ў 1991 годзе немцы рыхтаваліся прыняць першую групу хворых чарнобыльскіх дзяцей, Карла Бенеш звярнулася па кансультацыю да доктара Ланга з Косвальда, які на той момант ужо быў актыўна заангажаваны ў чарнобыльскую праблематыку. Калі ён глянуў на спіс анамнезаў (гісторый хваробаў), то адразу пабляднеў. Карла падумала, што ён дрэнна сябе адчувае і прапанавала прыехаць іншым разам. Аказалася, прычына ў іншым. Доктар Ланг сказаў, што некалькі месяцаў гэтыя дзеці не пражывуць.

Так яно і атрымалася. Усе дзесяць дзяцей, якіх першапачаткова запрасілі ў Мюнстэр, памерлі. На аздараўленне паехалі дзесяць іншых...

Для доктара Ланга гэта не было першым знаёмствам з чарнобыльскімі дзецьмі.

Годам раней, дзякуючы дабрачыннаму фонду «Дзецям Чарнобыля», ён быў у Беларусі. У анкалагічным цэнтры ў Бараўлянах здолеў навучыць нямецкім методыкам лячэння і догляду хворых дзяцей беларускіх спецыялістаў і персанал. За час, калі гэта яшчэ дазвалялася, доктар Ланг і яго калегі з іншых федэральных зямель, дзякуючы арганізацыйным памкненням фонду «Дзецям Чарнобыля», паспелі адпаведным чынам падрыхтаваць каля шасцісот чалавек. А самае галоўнае — абмеркаваць з беларускімі ўрачамі новыя методыкі лячэння анкалагічных хворых.

Падчас дзейнасці чарнобыльскай ініцыятывы Карлы Бенеш, Урсулы Ліперт і іх калегаў у Мюнстэры пастаянна лячыліся сорак тры дзіцяці з Беларусі. Сярод іх быў Саша з Гомеля. У яго пад каленкам была з-за раку пухліна коснага мозга, і беларускія медыкі прапанавалі тэрміновую ампутацыю нагі. Маці хлопчыка Валянціна катэгарычна з гэтым не пагадзілася, і сям'я звярнулася па дапамогу да чарнобыльскай ініцыятывы Мюнстэра, дакладней — да Вернера Ліндэмана.

Ён ахвотна пайшоў насустрач і атрымаў для Сашы месца ва ўніверсітэцкай клініцы. Дактары прапанавалі перасадку невялікага кавалка косці; трэба было чакаць, калі нехта пагодзіцца ахвяраваць гэты кавалак.

Прачакаць можна было вельмі доўга, і перад немцамі паўстала пытанне, дзе пакутнікі з Беларусі будуць увесь гэты час жыць. Донара чакалі паўгода,

яшчэ паўгода ажыццяўлялася рэабілітацыя. Такім чынам, 14-гадовы Саша з мамай Валянцінай жылі ў нямецкіх сем'ях. Пераважна — у суседкі Карлы Бенеш спадарыні Бусман.

У рэшце рэшт, нагу хлопчыку выратавалі.

Вяртацца ў радыяцыйны Гомель Валянціна не захацела прынцыпова. З гэтай нагоды змагалася, як ільвіца, і вынік быў станоўчым. Як інваліду-чарнобыльцу Сашу далі кватэру ў мінскай Малінаўцы, і сям'я пераехала ў сталіцу.

Цікава, што ў гэты ж час недалёка ад Малінаўкі пачыналася будаўніцтва ІВВ — Мінскага Міжнароднага адукацыйнага цэнтра імя Ёханеса Рау. Карла Бенеш асабіста прысутнічала на ўрачыстым мерапрыемстве з гэтай нагоды. Лагічна працягнуць аповед далей менавіта яе ўспамінамі, але перад гэтым будзе мэтазгодным зноў нагадаць пра яшчэ адзін стэрэатып мясцовага ўспрымання немцаў, як тых, хто падчас вайны прынёс нам вельмі шмат гора. Чарнобыльскія дзеці, калі казаць вобразна, здолелі яго зламаць.

Менавіта пра гэта і будзе ўспамін Карлы Бенеш.

*«Пра тое, што немцы пачынаюць будаваць ІВВ, людзі, якія жывуць у суседніх шматпавярховых дамах, нічога не ведалі. Таму, калі яны ўбачылі праз вокны, што на пустыры сабраліся нейкія невядомыя, пачалі выходзіць, каб даведацца, што адбываецца, але трымаліся на пэўнай адлегласці. А калі праваслаўны святар пачаў асвячаць першыя камяні фундамента, адважыліся падысці бліжэй.*

*Сярод іх была адна пажылая жанчына (напэўна, бабуля) з малым дзіцем на руках. У мяне за плячыма быў пляцак. Нехта падарыў драўляную ляльку, і я прычапіла яе да свайго заплечніка.*

*Дзіця пачало гуляцца з гэтай лялькай і гучна смяяцца. Яго бабуля моцна раззлавалася і адышла ў бок.*

*Калі ўрачыстасці скончыліся, мне захацелася ўсталяваць з ёй кантакт і высветліць, чаму яна так зрабіла. Жанчына патлумачыла: падчас вайны ў яе ўсе загінулі. А я ёй адказала: мой бацька таксама загінуў. Тады жанчына мяне абняла і са слязамі сказала: «Мір!» Я таксама заплакала.*

*Тая сустрэча запомнілася мне на ўсё жыццё.*

*Вельмі важна, каб людзі кантактавалі паміж сабой. Для нас тады прымірэнне адбылося праз тое маленькае дзіця. А для многіх немцаў яно адбылося праз дзяцей Чарнобыля».*

Дарэчы, падчас прыезду ў Германію чарнобыльскіх дзяцей сумныя ноты гучалі далёка не заўсёды. Бывала і тое, што можа выклікаць усмешку. На-

прыклад, Карла Бенеш расказвала, як першых чарнобыльскіх дзяцей вельмі засмучала тое, што ў яе на гародзе не пасаджана бульба...

Гэта цяпер некаторыя лецішчы і ў Беларусі выкарыстоўваюцца для адпачынку, а тады нічога падобнага не было і блізка...

Напэўна, калі нехта будзе ўважліва разглядаць фотаздымкі, паміж якімі — амаль чвэрць стагоддзя, ён знойдзе там шмат адрозненняў, але адно будзе на іх нязменным — вочы Карлы Бенеш.

Яны — ДОБРЫЯ!

# Мара Рудольфа Дзюбера

Калі нехта зараз узгадаў вядомае «I have a dream», то гэта да месца, толькі, у адрозненне ад знакамітага прапаведніка Марціна Лютэра Кінга, які марыў аб роўнасці ўсіх людзей, у Рудольфа Дзюбера, які таксама займаецца рэлігійнымі справамі, мара менш маштабная і пафасная. Ён марыць пра тое, каб нямецкая і беларуская моладзь заўсёды свабодна кантактавала паміж сабой.

**Рудольф Дзюбер**



Уяўляю, як шмат людзей зараз заўважыла, што гэта «прасцей простага». Маўляў, было б жаданне. Але ж я думаю, што наяўнасць жадання зусім не азначае наяўнасць СВАБОДЫ.

...Напэўна, маленькі горад Бетцдорф ведаюць нават не ўсе тыя, хто знаёмы з геаграфіяй Германіі. Месціцца ён у гарах зямлі Рэйнланд-Пфальц, што на паўднёвым захадзе краіны. Жывуць у Бетцдорфе каля дзесяці тысяч чалавек; самі немцы называюць гэтую мясцовасць Заураландам.

Рудольф Дзюбер дзесяць год узначальвае прадстаўніцтва вядомай ва ўсім свеце каталіцкай арганізацыі «Карытас». Зразумела, што сам ён каталік і нават дыякан.

Аднак у іх прадстаўніцтве (куды ўваходзіць трыста чалавек) працуюць не толькі каталікі. Ёсць там і евангелісты, і нават мусульмане, якія (перш за ўсё) дапамагаюць наладжваць добрыя адносіны з бежанцамі. А працуе іх суполка адразу на два гарады — Бетцдорф і суседні Нойвід.

«Карытасу» Рудольф Дзюбер аддаў амаль 50 гадоў свайго жыцця. 1 чэрвеня 2016 года ён мае намер пакінуць пасаду выканаўчага дырэктара прадстаўніцтва, але працягваць работу, бо, на яго думку, не зможа без гэтага жыць. Да таго ж новы статус дазволіць больш часу прысвячаць іншай актыўнасці — чарнобыльскім справам.

Займацца імі ён пачаў 24 гады таму. Менавіта тады ў Рэйнланд-Пфальцы па ініцыятыве Беларускага дабрачыннага фонду «Дзецям Чарнобыля» з'явіліся праграмы дапамогі чарнобыльскім дзецям. Першая чарнобыльская група (семдзясят чалавек) прыехала туды ў 1993 годзе. Незвычайны энтузіязм, з якім простыя немцы тады сустракалі беларускіх дзяцей, падтрымліваўся некалькі год запар. Ад жадаючых бачыць у сваіх дамах чарнобыльскіх дзяцей літаральна не было адбою.

Яно і зразумела: чарнобыльская аварыя была свежай у людской памяці, у свядомасці пачало панаваць разуменне таго, што адбылося ў 1986 годзе.

Дарэчы, менавіта ў 1986 годзе ў сям'і Дзюбер нарадзілася дачка (ёсць у іх яшчэ і сын) Мірыям, але той час запомніўся Рудольфу не толькі па гэтай прычыне. Пасля аварыі на ЧАЭС сярод немцаў пачалася ледзь не паніка. Ніхто не мог толкам сказаць — ці можна выходзіць на вуліцу, што есці самім і чым карміць дзяцей? Людзі пачалі баяцца, задумвацца над тым, што раней рабілі аўтаматычна. Напрыклад, думаць: можна ўжываць садавіну-гародніну альбо не?

Гэта яшчэ не было нейкім глыбокім асэнсаваннем пагрозы атамнай энергетыкі. Усё тлумачылася значна прасцей — страх. Немцы адчулі — аварыя ў Чарнобылі дакранулася і да іх. Пачуццямі кіравала трывога. Менавіта таму беларуская бяда, вобразна кажучы, стала нямецкай.



**Рудольф Дзюбер і Генадзь Грушавы**

Адміністрацыйна Федэратыўная Рэспубліка Германія падзеленая на 16 федэральных зямель. Рэйнланд-Пфальц — адна з іх. Спачатку тут дзейнічала каля 100 чарнобыльскіх ініцыятыў. Праз дваццаць пяць год іх засталося дваццаць пяць, што незвычайна шмат.

Фонд «Дзецям Чарнобыля» адразу ж стаў партнёрам у працы Рудольфа Дзюбера. Дзякуючы яму, Дзюбер і яго аднадумцы ад першых крокаў пачалі дзейнічаць вельмі эфектыўна і прадуктыўна, без уласцівай шмат якім новым пачынанням «раскачкі». Аздараўленне беларускіх дзяцей у гэтай горнай мясцовасці вельмі хутка стала звычайнай з'явай. Варта акцэнтаваць увагу на тым, што ажыццяўлялася яно «пад дахам» «Карытаса» даволі ўмоўна. Калі ўсю работу Рудольфа Дзюбера палічыць за сто адсоткаў, то толькі адзін з іх прыпадзе на тое, што звязана з Чарнобылем. Гэта да таго, што вядзецца гэтая праца выключна на грамадскіх пачатках, то бок, як дабравольны дадатак да штодзённых абавязкаў.

Ёсць сэнс агучыць і яшчэ адно слова — бескарысліва.

Тыя, хто з'яўляецца шчырым прыхільнікам гэтай справы, працуюць на яе без заробкаў.

Аздараўленнем дзяцей, паўтаруся, яны займаюцца з 1993 года па наш дзень, а ў 1999 годзе пачалі апекавацца яшчэ і маладзёвымі праектамі, пра што не раз напісана ў гэтай кнізе і што, на мой погляд, стала адной з самых крэатыўных і лагічных ідэяў фонду «Дзецям Чарнобыля».

І своечасовай!

Выбачайце за банальнасць, але час, сапраўды, ляціць вельмі хутка. Дзеці, якія паехалі за мяжу па праграмах «Дзецям Чарнобыля», падраслі і сталі маладзёнамі, таму цалкам абгрунтавана, што яны зноў апынуліся ў фокусе ўвагі.

Больш за тое — ёсць надзея, што, калі прыйдзе час пераменаў, у Беларусі будуць людзі, якія ведаюць, як да іх ішлі іншыя краіны і якіх вынікаў яны дасягнулі.

Цікава, што ў Бетцдорфе апошнім часам назіраецца вельмі красамоўная тэндэнцыя — праца па аздараўленні дзяцей памяншаецца, а праца з моладдзю — наадварот. Дарэчы, так і ў іншых мясцовасцях.

Беларускія аднадумцы Рудольфа Дзюбера — моладзь з Быхава, Магілёва і Мінска. Чамусьці лічыцца, што гэта выключна студэнты, то бок, тыя, хто яшчэ вучыцца, — аднак стэрэатып у дадзеным выпадку адпавядае рэчаіснасці далёка не заўсёды.

У Бетцдорф з Беларусі прыязджаюць маладзёны розных прафесій і гэта не з'яўляецца вызначальным. Абавязковая ўмова — склад удзельнікаў праекта. Кожны раз ён павінен быць новым.

Акрамя гэтай умовы ёсць яшчэ адна — удзельнікі з Беларусі павіны «быць у тэме», то бок, на практыцы мець дачыненне да таго, што яны будуць абмяркоўваць падчас камунікацыі з нямецкімі сябрамі.

Правіла, на мой погляд, вельмі важнае, бо як абмяркоўваць праект, не ўяўляючы, чым ён будзе на практыцы?

Не будзе лішнім улічваць і палітычны чыннік. На жаль, ва ўмовах палітычнай сітуацыі, якая склалася на Беларусі, даволі цяжка рэалізаваць тое, што моладзі падаецца відавочным і мэтазгодным.

Рудольф Дзюбер гэта добра разумее і, у адрозненне ад многіх іншых замежнікаў, не баіцца агучваць.

*«Для мяне Чарнобыль — палітычная работа. Грамадства не аднароднае па сваёй сутнасці, у ім ёсць супрацьлеглыя плыні. Палітычны аспект павінен заўсёды дапаўняць гуманітарны. І Беларусь у гэтым сэнсе не выключэнне. Адкрыта альбо схавана, але ў вашай краіне ёсць людзі, якія выступаюць за ўладу, і тыя, хто супраць яе. Далёка не заўсёды такі падзел выліваецца ў нейкае публічнае супрацьстаянне, аднак гэта не азначае, што яго няма ўвогуле.*

*Перакананы, што важна паказваць не толькі наступствы, але і прычыны нейкай сацыяльнай з'явы. Пошук гэтых прычын, іх публічнае абмеркаванне — гэта і ёсць палітычная работа.*

*Мы нікому не прапануем гатовых рэцэптаў у выглядзе асабістага досведу, але імкнёмся да публічнага абмеркавання існуючых праблем, не хочам бачыць адно, не звяртаючы ўвагі на другое.*

*На мой погляд, той, хто дапамагае, не думаючы над тым, чаму патрэбна гэтая дапамога, — абслугоўвае сістэму, якая і параджае з'явы, прыдатныя для вонкавай дапамогі.*

*На жаль, такі падыход пануе далёка не заўсёды. У гэтым сэнсе я — «белая варона». Пераважную большасць складаюць тыя, хто аказвае дапамогу і не хоча больш нічым цікавіцца. Для іх галоўнае — адчуваць сябе добрымі самарыцянамі, якім дазволілі дапамагаць.*

*У мяне пазіцыя кардынальна іншая.*

*Прынцыпова лічу, што дапамагаць тым, хто трапіў у бяду, — і не задумвацца над тым, чаму гэта адбылося, не выкрываць прычыны бяды, — мякка кажучы, няправільна.*

*Калі не будзе прычын для нашай дапамогі, не будзе патрэбная і сама дапамога.*

*Мне падабаецца, як многія тлумачаць сутнасць міласэрнасці. Маўляў, нехта альбо нешта кранаецца чалавечага сэрца, і яно становіцца мільм. Калі чалавеку балюча ад таго, што пакутуюць іншыя, — гэта і ёсць міласэрнасць, але, калі дзяржава пачынае рабіць яе часткай сваёй ідэалогіі, то міласэрнасць ператвараецца ў нешта іншае.*

*Міласэрнасць і справядлівасць — два бакі аднаго медаля».*

У адрозненне ад некаторых сваіх калегаў, Рудольф Дзюбер быў у Беларусі толькі чатыры разы, хаця ангажаваны ў беларускую тэматыку больш за многіх. Тлумачыцца гэта вельмі проста: чарнобыльскімі праблемамі ён займаецца ў вольны ад асноўнай працы час і паездкі ў Беларусь можа ажыццявіць толькі за кошт свайго адпачынку.

А вось як ён азначае сваю матывацыю.

*«Я веру ў Бога, а дапамагаць тым, хто трапіў у бяду, — складнік любой рэлігіі. Дапамагаць жа іншым магчыма толькі тады, калі ты здольны «ачуняць» і знайсці аднадумцаў.*

*Калі я даведаўся, што ў Рэйнланд-Пфальц ствараюць праграму дапамогі тым, хто пацярпеў ад Чарнобыля, то адразу да яе далучыўся. Гэта быў прыўкрасны шанец зноў аб'яднаць немцаў, даць ім магчымасць праявіць салідарнасць, і цуд хутка адбыўся.*

*З часам сталі дадавацца і вельмі моцныя палітычныя матывы. Грушавых пачалі абвінавачваць у шкодзе беларускай дзяржаве, альбо ў нейкіх камер-*

*цыйных злачынствах. У гэтую хлусню асабліва ніхто не верыў, бо з самага пачатку было зразумела, што ў дадзеным выпадку гаворка вядзецца не пра «падатковыя парушэнні», а пра імкненне дзяржавы «зачысціць» моцны грамадзянскі рух...*

*«Палітычную падаплёку» я зразумеў адразу, і да хрысціянскіх каштоўнасцяў у маёй свядомасці дадаліся яшчэ пытанні пра правы чалавека, свабоду і дэмакратыю.*

*На мой погляд, раздзяляць палітычнае і сацыяльнае немагчыма ў прынцыпе. Чарнобыль не скончыўся. Ён працягваецца па наш дзень.*

*І палітычна, і гуманітарна».*

Да слоў Рудольфа Дзюбера можна дадаць, што ён быў далёка не адзіны, хто ўбачыў у «прэтэнзіях» Савета Бяспекі да Грушавых палітычную падаплёку. Ва ўсіх нямецкіх землях, дзе працавалі чарнобыльскія ініцыятывы, былі праведзены экстранныя сходы. Прымаліся адпаведныя рэзалюцыі. Простыя грамадзяне дасылалі факсы, пісалі лісты пратэсту да беларускіх уладаў. У адміністрацыю беларускага прэзідэнта тады прыйшло больш за 30 тысяч такіх лістоў, і ў тым, што пазней, «за адсутнасцю складу злачынства» крымінальная справа была скасаваная, на мой погляд, адыграў ролю і гэты складнік.

...Дзверы яго працоўнага кабінета ўпрыгожвае вельмі дасціпны надпіс: «Скаргі больш не прымаюцца». Гэты надпіс выклікае не толькі ўсмешку. Рудольф Дзюбер, сапраўды, вельмі апантана працуе і не прымае ні сваіх, ні чужых скаргаў. Няма часу.

А яшчэ ён марыць. Марыць пра СВАБОДУ. Свабоду, якая нас яднае.

# Дзецi нашай планеты

Прозвішча ў яе крыху «іншапланетнае» — Элізабэт Марс. Але яе ні ў якім разе нельга назваць марсіянкай. Наадварот — яна шчырая прыхільніца планеты Зямля, і нават складае да яе лісты.

Гутарка пра кнігу «Звернемся да свету», якая была зроблена ўдзельнікамі аднаго з праектаў, што ўжо больш за чвэрць стагоддзя ладзіць Элізабэт. Сутнасць іх у тым, што валанцёры (з большага, маладыя немцы) працяглы час (звычайна, год) жывуць у розных краінах свету.

Спадарыня Марс кожнаму з іх раздавала аднаразовыя фотаапараты на 27 кадраў (такія ўжо не выпускаюць) і прасіла зафіксаваць 24 гадзіны іх жыцця.



**Элізабет Марс**

Потым інтэрв'юіравала аўтараў фотаздымкаў і складала так званыя «Візуальныя дзённікі» — атрымлівалася своеасаблівая (і вельмі арыгінальная) карціна ўсяго свету, бо нямецкія валанцёры працуюць на ўсіх кантынентах, акрамя тых, дзе вельмі зімна і людзі жывуць толькі на адмысловых станцыях.

У розныя гады колькасць удзельнікаў праектаў была рознай — ад некалькі сотняў да тысячы чалавек. Увогуле ж больш за дзесяць тысяч маладзёнаў былі валанцёрамі ў такіх праектах.

Элізабэт Марс потым складае «Візуальныя дзённікі» ў адзін тэкст. Менавіта «складае», бо пішуць іх маладзёны. Мюнстэр, дзе яна жыве вельмі даўно,

увогуле — месца для маладых. З трохсот тысяч жыхароў пяцьдзясят тысяч — студэнты; па гэтым паказчыку горад саступае толькі Мюнхену і Берліну.

*«У кнігах такога кшталту гутарка перш за ўсё ідзе пра змены ў свядомасці людзей, пасля якіх практычныя перамены адбываюцца як бы самі па сабе.*

*Калі мы глядзім на свет, кожны з нас малюе сваю карціну, з якіх потым атрымліваецца агульная мазаіка. Як узнікаюць гэтыя карцінкі — вельмі цікавы працэс, і я імкнуся даследаваць яго.*

*Ва ўяўленні кожнага з нас — агромністая колькасць карцінак. І тут узнікае пытанне — гэта рэальнасць альбо толькі твая ісціна?*

*Вельмі цікавае пытанне, на якое я намагаюся адказваць. У тым ліку і ў Беларусі».*

У Элізабэт Марс таксама вельмі цікавы лёс. У дзяцінстве яна захварэла на поліяміэліт і, пачынаючы з двухгадовага ўзросту, была інвалідам. Элізабэт не магла хадзіць, была прыкаваная да інваліднага вазка і марыла пабываць у розных краінах. Яна прачытала ўсе кнігі, якія былі вакол, і ў адной з іх ёй на вочы трапіла слова «Уагадугу». Гэта сталіца Буркіна-Фасо, дзяржавы на захадзе Афрыкі, якая раней была французскай калоніяй і называлася Верхняй Вольтай. Ніхто гэтага слова не ведаў — ні бацькі Элізабэт, ні школьныя настаўнікі.

Потым яно трапіла на вочы яшчэ раз, і Элізабэт паклялася сабе абавязкова туды з'ездзіць. Аднак спачатку трэба было навучыцца нармальна хадзіць. З цягам часу так і адбылося, і ў 26 год дзяўчына здзейсніла сваю дзіцячую мару.

Пасля Буркіна-Фасо былі Зімбабвэ, дзе яна выкладала тэорыю расізму, Нікарагуа, дзе пабывала за некалькі год чатыры разы і распрацавала канцэпт выхавальніцкай універсітэцкай работы, Паўднёва-Афрыканская рэспубліка і шмат іншых краін. А зараз у Элізабэт новае захапленне — Індыя.

У 24 гады Элізабэт Марс зацяжарала. Дактары, якія на той час працягвалі яе лячэнне (тры вядомыя прафесары-артапеды), у адзін голас сказалі, што нарадзіць натуральным шляхам яна не зможа. Больш за тое, урачы былі ўпэўненыя, што цела жанчыны не зможа вытрымаць нагрузак ад пастаяннага вертыкальнага становішча, і прапанавалі на дзве--тры гадзіны ў дзень сядаць у інвалідны вазок.

Сказалі таксама, што, калі роды ўсё ж адбудуцца, то ў сорак год Элізабэт прыйдзецца перасесці ў вазок на «пастаяннай аснове», то бок, да скону жыцця.

Такая перспектыва не вельмі радавала маладую жанчыну. Са слязамі на вачах яна заявіла, што для таго, каб нарадзіць дзіця, яна навучыцца хадзіць «як усе», бо раней для гэтага яна выкарыстоўвала розныя прылады, накшталт артапедычнага абутку і спецыяльных шын.

Дактары паставіліся скептычна і адказалі, што пасля поліяміэліту, калі ў чалавека атрафіравана палова цела, такое немагчыма ў прынцыпе.

Элізабэт Марс вырашыла зрабіць выклік афіцыйнай медыцыне. Літаральна на наступны дзень яна аднесла шаўцу, які рабіў ёй спецабутак, усе свае чаравікі — і сказала: «Я гэтага больш насіць не буду. Можа яно прыдасца некаму іншаму?»

Майстар спытаў: «А як жа вы?» У адказ прагучала: «Я хачу бегаць, хачу купляць у звычайных крамах звычайны абутак». Гэта быў адзіны чалавек у свеце, які па-добраму ўсміхнуўся і сказаў Элізабэт: «Давайце!»

Элізабэт пакульгала ў бліжэйшую абутковую краму, дзе ўпершыню ў жыцці набыла пару звычайных туфляў. Дакладней, дзве пары, бо на адну нагу падыходзіў адзін памер, а на другую — іншы.

Потым яна паглядзела ў люстэрка і спытала ў сябе: «Ну, і што будзе далей?..»

Далей была ёга. Трыццаць год самадысцыпліны і зацятых, штодзённых трэніровак зрабілі з Элізабэт здаровага чалавека. І дапамаглі нарадзіць дваіх дзяцей.

Нядаўна першы канал нямецкага тэлебачання паказваў фільм пра ёгу, дзе галоўнай гераіняй была менавіта спадарыня Марс. І — дзіва. Абсалютна выпадкова яго ўбачыў той самы шавец, які тры дзесяцігоддзі таму сказаў ёй: «Давайце!» Мужчына знайшоў тэлефон. Яны сустрэліся і доўга па-добраму размаўлялі...

...Пра Беларусь і фонд «Дзецям Чарнобыля» Элізабэт Марс даведалася ад евангелічнага святара Буркхарта Хамаера, які быў пастарам у студэнтаў — удзельнікаў яе маладзёвых праектаў. Знаёмства з Ірынай Грушавой, расказ пра маладзёвыя праекты вельмі ўразіў Элізабэт.

Яна адразу ж вырашыла на некалькі тыдняў завітаць у Беларусь, правесці там трэнінгі па методыцы працы з моладдзю і зрабіць чарговыя «Візуальныя дзённікі». Напачатку так званых «нулявых» (у кастрычніку 2001 года) гэтая паездка адбылася. Адно з тагачасных мерапрыемстваў праходзіла ў беларускім міністэрстве адукацыі.

*«Я сядзела там пад партрэтам Леніна, і гэта было вельмі сімвалічна. Справа ў тым, што я ВЕЛЬМІ кароткі (хачу гэта прынцыпова падкрэсліць)*

*тэрмін свайго жыцця была перакананай прыхільніцай камунізму, бо лічыла — гэта менавіта тое, што зменіць свет да лепшага. На жаль, як і многія, памылялася...*

*Падчас вучобы я ўваходзіла ў студэнцкі гурток «Спартак». Па характары я такая, што калі нечым шчыра захаплюся, то заўсёды дабіваюся вельмі значных вынікаў. Так і тут. Я даволі хутка трапіла ў федэральнае кіраўніцтва (па ўсёй Заходняй Германіі) гэтай арганізацыі.*

*Разам з іншымі студэнтамі шмат разоў наведвала Усходнюю Германію, каб паглядзець, як «добра і шчасліва» там жывуць людзі. Зразумела, камуністычнаму кіраўніцтву ГДР гэта надзвычай падабалася, і мне зрабілі асобую візу. Памежнікі, калі яе бачылі, выцягваліся як струна. Ледзь не казыралі.*

*Ля цягніка, памятаю, мяне сустракаў асабіста генсек Сацыялістычнай адзінай партыі Германіі Эган Крэнц — апошні камуністычны кіраўнік неіснуючай зараз краіны.*

*Ён хацеў паказаць ГДР, як нейкую «пацёмкінскую вёску» — толькі тое, што добрае і блішчыць. Канешне, яму хацелася, каб нічога рэальнага я не ўбачыла, таму за мной увесь час уважліва сачылі «людзі ў цывільным».*

*Менш за год я, паўтаруся, усяму гэтаму верыла, аднак потым паміж убачаным і пачутым пачало ўзнікаць усё больш і больш супярэчнасцяў. Урэшце я сказала камунізму — не.*

*Як вядома, архівы «Штазі» цяпер сталі даступнымі, і вельмі хочацца паглядзець, што тады там пра мяне пісалі, але я да іх пакуль не дабралася.*

*З таго часу не ўступала ні ў якія палітычныя структуры; давяраю толькі ўласнаму мозгу, які мне падказаў займацца шматлікімі адукацыйнымі праграмамі. Потым стварыла сваю арганізацыю, якая займаецца распрацоўкай так званай глабальнай адукацыі.*

*Канешне, у Беларусі я была не толькі «пад Леніным». Мы правялі адукацыйны семінар для тых актывістаў фонду «Дзецям Чарнобыля», якія працуюць з моладдзю і жанчынамі, а таксама вельмі шмат дыскусій з супрацоўнікамі фонду, валанцёрамі, зрабілі 24 «Візуальныя дзённікі».*

*Па выніках той паездкі ў Нямеччыне была арганізавана вялікая выстава. Потым яе пераклалі на рускую мову і выстава паехала ў Беларусь, але там яе не дазволілі».*

Сёння Элізабэт Марс працуе над кнігай «Афрыканскія шляхі». Сутнасць кнігі ў тым, што дваццаць дзве (ахвотных было значна больш) маладыя валанцёркі з Германіі на працягу года жылі ў розных краінах Афрыкі (Кенія, На-

мібія, Малаві і г.д.) і пазнаёміліся з цікавымі лёсамі розных людзей, напісалі пра іх артыкулы. З гэтых артыкулаў і будзе складацца новая кніга Элізабэт. Яе галоўная мэта — праз апісаныя лёсы герояў змяніць наша ўяўленне аб «чорным кантыненце».

Па сутнасці, чвэрць стагоддзя таму фонд «Дзецям Чарнобыля» таксама зрабіў нешта падобнае — ва ўсім свеце парушыў існуючыя міфы, змяніў сталыя людскія ўяўленні.

# Сонечная сям'я

Калі на ўваходзе ў дом мяне сустрэла саламянае сонца, я адразу падумаў, што гэта вельмі сімвалічна, бо Ірына Грушавая не раз называла сям'ю Штоернагель — сонечнай. Аказалася, сонейка ім падаравала дзяўчынка з чарнобыльскай зоны, якая раней ездзіла на аздараўленне ў Люнебург. І калі Урсула Штоернагель наведвала Беларусь, тая дзяўчынка спецыяльна прывезла на сустрэчу з ёй саламянае сонца — у знак удзячнасці ад сваіх бацькоў.

**Урсула і Герт Штоернагель**





Праз дзве гадзіны размовы з Урсулай і Гертам Штоернагелямі я пераканаўся, што лепшай метафары для гэтай сям'і знайсці цяжка. Дастаткова паглядзець на іх агульнае фота.

У жыцці гэтых цудоўных людзей увогуле шмат агульнага. Урсула (далей будзе скарочанае Ушы — так яе называюць нават у Чарнобыльскай зоне) Штоернагель нарадзілася недалёка ад Гановера, у сям'і, дзе было пяцёра дзяцей.

Яе бацька быў эмацыйным, імпульсіўным чалавекам, а маці мела «матэматычны склад розуму», то бок, ва ўсім была надзвычай дакладная. Бацька служыў суперінтэндантам евангелічнай царквы. Сваім дзецям ён вельмі рана дапамог зразумець, што вера і жыццё — адно і тое ж.

Ён быў даволі вясёлым чалавекам, але вайна ўнесла сур'ёзныя карэктывы ў ягоны характар.

У дзень пачатку вайны паміж Гітлерам і Сталіным бацьку Ушы вельмі моцна параніла ў Брэсце. Тады ў нямецкім грамадстве панавалі, мякка кажучы, насцярожаныя адносіны да савецкіх людзей. Таму тое, што жыццё параненага выратаваў звычайны беларускі селянін, які данёс яго да вайсковага шпіталя, моцна парушыла ў ягоных вачах міф «варожага народа». Аказалася, людзі былі не такімі ўжо далёкімі адзін ад аднаго, як гэта сцвярджала афіцыйная прапаганда.

Так што цяпер сваёй дабрынёй Ушы Штоернагель у нейкім сэнсе аддзячвае за тое, што адбылося 22 чэрвеня 1941 года.

Брэсцкім лазарэтам вайна для яе бацькі скончылася. Раненне было настолькі сур'ёзным, што мужчыну звольнілі з войска падчас баявых дзеянняў.

У 1991 годзе ў Дортмундзе праходзіў чарговы евангелічны фестываль «Царкоўны дзень». Раней на ўсіх падобных святах Ушы нязменна хадзіла ў павільён, прысвечаны Савецкаму Саюзу. Так было і гэтым разам. Кампанію ёй склалі яшчэ 15 жанчын з парафіяльнага хору.

Каб усё было больш зразумела, трэба абавязкова дадаць, што муж Ушы Герт усё сваё жыццё (да выхаду на пенсію) працаваў пастарам, і ў справах парафіі Ушы яму заўжды дапамагала.



**Марына Цімафеева да аперацыі**



**Марына Цімафеева пасля аперацыі**

Па жыцці яна вельмі музычны чалавек. Адпаведная адукацыя дазваляла займацца ўсім, што датычыцца музыкі: рыхтаваць канфірмантаў, кіраваць харамі дарослых, моладзі, дзяцей, вучыць граць на розных музычных інструментах.

Дарэчы, у доме сям'і Штоернагель таксама ўвесь час гучалі казачныя гукі музыкі, якія зачароўвалі іх дзяцей з першых хвілін жыцця.

Напэўна, калі б Ушы жыла ў Савецкім Саюзе камуністычных часоў, ёй бы прысвоілі ганаровае званне «Маці-гераіня», бо добра выхаваць шасцярых дзяцей, вельмі складана.

Зразумела, што асноўны выхавальніцкі цяжар звычайна кладзецца на жаночыя плечы, аднак некаторых мужчын я б таксама ўзнагароджваў падобным медалём. І Герт Штоернагель, безумоўна, быў бы сярод іх.

Нарадзіўся ён на землях, якія цяпер уваходзяць у склад Польшчы, а тады былі германскімі. Пасля вайны яго бацькі пераехалі ў дом, дзе жывуць цяпер і дзе ў тыя часы жылі бабуля і дзядуля Герта. Потым быў горад Вольфсбург, дзе Герт пачаў вывучаць тэалогію.

Па яго глыбокім перакананні, Богу было заўгодна, каб на жыццёвым шляху яны сустрэліся з Ушы. Гэта было наканавана з нябёсаў.

Як і тое, што Герт стаў пастарам.

Аднак, вернемся на фэст у Дортмундзе. Менавіта там Ушы Штоернагель пачула жанчыну, якая расказвала пра чарнобыльскія пакуты Беларусі і дзейнасць фонду «Дзецям Чарнобыля». Гэта была Ірына Грушавая.

Цікава, што спачатку Ірыне Львоўне выдзелілі на выступ трыццаць хвілін, потым сказалі — дваццаць, а непасрэдна перад трыбунай тыя «ператварыліся» ў шэсць. Можна толькі ўявіць, якім эмацыйна-пераканаўчым быў выступ Грушавой. За кароткі час яна здолела літаральна «захапіць» увагу чатырох тысяч чалавек і, калі меркаваць па ўхваленні Васіля Быкава (пісьменнік быў у зале), атрымалася ў яе вельмі добра.

Дарэчы, не толькі яго ўразіў гэты выступ. Ушы Штоернагель была літаральна ўзрушаная.

*«У адным шэрагу са мной сядзелі жанчыны, якія разам з Грушавой прыехалі ў Германію. Можа быць, менавіта таму яе кранальны выступ і стаў іскрай, якая адразу запаліла ў сэрцы жаданне дапамагаць.*

*Калі твае шасцёра дзяцей маюць усё, і ты жывеш у прыўкрасных умовах у Германіі, хочацца падзяліцца часткай таго добрага, што ёсць у цябе і дапамагчы іншым. Альбо паспрабаваць хаця б знайсці шляхі да тых, у каго гэтага няма.*

*Усе, з кім я прыехала ў Дортмунд, думалі гэтаксама і таксама былі моцна ўражаныя.*

*Адразу пасля выступу мы знайшлі Ірыну і спыталі: што можам (і як) зрабіць? Там жа дамовіліся, што першая група беларускіх дзяцей (33 чалавекі) прыедзе ў наш горад ужо ў кастрычніку 1991-га.*

*Радавала, што ў залі прысутнічала Эва Бальке, чый адпаведны досвед быў агульнавядомы (у нас пакуль яго не было), што дазваляла ў любы час атрымаць ад яе кансультацыю альбо каштоўную параду.*

*Ніколі не думала, што з той маленькай дзіцячай групкі пачнецца справа, якая будзе працягвацца па наш дзень...*



**Урсула Штоернагель**

*Напачатку я насцярожвалася ад думкі, як гэта ўсё будуць успрымаць уласныя дзеці, як яны будуць ставіцца да таго, што іх маці не менш, чым імі, займаецца іншымі дзецьмі?*

*І памятаю, як мне было прыемна ўбачыць, што яны адразу пачалі ўспрымаць гэта ў якасці агульнасямейнай справы, свайго новага абавязку.*



**Герт Штоернагель**

*Мае дзеці пасябравалі са многімі чарнобыльскімі дзецьмі, з некаторымі перапісваюцца па наш дзень і нават крыху размаўляюць на вашай мове».*

Тая іскра запаліла сэрца не толькі Ушы. Не менш быў узрушаны яе муж, які ўбачыў у тым, што адбылося, Божую падзяку за тое, што сваіх шасцярых дзяцей яны выгадавалі лагоднымі і здаровымі.

Разам па жыцці Штоернагелі ідуць ужо больш за пяцьдзясят год. І палову з іх Ушы каардынуе ўсю чарнобыльскую працу ініцыятывы Люнебурга, а Герт актыўна ёй дапамагае.

Зараз Герт ужо на пенсіі, але аўтарытэт яго з часоў пастарства не стаў меншым.

Ініцыятыва пад кіраўніцтвам Ушы Штоернагель займаецца пераважна аздараўленнем беларускіх дзяцей. Дакладней (на дадзены момант), — дзяцей тых чарнобыльскіх дзяцей, якія пачалі ездзіць сюды яшчэ ад пачатку дзевяностых гадоў. За час работы (амаль чвэрць стагоддзя) у Люнебургу пабывала каля паўтары тысячы беларускіх дзетак.

Нямецкі горад Люнебург месціцца ў Ніжняй Саксоніі, недалёка (50 км) ад Гамбурга. Жыве там больш за семдзясят тысяч чалавек.

Натуральна, за час супрацоўніцтва з Беларуссю адбылося шмат чаго цікавага, але пра некалькі выпадкаў варта расказаць асобна.

Пры евангелічным прыходзе, дзе пастарам служыў Герт Штоернагель, шмат год актыўна дзейнічае хор, пра што ўжо пісалася вышэй. У самым пачатку супрацоўніцтва з Беларуссю было вырашана падрыхтаваць вялікую канцэртную праграму, а на атрыманыя ў якасці ахвяраванняў грошы арганізаваць у Мінску сустрэчу з чарнобыльскімі дзецьмі і іх бацькамі.

То бок, ахвяраваныя сродкі пайшлі на тое, каб аплаціць даволі вялікай колькасці «чарнобыльцаў» дарогу да Мінска, пражыванне ў гатэлі «Турыст», ежу, экскурсійную праграму і г.д.

Дзякуючы якаснай арганізацыйнай падтрымцы фонду «Дзецям Чарнобыля» сустрэча адбылася. Усю ноч гатэль нагадваў парушаны мурашнік, бо ў розных пакоях чарнобыльскія дзеці аб'ядналі сваіх бацькоў з іх нямецкімі візаві, а на наступны дзень знаёмства было працягнута ў актавай зале вялікім агульным канцэртам.

Больш за тое, потым адбылося цалкам неверагоднае. Хору нямецкай ЕВАНГЕЛІЧНАЙ царквы дазволілі праспяваць у галоўнай ПРАВАСЛАЎНАЙ царкве Мінска.

Збянтэжаныя вернікі нават пыталіся ў бацюшкі: «Гэта спяваюць нямецкія праваслаўныя?», а ён адказваў: «Гэта спяваюць хрысціяне!»

Праз некаторы час немцы пачалі самі ездзіць у тыя раёны, адкуль прымалі беларускіх дзяцей. У прыватнасці, у пасёлак Камарын, вёскі Верхнія і Ніжнія Жары Брагінскага раёна Гомельскай вобласці, ад якіх да месца аварыі на ЧАЭС усяго некалькі дзясяткаў кіламетраў.

Менавіта ў тых мясцінах з Ушы Штоернагель адбылася вельмі цікавая гісторыя. Дзяўчынка па імені Анжэла, акрамя таго, што пакутавала ад радыяцыі, яшчэ хварэла на эпілепсію. Лекаў, якія маглі б ёй дапамагчы, не было ні ў Беларусі, ні ў суседняй Украіне. Бацькі Анжэлы звярнуліся па дапамогу ў Германію.

Ушы набыла лекі. Самастойна на рэйсавым аўтобусе прыехала ў Гомель, а потым — у радыяцыйную вёску, дзе жыла хворая. Лекі былі перададзеныя, прыпадкі ў дзяўчынкі скончыліся. Ушы прыязджала з лекамі дзевяць (!!!) разоў запар, і хвароба адступіла.

Сёння Анжэле ўжо трыццаць год. Яна выхоўвае сваіх дзяцей, а яе старэйшы сын ужо пабываў у Люнебургу.

У сувязі з тым, што бацька той дзяўчынкі быў адным з буйных мясцовых начальнікаў, тут прыйдзецца да месца наступны расказ.

Не буду гадаць, хто канкрэтна гэта прыдумаў, хаця ўсім зразумелы адрас падобных правакацый; скажу толькі, што ў 1992-1993 гадах у замежнай прэсе з'явіліся публікацыі наконт таго, што за мяжу едуць толькі дзеці «партыйных бонзаў», а, калі і ёсць выключэнні, то ад гэткіх паездак ім няма карысці, бо «культурны шок» вельмі шкодны для дзіцячай псіхікі. Маўляў, нельга вывозіць дзяцей за межы Беларусі.

Такога кшталту артыкулы ў мінскі фонд «Дзецям Чарнобыля» пачалі дасылаць партнёры з Галандыі, Італіі, Германіі і Канады. Напісаныя яны былі рознымі аўтарамі і называліся, натуральна, па-рознаму, аднак сутнасць была адна і тая ж.

Стала зразумела, што нехта імкнуўся перашкодзіць справе, якая пачалася без дазволу ўладаў. Па-простаму гэта называецца «ні сам, ні людзям»...

Можна толькі ўявіць, колькі сіл і нерваў спатрэбілася, каб супрацьстаяць інсінуацыям і плёткам, — але фонду «Дзецям Чарнобыля» гэта ўдалося.

Ініцыятыва ў Люнебургу — адна з тых, хто паверыў сваёй практыцы, а не «ананімным меркаванням» і працягнуў супрацоўнічаць з фондам.

Праца гэта наладжаная з нямецкай скрупулёзнасцю і педантычнасцю.

Спачатку Ушы Штоернагель шукае нямецкія сем'і, якія маглі б прымаць беларускіх дзяцей. У горадзе гэта лічыцца гонарам, таму далёка не ўсім гэты гонар выпадае. Падобнае давяраюць толькі тым, у кім упэўненыя на сто адсоткаў.

Вядомы выпадак, калі бургамістр жадаў дапамагчы і па сваёй ініцыятыве надрукаваў у газеце аб'яву пра тое, што шукаюць яшчэ дзве сям'і. Жадаючыя знайшліся амаль імгненна, але большасці сябраў люнебургскай ініцыятывы яны прыйшліся не даспадобы — і ад іх паслуг адмовіліся.

Сур'ёзнасць, з якой немцы штогод рыхтуюцца да прыезду беларускіх дзяцей, папросту ўражвае. Кожная нямецкая сям'я, што прымае гасцей, павінна ведаць рацыён, хваробы, алергіі дзіцяці і г.д.

Усім раздаюцца самаробныя «размоўнікі», дзе напісаныя асноўныя фразы з перакладам з нямецкай мовы на нашу найбольш ужывальных сказаў і адпаведнай транскрыпцыяй.

Потым складаецца агульная праграма, бо, акрамя таго, што дзеці жывуць у нямецкіх сем'ях, яны кожны дзень збіраюцца разам, а два тыдні і ўвогуле адпачываюць на Паўночным моры.

Акрамя гэтага, усіх дзяцей абавязкова аглядае стаматолаг, а таксама ўрач, які замярае паказчыкі шчытападобнай залозы.

На жаль, апошнім часам назіраецца відавочны рост радыяцыйнай забруджанасці. Сярэднія паказчыкі аналізаў значна горшыя, чым былі раней.

Часткова гэта тлумачыцца генетычнай спадчыннасцю, але асноўную прычыну шмат хто бачыць у радыяцыйным пыле, які ўзнікае ад шматлікіх пажараў у зоне.

Беларуская прэса мінулым летам пра гэта нічога не пісала, акрамя таго, што гарыць толькі яе ўкраінская частка. На самой справе гэта было цынічнай хлуснёй, бо беларуская «зона» гарэла не менш, толькі расказваць пра гэта строга забаранялася...

Словам, усё, як 30 год таму, 26 красавіка 1986 года...

А зараз — пра яшчэ адзін цуд.

Як ужо было сказана вышэй, першая група беларускіх дзяцей прыехала ў Люнебург у 1991 годзе. У складзе яе была Ірына Цімафеева. Больш за тое, яна жыла менавіта ў сям'і Ушы і Герта Штоернагель.

Некалькі год пра яе нічога не было чуваць, аднак потым Ірына Цімафеева звярнулася па дапамогу да гэтай сям'і. Патэлефанавала і расказала, што яе дачка Марына з пухлінай мозга (рак) трапіла ў Бараўляны. Урач сказаў, што тымі сродкамі, якія ў іх ёсць, не можа ёй дапамагчы. Тэрмінова былі патрэбныя лекі для хіміятэрапіі, якія можна набыць (беларускага доктара за гэтую інфармацыю хутка «ушли») толькі на Захадзе.

І Ушы Штоернагель іх знайшла. І знаходзіла потым шмат разоў. Больш за тое, урачы неўзабаве дазволілі Марыне хадзіць у школу.

...На жаль, падобныя цуды адбываюцца далёка не заўсёды. І вінаваты ў трагедыях не толькі «злы рок». Асабліва агідна ад таго, што гэтым дзецям можна было дапамагчы, каб беларуская медыцына не была «лепшай у свеце», і мытнікі не канфіскоўвалі лекі прама на мяжы...

Каб у школе не вучылі, што Чарнобыль ужо скончыўся і «стаў гісторыяй»...

ГЛАВА IX

# ВАЛАНЦЁРЫ ФОНДУ

Зразумела, што любая арганізацыя складаецца
з канкрэтных асобаў. Людзі, якія прыйшлі ў фонд
«Дзецям Чарнобыля» — АСОБЫ!
І вялікія літары тут напісаныя
не толькі ў якасці камплімента.
Гэта канстатацыя факта.
Канстатацыя цудоўнай змены
маральных каштоўнасцяў і арыенціраў.
Жыццё для сябе стала жыццём для іншых.

# *Ирина Грушевая вспоминает...*

«В самом начале нашей работы возникла проблема: многие иностранцы желали из года в год приглашать в свои семьи одних и тех же детей. Дескать, они «не вокзал, чтобы видеть каждый раз новые лица».

Логика в таком подходе есть, и Геннадий её хорошо понимал. Но понимал и то, что эта логика нарушает не только основополагающие уставные задачи фонда, но и элементарные принципы социальной справедливости.

Представьте такую картину: из одной пострадавшей от радиации деревни десяток детей каждый год ездят на оздоровление за рубеж, а все остальные дети — нет.

Если сказать очень мягко, это неправильно.

Некоторые семьи, понимая проблему, просили присылать и уже побывавшего у них ребёнка, и вместе с ним нового. Так некоторые немецкие родители годы спустя рассказывали, что принимают каждое лето по девять детей из Беларуси!

Были инициативы, жёстко придерживающиеся принципа: каждый год — новый ребёнок, а повторно приезжающими детьми пусть занимаются в Минске.



**Слева направо: Юрий Панкрац, Геннадий Грушевой, Виктор Балакирев**

Инициатива из собранных пожертвований оплачивает только поездки новых детей.

На практике же даже в случаях такого сверхстрогого отбора случались курьёзы.

Например, один из наших заграничных партнёров — Вольф Юнг — принимал только шестиклассников. Зная это, некоторые школьники умышленно становились второгодниками, чтобы съездить к нему на оздоровление еще раз! Пришлось вводить правило, запрещающее оставшимся на второй год приезжать в Германию снова.

Фонд «Детям Чернобыля» был создан совсем не для того, чтобы со временем превратиться в подобие бюро путешествий. Ничем подобным заниматься мы не хотели.

Однако проблема появилась, и её надо было срочно решать. Чтобы не путать боб с горохом, на рубеже 1991 и 1992 годов была создана Международная ассоциация гуманитарного сотрудничества (МАГС), учредителями которой стали представители девяти государств. Она тоже не намеревалась выполнять некие туристические функции, ибо преследовала совсем другие цели.

Подчеркиваю, мы никогда не занимались и не планировали заниматься коммерческой деятельностью. Более того, принципиально стремились оградить работу фонда «Детям Чернобыля» от финансовой активности. И вся-

**МАГС. Слева направо: Александр Нестерович, Елена Асмыкович, Галина Филиппчик, Владимир Алешкевич, Наталья Якутович**





**Вольфганг и Герхильд Крамер привезли для Сада Надежды грушу «Геннадий», а потом грушу «Ирина»**

чески стремились к тому, чтобы деньги использовались нашими партнёрами напрямую для проектов, минуя структуры фонда.

Уже в 1992 году была создана Всегерманская ассоциация чернобыльских инициатив, и все денежные вопросы немцы решали через свою организацию. Там всё было понятно, прозрачно и полностью соответствовало немецкому законодательству. А главное — избавляло нас от любых инсинуаций и претензий.

Когда в 1998 году мы вернулись из вынужденной политэмиграции, то обнаружили, что фонд очень сильно «потрепали». Многие структуры были разрушены, правление покинули сразу пять членов, а над теми, кто оставался, постоянно висел дамоклов меч репрессий.

Как это часто бывает, кризис (исход бывших соратников), вместо того чтобы развалить весь отлаженный механизм, оказался толчком для открытия новых направлений деятельности.

Геннадий предложил осуществить то, что сегодня называют ребрендингом, то есть изменить акценты деятельности. Построенные нами прямые связи между потерпевшими районами и инициативами за рубежом дали возможность фонду формализовать детские поездки. Все вопросы с отправкой детей на оздоровление стали решаться исключительно на местах, часто с

участием приглашающей стороны. Фонд и МАГС взяли на себя труд организации завершающего этапа подготовки поездок детей. Это была сложная, целиком бюрократическая работа: утверждение списков в министерствах, посольствах, переписка по документам в регионах и т.д.

Геннадий же, как творческий человек, увидел, что надо переходить на «другую площадку». Дети Чернобыля подрастают, их уже больше не приглашают за границу на оздоровление, но можно и нужно помогать им дальше строить свою судьбу — и тем самым определять судьбу своей страны.

Так, в минской Малиновке был создан молодёжный центр «Мастерская будущего». На тот момент уже осталось 40 (из 71) региональных организаций, которые поддержали этот проект и тоже начали активно создавать у себя молодёжные клубы «Мастерская будущего».

Так как они сотрудничали с нашим фондом в плане оздоровления детей за границей и, как правило, имели постоянных партнёров за рубежом, нашей задачей стало сотрудничество по новым проектам. Увы, не все сразу поняли, что речь идёт о привнесении в деятельность регионов новых форм активности.

Геннадий пытался расшевелить людей, добиться, чтобы они что-то делали сами, а не ждали подачек извне. Сделать так, чтобы зарубежные партнёры, желая помогать людям справиться с последствиями Чернобыля, постепенно

**В центре Владимир Суббот, слева от него руководитель молодежных программ Наташа Якутович**



включались в эту увлекательную работу, приезжали, смотрели, участвовали, советовали, приглашали к себе.

Помогать старикам, приходить к ним в гости, приглашать на чай на Западе давным-давно существует такая неформальная работа. У нас предстояло её инициировать. То же самое с забытыми всеми инвалидами, трудными подростками, сиротами в интернатах или детских домах. Вдруг выяснилось, что укрепление человеческих общин, объединений это здорово и очень важно.

А укреплять их, по мнению Геннадия, можно было только добротой, заботой о тех, кто не может о себе позаботиться сам. В первую очередь это касалось стариков, которые часто были забыты даже собственными детьми...

Для этого даже не надо больших материальных затрат, считал он. Важно оказать человеку уважение, показать, что он на этом свете ещё кому-то нужен. Например, подарить бабушке на 8 Марта цветочек или организовать для деревенских стариков коллективное чаепитие.

В Минске в молодёжном центре на Слободской мы создали клуб «Мост поколений», где молодёжь каждую субботу полдня проводила со стариками. Уже с января 1999 года к этой работе подключились профессионалы, студенты и доценты Института современных знаний, где Геннадий был проректором по международным отношениям.

Студенты, изучавшие социальные дисциплины, проходили у нас практику и после защиты дипломов оставались волонтёрами в разных социальных проектах. Например, профессор кафедры социальных дисциплин Сергей Кручинин на долгие годы стал активным и верным партнёром в работе с молодёжью и пожилыми людьми.

Или проект «Веснушки». Двух-трёхдневные семинары по подготовке сопровождающих для детских групп, выезжающих за рубеж, качественно изменили состав участников. Современная интерактивная методика, дискуссии, игры, творчество сделали этот проект очень привлекательным для волонтёров фонда. Кому повезло побывать на этих курсах, уже никогда не забудут тот вкус свободы, который они почувствовали.

К сожалению, эта инициатива не приветствовалась позднее властями, как и все другие, не предполагавшие участия государства. Модель социального партнёрства с государством (с которой мы близко познакомились в сотрудничестве с немцами) так и осталась нереализованной в нашей стране.

Вначале мы собирались в молодежном центре в Малиновке, куда я привезла подаренную Беатой Юнкер из Леонберга, тогда ещё не очень известную у нас, машину для выпечки хлеба — и в дни встреч там вкусно пахло хлебом. В четыре группы входило 50 стариков.

Подобную модель мы предлагали и нашим региональным единомышленникам, и во многих местах она начала работать. Причем по разным направлениям. Кроме «Моста поколений» активно действовали «Школа по правам человека», «Детская республика», когда дети выбирали своего президента, правительство, парламент, разнообразные кружки.

В центре работало около тридцати групп подобного рода. Их вели в большинстве переселенцы из заражённых регионов, получившие жилье в Малиновке Жанна Филоменко, Галина Калашникова, Татьяна Рагина, Валерий Ковальчук и многие другие. Они нашли здесь место приложения своей творческой энергии и социальной активности. На территории 168 квадратных метров в тесных комнатках с утра до поздней ночи (и по выходным) шла работа, царили веселье и жизнерадостность.

Райисполком благосклонно принимал эту работу, его представители наведывались к нам, участвовали в обсуждениях проектов. Мы радовались: пусть малюсенькая, но модель социального партнёрства удаётся!

В регионах такой работы велось гораздо меньше, но суть оставалась одной для всех — заботиться о стариках, помогать инвалидам, возвращать их к активной жизни и вместе с ними что-то делать, пытаться решать (где это было возможно) экологические проблемы, оказывать помощь женщинам, которые пострадали от домашнего насилия или, хуже того, прошли через рабство (не только сексуальное) за рубежом.

Торговля людьми стала в фонде «Детям Чернобыля» проблемой номер один задолго до того, как в её решение включилось государство. Ответственность за детей, которые, благодаря поездкам на Запад, узнали его дружественное лицо, побудила нас открыть в регионах консультационные центры. Женщины Германии (Terre des Femmes, WILPF, Ųkumenisches Forum), Норвегии (WILPF), дьяконии федеральных земель Северный Рейн- Вестфалия (Берндт Шютце) и Баден-Вюртемберг (Урзула Кресс, Йоханес Флотов), Каритас из Бетсдорфа (Рудольф Дюбер), группы и церковь в Швейцарии и Нидерландах и, конечно, Буркхардт Хомайер с бесконечным количеством «детских» инициатив стали нашими партнёрами в этом, таком важном и очень эффективном проекте на долгие 9 лет.

Продолжалось это до тех пор, пока государство окончательно не выбило почву у нас из-под ног, запретив приходить в школы, проводить семинары, консультировать женщин. А ведь у нас даже были часы приёма специалистов-психологов в поликлиниках!

Но время менялось, и всё больше приходилось сталкиваться с запретами, демонстрирующими недоверие, стремление вернуться на круги своя. Всё это



**Фиона Халберт**

мы уже проходили при советской власти, где главными лозунгами были «Не разрешать! Не пущать!». Вновь зазвучали знакомые мелодии.

К сожалению, власть целенаправленно продолжала «укатывать в асфальт» то, что ещё оставалось живым. Исполком в Малиновке отказал в помещении. Целый год мы добивались разрешения остаться на Слободской, но арендная оплата без льгот по коммерческим расценкам (как будто мы были ларьком, торговавшим арбузами) была нам не под силу.

К счастью, социальный центр «Мастерская будущего» не прекратил своего существования. Мы продолжали работу, снимая частные квартиры, находя площадки в школах и клубах. Увы, довольно скоро и школы, и клубы, и владельцы квартир были вынуждены отказывать нам в помещениях. Удар был рассчитан точно.

Возьмём те же «Мосты поколений», например. Вначале запретили собираться в школе. Местом встреч стала обычная квартира. Потом «наехали» и на нее, и мы перебрались в свой автобус. А когда не стало и автобуса, мы стали по большим праздникам приглашать наших старичков в кафе.

Одновременно начались мытарства в поисках помещения для главной организации фонда «Детям Чернобыля», который был выселен из помещения в 60 квадратных метров просто в никуда.

Мінчанка **Марына Казакова** трапіла ў фонд «Дзецям Чарнобыля» вясной 1991 года. Параіла ёй гэта адна з сяброўак па сумеснай рабоце ў Інстытуце культуры, дзе Марына пасля заканчэння інстытута замежных моў выкладала ангельскую і крыху нямецкай моў.



Марына Казакова

Трапіла для таго, каб на валанцёрскіх пачатках дапамагаць. На працягу трох месяцаў яна, як і ўсе іншыя (абсалютна бескарысліва), па нядзелях прыходзіла ў фонд на 4 гадзіны дзяжурыць ля тэлефона, потым (за кошт адпачынку на асноўнай працы) паехала ў Германію суправаджаць адну з дзіцячых груп з Краснаполля.

Фонд «Дзецям Чарнобыля» тады рыхтаваўся да першага Чарнобыльскага кангрэса (усяго будзе пяць), і Марына Казакова актыўна гэтаму дапамагала.

Пасля гучнага мерапрыемства яе запрасілі працаваць на пастаяннай аснове загадчыцай фондаўскага бюро, то бок каардынаваць і выконваць самой усю «папяровую працу».

Пачалося гэта ў 1992 годзе і працягвалася да 1995 года. Пасля гэтага зноў стала валанцёрам, якім застаецца па наш дзень, а ў 1997 годзе амаль дзевяць месяцаў працавала ў Мюнстэры ў Міжнародным савеце чарнобыльскіх ініцыятыў, дзе дапамагала Буркхарту Хамаеру.

Дарэчы, падчас гэтай работы ёй выпала жыць у пакоі студэнцкага інтэрната («пенальчык» памерамі два на тры метры), куды потым (падчас першай палітычнай «эміграцыі») прыехалі жыць Ірына і Генадзь Грушавыя, і на свае вочы бачыць «катэджы», пра якія тады пісалі ў беларускай і нямецкай прэсе.

Паралельна (калі выпадала) Марына займалася жаночымі праектамі, якія знаходзіліся пад патранажам Экуменічнага форуму жанчын-хрысціянак Еўропы і мелі шмат накірункаў дзейнасці. Напрыклад, былі накіраваныя супраць усіх формаў рабства і гвалту, якія ў фокус дзяржаўнай увагі трапілі толькі больш чым праз дзесяцігоддзе.

У 1998 годзе ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый пачаліся канферэнцыі, прысвечаныя праблемам бежанцаў. Упершыню да абмеркавання гэтай тэмы былі запрошаны не толькі дзяржаўныя структуры, але і грамадскія арганізацыі. Мінскае прадстаўніцтва ААН прапанавала ўзяць у іх удзел дабрачыннаму фонду «Дзецям Чарнобыля» (тут па сутнасці таксама займаліся экалагічнымі бежанцамі).

Дзякуючы добраму веданню ангельскай мовы і асабістаму жаданню Генадзя Грушавога на такі высокі ўзровень накіравалі менавіта Марыну Казакову. Фонд «Дзецям Чарнобыля» яна прадстаўляла амаль пяць год.

Сёння Марына Казакова выкладае ангельскую мову беларускім авіядыспетчарам, падтрымлівае прыязныя адносіны з большасцю былых паплечнікаў і зноў дапамагае фонду «Дзецям Чарнобыля». На валанцёрскіх пачатках, натуральна.


Галіна Кавальчук

Шлях у фонд «Дзецям Чарнобыля» **Галіны Кавальчук**, як і ў Таццяны Шавель, пачаўся на выставе ў выставачным комплексе БЕЛЭКСПА ў 1991 годзе (таксама па «пратэкцыі» Галынскіх і таксама з валанцёрства).

**Ева і Уладзімір Галынскія** былі сярод стваральнікаў фонду. Як і **Юры Панкрац** (сёння стаў прафесарам канадскага ўніверсітэта імя Саймана Фрэйзера), яны зрабілі вельмі шмат карыснага.

Галіна Кавальчук родам з Браншчыны і ў Беларусь прыехала толькі ў 1969 годзе — выйшла замуж. У фондзе «Дзецям Чарнобыля» ёй адразу прапанавалі (на грамадскіх пачатках) дапамагаць загадчыцы іх бюро, якое тады ўзначальвала **Зінаіда Залуцкая**.

Калі нехта асацыіруе бюро з прасторнай канцылярыяй, то ён памыляецца. Бюро фонду «Дзецям Чарнобыля» (месцілася 16 год у Траецкім прадмесці, 1990--2006) уяўляла сабой маленькі пакойчык, дзе знаходзіліся факс і агромністы стос папер. Людзі працавалі да поўначы. А то і пазней. Бывала, месца не хапала і сталы з паперамі (летам) выцягвалі на вуліцу.

Праз некалькі месяцаў Залуцкая звольнілася, і Генадзь Грушавы прапанаваў гэтую пасаду Кавальчук. Было цяжка, але ў людзей, якія вызваліліся ад ідэалагічных путаў Савецкага Саюза, тады была эйфарыя. Эйфарыя ад адчування свабоды.

Не буду пералічваць усё зробленае ў той час, а працягну 1993 годам, калі Галіна Кавальчук пачала працаваць з фальклорным гуртам «Крэсіва». Потым наступіў невялікі перапынак, і ў 2013 годзе супрацоўніцтва было працягнута.

Нягледзячы на шчыльны гастрольны графік і шэсць кампакт-дыскаў запісаных песняў, мне ўдалося крыху пагаварыць з кіраўніком гэтага калектыву **Анатолем Казаком** і высветліць, якое яны зараз маюць дачыненне да Брэсцкай філармоніі.

Аказваецца, гэта звязана з месцам народзінаў самога Анатоля, які паходзіць з хутара ў Кобрынскім раёне.

Дарэчы, на першых парах «Крэсіва» афіцыйна належала Мінскай філармоніі, аднак пасля размовы Анатоля з Ірынай Грушавой, якой вельмі спадабалася іх манера выканання народных песняў, музыкі (па сутнасці) сталі «фондаўскай» групай.

Звычайна іх выступ быў першым аргументам для таго, каб іншаземцы пачалі збіраць ахвяраванні на дапамогу чарнобыльскім дзецям. Аргумент вельмі шчыры і кранальны. Акрамя Германіі гэта двойчы было ў ЗША, Аўстрыі. Галандыі, Швейцарыі, Люксембургу. Нягледзячы на тое, што слухачы не ведалі беларускай мовы, песні «Крэсіва» прыйшліся ім даспадобы, бо ў іх, як сказаў адзін немец, «душа народа» .

І не выпадкова, што менавіта «Крэсіва» «падарыла» падчас пасадкі Саду надзеі кожнаму дрэўцу песні, запісаныя Анатолем Казаком у вёсках, якія атрымалі самы моцны радыеактыўны ўдар і практычна перасталі існаваць.

Безумоўна, каб толькі пералічыць прозвішчы тых, хто спрычыніўся да дзейнасці фонду «Дзеці Чарнобыля»за чвэрць стагоддзя, патрэбна яшчэ шмат старонак. Упэўнены таксама і ў тым, што пераконваць некага ў адпаведнасці рэчаіснасці фразы «Жыццё працягваецца!» сэнсу няма. Але помніць пра тых, хто гэтаму паспрыяў, на мой погляд, трэба заўсёды.

Інакш бяда можа паўтарыцца зноў...

**Вакальны ансамбль «Крэсіва» спявае для Галіны Кавальчук**



ГЛАВА X

# ШВЕЙЦАРСКІЯ ПАДАРОЖЖЫ

Усе ведаюць, што ў датчан ёсць гонар —
казачнік Ханс Крысціян Андэрсен.
На швейцарскай зямлі мне пашанцавала
таксама сустрэць казачніка,
толькі ў адрозненне ад знакамітага датчаніна
пастар Андрэас Гёрліх паказаў мне казку,
дзе нічога не было выдумана.
Назва гэтай казкі — Швейцарыя,
а кароткія падарожжы па ёй і склалі нарыс,
часткамі якога і сталі гэтыя вандроўкі.

# Казачны пастар

Няма сумневу: калі б нехта палічыў, колькі сярод тых, хто займаецца дапамогай чарнобыльскім дзецям, святароў — лічба атрымалася б даволі салідная. І гэта было б цалкам лагічна.

Андрэас Гёрліх — пастар рэфармісцкай царквы, якую лічаць адным з адгалінаванняў царквы пратэстанцкай, аднак галоўнае не ў назве хрысціянскай канфесіі. Падчас працы над гэтай кнігай мне сустракаліся і каталікі, і евангелісты, і праваслаўныя, датычныя да чарнобыльскіх справаў. Словам — хрысціяне па духу, і дабрыня сэрцаў была галоўнай для ўсіх.

А яшчэ тое, што, нягледзячы на розныя перашкоды, яны ўмеюць захоўваць гэтую дабрыню.

Андрэас Гёрліх нарадзіўся на поўдні Германіі, у Равенсбургу. Там жа пайшоў у школу і гімназію. З дзяцінства хацеў стаць настаўнікам, таму пачаў вучыцца ў Мюнхене. У Равенсбургу яго канфірмацыяй кіраваў пастар Паўль Дзітрых, які ў той час пераехаў у горад Ульм. Калі надышоў час служыць (альбо ў войску, альбо альтэрнатыўна), Андрэас звярнуўся да яго па дапамогу — і той пайшоў насустрач.

Два гады Андрэас працаваў у сацыяльным цэнтры, што быў пры царкоўнай парафіі, якія ў пратэстанцкіх цэрквах звычайна называюць абшчынамі. Выконваў там усе работы, звязаныя з арганізацыяй быту гасцей з розных куткоў свету. Стасункі з рознымі людзьмі дазвалялі глыбей пазнаёміцца не толькі з іх нацыянальнымі культурамі (Эфіопія, Паўднёвая Амерыка, Азія і г.д.), але і зразумець, што, калі радуюцца людзі — па-球рознаму, то пакутуюць — вельмі падобна.

У гэты ж час Андрэас Гёрліх даведаўся, што Паўль Дзітрых вырашыў дапамагаць дзецям Чарнобыля і арганізаваў адпаведную ініцыятыву.



**Пастар Андрэас Гёрліх**

Паколькі сутнасць рэлігійнай абшчыны ўжо стала яму больш зразумелай, Андрэас неўзабаве вырашыў змяніць свае жыццёвыя арыенціры — і стаў студэнтам тэалагічнага факультэта.

Пасля таго, як Гёрліх здаў выпускныя іспыты і атрымаў адпаведны дыплом, высветлілася, што яго духоўны настаўнік Паўль Дзітрых атрымаў павышэнне. Перад тым, як з'ехаць, той прапанаваў свайму пратэжэ ўзяць на сябе кіраўніцтва домам сустрэч і заняцца справамі абшчыны. І рабіць гэта, пакуль не знойдзецца чалавек, які стала яго не заменіць.

Так Андрэас Гёрліх стаў «часовым выканаўцам абавязкаў».

У тым ліку і па ўсіх чарнобыльскіх справах.

У 1991 годзе ў яго жыцці адбылася паездка, якая дапамагла зразумець сэнс гэтай работы больш глыбока.

Маршрут Мінск--Магілёў--Слаўгарад дазволіў добра ўявіць, якая сітуацыя склалася ў Беларусі пасля Чарнобыля, і зразумець, што, нягледзячы на верагодныя кадравыя пертурбацыі (праз паўгода), ад чарнобыльскай работы ён не адмовіцца.

Неўзабаве ў Мінску Андрэас пазнаёміўся з Евай і Уладзімірам Галынскімі, якія ў той час працавалі ў фондзе, а цяпер жывуць у ЗША.

Пасля таго, як Паўлю Дзітрыху знайшлі замену, Андрэаса Гёрліха ў 1993 годзе накіравалі служыць у Швейцарыю, у Іланц, дзе ён хутка стварыў ініцы-

**Злева направа: ансамбль «Крэсіва», Галіна Кавальчук, Андрэас Гёрліх**





**Спявае лідар ансамбля «Грамніцы» Уладзімір Зеневіч**

ятыву — «Чарнобыльская дапамога Сурсельвы». У яе складзе змаглі аб'яднацца ўсе тамтэйшыя хрысціянскія канфесіі. Яны пачалі штогод запрашаць на адпачынак і аздараўленне сорак дзяцей з Добруша Гомельскай вобласці.

Сёння гэтай ініцыятывай кіруюць Беат і Іоланда Эрб. Беат — святар новаапостальскай царквы, а яго жонка Іоланда — валодае прыватнай аптэкай. Дзякуючы ёй, ініцыятыва змагла падрыхтаваць гуманітарнай дапамогі больш як на мільён швейцарскіх франкаў.

А першы гуманітарны канвой Андрэас суправаджаў асабіста і падчас той паездкі зразумеў, што дзеля таго, каб работа была больш эфектыўнай, трэба вывучаць мову. Таму перад адпраўкай другой часткі гуманітарнай дапамогі ён на чатыры тыдні прыехаў у Мінск, дзе сябра праўлення фонду «Дзецям Чарнобыля» Марына Казакова стала яго персанальнай настаўніцай.

Потым Андрэас Гёрліх быў пераведзены ў маленькі горад Глатбруг, які знаходзіцца за сем кіламетраў ад Цюрыха. Святар і там вырашыў стварыць чарнобыльскую ініцыятыву і, каб пазнаёміцца з сітуацыяй, як кажуць, на месцы, зноў арганізаваў экуменічную паездку ў Беларусь. Зразумела, у яе паехалі вернікі з розных рэлігійных канфесій, што яшчэ раз пацвердзіла здольнасць людзей аб'ядноўвацца дзеля агульнай мэты.

Паездка была вельмі паспяховай, і ўжо праз некалькі тыдняў новая ініцыятыва падрыхтавала першы гуманітарны канвой.

Каб не ўзнікала ўражання, што ўсё тут «проста і лёгка», далей гутарка пойдзе пра тую самую «лыжку дзёгцю», якую афіцыйная прапаганда звычайна называе «асобнымі недахопамі» і пакідае «за дужкамі». На мой жа погляд, гутарка ідзе пра сістэму створанай за савецкія гады чалавечай хітрасці; нават «хітрыкаў» з крывадушнасцю. Сістэму, якую цяпер называюць «сацыяльна-арыентаванай».

Падчас фарміравання гуманітарнай дапамогі новая ініцыятыва цалкам улічыла тое, што папрасілі яе будучыя спажыўцы. То бок, швейцарцы прывезлі ў Беларусь толькі тое, што заказалі беларускія медыкі. Акцэнтую ўвагу на гэтым спецыяльна, бо вельмі цяжка зразумець, што адбывалася потым.

Гуманітарны груз, які падрыхтавалі ў Глатбругу, быў сабраны з лекаў, значную частку якіх складалі так званыя опіяты — выраблены на падставе опіюму лекі, якія звычайна выкарыстоўваюцца пры цяжкіх формах раку для змяншэння болю і пакутаў хворага. Каштаваў ён даволі дорага — больш за пяць тысяч швейцарскіх франкаў. Заказала лекі бальніца ў Лунінцы (партнёры новай ініцыятывы).

Такой была стратэгія фонду. Калі нехта новы пачынаў супрацоўнічаць з Беларуссю, мінскі офіс «выводзіў» яго на рэгіянальнага партнёра. Атрымліваўся своеасаблівы трохкутнік партнёрства: замежнікі з іх жаданнем і магчымасцю дапамагчы, арганізацыя ў пацярпелым ад радыяцыі рэгіёне і фонд «Дзецям Чарнобыля» з яго досведам, перакладчыкамі, магчымасцямі, кантактамі.

Тут варта адступіць і дадаць, што з Беларуссю на дадзены момант працуюць больш за дзесяць розных швейцарскіх ініцыятыў. Не ўсе з іх падтрымлівалі кантакты з фондам «Дзецям Чарнобыля» — некаторыя аддавалі перавагу мясцовым уладам, аднак спробы аб'яднаць іх у нейкі савет спікераў, як гэта было ў Германіі, пацярпелі фіяска зусім не па гэтай прычыне. Як ужо было сказана, швейцарцы па натуры сваёй — індывідуалісты. Аб'яднаць іх у нешта агульнае не здольныя нават святары, бо, як кажа пастар Гёрліх, «царква ў Швейцарыі канчаецца там, дзе канчаецца яе плот».

Гуманітарны канвой з Глатбруга Андрэас асабіста не суправаджаў, таму быў вельмі здзіўлены, калі праз месяц у Лунінцы даведаўся, што груз так і не перададзены адрасату. Больш за тое, грузавік з лекамі і адзеннем быў ускрытым.

Аказалася, праблема ў тым, што сярод лекаў ёсць забаронены ў Беларусі наркотык... Самае цікавае, праз мяжу «забаронены наркотык» прайшоў без перашкодаў і толькі ў Лунінцы, куды прыехаў з «праверкай» прадстаўнік Дэпартамента па гуманітарнай дапамозе, нечакана знайшлася «кантрабанда», якую раней замовілі мясцовыя дактары.



**Андрэас Гёрліх з дзецьмі ў швейцарскіх Альпах**

Як кажуць у такіх выпадках, сачыце за пальцамі: лунінецкія ўрачы тлумачаць, што хворыя пакутуюць ад раку і просяць швейцарцаў прывесці тое, што можа паменшыць боль, аднак, як толькі дэфіцытны прэпарат трапляе ў Лунінец, з Мінска прыязджае чалавек і аб'яўляе яго забароненым «наркотыкам». Пры гэтым прэпарата не было ў патрэбнай для мытні дэкларацыі, бо такога патрабавання не існавала, таму, як у Мінску маглі ведаць, што канкрэтна прывезлі са Швейцарыі, можна толькі гадаць. Ва ўсялякім выпадку, ніякіх тлумачэнняў швейцарцы на гэты конт так і не пачулі...

Калі нехта падумаў, што ўжо трапіў у залюстаркоўе, то ён глыбока памыляецца. Залюстаркоўе было далей, калі «кантрабанду» канфіскавалі і «знішчылі». «Спалілі» без сведак і без афармлення адпаведных дакументаў. Прычым толькі адзін «кантрабандны» прэпарат, які быў самым дарагім.

Не будзем сцвярджаць, што гэта быў банальны выпадак айчыннай карупцыі, што «спаленае» потым прадалі «сваім» людзям, бо падобныя абвінавачанні здольны даваць толькі суд, які ў Беларусі стабільна-чэсны. Адназначна толькі тое, што першы гуманітарны канвой з Глатбруга стаў апошнім...

І ўвогуле. Падчас шматлікіх кантактаў з іншаземцамі я не раз дзівіўся іх цярплівасці: людзі дапамагаюць, ахвяруюць сваім часам, фінансамі і ўвесь час сутыкаюцца са спробамі іх падмануць.

Андрэас Гёрліх расказаў яшчэ пра некалькі выпадкаў; два з іх хацелася б узгадаць тут.

Напрыклад, у Добрушы прадстаўнікам ініцыятывы прапанавалі «абысціся» без мінскіх кантралёраў у выглядзе фонду «Дзецям Чарнобыля», а працаваць «наўпрост». Вельмі хутка высветлілася, што трэба прывозіць толькі некім заказаныя прэзенты, а ў групы на адпачынак у Швейцарыі сталі трапляць тыя, каго, калі сказаць вельмі мякка, цяжка было назваць самымі беднымі: дзеці мясцовых начальнікаў, міліцыянтаў і нават бізнесоўцаў...

Другім «прыкладам» быў Слаўгарад, дакладней, мясцовая праваслаўная парафія, дзе таксама прапанавалі пазбавіцца ад вонкавага кантролю. Маўляў, навошта швейцарскім грошам, за якія слаўгародцы будуць купляць для сябе лекі, праходзіць яшчэ і праз Мінск? У якасці «забойнага» аргумента праваслаўны святар расказаў пра неабходнасць тэрмінова дапамагчы Дому састарэлых.

Пратэстанцкі святар Гёрліх паверыў свайму праваслаўнаму калегу і перадаў яму дзесяць тысяч швейцарскіх франкаў.

Калі Андрэас прыехаў у наступны раз, высветлілася, што «бацюшка» ўжо забыўся, на што прасіў тыя грошы і перад усім прыходам падзякаваў швейцарцам за прыўкрасны купал на царкве, які за грошы швейцарцаў стаў сапраўды залатым.

Як кажуць у такіх выпадках — no comment...

Тут, можа, варта патлумачыць. Фонд «Дзецям Чарнобыля» нельга разглядаць у якасці банальнай «пракладкі», як гэта робяць набліжаныя да ўлады структуры (што ім больш зразумела і звыкла). У дадзеным выпадку гутарка не пра звычайнага пасярэдніка, а пра раўнапраўнага партнёра. Партнёра, які сам ніколі не падманваў і перашкаджаў гэта рабіць іншым.

Андрэас Гёрліх гэта зразумеў, што называецца, дзякуючы ўласнаму досведу. Як і тое, што карупцыя — з'ява міжнародная. Апошнім часам ён шчыльна займаецца дапамогай сірыйскім бежанцам.



Менавіта сірыйскім і менавіта бежанцам, бо, на мой погляд, сярод тых, хто зараз апякуецца рознымі эміграцыйнымі (дзяржаўнымі і грамадскімі) структурамі, далёка не ўсе ведаюць, што такое сапраўдная вайна...

З траўня 2013 года ён супрацоўнічае з фондам, які займаецца правамі чалавека, і рэальна дапамагае сірыйскім бежанцам. Тры-чатыры разы на год Андрэас Гёрліх бывае ў іракскім горадзе Эрбіль, што на поўдні гэтай краіны і дзе месцяцца створаныя ААН лагеры сірыйскіх бежанцаў, а таксама ў тых вёсках, дзе ў рызыкоўных умовах жывуць хрысціяне.

Як і ў Беларусь, пастар прывозіць туды гуманітарную дапамогу, але не аддае яе адпаведным аанаўскім структурам, бо тыя ў значнай ступені карумпаваныя, а мае справу з надзейнымі партнёрамі, як кажуць, на месцы.

Іншымі словамі, досвед, які ён атрымаў у Беларусі, добра працуе і там. Тыя ж чэкі, «плацёжкі», квітанцыі. Толькі іншая мова...

# Аптэка міласэрнасці

Як узгадвалася ў папярэднім нарысе, «Чарнобыльская дапамога Сурсельвы» ў 1993 годзе была створана Андрэасам Гёрліхам і працуе па наш дзень. Напэўна, гэтую ініцыятыву нельга назваць самай буйной і багатай у Швейцарыі, — і тым больш уражваюць лічбы, агучаныя яе сучасным кіраўніком Беатам Эрбам. За гады работы на адпачынку ў казачных мясцінах Сурсельвы пабывала 680 дзяцей з Добрушскага раёна Гомельскай вобласці.

Магчыма, па мерках іншых краін гэтая лічба не будзе падавацца вельмі пераканаўчай, але трэба ведаць спецыфіку швейцарцаў, іх індывідуалізм, каб зразумець, наколькі дакладнымі і бяспафаснымі былі словы пра тое, што «беларускія дзеці аб'ядналі швейцарцаў і парушылі стэрэатыпы адносін паміж Усходам і Захадам».

Звычайна кожная рэлігійная канфесія гэтай мясцовасці дзейнічае паасобку, а тут усе чатыры (новаапостальская, рэфармісцкая, каталіцкая і свабодных пратэстантаў) аб'ядналіся ў адну ініцыятыву.

Да таго ж, калі раней швейцарцы ўсё «савецкае» ўспрымалі, як патэнцыйна варожае, а беларусы бачылі ў іх «праклятых капіталістаў», то цяпер гэта знікла.

Тое, што зрабілі ў сэрцах швейцарцаў чарнобыльскія дзеці, падобна да сапраўднага цуду.

Мяркуйце самі.


**Іоланда і Беат Эрб**

Калі група з Добруша збіралася ў Швейцарыі разам, то любы мясцовы рэстаратар лічыў для сябе гонарам іх бясплатна накарміць абедам, фірмы бясплатна выдзялялі гасцям аўтобус, а мінакі на вуліцах ахвяравалі грошы на марозіва ды фрукты дзецям.

Першыя крокі новай ініцыятывы прыпалі на сумна вядомыя «ліхія дзевяностыя», таму можна толькі паспачуваць цяжкасцям, з якімі яны тады сутыкнуліся. Беларуская мяжа тады нагадвала нешта накшталт сюррэалізму фільмаў знакамітага рэжысёра Андрэя Таркоўскага, дзе кожны замежнік адчуваў, што адусюль пагражае небяспека.

Першы гуманітарны канвой «Чарнобыльская дапамога Сурсельвы» падрыхтавала ў 1994 годзе. Лекі пахавалі ў адзенне, праз знаёмых даведаліся, дзе і калі на мяжы будзе больш спрыяльнае «вакно» і паклалі ў кабіну вадзіцеля патэнцыйны хабар для мытнікаў. З пункту гледжання сённяшняга дня ўсё гэта можа падацца вельмі смешным, але ў тыя часы ўсім, хто ехаў праз беларускую мяжу, было не да гумару.

Мала таго, што мытныя патрабаванні мяняліся кожны дзень, дык яшчэ і дадавалася самадурства таго, хто ішоў працаваць на мяжу толькі для таго, каб «хапнуць». Нямала гэтага і цяпер, розніца толькі ў тым, што тады мытнікі нікога, акрамя крымінальнікаў, не баяліся, а сёння ў любы момант рызыкуюць аказацца ў турме.

Дык вось чаму швейцарцы хавалі не забароненыя законам лекі ў адзенне і рыхтавалі для патэнцыйных кантралёраў «прэзенты». Аднак усё гэта не спатрэбілася. Суправаджаючы павёз «гуманітарку» не праз спрыяльнае «вакно», а праз іншы памежны пераход. Напэўна, так здавалася больш разумным, аднак на справе атрымалася наадварот.

Канвойнае аўто, што называецца, «ператрэслі па поўнай праграме»... Выратавала толькі тое, што мытнік спакусіўся на вельмі дэфіцытны тады факсімільны апарат, і той стаў «пропускам» да чарнобыльцаў...

Напэўна, нехта скажа, што цяпер нічога падобнага няма і блізка, што тады швейцарцы сутыкаліся з «рэцыдывамі дэмакратычных часоў». Я прынцыпова з гэтым не згодны. Па-першае, дэмакратычнай улады ў Беларусі ніколі

не было. Па-другое, за прагай парадку і «жалезнай рукі» сёння хаваюць тое, што знакамітыя пісьменнікі мінулага стагоддзя называлі «галавацяпствам з узломам»...

Аднак, вернемся да нашых герояў.

Іоланда Эрб, як і яе муж, нарадзілася ў Швейцарыі. З Беатам яны пазнаёміліся ў царкве яго роднага горада Кур. У перакладзе Беат азначае — шчаслівы. І з жонкай яму сапраўды пашанцавала. Пажаніліся яны даволі хутка пасля знаёмства і ўжо 32 гады разам займаюцца сваёй аптэкай. 22 з гэтых год выпадае на іх агульныя чарнобыльскія справы.

Цікава, што аптэкай яны пачалі валодаць падчас вайсковай службы. Прадаваў яе таксама вайсковец (старшы лейтэнант), а патэнцыйныя пакупнікі (Беат і Іоланда) прыйшлі да яго ва ўніформе — і перавага, натуральна, была аддадзена менавіта ім.

Цяпер гэта будынак з трыма падземнымі паверхамі і ўласным ліфтам.

Іоланда займаецца падрыхтоўкай будучых фармацэўтаў, спявае ў царкоўным хоры і грае на флейце.

З Беатам у іх двое дзяцей — сын Сірын і дачка Рахель, якая таксама далучылася да грамадскай дзейнасці бацькоў і ўжо дзевяць разоў пабывала ў Беларусі.

Беат называе Беларусь сваёй другой бацькаўшчынай, бо пабываў у Добрушы ўжо дваццаць разоў.

Шмат год ён узначальвае мясцовую парафію новаапостальскай царквы, у склад якой уваходзяць больш за 60 сябраў, а па прафесіі Беат — інжынер-праекціроўшчык. Святаром у іх парафіі можа быць любы, каго абяруць вернікі.

На мой погляд, ёсць сэнс крыху больш расказаць пра тое, чым зараз займаецца «Чарнобыльская дапамога Сурсельвы».

Калі на чатыры тыдні ў Швейцарыю прыязджаюць чарнобыльскія дзеці, Беат заўсёды бярэ на працы адпачынак і апякуецца імі.

Дарэчы, аўтобусны трансфер, якім карыстаюцца для дастаўкі дзяцей, швейцарцы абралі адмыслова. На думку Беата, калі дзеці ляцяць самалётам, то адбываецца гэта так хутка, што «іх целы ўжо ў Швейцарыі, а сэрцы яшчэ ў Беларусі». Калі ехаць аўтобусам, атрымліваецца па-іншаму.

За час адпачынку групы Беат робіць больш за 200 фотаздымкаў, і кожны з дзяцей вязе назад у Беларусь асабісты фотаальбом — як напамін пра тое, як жыў і што бачыў у Швейцарыі.

Для кожнага таксама робіцца футболка з уласным партрэтам і лагатыпам ініцыятывы.


Іоланда Эрб

«Чарнобыльская дапамога Сурсельвы» — адна з тых ініцыятыў, каго дзеючая беларуская ўлада не пераканала супрацоўнічаць з ёю, а не з «нефармаламі» з фонду «Дзецям Чарнобыля». Маўляў, «не трэба ніякай палітыкі, галоўнае — аздараўленне чарнобыльскіх дзяцей».

З другой часткай гэтай тэзы спрачацца не будзе ніхто, а вось наконт палітыкі...

Для таго, каб нешта не пераблытаць, я працытую Іоланду Эрб, чый аўтарытэт сярод фармацэўтаў дазваляў прывозіць у Добруш ВЕЛЬМІ карысныя і вельмі дарагія медыкаменты:

*«Першая група чарнобыльскіх дзяцей у нас была ў чэрвені, а ўжо ў кастрычніку мы самі прыехалі ў Беларусь, каб паглядзець, як жывуць тыя, каго прымаюць швейцарскія сем'і. Ветлівасць беларускіх людзей — неверагодная рэч і вартая таго, каб пра яе расказаць асобна. Больш за тое, калі мы ў Добрушы перадалі лекі, якія прывезлі з сабой, у аптэку, што потым бясплатна размяркоўвала іх чарнобыльцам, — гэта вельмі ўзрадавала.*

*Пасля шмат год запар мы накіроўвалі ў Беларусь медычную дапамогу, і я кожны раз сачыла за яе правільным размеркаваннем.*

*Пакуль гэтым займаўся Чырвоны Крыж, усё было нармальна, а потым наша гуманітарная дапамога трапіла ў сферу зацікаўленасці ўладных структур. На жаль, адразу ж пачаліся праблемы. Швейцарскія медыкаменты размяркоўваліся так, як падабалася вашым чыноўнікам, а не так, як хацелі мы — бясплатна і для тых, хто меў патрэбу...*

*У 2000 годзе мы прывезлі шмат неверагодна дарагіх вітамінаў, якія меркавалася перадаць людзям сталага веку, бо так патрабавала інструкцыя па іх ужыванні. Аднак нехта вырашыў па-іншаму. Вітаміны перадалі ў дзіцячы садок, дзе вельмі хутка высветлілася, што для дзіцячых арганізмаў яны шкодныя. Дзеці іх блага пераносілі, і вітаміны проста знішчылі.*

*Пасля гэтага мы вырашылі, што больш не будзем прывозіць ніякай медычнай дапамогі...»*

Няцяжка ўявіць, якія словы ўспомніліся мне, калі Іоланда Эрб расказвала гэтую гісторыю. Аднак, калі пазней яе муж Беат дапоўніў расказ тым, якім

чынам вітаміны «знішчалі», стала зразумела, што шматкроп'е — самае прыстойнае, што я магу дазволіць сабе тут...

*«Вітаміны, якія мы прывезлі ў 2000 годзе, былі вельмі каштоўнымі нават па швейцарскіх мерках, і тое, што іх проста выкінулі, таму што самі няправільна выкарыстоўвалі, калі сказаць вельмі мякка, — крыўдна.*

*Нам жа фармацэўтычныя фірмы даюць іх не проста так, а хочуць ведаць пра тое, што прынеслі нейкую карысць. А тут...*

*Спачатку нам казалі, што іх адвезлі ў нейкую бальніцу, а потым нехта шапнуў: вітаміны аддалі на свінаферму для таго, каб жывёлы лепш раслі. Калі мы туды прыйшлі, то адразу ўбачылі з такімі цяжкасцямі сабраныя ў Швейцарыі каробкі...*

*Ніколі ў жыцці я не бачыў, каб Іоланда так плакала...»*

Менш за ўсё хацелася б, каб апошнія ноты гэтага артыкула былі такімі сумнымі. Тым больш, што з тых часоў мінула ўжо 15 год. Выбачайце за банальнасць, але жыццё, як кажуць, працягваецца. Працягваюцца паездкі ў Швей-

**Беат Эрб**



царыю дзяцей з Добрушскага раёна; сярод іх ёсць і дзеці тых, хто першым пазнаёміўся з ветлівасцю швейцарцаў з ініцыятывы «Чарнобыльская дапамога Сурсельвы», за што Іоландзе і Беату Эрб хочацца сказаць асобны дзякуй.

Мінулыя праблемы, на шчасце, не сталі крыжам на энтузіязме гэтых людзей, а толькі ўнеслі ў іх дзейнасць пэўныя карэктывы. Так бы мовіць, з улікам «сучаснай ментальнасці»...

Напрыклад, лекі швейцарцы цяпер купляюць на месцы, то бок — у Добрушы, і самі раздаюць іх тым, каму яны патрэбныя.

Доўгі час швейцарцы плённа супрацоўнічалі з адной сялянскай бальніцай, галоўны ўрач якой бескарысліва дапамагаў людзям. Па нейкай прычыне яго знялі з пасады, а новы медычны начальнік на прапанову купіць нешта на месцы адказаў: нам нічога не патрэбна, у нас ёсць усё, а калі хочаце дапамагчы, пакідайце грошы — мы самі ўсё купім...

Як і ў папярэднім тэксце — no comment!

# Соль зямлі

Калі я даведаўся, што гэтай жанчыне 88 гадоў і што яна праз некалькі тыдняў паедзе ў чарговую вандроўку на Шры-Ланку, мне чамусьці адразу прыгадаліся беларускія пенсіянеры. Шчыра кажучы, я змог назваць толькі некалькі прозвішчаў тых, хто ў такім салідным узросце здольны паехаць у іншую краіну. На мой погляд, прычыны тут дзве — умовы жыцця і экалогія, пра якую немагчыма казаць без узгадкі пра Чарнобыль.

Дорлі Філіпі — адна з заснавальнікаў усяго швейцарскага руху дапамогі чарнобыльскім дзецям. Да выхаду на пенсію яна працавала бухгалтарам у вядомай авіякампаніі Swiss Air. Можа быць, менавіта па гэтай прычыне яна так любіць падарожнічаць. Акрамя Беларусі, Дорлі пабывала ў розных краінах свету. У тым ліку і ў месцах вельмі экзатычных, як то індзейская рэзервацыя ў амерыканскім Тэхасе, альбо выспа Барнэа.

Назва гэтага нарыса — назва аднаго з праектаў фонду «Дзецям Чарнобыля». Праекта, які быў цалкам прысвечаны людзям сталага ўзросту. Тым, хто сапраўды складае соль нашай зямлі, яе сутнасць.

Прашу прабачэння за паўтор, але тут я нагадаю, што ў 1996 годзе ў рэлігійную абшчыну, дзе Дорлі Філіпі спявала ў царкоўным хоры, прызначылі новага пастара Андрэаса Гёрліха. Неўзабаве там узнікла чарнобыльская ініцыятыва, якая аб’яднала два швейцарскія гарады Апфікон і Глатбруг, а ў хуткім ча-


**Дорлі Філіпі**

се адбылася экуменічная паездка швейцарцаў у вёску Дзятлавічы Лунінецкага раёна Брэсцкай вобласці.

Канешне ж, у складзе той групы была і Дорлі Філіпі. Інакш проста і быць не магло. Такіх жанчын на постсавецкай прасторы называюць «лёгкімі на пад'ём», і гэта цалкам не выпадкова — падобная прага да жыццёвага руху сустракаецца даволі рэдка і прымушае рухацца ўсё вакол. Асабліва, калі чалавек па натуры неабыякавы да іншых.

Выбачайце за банальнасць, але для любых дабрачынных ініцыятыў патрэбныя сродкі, і былы бухгалтар добра гэта ведае. Для таго, каб з'явілася магчымасць запрашаць на адпачынак у Швейцарыю беларускіх дзяцей, было вырашана спачатку запрасіць у гэтую цудоўную краіну беларускі фальклорны ансамбль «Крэсіва» для дабрачынных канцэртаў.

У 1998 годзе артысты ўпершыню завіталі ў Швейцарыю, а ўжо ў наступным годзе сюды прыехалі першыя 40 дзяцей з Дзятлавіч. Ініцыятывы, як юрыдычна афармленай структуры, тады яшчэ не было, таму падрыхтоўкай займалася ініцыятыўная група (7-8 чалавек), якой кіраваў Андрэас Гёрліх. Натуральна, што ўсе фінансавыя пытанні былі ўскладзены на Дорлі Філіпі, бо «былымі» бухгалтары не бываюць.

У 2002 годзе швейцарцы вырашылі афіцыйна аформіць сваю ініцыятыву — правялі ўстаноўчае паседжанне, распрацавалі статут, вызначылі накірункі дзейнасці, размеркавалі абавязкі і г.д. І з таго часу кожны год пачалі прымаць на чатыры тыдні адпачынку спачатку па сорак, а потым — па трыццаць беларускіх дзяцей.

Выключэннем стаў толькі 2008 год, калі беларускі прэзідэнт сваім загадам забараніў аздараўленне чарнобыльскіх дзяцей за мяжой. Афіцыйнай таму нагодаю стаў інцыдэнт, калі адна з беларускіх дзяўчынак адмовілася вяртацца ў Беларусь з Італіі. Урэшце, яе вярнулі, але пацярпелі ад гэтага астатнія.

Швейцарцам (як выбаршчыкам), напрыклад, прыйшлося звяртацца ў свой нацыянальны парламент, каб іх дэпутаты аказалі адпаведны «ціск» на бе-



**Дорлі Філіпі (злева) і Вераніка Ройшэнбах**

ларускія ўлады; іх падтрымалі таксама палітыкі іншых краін — і афіцыйнаму Мінску прыйшлося адступіць.

Дарэчы, ліст у швейцарскі парламент ад імя пяці ініцыятыў, з якімі была ў кантакце, тады напісала Вераніка Ройшэнбах. Яна не толькі прысутнічала падчас нашай размовы з Дорлі, але і паспрыяла факту сустрэчы ўвогуле.

Уважлівы чытач заўважыў, што менавіта з Веранікай я размаўляў падчас берлінскай камандзіроўкі, і менавіта тады пачуў абяцанне працягнуць тэму ў Швейцарыі.

І абяцанне сваё Вераніка выканала, але ўдзячны ёй я не толькі за гэта і цудоўную экскурсію па Цюрыху. Менавіта Ройшэнбах расказала мне, што ўсе чацвёра дзяцей Дорлі Філіпі выраслі годнымі, прыгожымі людзьмі, і з вельмі вялікай павагай ставяцца да саваёй прыёмнай маці.

Самае цікавае, што ўсе яны былі дзецьмі мужа Дорлі ад першага сужэнства, якому суд загадаў іх выхоўваць, то бок для Дорлі былі не роднымі па крыві, аднак усе яны ставіліся да яе, як да роднай маці.

А калі дадаць яшчэ і ўвагу да дзяцей беларускіх, то ўспамін пра Маці Тэрэзу ў дадзеным выпадку не будзе занадта пафасным...

Пасля звароту Веранікі Ройшэнбах у парламент (федэральны сход), яе разам з іншымі ініцыятарамі ліста афіцыйна запрасілі ў Берн, дзе адбылася сустрэча з удзелам прадстаўнікоў швейцарскіх МЗС, МУС, Дэпартамента па міграцыі і беларускага амбасадара ў гэтай краіне. Швейцарцы вельмі сур’ёз-

на паставіліся да справы, нягледзячы на тое, што гутарка ішла пра некалькі сотняў дзяцей.

Уяўляю, колькі людзей зараз падумалі, што ў беларускіх умовах падобнае немагчыма па вызначэнні. Цалкам згодны. Як і з тым, што знакамітую цытату Кастуся Каліноўскага «Не народ для ўрада, а ўрад для народа» трэба не толькі пісаць на газетах, але і выконваць у надзённым жыцці...

Так, увага да чарнобыльскіх падзей, зараз зусім не тая, якой была раней, але не трэба забываць, што мінула ўжо трыццаць год. Я прапаную правесці вельмі просты тэст.

Калі ласка, назавіце дзясятак сусветных катастроф, якія і праз трыццаць застаюцца ў фокусе грамадскай увагі? Цяжка? Мне таксама — таму я ізноў здымаю капялюш перад справай, што зрабіў дабрачынны фонд «Дзецям Чарнобыля», і тымі, хто займаецца ёю цяпер. Перш за ўсё — за мяжой.

У мінулым стагоддзі гэтыя людзі запусцілі рухавік, які працуе па наш дзень. З той толькі розніцай, што раней было значна прасцей знаходзіць для яго паліва ў выглядзе матэрыяльнай падтрымкі, бо чарнобыльская праблема была больш блізкай і балючай.

Ініцыятыва, дзе актыўна працуе Дорлі Філіпі, таксама адчула зніжэнне колькасці гэтага самага «паліва», і, каб яно не знікла ўвогуле, швейцарцы прыдумалі вельмі арыгінальную рэч.

На зямлі фермера, які ад самага пачатку падтрымлівае дзейнасць ініцыятывы, у 1999 годзе пасадзілі яблыню. Побач устанавілі шыльду з тэкстам пра тое, што дрэва пасаджанае ў гонар чарнобыльскіх дзяцей, падчас іх першага адпачынку ў Швейцарыі.

Падобныя рэчы былі зроблены таксама і ў Дзятлавічах, і ў мінскім «Садзе надзеі» імя Генадзя Грушавога, але там гэта мела больш сімвалічны характар. Швейцарская ж яблыня стала не толькі сімвалам.

Кожны год Дорлі Філіпі збірае з гэтага дрэва вялікі ўраджай. Рэжа яблыкі на маленькія долькі, затым высушвае, прыгожа пакуе і прадае на калядным кірмашы, які доўжыцца ўвесь снежань.

На кірмашы для яе выдзелена спецыяльнае месца, а ўсе заробленыя праз продаж грошы ідуць на падтрыманне візітаў чарнобыльскіх дзяцей.

Тая яблыня стала абавязковым пунктам праграмы іх аздараўлення ў Швейцарыі.

Фінансамі сваёй ініцыятывы Дорлі Філіпі займалася да 2012 года, калі вырашыла пакінуць гэтую пасаду «па ўзросце». Ёй споўнілася 85 год, і жанчына вырашыла даць дарогу моладзі. Пры гэтым яна лічыць трэці перыяд (два першыя звязаныя дзяцінствам, бацькамі, вучобай, уласнай сям’ёй і г.д. — усім,



**Ля Рэйнскіх вадаспадаў у Швейцарыі. У цэнтры стаяць (злева направа) Дорлі Філіпі, Галіна Кавальчук, Ірына Грушавая ў атачэнні спевакоў ансамбля «Грамніцы»**

што было да пенсіі) адным з самых цікавых у сваім жыцці, таму што менавіта ён прыўнёс у яго чарнобыльскія справы. Гэта значыць — новыя кантакты, знаёмствы, ідэі.

Перыяд гэты, дзякуй Богу, працягваецца. І не толькі для самой Дорлі Філіпі.

Напрыклад, адна з яе пляменніц прымала ў сваёй сям'і хлопчыка Юру з Дзятлавіч — і актыўна многія гады кантактавала з усёй яго радзінай. А для таго, каб гэта адбывалася больш эфектыўна, пачала вывучаць нашу мову — і цяпер размаўляе на ёй даволі свабодна. Нават паспяхова здала з гэтай нагоды шэраг сур'ёзных іспытаў.

Не так даўно Юра пасля службы ў войску па асабістым запрашэнні зноў пабываў у Швейцарыі. Дорлі Філіпі думала ўбачыць сур'ёзнага маладога мужчыну, а ўбачыла хлопчыка, які некалі быў у Швейцарыі на адпачынку.

Гэта было надзвычай сардэчна і міла, кажа яна.

Напрыканцы артыкула скажу літаральна некалькі слоў пра сістэму пенсійнага забеспячэння ў Швейцарыі.

У адрозненне ад Беларусі, там вельмі спакойна ставяцца да так званых Дамоў састарэлых, і зусім не лічаць іх нечым экстраардынарным. Наадварот, пенсіянеры шчыра прагнуць туды трапіць.

Па-першае, па беларускіх мерках такія дамы могуць прэтэндаваць на месца сярод элітнага жытла, бо гэта звычайна — вялікія па метражы адна- і двухпакаёвыя кватэры. Па-другое, у Швейцарыі, за выключэннем вёсак, пе-

раважная большасць насельніцтва ўсё жыццё арандуе жытло, таму што мецць уласныя «квадратныя метры” — вельмі дорага.

Цікава, што трапіць у Дом састарэлых швейцарцы могуць толькі тады, калі да васьмідзесяці год напісалі адпаведную заяўку.

Звонку швейцарскія Дамы састарэлых нагадваюць камфартабельныя шматфункцыянальныя комплексы. Пражыванне аплачваецца з пенсій жыхароў, але магчыма, што ў якасці спонсара выступае і дзяржава — так бывае ў выпадках, калі сам чалавек, альбо яго дзеці, неплацежаздольныя. Абдурыць дзяржаву немагчыма.

У Дамах састарэлых пенсіянераў умоўна падзяляюць на тры катэгорыі: тыя, хто можа даглядаць сябе сам, тыя, каму часткова патрэбны дагляд, і тыя, каму дагляд патрэбны 24 гадзіны ў суткі.

Яшчэ раз уяўляю, колькі зараз прагучала ўсклікаў кшталту «нам бы іх праблемы!», — таму, перш чым паставіць кропку, хачу заўважыць, што Швейцарыя нават не называе сябе «сацыяльнай дзяржавай».

# Яшчэ адно хобі байкера

Ніколі б не падумаў, што яго новае захапленне будзе звязанае з дабрачыннасцю — бо байкеры пераважна ўспрымаюцца, як людзі, далёкія ад любых сантыментаў. Аднак уразіла мяне не толькі гэта. У чарговы раз узрушыла тое, як сур'ёзна за мяжой ставяцца да прыёму беларускіх дзяцей. У гэтым рэчышчы расказ Петэра Графа не толькі вельмі тыповы, але і вельмі паказальны.

*«Напэўна, лагічна пачынаць з таго, як Вероніка Ройшэнбах прапанавала мне заняць яе пасаду. Але я хачу літаральна некалькі слоў сказаць пра тое, што было перад гэтым.*

*Мае бацькі пачалі прымаць чарнобыльскіх дзяцей на аздараўленне адразу пасля таго, як пастар Андрэас Гёрліх стварыў у нашым горадзе адпаведную ініцыятыву. Аднак, нягледзячы на тое, што Аляксей, які першым прыехаў у нашу сям'ю і чый фотаздымак упрыгожвае гэты тэкст, з часам стаў маім добрым сябрам, — я не ўваходзіў у склад гэтай ініцыятывы.*

*Аднойчы я пачуў, што яе праўленню патрэбны чалавек, які на валанцёрскіх пачатках будзе выконваць частку работы.*

*Работа па навучанні абслугоўванню фармакалагічных машын і ўпакоўцы лекаў дазваляла не толькі падарожнічаць па ўсім свеце, але і знаходзіць час*



**Петэр Граф і яго беларускі сябар Аляксей**

*на нешта іншае. Праўленне ахвотна прыняло мяне ў свае шэрагі. Я прысутнічаў на ўсіх паседжаннях, аднак, так бы мовіць, быў «міністрам без партфеля», то бок, не браў удзелу ў галасаванні і не адказваў за канкрэтны напрамак работы.*

*Праз некалькі год мяне абралі намеснікам кіраўніка ініцыятывы, а яшчэ праз пэўны час паўстала пытанне пра тое, каб яе ўзначаліць. Вераніка Ройшэнбах, якая займала пасаду прэзідэнта ініцыятывы дзесяць год запар і ўжо крыху стамілася, пажадала бачыць мяне сваім пераемнікам.*

*Гэта было цалкам нечаканым. Мне вельмі падабалася быць чальцом арганізацыі, я з задавальненнем выконваў усе даручэнні, але стаць прэзідэнтам?! Ніколі ў жыцці!*

*Было гэта ў маі 2014 года.*

*Потым працяглы час я вучыўся, то бок, павышаў сваю прафесійную кваліфікацыю. З'явілася магчымасць яшчэ раз падумаць над прапановай Веронікі, і я вырашыў рызыкнуць.*

*Было цалкам зразумела, што працаваць з такім імпэтам і эфектыўнасцю, як гэта рабіла Вероніка, не зможа ніхто. Адна справа — кіраваць праўленнем у якасці надзвычай энергічнай пенсіянеркі, і зусім іншая — займацца дабрачыннасцю ў вольны ад асноўнай працы час.*

*Усю работу нашага праўлення было неабходна перафарматаваць. У тыя часы ў яго склад уваходзіла дзевяць чалавек (сёння — сем).*

*У жніўні 2014 года я запрасіў усіх да сябе дамоў, і мы на працягу цэлага дня праводзілі своеасаблівы ворк-шоп, то бок, пераразмяркоўвалі напрамкі дзейнасці, вызначалі ролі і тое, каму іх лепш выконваць.*

*Зразумела, нікому з калегаў я не казаў, што маю намер пагадзіцца ўзначаліць ініцыятыву (ведала толькі Вероніка), аднак тое, як яны збіраюцца працаваць у будучым, мне вельмі спадабалася. Зразумела было і тое, што, калі мы не навучымся дзейнічаць без Веронікі Ройшэнбах, арганізацыя проста спыніць сваё існаванне.*

*Гэтага не хацелася нікому.*

*Пасля таго, як на ворк-шопе мы пераразмеркавалі абавязкі, я зразумеў: грамадская дзейнасць не будзе замінаць маёй працы, і ў кастрычніку мяне абралі прэзідэнтам. На радасць усім — бо знайсці чалавека, які здольны ўзяць на сябе такую адказнасць, надзвычай цяжка.*

*Так, гэтая пасада валанцёрская, але цалкам назваць яе бясплатнай нельга. Толькі плацяць не грашыма. Я б нават сказаў, што работа аплачваецца па-царску — любоўю, удзячнасцю, радасцю тых дзяцей, якіх прымаем у Швейцарыі штогод. Пачуццяў так шмат, што ніякімі грашыма іх не вымераць.*

*Гэта самая галоўная матывацыя».*





**Жэнева. 2011 год. Петэр і яго сяброўка Жаніна ўдзельнічаюць у Маршы міру**

Петэр Граф — з той катэгорыі людзей, якія не шукаюць спакой на канапах. На момант нашай размовы яму быў 41 год — і 50 краінаў за плячыма. Можа, гэтыя лічбы і не падаліся б неардынарнымі, калі б адна асаблівасць. Фактычна ўсе свае падарожжы Петэр ажыццявіў за рулём уласнага байка. Не будзе лішнім улічыць і тое, што перад самымі выбарамі на пасаду прэзідэнта чарнобыльскай ініцыятывы сваёй мясцовасці ён перанёс вельмі сур'ёзную аперацыю, звязаную з парокам сэрца, які абмяжоўваў яго актыўнасць ад нараджэння.

Пра байк-падарожжы Петэра Графа можна распавядаць даволі доўга, але я спыню ўвагу толькі на адным — самым небяспечным і складаным факце.

У 2007 годзе Петэр вырашыў праехаць (адзін!!!) на матацыкле ад Цюрыха да Уладзівастока. Пралічыць з дапамогай мапы тысячы кіламетраў паміж гэтымі гарадамі не цяжка, калі іх аб'яднаць адной прамой лініяй, але я раю гэтага не рабіць. Бо маршрут пракладваўся з улікам таго, што ў дзяржавах, па тэрыторыі якіх ён праходзіў, ёсць дарогі, дзе можа праехаць матацыкл, і ёсць больш-менш нармальная сувязь.

Да самага дальняга падарожжа ў сваім жыцці Петэр Граф рыхтаваўся як след. Нават вывучыў (у адпаведным аб'ёме, канешне) рускую мову. Даехаць да Уладзівастока не атрымалася па прычыне аварыі ў мангольскай пустэльні, адкуль яго даставілі ў Паўднёвую Карэю, дзе паспяхова зрабілі складаную аперацыю на зламанай назе.

Веданне ж мовы прыдалося, калі Петэр пачаў непасрэдна займацца ўсімі чарнобыльскімі справамі і асабліва — калі ў сваёй мясцовасці ўзначаліў адпа-

ведную арганізацыю, бо ініцыятыва швейцарскага Хардвальда супрацоўнічае з беларускімі Лунінцом і Дзятлавічамі, дзе рускую мову ведаюць не горш за сваю родную.

Менавіта тэмай гэтага супрацоўніцтва і будзе лагічным працягнуць далейшы аповед самога Петэра Графа.

*«Раней да нас прыязджала 40 беларускіх дзяцей, потым іх колькасць скарацілася да 30-ці — таму галоўнай мэтай свайго прэзідэнцтва я лічу вяртанне на былы ўзровень ужо ў 2017 годзе. Вельмі спадзяюся, што гэта атрымаецца.*

*Дзеці, якія адпачываюць у Швейцарыі, бавяць час не толькі ў сем'ях. Тройчы на тыдзень (панядзелак, серада, чацвер) у нас адбываюцца так званыя «праграмныя дні», то бок, дні, калі праводзяцца агульныя для ўсіх мерапрыемствы. Змест іх розны, але сутнасць адна — зрабіць адпачынак цікавым, карысным і запамінальным.*

*Напрыклад, кожны раз адзін праграмны дзень мы ладзім у Пфунгене, у парафіі Андрэаса Гёрліха, і той праводзіць для беларускіх дзяцей экскурсію па царкве, расказвае, як яна працуе ў Швейцарыі. Дзецям дазваляецца вывучаць уладкаванне алтара, біць у званы.*

*Такое нават у Швейцарыі магчыма далёка не ў кожнай царкве. У Пфунгене лагоднасць звязаная перш за ўсё з іменем Андрэаса Гёрліха. Яго тут вельмі паважаюць.*

*Месца ў гэтай горнай вёсцы шмат, таму мы праводзім там шмат розных спартыўных гульняў і алімпіяд. Большасць з іх суправаджаецца шчырым дзіцячым смехам, што для ўсіх — жаданы падарунак. А для дзяцей сапраўдным падарункам стае наведванне самага буйнога ў Швейцарыі вадаспада, які месціцца непадалёк.*

*Перад тым, як трапіць на тэрыторыю Германіі, вядомая рака Рэйн праходзіць праз вельмі прыгожыя скалы. Месца гэтае называецца Шафхаўзен.*

*Асабліва дзеці любяць праграмны дзень, які праходзіць разам з пажарнымі ратавальнікамі. Там бывае вельмі шмат цікавостак. Звычайна пажарнікі выкарыстоўваюць сваю трыццаціметровую лесвіцу для таго, каб здымаць з дрэваў катоў, якія збеглі з дому. Напярэдадні ж гэтага дня з дапамогай лесвіцы яны развешваюць на дрэвах розныя салодкасці, якія на наступны дзень чарнобыльскія дзеці атрымліваюць, калі адважваюцца (разам з кіраўніком пажарных) патрапіць у аўтаматычным кашу на самую верхатуру.*

*Так у іх свядомасці адбываецца абсалютна бяспечная перамога над страхам вышыні.*

*На пажарным палігоне ёсць шмат аб'ектаў, якія імітуюць сапраўдны пажар. З дапамогай спецыяльнага апарата-цеплавізара дзеці ў пакрытым дымам будынку шукаюць рэчы, якія «гараць». Напрыклад, уключаны ў разетку прас.*

*Дзеці апранутыя, як сапраўдныя пажарныя. Няма толькі процівагазаў, бо дым там не сапраўдны, а такі, што звычайна выкарыстоўваюць на дыскатэках.*

*Дзяцей вучаць тушыць коўдрай крыніцы пажараў. Яны гуляюць пажарнымі шлангамі ў жартлівы футбол, калі дзве каманды заганяюць вадой мяч у браму саперніка, альбо пераадольваюць канатную дарогу над «ракой, дзе шмат кракадзілаў».*

*Заўсёды захапляльнымі бываюць наведванні надзвычай прыгожай горнай пляцоўкі Сэнціс, якая знаходзіцца на дзвюх з паловай тысячах метраў над узроўнем мора, і Цюрыха, дзе дзеці больш за ўсё любяць мясцовы заапарк з прышпільнымі малпамі і басейн, адкуль іх потым немагчыма выцягнуць.*

*Словам, мы робім усё, каб адпачынак у Швейцарыі запомніўся дзецям на ўсё жыццё».*

Сяброўка Петэра Жанін таксама захапляецца работай з чарнобыльскімі дзецьмі. Пазнаёміліся яны пяць год таму на знакамітым швейцарскім вулічным парадзе (Street Parade), які ладзіцца вакол цюрыхскага возера ад 1992 года і ў якім бяруць удзел больш за мільён чалавек. Нечым гэтае свята нагадвае знакамітыя бразільскія карнавалы, дзе пануюць весялосць, каханне і танцы.

Пасля таго, як Петэра абралі прэзідэнтам мясцовай чарнобыльскай ініцыятывы, Жанін пачала выказваць «прэтэнзіі», што ён увесь час заняты — альбо сваёй работай, альбо чарнобыльскімі дзецьмі. Аднак, як толькі надыходзіць дзень іх ад'езду, яна адразу робіцца сумнай ад разумення таго, што развітваецца са сваімі маленькімі сябрамі.

Байкерства, дарэчы, не адзінае хобі Петэра Графа. Яшчэ ён вельмі захапляецца фатаграфіяй. Менавіта з яго фотаздымкаў складаецца калаж, якім я і хачу скончыць гэты нарыс і зноў пакідаю выяву без якіх-кольвек каментароў, бо ўсё там зразумела без слоў.

ГЛАВА XI

# САД НАДЗЕІ НА ЗЯМЛІ ВЕРЫ

У адной песні надзею называлі
«зямным компасам».
Удалая метафара! Толькі там яна датычылася
канкрэтнай асобы, а тут гаворка ідзе
пра цэлае пакаленне.
Магчыма, гэта прагучыць крыху пафасна,
але Генадзь Грушавы
і фонд «Дзецям Чарнобыля»
вярнулі многім не толькі здароўе,
але і надзею на будучыню, веру ў свае сілы.
Канешне, сумна, што сёння
яны «схаваныя пад асфальт»,
але з часам яны прарастуць і адтуль.

## *Ирина Грушевая вспоминает...*

«Начну издалека.

Я уже рассказывала, что на рубеже восьмидесятых и девяностых годов мы очень многое делали для того, чтобы привлечь внимание мировой общественности к чернобыльским проблемам Беларуси, ибо официальные власти умышленно эти проблемы замалчивали. Именно в таком ракурсе я использовала свое пребывание за границей.

В 1991 году из немецкой земли Северный Рейн-Вестфалия в Минск приехала большая делегация во главе с земельным министром внутренних дел доктором Гербертом Шнором. Приехали для того, чтобы торжественно заложить первый камень в основание строительства Международного Минского образовательного центра, который большинство сейчас знает, как IBB.

Наш фонд был одной из первых гражданских инициатив Беларуси, и их это сильно заинтересовало. Впервые в своей едва зародившейся истории фонд «Детям Чернобыля» принимал у себя в гостях делегацию столь высокого уровня.

В её составе была Элизабет Райзер, которую мне представили, как президента Экуменического форума женщин-христианок Европы. Активность фон-

**Вокальный ансамбль «Крэсіва» поет для Сада Надежды**



да, ощущение грядущей свободы произвели на Элизабет такое впечатление, что она тотчас же пригласила меня на конференцию европейских женщин, которые занимаются вопросами экологии и которая скоро должна была состояться в Италии.

Начало работы фонда напоминало геометрическую прогрессию. Деятельность буквально фонтанировала. Если в 1990 году на оздоровление за гра-



**Посадка будущего сада**

ницу мы отправили шесть тысяч белорусских детей, то в 1991-м — уже двадцать тысяч. Кто знает, как это непросто, поймет, насколько интенсивным был ритм нашей работы. Особенно, если учесть препоны, которые чинила власть, а их было невероятное множество.

Честно говоря, в рабочей суете я даже забыла о приглашении на конференцию и вспомнила о нем, лишь когда в 1993 году пришла официальная бумага.

Экуменический форум женщин-христианок Европы объединил представительниц религиозных конфессий 28 стран. В одной только Германии в него входило около четырех тысяч активисток. Первым президентом этой организации избрали Элизабет Райзер.

К слову, тогда в неё входили и русские православные.

Одним из важных пунктов деятельности форума являлись вопросы экологии, а значит, и всё, что связано с Чернобылем. Я была очень рада такой трибуне. Выступление на ней было не только престижным, не только давало возможность быть услышанным, но и выливалось в конкретные проекты.

Для того чтобы про чернобыльские проблемы в Европе узнали более обстоятельно, я пригласила участвовать со мной в конференции мою коллегу с великолепным знанием английского языка Людмилу Лещеву. Выступили мы

**Отец Игорь (в миру Игорь Коростылёв) перед акцией**



очень убедительно, показали фотографии, представили данные социологических исследований.

На всех присутствующих это произвело очень сильное впечатление, и впоследствии фонду «Детям Чернобыля» удалось наладить очень много интересных международных проектов. По разным направлениям.

Тогда я очень плотно занималась созданием для белорусских детей фабрики по производству экологически чистого питания. С помощью немецкой организации «Матери и отцы против ядерной угрозы» нам удалось отыскать средства для закупки соответствующего оборудования. Оставалось найти в Беларуси чистые от радиации земли, где можно было бы выращивать экологически чистые злаки. Пшеницу, например.

Не следует забывать, что речь идет про начало девяностых годов прошлого века — время большой разрухи. Тогда практически ни у кого не было чёткого представления, как эту проблему следует решать. Зато было большое желание её непременно решить, ибо уже тогда по линии фонда действовало восемь тысяч активистов по всей стране.



Известный белорусский фотожурналист Женя Коктыш посоветовал пригласить работать в проекте его хорошего друга Генриха Третьяка, который руководил колхозом имени Ломоносова в Столбцовском районе. Кандидат сельскохозяйственных наук, очень интересный человек с новаторским мышлением.

Как и мы, он был гуманитарием, но у нас тогда не было слова «не могу». Верилось, что сможем всё.

Работа в этом направлении медленно, но верно продвигалась. Невзирая на то, что именно тогда и началась реставрация советской системы. Государство вновь




**Татьяна Мельничук в Австрии**

иному открывали для себя категории морали и принципы мироустройства, при которых милосердие — не способ ублажить государство. Грушевой сказал как-то, что из «его» детишек, прошедших европейское оздоровление, вырастает поколение новых для Беларуси людей, нацеленных на разумную организацию жизни и быта. Но гораздо быстрее в этих поездках-разговорах-сравнениях выросло новое поколение белорусских журналистов. Многих из нас Фонд заставил увидеть Родину в таких подробностях человеческих судеб, что навсегда отпало воспитанное журфаками умение маскировать, как морщинки на лице, не вписывающиеся в официальное благополучие «частности».

Эти устремления, связи, гражданская ответственность за происходящее вокруг неизбежно и постоянно развиваются и ширятся — как растет Сад надежды, посаженный уже много лет назад женщинами различных вероисповеданий у тогда еще только заложенного храма Всех Скорбящих Радость.

Я много думала, почему обладавший завидными организаторскими способностями Грушевой не пошёл в политики, а сделал акцент на общественной деятельности. Знаю, что выдвинись он, например, в президенты, под-

держку обеспечили бы не только десятки тысяч связанных с фондом «Детям Чернобыля» семей, но и структуры ряда политических партий, общественных организаций.

Умный, образованный, глубоко интеллигентный и честный — он был бы прекрасным главой государства!

Лет, как минимум, еще через десять.

Не пошёл не потому, что авгиевы конюшни обретшей суверенитет Беларуси не под силу разгрести интеллигентам.

Потому, что вместо «конюшен», заезженных лошадей и понурого кучера Грушевой видел и строил новый тип жизни.

Как положено честному человеку — с фундамента, а не с крыши».

# Фонд і яго кіраўнік

Вядомы журналіст Генадзь Кеснер — таксама адзін з вучняў Генадзя Грушавога. Але не па вучэнні ў акадэмічным разуменні гэтага слова, а па навуцы жыцця.

## Незабыўныя моманты

Лёс звёў мяне з Беларускім дабрачынным фондам «Дзецям Чарнобыля» і яго кіраўнікамі Генадзем і Ірынай Грушавымі ў 1990 годзе, калі я быў студэнтам аддзялення нямецкай мовы другога курса перакладчыцкага факультэта Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута замежных моў. Пайсці ў фонд мне прапанавала мая любімая выкладчыца і куратар нашай групы Любоў Ільінічна Фёдарава (светлая і вечная ёй памяць), якая кіравала аўстрыйскім накірункам дзейнасці фонду «Дзецям Чарнобыля».

Спачатку давялося прыбіраць тэрыторыю, потым сядзець «на тэлефоне» — ад самага ранку да позняга вечара ў офісе не змаўкалі тэлефоны з усёй Беларусі: людзі звярталіся да нас як да апошняй інстанцыі, якая можа дапамагчы аздаравіць дзіцятка альбо накіраваць яго на лячэнне, ці дапамагчы лекамі, рэчамі з «гуманітаркі», што фонд атрымліваў тонамі ад сваіх замежных партнёраў. І дакладна заносіць усе тэлефанаванні (хто, адкуль, каму і па якім пытанні) у адмысловы гросбух.

Напісаць пра ўсё, звязанае з фондам, не ўяўляецца магчымым. Але вось некалькі характэрных момантаў, якія запомніліся мне, бадай, на ўсё жыццё.



**Генадзь Кеснер**

# Першае

Самаадданасць тых, хто далучаўся да дзейнасці Беларускага дабрачыннага фонду «Дзецям Чарнобыля» .

Самая гарачая пара — ад вясны да восені, калі сотні замежных ініцыятыў — партнёраў нашай арганізацыі запрашалі на аздараўленне беларускіх дзетак з рэгіёнаў, якія пацярпелі ад чарнобыльскай навалы. Іх колькасць у некаторыя месяцы на пачатку 90-х гадоў дасягала дзясяткаў тысяч. Вы можаце сабе гэта ўявіць? Можаце ўявіць, якая нагрузка была на нашу дабрачынную недзяржаўную арганізацыю?

У фондзе амаль не было прафесіяналаў што да афармлення візаў, падрыхтоўкі дакументаў. Усяму даводзілася вучыцца «з чыстага аркуша». І вучыліся! Прычым так, што я не ўзгадаю (прынамсі, за час майго супрацоўніцтва з фондам), каб хоць адна дзіцячая група на аздараўленне «выпала» па нейкай тэхнічнай прычыне.

У тыя часы фатаграфіі дзетак для атрымання візаў трэба было ўклейваць у пашпарты суправаджаючых (перакладчыкаў і выхавацеляў, настаўнікаў), якія ехалі з імі за мяжу. Часам актывістам арганізацыі даводзілася мяняць пашпарты ледзь не кожны год (а то і часцей), бо старонкі ў дакуменце хутка заканчваліся. Потым, крыху пазней, ужо можна было рабіць «дадатак» — размяшчаць фоткі дзетак на асобных аркушах А-4, прашытых, праштампаваных у АВІРы, падпісаных адпаведнымі дзяржаўнымі службоўцамі, і гэтак далей. Колькі ж гэта працы!

І вось некалькі гадоў запар у дворыку сядзібы фонду на вуліцы Старавіленскай, 14 з'яўляліся дзясяткі сталоў (не памятаю, адкуль іх бралася такая колькасць). І дзясяткі настаўнікаў, актывістаў ды іншых людзей круглыя суткі (!) сядзелі і рыхтавалі паперы, каб як мага хутчэй яны трапілі ў адпаведную амбасаду (у той час яшчэ ніякай Шэнгенскай дамовы не было). Людзі прыносілі з сабою «тармазкі», каб перакусіць, у офісе можна было прыгатаваць каву ці гарбату. Дарэчы, было добрай традыцыяй, калі вяртаешся з такіх паездак, прывезці з сабою для калегаў нешта смачнае, а таксама каву ці гарбату. І гэта было цалкам нармалёва. Людзі працавалі ад душы, бо ведалі, для чаго яны гэта робяць.

## Яшчэ адно

Праз колькі часу мяне ўзялі ў «штат» — намеснікам загадчыка бюро фонду (тады ім была Марына Казакова). Вось тут працы стала значна больш, чым сядзець «пры тэлефоне» ці ездзіць разгружаць гуманітарную дапамогу. Гэта і безліч факсаў з замежжа, на якія трэба было рыхтаваць адказы і насіць іх на подпіс Грушавому (ён прабягаўся вачыма і ставіў свой аўтограф), і кантакты з рознымі ініцыятывамі ў рэгіёнах Беларусі, і шмат чаго іншага.

Некалькі разоў на тыдзень Генадзь Уладзіміравіч склікаў праўленне фонду. Звычайна паседжанне прызначалася на 19.00. Але, шчыра кажучы, у гэты час яно практычна ніколі не пачыналася. У шэфа было столькі спраў, што ён папросту не паспяваў вырашыць усе пытанні да гэтага часу. Прыязджаў пазней, часам — істотна пазней. Але ніхто з сябраў кіруючага органа арганізацыі не разыходзіўся. Пасля прыезду Грушавога «сходка» магла цягнуцца і да трох гадзін ночы і нават пазней, залежна ад колькасці праблем, якія трэба было тэрмінова абмеркаваць.

І гэта тлумачылася тым, што ў нас былі дзясяткі дабрачынных праектаў, рэалізацыя якіх патрабавала тэрміновых рашэнняў. Грушавы імі проста фантаніраваў! Таму ўсе ўсё разумелі і трывалі. Хоць некаторым (выкладчыкам

ВНУ і настаўнікам) раніцай трэба было ўжо быць у аўдыторыях і класах, ці зноўку ў сядзібе фонду (супрацоўнікам), альбо ў медычных установах (урачам). Вось такі быў рэжым нашай працы.

## Трэцяе

Гэта нашы святы. Безумоўна, супрацоўнікі і валанцёры, актывісты фонду «Дзецям Чарнобыля» — перш за ўсё, людзі. Ужо праз кароткі час супольнай дзейнасці арганізацыя пераўтварылася ў вялікую сям'ю. Мы любілі адзначаць разам галоўныя святы (дакладней, збіраліся ў офісе напярэдадні гэтых святаў) — Новы год, Каляды, 8-га Сакавіка, некаторыя іншыя.

Асаблівасцю гэтых адзначэнняў было тое, што нашы чароўныя «фондаўкі» гатавалі сваімі рукамі розныя смакоцці: і гарачыя стравы, і фантастычныя салаткі, і пірагі, і салодкія прысмакі. І прыдумлялі нешта адмыслова-забаўляльнае. Генадзь Уладзіміравіч вельмі любіў такія «сходкі», якія часам не маглі ўмясціць у офісе усіх жадаючых. Нічога страшнага — перамяшчаліся ў наш любімы дворык перад дзвярыма сядзібы. У выніку месца ўсім хапала, як і святочнага настрою, напояў ды прысмакаў.

Адзначу, што нават пасля сыходу Генадзя Уладзіміравіча гэтая традыцыя ў нечым захавалася. У Садзе Надзеі (каля праваслаўнага прыхода Іконы Маці Божай Чарнобыльскай «Усіх тужлівых радасць», што на вуліцы Прытыцкага ў Мінску) 24 ліпеня 2015 года, калі былыя і цяперашнія фондаўцы адзначалі 65-гадовы юбілей нашага шэфа, які, напэўна, назіраў за прысутнымі з Нябёсаў, жанчыны прынеслі багата розных самаробных прысмакаў. Людзі сыходзяць, а памяць і традыцыі фонду, дзякуй Богу, застаюцца.

## Апошняя сустрэча

У суботу, 25 студзеня 2014 года я завітаў дадому да Генадзя Уладзіміравіча Грушавога, другі раз за апошні тыдзень. Мой старэйшы сябра ўжо некалькі гадоў хварэў на лейкемію. Гэтым разам мы сустрэліся каротка, бо ён збіраўся да лекара а 14-й гадзіне. Майму былому шэфу захацелася мандарынаў і яблыкаў, і я прывёз іх яму. Яшчэ прывёз рарытэтнае выданне пра жыццё паслярэвалюцыйнай расійскай эміграцыі, а, дакладней, часопіс «Рускае жыццё» за 1926 год.

«Я хачу зразумець логіку паводзінаў тагачаснай расійскай інтэлігенцыі. Што яны сабе думалі пасля кастрычніцкага перавароту? І хачу параўнаць гэта з паводзінамі і думкамі расійскай інтэлігенцыі ды ўвогуле істэблішменту дня



**Генадзь Кеснер ў Германіі**

сённяшняга. Што яны хочуць ад нас і ад іншых суседзяў? Гэты часопіс спатрэбіцца мне для далейшай працы», — сказаў мне Грушавы ў аўторак, падчас нашай перадапошняй сустрэчы. Так, ён збіраўся працаваць, пісаць. Я і думку не мог дапусціць, што тая суботняя сустрэча стане апошняй.

Генадзь Грушавы амаль пяць гадоў мужна змагаўся з цяжкай хваробаю. Ні на хвіліну не сумняваюся, што яна сталася наступствам і незлічоных паездак кіраўніка фонду ў атручаную чарнобыльскай радыяцыяй зону Беларусі, і безлічы бяссонных начэй, і пераследаў, якія чынілі яму, ягонай сям'і і ягонаму галоўнаму дзецішчу — Беларускаму дабрачыннаму фонду «Дзецям Чарнобыля» тыя, хто і сёння працягвае заставацца пры ўладзе.

Мужнасць Генадзя Грушавога прымушае схіліць перад ім галаву. Урачы, як распавядаў мне сам Генадзь Уладзіміравіч, давалі яму літаральна некалькі месяцаў, а ён здолеў ператварыць іх у пяць год паўнавартаснага жыцця. Са сваімі маладымі спадкаемцамі ён ладзіў маладзёвыя форумы, у якіх удзельнічалі дзясяткі, сотні юнакоў і дзяўчат з усіх рэгіёнаў Беларусі. Нягледзячы на хваробу ў апошнія гады, хоць на пару-тройку гадзін Грушавы прыязджаў да маладзёнаў на іх святы. Ён імкнуўся дапамагаць і праваабаронцам, пра што маглі б распавесці актывісты «Платформ інавэйшн».

Амаль 25 гадоў звязвала мяне з Генадзем Уладзіміравічам цеснае знаёмства і супраца ў фондзе, а ў апошнія гады мы сталі сябрамі. Я вельмі ганаруся, што так адбылося. Я вельмі шчаслівы, што лёс паслаў мне такога Чалавека, якім можна было захапляцца, якому можна было верыць. І гэта шчырая праўда.

Пра плённую дзейнасць Грушавога — і як старшыні Беларускага дабрачыннага фонду «Дзецям Чарнобыля», і як навукоўца, і як дэпутата Вярхоўнага Савета 12-га і 13-га скліканняў — яшчэ будзе шмат сказана і напісана іншымі. Мне ж проста хочацца сказаць Генадзю Уладзіміравічу: велічэзны дзякуй! Дзякуй за ўсё! Дзякуй за тыя шчаслівыя і вельмі цікавыя дні, гадзіны, хвіліны, якія мне было даравана быць побач».

ГЛАВА XIII

# АПОШНЯЕ ІНТЭРВ'Ю

Кажуць, што лепш за ўсё вучыцца
на памылках іншых. Падобна на тое,
што мы не вучымся ні на сваіх, ні на чужых.
Толькі гэтым можна патлумачыць будаўніцтва
сваёй атамнай станцыі. А яшчэ тым,
што прыхільнікі «праекта стагоддзя»
з большасці не асабліва вераць у верагоднасць
яго ажыццяўлення і не бачаць сваё жыццё
побач з новай АЭС...

# Островец как площадь Независимости

Это интервью было последним в жизни Геннадия Грушевого. За несколько дней до его смерти запись сделал мой коллега и его давний друг Евгений Огурцов. Сегодня это ещё и подсказка, вокруг чего белорусам можно и нужно объединяться.

***— Что для Вас значит Чернобыль?***

— С одной стороны, это трагическое событие как в моей личной жизни, так и в судьбе всего нашего народа. С другой — высший уровень общественной активности граждан в новейшей белорусской истории. Вот две точки, через которые можно провести прямую линию в наше будущее.

Чернобыль — это для всех нас, конечно, самое страшное событие после второй мировой войны. Реально радиация принесла угрозу здоровью и жизни практически всем гражданам Беларуси. Многие, хоть это скрывается до сих пор, потеряли здоровье, лишились своих жилищ, работы, семей. Сотни тысяч изломанных судеб!

Я не стану говорить, что Чернобыль мог физически уничтожить нацию, но он нанёс белорусам глубочайшую психологическую травму. Это факт, который никто не может оспорить. Если бы так всё и закончилось, то это было бы для народа полным поражением.

***— Значит, всё-таки, есть надежда?***

— В лихую годину белорусы начинают объединяться, распрямлять спины и являть многочисленные примеры жертвенности, силы и терпения. Если не стремиться выстоять, то за такими катастрофами следует деградация общества, разложение и гибель государства. Что бы ни говорили, но Чернобыль соединил в себе смертельную опасность и консолидацию социума.

Самую большую опасность Чернобыль нёс детям, у которых скорость обмена веществ значительно выше, чем у взрослых, а значит, и радиацию их организмы накапливали быстрее, чем их родители. Несформировавшиеся органы, получив дозу радиации, заболевали, происходили мутации и... ле-

тальный исход либо инвалидность. Дети наивны и беззаботны, то есть наиболее уязвимы для «мирного атома». Дети от пожара убегут, а от невидимой радиации — нет.

***— Потому-то Грушевой и создал знаменитый благотворительный фонд «Детям Чернобыля»?***

— И поэтому, в том числе. Опасность мобилизовала наиболее активную часть социума, заставила действовать, а не просить помощи у власти. Тем более что как партийные, так и советские работники поголовно врали, преуменьшая опасность радиации и её последствий. Могу сказать совершенно ответственно, что после аварии белорусы явили высокий потенциал гражданственности. Именно чернобыльское движение пробудило людей и они стали осознавать себя гражданами, а не «советским народом», покорным и бессловесным.

***— Хотите сказать, что люди осознали, что позаботиться о себе и своих детях можно и без руководящей роли райкомов и горкомов?***

— Люди поверили, что их усилия могут реально изменить жизнь. Ведь как — и тогда, и теперь — думает большинство белорусов: «Я маленький, что я могу? От меня ведь ничего не зависит!». А тут — раз, и дети из посёлка, безо всяких профсоюзных путевок и райисполкомовской очереди, поехали в Германию! Или безо всякого райкома получили машину гуманитарной помощи. Люди сами, без помощи госорганов, напрямую договорились с инициативными группами из другого государства... Появилась давно забытая вера в свои силы как гражданина. Люди стали осознавать, что их усилия дают результат, они могут менять свою жизнь, а объединившись с другими, могут изменить и государство.

***— Зная состояние нынешнего гражданского общества в нашей стране, вернее, его почти полное отсутствие, хочу спросить: как могло случиться, что ваши многочисленные чернобыльские инициативы, которые сами уже чуть ли не управляли муниципальными структурами в посёлках и небольших городах, вдруг куда-то бесследно исчезли?***

— Да, форс-мажор случился — развал СССР. Эта волна разваливающейся советской системы накрыла зарождающиеся гражданские отношения. Мир ломается и появляется новая историческая реальность. Какие в этот момент могут быть гражданские деяния, если массово закрываются предприятия, зарплата не платится месяцами, непонятно, как работать школам, вузам,



**Евгений Огурцов и Геннадий Грушевой**

поликлиникам, как жить... Хаос накрыл Беларусь, люди стали просто выживать!

Народ только начинал подниматься с колен, осознавать свою силу и реально влиять на события не только районного масштаба, но и на государственную политику и... рухнул социалистический строй!

Гражданское общество может формироваться только в состоянии определенной устойчивости. На пике деятельности, в 1992 году, у нас было 14 тысяч зарегистрированных членов организации, но за каждым из этих лидеров стояли десятки, если не сотни активистов, готовых работать на идею осмысленно и добровольно. А тут наступил коллапс не только власти, а всего уклада жизни!

***— Как-то не совсем понятно. Ведь рухнула власть коммунистов, состоялись свободные выборы, люди получили куда большую свободу мыслить и делать... Инициатива людей должна была увеличиваться, шириться, а ваши структуры стали и количественно, и качественно меняться. Почему так произошло?***

— Вы заблуждаетесь, потому что никакой демократии в стране не было. Узенькая прослойка демократически настроенной элиты — вот и всё, что у нас было. Старый свет тогда действительно потушили, но новый-то не за-

жгли. Мы оказались во тьме... Это событие предопределило тот факт, что чернобыльское движение, не успев перерасти в устойчивую платформу будущего гражданского общества, стало потихоньку расслаиваться, размываться, пока не выродилось в обычное благотворительное общество, к тому же со всех сторон зажатое государственными структурами и нормами. Тем не менее это движение показало, что потенциал демократа и гражданина в наших людях есть, и он не маленький.

***— В конце восьмидесятых, а именно 26 апреля, в день годовщины трагедии прошёл первый «Чарнобыльскі шлях»...***

— 26 апреля 1989 года прошёл не «Чарнобыльскі шлях». В этот день была проведена акция под названием «Гадзіна смутку і маўчання» — возложение венков и зажжение свечей. Это была первая точка, зафиксированная в общественном сознании как печаль, молчание, скорбь по всем пострадавшим от катастрофы. Вторая — собственно «Чарнобыльскі шлях», состоявшийся 30 сентября того же года. Это протестное отношение масс к политике властей по чернобыльской проблеме. Уже на следующий год эти две точки соединились, и две акции — поминальная и протестная — слились в одну: 26 апреля — «Чарнобыльскі шлях».

**Островец. Строительство АЭС.**



***— А что Вы думаете про нынешний «Чарнобыльскі шлях»?***

— Увы, сегодня мы видим полное вырождение прежних гражданских идеалов, превратившихся в некое непонятное ритуальное действо. Какой тут протест, если людей зовут идти по проторённой дорожке в парк Дружбы народов возлагать цветы к чернобыльской каплице и называют это «Чарнобыльскім шляхам»? Куда ведёт этот путь? Дорога в никуда! По сути, это возврат в усечённом виде к акции «Гадзіна смутку і маўчання».

***— Почему такое случилось?***

— Причина — разрыв между общественно-политическим и собственно чернобыльским движением, который произошел в конце девяностых годов. Оппозиционное движение политических партий перестало радеть за интересы простых людей. Общество и партии пошли разными дорогами. Оппозиционные политики оказались неспособными соответствовать этой задаче. Они оторвались от социума, полностью переключившись на политический протест. Общество же осталось один на один с властью. Ведь ранее наше движение смогло соединить протест и реальное участие, протест и влияние на жизнь людей: оздоровление детей, устройство судеб переселенцев, гуманитарная помощь нуждающимся, патронирование больниц и хосписов, семейные детские дома и еще множество совершенно конкретных дел.

***— У Вас, полагаю, имеются конкретные предложения, как вновь соединить протест и действие всех демократических сил страны?***

— Есть. Озвучиваю название этого проекта — Островец! Посмотрите, ведь люди не реагируют ни на какие призывы оппозиции. Если мы хотим, чтобы Островец не превратился в новую «Линию Сталина», то именно сейчас необходимо возрождение «Чернобыльского шляха», когда народ и политическая элита были бы вместе.

***— Что для этого следует сделать в первую очередь?***

— Я не в шутку сказал, что место для Белорусской АЭС выбиралось так же, как для строительства «Линии Сталина», то есть по политическим мотивам. Все знают, что никаких экономических оснований строить станцию именно в Островце не существует. Зачем подвергать риску заражения радионуклидами самое экологически чистое место в Беларуси, никто из специалистов внятно объяснить не может. Ведь никто же не додумался, к примеру, построить химический комбинат в Беловежской пуще? Планируемая АЭС в плане экономики может принести только ущерб. Никакой проблемы энергетической безопасности она не решит. Электроэнергии вокруг нас полно. К тому же,

Литва, Россия и Польша строят свои станции в этом же регионе. Куда мы денем излишки энергии?

***— Хотите сказать, что это решение какой-то чисто политической проблемы?***

— Безусловно! Вспомните, сколько слов было сказано нынешним главой государства о том, что зря вывезли с территории независимой Беларуси советские ракеты с атомными боеголовками. Это не просто так. Это мечта любого диктатора — иметь пусть маленькую, но свою атомную бомбу.

***— Думаете, что Островецкая АЭС исполняет в какой-то мере и это желание?***

— А почему нет? Только одна угроза утечки радиации в подбрюшье Европы вызовет шок у мирного бюргера и селянина.

***— И всё-таки, куда нас должен вести «Чарнобыльскі шлях»?***

— Уж точно не в парк Дружбы народов. Тот, первый, настоящий шлях прошел по главному проспекту белорусской столицы и вылился в двухсоттысячный митинг у стен Дома правительства на площади Независимости. Теперь наша площадь Независимости — это Островец! Там будет решаться судьба Беларуси! Там, и более нигде политическая оппозиция может вновь соединиться с общественным движением, потому что второй Чернобыль страна уже не переживет.

ГЛАВА XIV

# ПОГЛЯД У БУДУЧЫНЮ

Як вядома, будучыні не бывае без мінулага.
Тыя, хто ў мінулым былі «чарнобыльскімі дзецьмі»,
сёння самі сталі дарослымі. Банальна?
Безумоўна, але яшчэ больш банальна тое,
што людское асяроддзе звычайна сустракае гэтую
«банальнасць» цалкам непадрыхтаваным,
таму я хачу аддаць належнае
фонду «Дзецям Чарнобыля»,
які яшчэ ў мінулым стагоддзі
падумаў аб стагоддзі сучасным!

# Майстэрня мараў

Напэўна, яе прозвішча я чуў часцей за ўсё і нават меў гонар пазнаёміцца з гэтай цудоўнай жанчынай асабіста. Яно і зразумела, Ангела Геслер — легендарная асоба. Грамадзянскую ініцыятыву, якую называюць «За свет без ядзернай пагрозы», у Ротвайлі стварылі яшчэ ў 1986 годзе. Адразу пасля аварыі на ЧАЭС. Чаму?

Таму што пасля Чарнобыля, бацькі маленькіх дзяцей у Ротвайлі і ўсёй Германіі сталі хвалявацца, што будзе надалей, бо небяспека была не толькі для Беларусі, дзе апала радыяцыйная пляма. Пад пагрозай аказалася ўся Еўропа.

У Ротвайлі пачалі збіраць і распаўсюджваць адпаведную інфармацыю, выступаць супраць атамнай энергетыкі, шукаць ёй альтэрнатывы. Штогод праводзіць так званыя «Дні энергетыкі», дзе актывісты новай ініцыятывы выступалі з дакладамі, размаўлялі з людзьмі, ладзілі мітынгі. Тлумачылі, што іх заклапочанасць узнікла не на роўным месцы, а была цалкам абгрунтаванай.

Уцешна, што «За свет без ядзернай пагрозы» цалкам падтрымалі мясцовыя ўлады, якія заўсёды прадстаўлялі для адпаведных мерапрыемстваў памяшканні. Больш за тое, яны нават уключылі ў дзяржаўную праграму «Мясцовая агенда горада Ротвайля» (частка агульнафедэральнай праграмы «Агенда XXI стагоддзя») многія прапановы грамадзянскай ініцыятывы, што для любой улады складана. А для беларускай не ўласціва ўвогуле.

У перакладзе з латыні «агенда» — план дзеянняў. У нямецкім разуменні, гэта азначае паступовая адмова ад любой атамнай энергетыкі.

Для даведкі нагадаю, што першыя восем АЭС у Германіі спынілі сваю працу яшчэ ў сакавіку 2011 годзе, бо праз некалькі месяцаў пасля аварыі на атамнай станцыі ў японскай Фукусіме федэральны ўрад Германіі прыняў закон аб паступовай адмове ад ядзернай энергетыкі да 2022 года.

Летам мінулага года была закрыта найстарэйшая атамная электрастанцыя краіны — АЭС «Графенрайнфельд», якая месціцца ў Баварыі.

Такім чынам, на дадзены момант у Германіі засталося восем ядзерных рэактараў, якія пакуль працуюць, але ў будучым будуць закрыты і яны.

На гэтым фоне тое, што зараз адбываецца ў беларускім Астраўцы, — за межамі нармальнага чалавечага разумення, бо, як казаў Канфуцый: «Цяжка шукаць чорную котку ў цёмным пакоі. Асабліва, калі яе там няма».

Дарэчы, нямецкі досвед, на мой погляд, самы лепшы аргумент у спрэчках з ярымі апалагетамі «мірнага атама». Маўляў, практычныя немцы ніколі не адмовіліся б ад таго, што карысна і цалкам бяспечна...



**Ангела Геслер**

Літаральна некалькі слоў пра Ротвайль. Месціцца горад, у якім жыве менш як 30 тысяч чалавек, на паўднёвым захадзе Германіі ў зямлі Бадэн-Вюртэмберг. У першым стагоддзі нашай эры яго заснавалі рымскія легіянеры, аднак войны знішчылі паселішча. У восьмым стагоддзі адзін з мясцовых князёў вырашыў пабудаваць на развалінах рымскіх лазняў хрысціянскую царкву. Пры пабудове наткнуліся на чырвоную плітку, якой пакрываюць падлогі, і, каб адрозніць гэты горад ад іншых, яго назвалі «das Rote Wil» — чырвоная плітка.

Горад таксама вядомы тым, што ў ім была выведзена парода сабак ратвейлер.

Аднак вернемся да Ангелы Геслер.

Нарадзілася яна ў Паўднёвай Афрыцы, дзе і прайшло дзяцінства. Потым было вяртанне ў Германію — школьныя гады ў Равенсбургу, студэнцтва і шлюб.

Працаваць Ангела Геслер пачала ў 1983 годзе, а ў 1990 годзе пачаліся і ўсе чарнобыльскія справы.

Праз нямецкае таварыства сяброўства тады яшчэ з Савецкім Саюзам у асобе Майры Ліц у Германію было запрошана адразу сто беларускіх дзяцей, якія пацярпелі ад наступстваў аварыі на ЧАЭС. Па 10--12 чалавек іх размеркавалі па маленькіх гарадах федэральнай зямлі. Цэнтралізавана ж усіх прывезлі ў Штутгарт.

Дарэчы, гэта быў першы падобны рэйс «Люфтганзы».

Ініцыятыва з Ротвайля відавочна адрознівалася ад усіх астатніх — яны прыйшлі ў аэрапорт з паветранымі шарамі, на якіх было напісана «Добро пожаловать!». Для тых часоў гэта было незвычайна.

Асабліва, з улікам беларускіх «адметнасцяў» і страху. Напрыклад, наша міністэрства адукацыі ў рэгіёнах, адкуль былі дзеці, вяло прапаганду таго, што з фондам «Дзецям Чарнобыля» працаваць небяспечна, што яны нефармалы, якім нельга давяраць у прынцыпе. Маўляў, у Германіі беларускіх дзяцей будуць «выкарыстоўваць у якасці «паддоследных трусоў».

Самае цікавае, што аўтарка гэтай цытаты шмат год пасля сама накіроўвала дзяцей на аздараўленне за мяжу, але гэта асобная гісторыя...

Нягледзячы на жахі, якія не без поспехаў (дзеці з наваколля Веткі альбо Хойнікаў не толькі ні разу ў сваім жыцці не лячалі самалётам, але і не пакідалі родныя мясціны ўвогуле) распаўсюджвала афіцыйная прапаганда, першая паездка была вельмі паспяховай. Стэрэатыпы рухнулі. Асабліва, калі ініцыятыва Ангелы Геслер пачала дарыць усім прыляцеўшым беларусам лялькі.

І з таго часу яны кожны год запрашаюць беларускіх дзяцей і кожны год сама Ангела Геслер бывае ў Беларусі і ўжо чвэрць стагоддзя супрацоўнічае з беларускімі райцэнтрам Лунінцом і вёскай Дзятлавічы.

Вельмі важна тое, што Ангела Геслер з самага пачатку вырашыла не абмяжоўвацца толькі аздараўленнем чарнобыльскіх дзяцей. Для яе было прынцыповым, каб беларусы бачылі, як на Захадзе працуюць грамадзянскія ініцыятывы, як там увогуле будуецца грамадзянская супольнасць, якія там уяўленні пра еўрапейскія ідэі і каштоўнасці, пра правы ча-



**Ангела і  яе муж Фрыц**

лавека, уяўленні пра салідарнасць, сацыяльную актыўнасць, уплыў на ўладу і г.д. Яна заўсёды паказвала, як працуе «звязка» грамадзянскай ініцыятывы і гарадскіх уладаў, практычна ўсе чарнобыльскія групы наведвалі мэрыю Ротвайля, дзе іх прымаў асабіста бургамістр.

Нешта падобнае Ангела Геслер хацела зрабіць і ў беларускім Лунінцы, куды прывезла кіраўніцтва нямецкага горад Ротвайль, аднак «менталітэт» у чыноўнікаў быў настолькі розным, што далей звычайнага «пратакола пра намеры» справа не пайшла.

Як вядома, зараз у Беларусі ўлада імкнецца зрабіць так, каб без яе кантролю любыя арганізацыі грамадзянскай супольнасці не маглі зрабіць нават адзін крок. Такога ў нармальных краінах няма, таму заходніх гасцей падобны падыход і не задаволіў. Яны працягвалі працаваць з групамі самадапамогі, Жаночым форумам і г.д. То бок з тымі, хто для таго, каб нешта рабіць, не чакае загаду чыноўнікаў.

Затое досвед працы ініцыятывы з Ротвайля прыйшоўся даспадобы іх беларускім партнёрам — дабрачыннаму фонду «Дзецям Чарнобыля». Усё, што адрынулі дзяржаўныя ўстановы, хутка паявілася ў арсенале тых, хто прызвычаіўся дапамагаць сабе сам.

Тыя ж клубы для састарэлых людзей, напрыклад. Каб было больш зразумела, патлумачу, што на Захадзе яны працуюць не толькі ў дні нейкіх святаў, а функцыянуюць пастаянна. У нейкім сэнсе гэта нагадвае дзіцячыя садкі, толькі для старых.

Раніцай дзеці прывозяць іх у адпаведны клуб, дзе сталыя людзі разам займаюцца, цікавымі для іх справамі, а вечарам забіраюць.

Зразумела, што ў беларускіх умовах падобнае немагчыма, але тое, што фонд «Дзецям Чарнобыля» пачаў рухацца ў гэтым напрамку вельмі ўцешна. У сталічнай «Малінаўцы», куды перасялілі чарнобыльцаў і дзе быў створаны цэнтр «Майстэрня будучыні», яны зрабілі сацыяльны праект «Мост пакаленняў». Па выходных збіралі каля 50-ці сталых людзей і ладзілі для іх розныя цікавыя праграмы. Ад простага знаёмства да агульнага адпачынку.

Цікавым быў і падыход ініцыятывы з Ротвайля і ў тым, што ў нас называюць дапамогай інвалідам і іх «сацыяльнай адаптацыяй». З рознымі інваліднымі арганізацыямі Германіі Ангела Геслер падтрымлівае кантакты ўжо даўно. Больш за тое, яна асабіста паспрыяла таму, што інваліды з Беларусі змаглі пабываць у Ротвайлі і наладзіць там адпаведныя кантакты і атрымаць канкрэтную дапамогу.

У прыватнасці, Таня Келіх, якая была цалкам паралізаваная і чыя маці шмат разоў выратоўвала яе ад смерці, дзякуючы гэтай дапамозе не толькі



змагла зрабіць некалькі аперацый, што дазволілі ёй не толькі перамяшчацца па доме, але і атрымаць (завочна) вышэйшую адукацыю. Зараз гэтая дзяўчына зноў вучыцца ў адным з самых прэстыжных універсітэтаў Лондана — знакамітым Оксфардзе.

У 2000 годзе прыйшла ідэя пераключыцца з праектаў дзіцячага аздараўлення на маладзёвыя. Ідэя, на мой погляд, вельмі слушная перш за ўсё таму, што дазваляе маладзёнам, якія збіраліся ў маладзёвым цэнтры фонду ці жылі ў Лунінцы альбо іншых гарадах, маглі стасавацца з равеснікамі за мяжой, у якіх таксама ёсць нямала праблем, і даведацца, як яны там вырашаюцца.

Каб нікому не было крыўдна, агульныя «Майстэрні будучыні» праводзіліся «пазменна” — адзін раз у Беларусі, другі — у Германіі, адным разам да Ротвайля далучыўся яшчэ горад Бетцдорф, дзе чарнобыльскай ініцыятывай кіруе дырэктар вядомага каталіцкага фонду «Карытас» Рудольф Дзюбер.

А пасля таго, як у японскай Фукусіме адбылася аварыя на атамнай станцыі, Ангела Геслер «звяла» японскую моладзь з беларускай.

Увогуле ж тое, што яна робіць, гэта сапраўды з’яўляецца майстэрняй будучага. Майстэрняй, у якой вучацца працаваць тыя, хто гэтую будучыню (прабачце за таўталогію) будзе будаваць.

Вяртаючыся ж да асабістага знаёмства, то, шчыра кажучы, я па-беламу зайздрошчу Лунінцу — ім пашанцавала кантактаваць з чалавекам, пасля размовы з якім разумееш, што сэнс дабрачыннасці (як і назва) у тым і заключаецца, каб чыніць дабро.

# Эстафета дабрыні

Шмат у чым Леонберг (зямля Бадэн-Вюртэмберг) падобны да Ротвайля. Абодва — маленькія гарадкі. У Леонбергу жывуць каля сарака пяці тысяч жыхароў, а ў Ротвайлі — крыху больш за трыццаць. Абодва — ціхая нямецкая правінцыя. Леонберг месціцца за 13 км на захад, а Ротвайль — за 79 км на поўдзень ад Штутгарта. У абодвух былі выведзены вядомыя сабачыя пароды: у Ротвайлі — ратвейлеры, у Леонбергу — леонбергеры.

Ёсць і яшчэ адна агульная рыса, якая не адлюстраваная ў энцыклапедыях. У абодвух гарадах актыўна дзейнічаюць чарнобыльскія ініцыятывы.

Праблемамі экалогіі Беата Юнкер пачала цікавіцца яшчэ ў другой палове васьмідзясятых гадоў. На той момант яна ўваходзіла ў кіраўніцтва не гарадской, а — што больш прэстыжна — зямельнай парафіі евангелічнай царквы ўсяго рэгіёна, і хацела аб’яднаць пастаноўку пытанняў па экалогіі з жаночай работай. Бачыла еднасць гэтых катэгорый.

Беата пачала пісаць даклады, вырабляць улёткі экалагічнага зместу — аб перапрацоўцы смецця, генных тэхналогіях, ачышчэнні вады.

Раптам гэтая работа атрымала працяг.

У 1996 годзе Беату Юнкер запрасілі ў Мінск на семінар Экуменічнага форуму жанчын-хрысціянак Еўропы пад назвай «Жанчыны і энергія». Гутарка ішла пра наступствы Чарнобыльскай катастрофы. Там Беата і пазнаёмілася шмат з кім з актывістак новага грамадскага руху. У прыватнасці, з Ірынай Грушавой.

Цікава, што менавіта тады і пачала фарміравацца яе новая асабістая філасофія. Сутнасць яе ў дамінаванні прынцыпу «добра жыць» над «шмат мець». Новая парадыгма стала асновай яе жыццёвага стылю.

Пазней у Мадрыдзе на Генеральнай Асамблеі Экуменічнага форуму жанчын-хрысціянак Еўропы Беата Юнкер прапанавала правесці працоўную групу на гэтую тэму, аднак аргкамітэт прапанову не падтрымаў.

«Грамадства спажывання» аказалася не гатовым для абмеркавання такіх рэчаў, а прадстаўніцы Усходняй Еўропы не ўбачылі праблемы ўвогуле. Маўляў, «сыты галоднага не разумее»…



**Беата і Фровін Юнкер**

Трэба патлумачыць, што на Захадзе царква адыгрывае зусім іншую ролю, чым у нас. Па сутнасці, гэта крывяносная сістэма ўсяго грамадства, і яна мае вагу не меншую, чым уладныя структуры.

Беата Юнкер працавала настолькі актыўна, што яе ўзнагародзілі самай высокай узнагародай Германіі, якая даецца тым, хто ўдзельнічае ў грамадскім жыцці, і якую ўручае асабіста прэзідэнт краіны.

У гэты ж час у Грушавой узнікла ідэя правесці Еўрапейскую жаночую вясновую акадэмію. Адпаведны досвед у яе быў, бо на працягу 10 год Ірына працавала ў аргкамітэце падобнага мерапрыемства ў Швейцарыі.

Для фонду «Дзецям Чарнобыля» гэта было вельмі актуальна, бо 95 адсоткаў (а ў некаторых рэгіёнах і ўсе 100) валанцёраў арганізацыі складалі жанчыны.

Гендарны выбар тлумачыўся яшчэ і тым, што менавіта жанчынам блізкія найбольш актуальныя і цікавыя тэмы экалогіі, захавання чыстага навакольнага асяроддзя, жыцця на нашай планеце. Жыццё, якое і даюць жанчыны.

Ідэяй, якая вельмі захапіла яе, Грушавая падзялілася з Беатай. Падтрымка была безумоўнай, і вясной 1999 года ў Мінску адбылася вясновая акадэмія. Удзельнічалі ў ёй прадстаўніцы дзевяці краін.

Там жа ўзнікла ідэя правесці ў будучыні больш сціплае па акадэмічнасці мерапрыемства — Летнюю школу для экалагічна зацікаўленых жанчын. Гэта быў праект ужо еўрапейскага ўзроўню.

**На ўручэнні прэміі. У цэнтры — Беата Юнкер**

Двойчы школа прайшла ў Славакіі, потым — у Сербіі, двойчы ў Берліне і адзін раз каля Дрэздэна.

Шчыра кажучы, калі падчас работы над гэтай кнігай заходзіла размова пра ўзрост, то я забываў, што ў дачыненні да жанчын пісаць канкрэтныя даты і лічбы, мякка кажучы, неэтычна. Наадварот! Вельмі хацелася, каб нашы пенсіянеры больш ведалі пра тое, як і колькі яны павінны жыць…

Зараз Беаце Юнкер 87 год, а яе мужу Фровіну — 88.

Уяўляю, колькі людзей паглядзела на здымак гэтай пары, таму раю яшчэ ўлічыць: шэсць год таму яны трапілі ў сур'ёзную аўтамабільную аварыю, што не перашкаджае Фровіну вадзіць машыну па наш дзень…

Напэўна, многія ўжо заўважылі: сярод герояў кнігі — шмат сямейных пар. Гэта невыпадкова. У сістэме чарнобыльскіх сувязяў амаль паўсюды муж і жонка (пачынаючы з саміх Ірыны і Генадзя Грушавых) дзейнічалі разам. Без такой

«парнасці» дабіцца поспехаў у грамадскай дзейнасці амаль немагчыма.

Па адукацыі Фровін Юнкер — архітэктар, аднак шмат разоў дапамагаў сваёй жонцы зусім у іншых справах. Звычайна ён перакладаў з нямецкай мовы на англійскую і наадварот.

Беата Юнкер непасрэдна не займаецца тым, што звычайна называецца «палявымі работамі», то бок сама «арэ і сее» толькі апасрэдавана, аднак рыхтуе глебу, каб гэта эфектыўна рабілі іншыя.

Такія, як Моніка Граў, якая таксама з Леонберга і пра якую размова пойдзе далей.

У адрозненне ад Ангелы Геслер з Ротвайля, Моніка Граў пачала займацца чарнобыльскімі праблемамі толькі з пачаткам новага стагоддзя, аднак пачала менавіта з таго, да чаго Ангела прыйшла ў гэты ж час. Маецца на ўвазе работа з моладдзю, пра якую было крыху расказана ў папярэднім нарысе.

Аднак перш чым перайсці да гэтай тэмы, я прапаную крыху акцэнтаваць увагу на біяграфіі самой Монікі, бо менавіта яе мінулае і стала падмуркам неардынарнага жыццёвага выбару.

**Сям'я Граў на актобэрфэсце**



Моніка нарадзілася 25 верасня 1956 года, а яе старэйшы брат — на 13 год раней.

Такая вялікая розніца тлумачыцца тым, што іх бацька да 1955 года быў у савецкім палоне. Гэта вельмі паўплывала на ягоныя светапогляды; адбітак бацькавых пакутаў перадаўся і дачцэ.

Абставіны цяжкага стану ваеннапалонных сталі прычынай таго, што ён моцна захварэў і ў 1968 годзе памёр.

У 1974 годзе Моніка скончыла школу і пачала вучыцца сваёй спецыяльнасці — тэхнічны чарцёж. З большага ў тых мясцінах (Вюртэмберг) дамінуе евангелічная канфесія, таму невыпадкова, што Моніка (хаця яе маці паходзіла з Бадэна і была каталічкай) стала актывісткай менавіта гэтай парафіі. Спачатку яна была ў дзіцячай групе, потым у маладзёвай, а потым стала сябрам праўлення і сама пачала займацца маладзёвымі праблемамі.

Дзякуючы працы Моніка не толькі замацавала сваю веру, але і пазнаёмілася з будучым мужам Бернхардам, мастаком па прафесіі. У 1979 годзе яны пабраліся шлюбам і неўзабаве нарадзілі дзвюх дачок.



Моніка і Бернхарт Граў

Калі 26 красавіка 1986 года здарылася катастрофа ў Чарнобылі, Моніка з дочкамі гуляла на дзіцячай гульнявой пляцоўцы бліз лесу, і толькі вечарам даведалася пра трагічныя падзеі. Гэта моцна яе ўзрушыла. З'явілася адчуванне разгубленасці, неспакою і бездапаможнасці.

Праз год у знаёмых Монікі нарадзілася дзіця з цяжкай формай інваліднасці. Прычына была невядомая, але немцы ўсё больш і больш пачалі задумвацца пра бяспеку (альбо яе адсутнасць) атамных рэактараў.

Экалагічным праблемам Моніка Граў аддала 18 год свайго жыцця.

У 1999 годзе перад традыцыйным царкоўным евангелічным святам, якое праводзіцца ў Германіі кожныя два гады, вельмі актыўны

чалец парафіі Беата Юнкер запыталася: хто можа ўзяць у свае сем’і дэлегацыю фонду «Дзецям Чарнобыля», якая спецыяльна прыедзе на святкаванне? Ахвотных было нямала.

У Леонбергу беларусаў сустрэлі вельмі ветліва. Для гэтага нават выдзелілі памяшканне сваёй парафіі.

Тады па прапанове Ірыны Грушавой і ўзнікла ідэя — адразу пасля святочных мерапрыемстваў распачаць сумесны маладзёвы праект.

Неўзабаве ён пачаў дзейнічаць, што дазволіла Моніцы Граў больш даведацца пра аварыю на ЧАЭС. Да таго ж, тэма цалкам адпавядала яе поглядам — працаваць трэба не толькі з чарнобыльскімі дзецьмі, але і з моладдзю, бо толькі так можна дабіцца нейкіх перамен.

Маладзёвыя праблемы былі вельмі блізкімі Моніцы яшчэ і таму, што дзве яе дачкі таксама былі падлеткамі 14 і 16 гадоў.

Фонд «Дзецям Чарнобыля» і Асацыяцыя гуманітарнага супрацоўніцтва дапамаглі стварыць арганізацыю «Сустрэчы з Беларуссю», і ў 2001 годзе адбыўся старт сумеснага праекта «Майстэрня Будучыні ў Леонбергу».

Праз кароткі час быў зладжаны першы трохтыднёвы семінар з удзелам нямецкай і беларускай моладзі, што дазволіла Моніцы Граў наладзіць вельмі добрыя кантакты з маладзёвым сацыяльным цэнтрам у Мінску, які быў створаны Грушавымі.

Беларуская тэматыка вельмі зацікавіла нямецкую моладзь, і ўжо ў снежні таго ж года яны прыехалі ў Мінск для ўдзелу ў штогадовай маладзёвай канферэнцыі, прысвечанай Дню правоў чалавека.

Моніка Граў думала, што гэты кантакт будзе адзіным, аднак пасля паездкі на канферэнцыю зразумела, што не можа спыніцца.

З 2002-га па 2007-ы яна двойчы на год арганізоўвала для беларускай моладзі практыку ў школах, дзіцячых садках, гарадскіх сацыяльных установах Леонберга. А потым два гады праводзіліся сумесныя праекты па праблемах навакольнага асяроддзя і эканоміі энергіі.

Дарэчы, і паездкі немцаў у Беларусь не абмежаваліся 2001 годам. Дэлегацыі з Леонберга пабывалі ў Мінску яшчэ ў 2003 і 2005 гадах.

Чарнобыльскія ініцыятывы захапілі не толькі Моніку. Складалася ўражанне, што неўзабаве на гэта «захварэў» увесь горад. У Леонбергу гастралявала беларуская фальклорная група «Грамніцы», паказваліся шматлікія дакументальныя фільмы пра аварыю на ЧАЭС, а на 20-годдзе Чарнобыля па ўсім горадзе прайшла вельмі прыгожая акцыя «Запалі знічку!».

На жаль, у 2010 годзе пачаліся праблемы. З аднаго боку, рэзка ўзмацніўся ціск беларускай улады на грамадзянскую супольнасць. З другога — моладзь,

якая ўдзельнічала ў праектах з нямецкага боку, вырасла і паехала вучыцца альбо працаваць у іншыя гарады Германіі.

Ды і стан здароўя самой Монікі Граў не дазваляў ёй больш працаваць з былымі нагрузкамі.

Словам, у 2012 годзе актыўная работа «Сустрэчы з Беларуссю» спынілася і працягваецца цяпер толькі на ўзроўні асабістых стасункаў.

Не хацелася б спыняць гэты аповед на мінорнай ноце, але сутнасць любых эстафет у тым і палягае, каб нейкая дзея мела працяг. Будзе працяг і ў дабрыні Беаты Юнкер і Монікі Граў.

І ў тым, што зрабіў для Беларусі і беларусаў дабрачынны фонд «Дзяцям Чарнобыля».

# ЗМЕСТ

